# МАЛАДОСЦЬ 12

**Штомесячны**
**літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны**
**ілюстраваны часопіс**

**(757) СНЕЖАНЬ, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Святлана Дзмітрыеўна**
**ВОЦІНАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактары: *А.І. САЛАМЕВІЧ, Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 15.12.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк.17,24. Тыраж 1301 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест

# Адзін верш у дваццаці перакладах

**Ідэя перакласці адзін верш Максіма Багдановіча на шмат моў узнікла першапачаткова як магчымы падарунак калегам партала** sozvuchie.by **да юбілею класіка. Цяпер, калі ідэя рэалізавана, нам не шкода раздзяляць гэты падарунак між усімі — і калегамі, і чытачамі. Дзякуем кожнаму, хто падхапіў ідэю і стварыў свой непаўторны пераклад.**



## Максім Багдановіч

### Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы…

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць нашае сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

## Максим Богдановић

### Ја бих се желео састати на улици

Ја бих се желео састати на улици
У мирну плаву ноћ
Ја кажем:
«Видите ове велике звезде,
Јасна звезда Херкулес?
Ово лети наше Сунца,
Носио сам сунце Земље.
Ко смо ми?
Само путници — међу сапутника небу.
Зашто
И свађе и сукоби, бол и горчина
Ако сви заједно летимо
ка звијездама?»

*На сербскую — Марыя Кобец*

[Прызнацца, працэс быў досыць складаным. Тым больш, адчуваючы адказнасць за твор аўтара такой велічыні. Аднак жа ў пэўнай ступені прыйшлі на выручку мае сябры з Сербіі. І ў выніку атрымался тое, што ёсць… Тым не менш, праз сваю няхай сабе і ўскосную працу вельмі ганарова было такім чынам спрычыніцца да творчасці Вялікага Паэта.]

## Maksim Bahdanowicz

### Chciałbym się zobaczyć z tobą na ulicy

Chciałbym się zobaczyć z tobą na ulicy
W spokojną niebieską noc
I powiedzieć:
«Widzisz te duże gwiazdy
Jasne gwiazdy Herkulesa?
To do nich leci nasze Słońce
I Ziemia fruwa ku Słońcu.
Kim jesteśmy?
Podróżnymi — wędrówcami w niebie.
To po cóż na Ziemi
Kłótnie i zwady, ból i gorycz,
Kiedy wszyscy razem lecimy
Ku gwiazdom?»

*На польскую — Алесь Емяльянаў-Шыловіч*

[Не буду арыгінальным, калі скажу, што перакладаць класіку цяжка, але яшчэ цяжэй зрабіць гэта са сваёй мовы на чужую. Тут над перакладчыкам падвойная адказнасць, бо, па-першае, трэба зрабіць гэта не так, як папярэднікі, калі гаворка вядзецца пра вядомы твор, які неаднойчы быў перастВораны, а па-другое — перакласці так, каб стыль пісьменніка быў захаваны і пазнавальны, прычым пажадана з першых радкоў. Аднак, калі доўга думаць над гэтым і ўвесь час пераймацца, — наўрад ці атрымаецца штосьці талковае, а горш за тое — не выйдзе нічога. Таму падыходзіць да такой справы варта без пафасу і празмернай дрыготкі. Спадзяюся, мой пераклад вам спадабаецца, а калі не — спроба таксама добра.]

## Maksim Bahdanowicz

### Chciałbym się spotkać...

Chciałbym się spotkać z Panią na ulicy
Cichą błękitną nocą
I rzec:
«Widzi Pani te wielkie gwiazdy,
Jasne gwiazdy Herkulesa?
Do nich mknie nasze słońce
I pędzi za słońcem ziemia.
Kim jesteśmy?
Tylko pielgrzymami — towarzyszami
podróży wśród niebios.
Po cóż na ziemi
Swary i zwady, ból i gorycz,
Jeżeli wszyscy razem lecimy
Do gwiazd?»

*На польскую — Кацярына Канчэўская*

[Мне пашчасціла тлумачыць адзін з маіх самых улюбёных вершаў Максіма Багдановіча. Верш, які жыве ўва мне ўжо больш за дваццаць гадоў і які я прыгадваю кожны раз, калі пазіраю на зоркі або засмучана дачаснай несправядлівасцю. Здавалася б, усяго некалькі радкоў, што ж тут цяжкага? Але ж гэта не проста некалькі радкоў — гэта цэлы сусвет Паэта. Дарэчы, спатыкнуцца можна ўжо на першай страфе. У польскай мове няма звароту на «Вы» — мусіць быць нешта канкрэтнае (у нашым выпадку — нехта). Я доўга разважала пад шамаценне лістоты ў кракаўскім Батанічным садзе і вырашыла, што Багдановічаў лірычны герой усё ж размаўляе з блізкай сэрцу. Праўда, у зусім нядаўнім літаратурным даследаванні было сцверджана, што Паэт пісаў гэты верш «супраць імперыялістычнай вайны», але ж я — на сваю адказнасць і рызыку — вырашыла, што гэта будзе Яна, таямнічая Пані: у гэтай сітуацыі мне Багдановіча ўявіць лягчэй, чым як ідэалагічнага змагара. Адпаведнікамі «падарожных» я зрабіла «пілігрымаў», паколькі звыклы podróżny ў польскай мове мае крыху завужанае значэнне, а паміж зор, на маю думку, менавіта блукаюць, а людскія душы — гэта пілігрымы, як на зямлі, так і сярод зор. І яшчэ былі сумненні наконт «сварак і звадак»: у сучаснай польскай мове можна знайсці шмат адпаведнікаў *(kłótnia, spór, zatarg, sprzeczka*), але, па-першае, *swary* і *zwady* і зараз функцыянуюць у паднёслым стылі — а што ж можа быць больш паднёслае за зоры? — а па-другое, гэтыя словы — наша агульная славянская моўная спадчына, і гэта цудоўна, што яна мае месца ў вершы Максіма Багдановіча, такога беларускага, але адначасова такога еўрапейскага Паэта. Ды й нашто выдумляць новыя словы, калі Багдановіч так прыгожа і коратка, але надзвычай змястоўна ўжо сказаў аб неабсяжным?]

## Maksim Bahdanowicz

### Chciałbym się spotkać z Wami na ulicy…

Chciałbym się spotkać z Wami na ulicy
W cichej błękitnej nocy
I powiedzieć:
«Czy widzicie te olbrzymie gwiazdy,
Jasne gwiazdy Herkulesa?
Do nich leci nasze Słońce,
I mknie w ślad Słońca Ziemia.
Kim jesteśmy?
Tylko wędrowcami, —
współpodróżnymi wśród niebios.
Dlaczegoż na Ziemi
Swary i zwady, ból i gorycz,
Gdy wszyscy razem lecimy
Do gwiazd?»

*На польскую — Аляксей Адзінец*

[Я даведаўся пра праект часопіса «Маладосць» па перакладах верша Максіма Багдановіча «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...» ад Адама Шостака. Праца над перакладам Максіма Багдановіча — гэта даволі простая справа. Бо тое, пра што ён пісаў шмат гадоў таму, не менш актуальнае зараз і выклікае цалкам аўтэнтычныя пачуцці. Застаецца толькі выказаць гэтыя пачуцці словамі іншай мовы. І паколькі яго асоба і творчасць — з'явішча міжнароднага размаху, то гэта зусім не так складана.]

### Maksim Bogdanovič

#### Htjeo bih da se sretnem s Vama na ulici

Htjeo bih da se sretnem s Vama na ulici
U tihoj plavoj noći.
I da kažem:
"Vidite li onako krupne zvijezde,
Blještave zvijezde Herkulesa?
Ka njima hrli naše Sunce,
I jezdi za Suncem Zemlja.
A što smo mi?
Samo putnici- saputnici na nebesima.
Pa čemu na Zemlji
Svadje i zavade, bol i gorčine,
Ako svi zajedno letimo ka zvijezdama."

*На чарнагорскую — Наташа Лечыч*

[Для мяне гэта першы падобны досвед, аднак беларуская паэзія захапіла, і праца ўвогуле вельмі спадабалася і была цікавай.]

### Максим Богданович

#### Я хотів би зустрітися з Вами на вулиці

Я хотів би зустрітися з Вами на вулиці
Тихою синьою ніччу
Та сказати:
«Бачите ці неозорі зорі,
Ясні зірки Геркулеса?
До їх летить наше сонце,
Та мчить за сонцем земля.
Хто ми такі?
Тільки мандрівники, — попутники серед небес,
Навіщо на землі
Сварки, лаянки, біль та гіркота,
Коли ми разом всі мчимо
До зірок?»

*На ўкраінскую — Адам Шостак*

[Пераклад гэтага верша быў адначасова і простым, і складаным для мяне. Простым, бо ўкраінская — гэта другая родная мова, а таксама дзякуючы таму, што я маю пэўны досвед у перакладах з украінскай. Складаным — бо да гэтага часу я перакладаў пераважна маладых аўтараў. Пераклад класікі з яе канцэнтраванай вобразнасцю — заўсёды вельмі адказная і нялёгкая справа. Чарговы раз я ўпэўніўся, што перакладаць з далёкіх моў прасцей, як гэта ні выглядае парадаксальным на першы погляд. Украінская мае каля 90 працэнтаў агульнай лексікі з беларускай, пры гэтым граматыка (прынамсі склоны, прыназоўнікі, часціны мовы…) і фанетыка беларускай і ўкраінскай адрозныя, што стварае дадатковыя цяжкасці пры паэтычным перакладзе. Мне давялося ў пэўным сэнсе рэтрансляваць паэтыку, гукапіс Багдановіча на іншую, адрозную сістэму, рэтрансляваць вобразную сістэму сродкамі іншай мовы, іншай сістэмы…]

### Максим Богданович

#### Я бажав би спіткатися з Вами на вулиці

Я бажав би спіткатися з Вами на вулиці
В тиху, синю ніч
І сказати:
«Бачите ці великі зірки,
Сузір'я Геркулеса?
До них лине наше сонце,
І мчить за сонцем земля.
Хто ми такі?
Тільки подорожні, —
Супутники серед небес.
То навіщо на землі
Сварки і лайки, біль і смуток,
Якщо всі мы разом летимо
До зірок?»

*На ўкраінскую — Аліса Мініна*

[Перакладаючы вершы сучасных паэтаў, я дазваляю сабе ўбачыць і дадаць тое, чаго аўтар, магчыма, не закладаў у пэўныя радкі. Такім хітрым чынам перакладзены верш становіцца на нейкае імгненне маім уласным, прынамсі ў маім уяўленні. Перакладаючы класіку, а тым больш Багдановіча, я баялася зруйнаваць ці перапісаць што-небудзь, хаця б на ўздых парушыць мелодыю верша. Усё ж такі адказнасць адчуваецца.]

## Максим Богданович

### Я хочу повстречаться с вами на улице

Я хочу повстречаться с вами на улице
В тихую синюю ночь
И сказать:
«Видите сочные, большие звёзды,
Ясные звёзды Геркулеса?
Туда летит яркое Солнце,
И стремится за Солнцем Земля.
Кто мы такие?
Пилигримы, странники —
попутчики среди небес.
Зачем на земле
Ссоры и склоки, боль и горечь,
Когда все мы вместе летим
Меж звёзд?»

*На рускую — Алёна Беланожка*

[Паколькі я вялікая аматарка «зорнай», астранамічнай тэматыкі ў літаратуры, то з вялікай радасцю пагадзілася зрабіць переклад менавіта гэтага верша Максіма Багдановіча. Я ўважліва перачытала верш, і тут перада мною паўстала сур'ёзная праблема: перакладаць слова ў слова, або так, каб захаваць першапачатковы гукапіс, або — што яшчэ больш цікава — адмысловы аўтарскі тэмпарытм радкоў. Бо, натуральна, усё гэта разам у адным перакладзе я б не змагла адлюстраваць. Я шмат працую з песенным матэрыялам. І я выбрала апошняе — «смачны» рытм, які мне вельмі не хацелася парушаць даслоўным перакладам. Мне здаецца — атрымалася нядрэнна.]

## Максим Богданович

### Я хотел бы встретиться с Вами на улице

Я хотел бы встретиться с Вами на улице
В тихую синюю ночь
И сказать:
«Видите эти большие звёзды,
Ясные звёзды Геркулеса?
К ним летит наше солнце,
И мчится за солнцем земля.
Кто мы такие?
Только странники — попутчики среди небес.
Так зачем на земле
Распри и ссоры, боль и горечь,
Если все мы вместе летим
К звёздам?»

*На рускую — Аляксей Арцёмаў*

[Паэтычны пераклад заўсёды прайграе добраму арыгіналу. А геніяльнаму арыгіналу — і пагатоў. Вось і мой пераклад прайграў, хаця і перадае сэнс твору. Дасягнуць гармоніі арыгінала я не патрапіў. Але гэта не значыць, што паэтычных перакладаў рабіць не трэба. Яны вельмі патрэбныя, перадусім на найбольш распаўсюджаныя мовы свету — англійскую, іспанскую, кітайскую і г.д. І не толькі пераклады класікі. Сучасныя беларускія паэты таксама чакаюць свайго перакладчыка.]

## Максим Богданович

### Я хотел бы свидания с Вами на улице…

Деревья ловят руками звезды.
Как бы я хотел встретиться с вами
На единственной улице Мира
В тихую синюю ночь
и сказать:
«Видишь, слезится звездами небо,
Они знали Бога и Геркулеса,
Они родили и человека,
И к звездам
летит колыбель солнца,
А за ним в бездну несется Земля.

Так кто же такие мы с тобою?
Лишь странники,
попутчики света.
Но зачем человеку войны и
Горечь, зачем он пьет из рога
Разума своего,
зачем все это?
Когда все мы вместе летим
К звездам…»

*На рускую — Валерый Казакоў*

## Maksim Bahdanovič

### Quisiera encontrármela a usted en la calle

Quisiera encontrármela a usted en la calle
En una queda noche azul
Y decir:
«¿Ve usted las enormes estrellas,
Las claras estrellas de Hércules?
Hacia ellas vuela nuestro sol,
Y se lleva a la tierra con él.
¿Quiénes somos?
Simplemente viajeros, caminantes de los cielos.
¿Para qué en la tierra
Hay luchas, peleas, tristeza y dolor,
Cuando todos juntos volamos
Hacia las estrellas?»

*На іспанскую — Анхела Эспіноса Руіз*

[Свабодная структура гэтага верша Максіма Багдановіча, па-першае, дазваляе любому перакладчыку сканцэнтравацца на змесце твора, пры ўмове захавання падставовых рытмічных узораў арыгінальнага тэкста. Па-другое, калі гаварыць канкрэтна пра іспанамоўны пераклад, верш паводле той самай структуры, тэматыкі і стылю добра ўпісваецца ў іспанскую паэтычную традыцыю XX стагоддзя. Іспанская версія верша Максіма Багдановіча выглядае цалкам натуральнай для іспанамоўнага чытача. Такім чынам, можам сказаць, што праца перакладчыка была прадуктыўная і адносна менш складаная, чым праца над іншымі творамі беларускай паэзіі.]

### Ich möcht' Sie auf der Straße treffen

Ich möcht' Sie auf der Straße treffen
In einer stillen blauen Nacht
Und fragen:
«Sehen Sie die prachtvollen Sterne,
Die hellen Sterne des Herkules?
Dahin fliegt unsere Sonne,
Und die Erde rast der Sonne nach.
Wer sind wir?
Nur Wanderer —
Weggenossen mitten im Himmel.
Wozu gibt's denn auf Erden
Zank und Streit, Schmerz und Bitternis?
Wir fliegen ja alle zusammen
Zu den Sternen».

*На нямецкую — выпускнікі МДЛУ*

[**Хто мы?** Аднагрупнікі, сябры. «У нашых дыпломах напісана, што мы перакладчыкі».

**Што мы рабілі?** Мы атрымалі заданне ад галоўнага рэдактара «Маладосці»: перакласці беларускі верш на нямецкую мову. Сумленне не дало адмовіцца. Мы стварылі чацік УКантакце. Наша выкладчыца Галіна Аляксееўна Скакун вучыла нас: добры перакладчык павінен заўсёды сумнявацца. І мы старанна сумняваліся ў кожным слове і кропачцы, сваркі і звадкі былі нават з-за найтанчэйшых адценняў значэння. Сапраўдны халівар выклікала, напрыклад, такое маленькае слова як «буйны». Лёша знайшоў у тлумачальным слоўніку незвычайнае значэнне — «багаты, раскошны» — і даказваў, што яно больш пасуе да агульнай ідэі верша і менавіта так яго трэба перакладаць. Мы не пагаджаліся. Лёша настойваў. Так цягнулася доўга, а перакладу ўсё не было. У выніку наш цяпер ужо маскоўскі сябар Лёша нарадзіў нейкі варыянт, які мы цяпер завём «першачок».

**Што было далей?** Першачок «настойваўся» каля месяца. Часам зноўку разгараліся звадкі — разгараліся і гаслі. Не ставала часу і натхнення. ДН М.Б. набліжаўся. Вышэйпамянёны Лёша, адчуўшы ў трывожным сэрцы жах за справу, падымаў кіпіш бесперапынна. Натхненне з'явілася!

**Чым гэта скончылася?** Новыя сваркі напладзілі праўкі і варыянты. Потым мы вырашылі занесці ўсё нашай вышэйпамянёнай выкладчыцы. Увогуле першачок прайшоў, але ад правак яго гэта не выратавала. Заставалася апошняя дыстыляцыя: немцы. Мы адправілі шматпакутны перакладчыцкі прадукт носьбітам мовы — нямецкім знаёмым яшчэ не памянёнай Ганны. Гэта было карысна прынамсі таму, што вырашылася наша спрэчка наконт адценняў буйнасці: пераклад значэння «раскошны», на іх погляд, больш пасаваў да нямецкага тэксту і настрою верша.

**Навошта мы гэта зрабілі?** Багдановіч напісаў гэты верш у час Сусветнай вайны, таму яго можна ўспрымаць як зварот да ўсяго чалавецтва. Але гэта і зварот да асобнага чалавека, магчыма, да жанчыны. Гэта нуда з-за вайны і прага да міру на ўсіх узроўнях: ад інтымнага да сусветнага.

Парадаксальная рэч: Багдановічу было б шкада, што і сёння, праз сто гадоў, яго верш актуальны.

**Аўтары перакладу:** Аляксей Дзенісенка, Ганна Кідрон, Леў Глушыцкі.

Дзякуем за дапамогу Галіне Аляксееўне Скакун, Ксюшы Коказ, немцам, а таксама Марыі і Сяргею Галавым, якія далі магчымасць дапісаць гэты тэкст у іх кватэры.]


כ'וואָלט געוואָלט זיך צו טרעפֿן מיט אײַך אויף דער גאַס
אין אַ שטילער בלאָװער נאַכט
און אַ זאָג צו טאָן:
„זעט איר דאָרט די גרויסע שטערן,
קלאָרער שטערן פֿון הערקולעס?
צו זיי פֿליט אַהין אונדזער זון,
און נאָך דער זון / שטרעבט נאָך די ערד.
ווער זײַנען מיר?
נאָר וואַנדערער, מיטפֿליִער אין מיטן הימלען.
צוליב וואָס זשע זײַנען אויף דער ערד פֿאַראַן
קריגערײַ און סקלאַפֿטעניש, וויטיק און ביטערניש,
ווען מיר אַלע אין איינעם פֿליִען
צו די שטערן?"

*На ідыш (ад рукі) — Фелікс Баторын*

[Максім Багдановіч — мой улюбёны паэт. У раннім маленстве я зачытваўся ягонай казкай «Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык». І сёння, варта мне пачуць «Каля рэчкі Самацечкі камары таўкуцца…», сэрца пачынае соладка шчымець.

Калі я ўступаў у пару сталення, мяне зачароўвалі містычныя Максімавы вершы, бунтарылі маё ўяўленне яго патрыятычныя радкі.

У сталым веку душу вярэдзіў надрыў цяжка хворага чалавека, які марыць пра каханне, шчасце, паўнакроўнае жыццё, але ведае, што дні яго злічаныя і ніякая з гэтых мараў не здзейсніцца.

Час ад часу перачытваю Багдановічавы творы і штораз наноў адкрываю для сябе бязмерныя глыбіні яго філасофіі, лаўлю сябе на адчуванні, што мы з ім раз'яднаныя ў часе аднадумцы, духоўныя спарышы.

З радасцю прыняўшы прапанову перакласці на ідыш верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы», я літаральна за гадзіну перастварыў гэты твор па-габрэйску — такое ўзвіравала ўва мне натхненне, было адчуванне, нібыта за дзясяткі гадоў да майго нараджэння паэт па-прарочы перадаў мае сённяшнія думкі і пачуцці.

Была толькі адна невялікая замінка, калі я дайшоў да слоў «папутнікі сярод нябёс». Гаворка ідзе аб тым, што ў беларускай мове слова «папутнік, спадарожнік» звязана з паняццем дарогі, а ў габрэйскай мове іхнія адпаведнікі суадносяцца з паняццем хадзьбы, суправаджэння. Праблем няма, калі гаворка ідзе пра рух па зямлі. Але пешаходаў сярод нябёс уявіць сабе цяжка. У нябёсах ляцяць, лунаюць. І мне давялося вынайсці неалагізм. «Ляцець» на ідыш «фліен». «Фліер» — лётчык, лятун, прыстаўка «міт» мае значэнне сумеснасці: «мітгейер» — «той, хто ідзе разам, спадарожнік». Значыць, мітфліер — «той, хто ляціць разам». І хоць у слоўніках я такога слова не знайшоў, яно ўспрымаецца нармальна, бо не супярэчыць законам габрэйскага словаўтварэння.

У выніку адзін з паэтычных Багдановічавых шэдэўраў загучаў на ідыш. Я па тэлефоне прачытаў яго таму-сяму з аматараў ідышыцкай паэзіі, і быў павіншаваны з удалым перакладам.]

## Maxim Bahdanovich

### I'd wish to meet you in the streets

I'd wish to meet you in the streets
On a soft blue night
And say:

«Do you see these huge stars,
Lustrous stars of Hercules?
Our Sun glides to them,
And the Earth follows.
Who are we?
Only travelers, — pilgrims amongst the skies.
So why there are
Quarrels and fights, pain and sorrows,
When we all
Together
are sailing
to the stars?»

*На англійскую — Маргарыта Латышкевіч*

[Ёсць вершы, якія гучаць як бы «па-за словамі», «над мовай». Таму што напісаныя па-майстэрску. Таму што вобразы, якія жывуць у такіх вершах, настолькі яркія і сапраўдныя (іначай не скажаш), што асаблівых высілкаў для перакладу і не патрэбна. Верш як быццам перакладае сам сябе, адбіраючы рэсурсы іншай мовы ў тваёй галаве. Лёгка, на адным дыханні. Мяркую, у гэтай нязмушанай лёгкасці, пазнавальнай на любой мове, — увесь Багдановіч.]

## Maxim Bogdanovich

### «Je voudrais Vous rencontrer dans la rue»

Je voudrais Vous rencontrer dans la rue
A la belle nuit calme
Et Vous déclarer:
«*Voyez-Vous ces grandes étoiles,*
Celles claires d'Hercule?
Et la terre poursuit le soleil.
Notre soleil vole vers elles.
Qui sommes-nous?
Nous ne sommes que des voyageurs, —
des compagnons de route parmi les cieux.
Alors pourquoi sur la terre y a-t-il des querelles,
de l'intrigue, de la douleur et de l'amertume,
Quand nous volons tous ensemble
Vers les étoiles?»

*На французскую — Крысціна Філіповіч*

[Пераклад не выклікаў асаблівых цяжкасцей! Як вядома, мова арыгінала і мова перакладу маюць невялічкія адрозненні. Але перакладчык — пасрэднік паміж гэтымі дзьвума мовамі, і ён павінен зрабіць усё магчымае, каб чытач адчуў пісьменніка і яго мову. Мая мэта — як мага дакладней перадаць змест твора тым, хто не здольны ўспрыняць яе ў арыгінале. Наколькі я з ёю справілася — судзіць чытачу! Але, каб быць упэўненай у сваёй працы, адправіла на праверку сапраўднаму французу. Ён памылак не знайшоў і быў задаволены глыбокімі рамантычнымі думкамі Максіма Багдановіча. У мяне засталіся найлепшыя ўражанні ад працы! А яшчэ, ведаеце, кожны дзень я задаю сабе тое ж самае пытанне, што і наш дарагі аўтар: навошта гэтыя сваркі, боль, горыч?! Дзякуй вялікі «Маладосці» за прапанову паўдзельнічаць у праекце!]

## 马克西姆·波格丹诺维奇

### 我想与你在街头相会

静谧的蓝夜
我想与你在街头相会
说：
你是否看得见那些明星，
武仙星座的亮星？
我们的太阳正向它们飞行，
跟随太阳移动的地球也向它们飞行。
我们是什么？
只不过是过客——天空中的同路者。
为什么在地球上
还有喧闹与纷争，痛苦与不幸，
我们是要在一起飞向那
恒星？

*На кітайскую — Алена Раманоўская*

[Гэты верш Максіма Багдановіча аб тым, што было актуальна тысячагоддзі, стагоддзі таму і, на жаль, гэтак жа актуальна і сёння. Аб тым, што не трэба паддавацца нянавісці, не трэба распачынаць войны, няважна, вялікія альбо малыя, бо ўсе мы жывём на адной планеце, пад адным небам. Гэтая туга па яднанні сярод агульнай раз'яднанасці выказана ў самых простых словах, мабыць, таму перакладаць іх на кітайскую мову было проста. Ніякіх вобразаў, цяжкіх для разумення прадстаўнікамі іншай культуры, ніякіх нязвыклых для іншай паэтычнай традыцыі мастацкіх прыёмаў. У простых словах, зразумелых для ўсіх народаў, — усеабдымны сэнс. Будзем спадзявацца, што людзі калі-небудзь яго ўсвядомяць.]

あなたに会いたい、道の上で
静かな青い夜に
そして言います
「あの大きな星が見えますか？
輝くヘラクレスの星座が。
あそこまで私たちの日の光は飛んでゆき
地球が太陽を追いかけます。
いったい私たちは何者なのでしょうね？
旅人 - せめて天空のさすらい人であれば。
なぜ地上では
いがみ合いに諍い、苦痛と嘆きに満ちて、
いつになったら星までともに
飛んでゆけるのでしょうか、私たちは？」

*На японскую — Тацумі Масака*

[Перакладаць мне было лёгка. Складаней перакладаць з беларускай на японскую ў стылі хоку або танка. А тут перакладала ў вольным, больш сучасным стылі. Але, канечне, імкнулася, каб верш Багдановіча гучаў прыгожа і па-японску. І вельмі хацелася перадаць думкі паэта і далікатнасць святу яго верша.]

**Агь, хьурдай т1ий бура**

Агь, хьурдай т1ий бура
Вищал сайр буван
Няк1 ссавнийх я битан
Вищал жап буван:
«Ч1алай бурив ххирай
К1а ссавний ц1уртти,
Чаннану пар т1исса
Геркулес т1исса»
К1иккунни лерххуну найсса
 ва дуньял
Ц1уххирчан ина дувс
 Жува цар куну?
 Жува, сайр буллайсса
Ххуллурссар чинна.

Ва пана дуниял,
дяъви,къумашив
Жунна ссан аьркинссар
Ттул дак1нил лавс дувс
Цинявппа жям хьуну
 Левххуну гьанну
К1ай чанна ц1урттач1ан
Тархъаншивруч1ан.

*На лакскую — Зоя Куннуева*
*(па падрадкоўніку Міколы Труса)*

**Ккундийзуз кючейиъ увуз алахъуз**

Ккундийзуз кючейиъ увуз алахъуз
саб сес-дикІ адру укІу йишван
ва пуз:
«Рякъюри айвуз гьагъму чІатху хядар,
аку хядар Геркулесдин?
Ихь ригъра гьадрарихьинди тІибхура,
хъа ригъдихъди тІибхури а ихь жилра.
Фужар ву ухьу?
Анжагъ сиягьятчйир,—
 завариъ рякъюн юлчйир.
Гьаз жил`ин ал
Гъал ва футна, иццру ва гъамлу апІбар,
Эгер ухьу вари сабси тІирхураш
хядарихьна?»

*На табасаранскую — Эльміра Ашурбекава*
*(па падрадкоўніку Міколы Труса)*

**Юры Пацюпа**

# З якога боку заззяе вясёлка?

## Пра Багдановіча: роздум пасля роздуму

Максім Багдановіч займае ў беларускай літаратуры асаблівае месца. На гэта звярнуў увагу яшчэ ягоны першы крытык Антон Луцкевіч. Ад тае пары шмат вады ўцякло, шмат новых пісьменнікаў вырасла, але месца гэтае так і засталося нераздзеленым. Багдановіча любяць усе, нават тыя, хто не любіць беларускай літаратуры і літаратуры наогул.

Ці, лепш сказаць, амаль усе.

Мне, прынамсі, вядомыя два-тры чалавекі, якія не ўспрымаюць паэзіі Максіма Багдановіча. А зрэшты, можа, гэта і добра — было б дзіўна і ненатуральна, каб у правіле не было вынятку.

Улюбёнец народа, узор і прыклад для маладых пісьменнікаў — яго не маглі не наследаваць, яго не маглі не пераймаць. І яго пераймалі ўсе, хто пачынаў пісаць па-беларуску. Але… ніхто не даў рады падладзіцца пад Багдановіча. Як у той прыпавесці паэтавай: «Добра граеце, — гаварылі ім, — ды ўсё не тое!» Заўжды нечага бракуе — выходзіць бледна і ненатуральна, як казаў з іншай нагоды Багдановіч-крытык.

Чаму так? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба зразумець, хто для нас Максім Багдановіч.

Перадусім паэт. Паэт, якога можна чытаць для душы. Не з прымусу, бо ў школе задалі. Не таму, што гэта гонар нацыі, сцяг. А таму, што ў паэтавых вершах мы знаходзім саміх сябе.

Некалі нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ падзяліў мастакоў на два тыпы. Першы тып — апаланійскі — спакойны, той, які трагізм і пачварнасць свету ахутвае і засланяе прыгожымі мастацкімі формамі. Другі — дыянісійскі — той, што аддаецца буйству стыхіяў, забываецца на сябе і свет у гэтым віры і кулямесе. Калі накласці тую матрыцу на беларускую літаратуру, то ў Багдановічу мы адразу згледзім мастака апаланійскага тыпу. Здавалася б… Але не будзем забывацца, што Ніцшэ потым вылучыў яшчэ адзін тып творцы — сакратаўскі, які ацаніў найніжэй. Першыя два тыпы — касмічнага маштабу, а другі — чалавечага. Сакратаўскі тып мастака — гэта той, у якім раскрываецца душа чалавека, а не душа сусвету. Мне здаецца, Максім Багдановіч — перадусім мастак сакратаўскага кшталту. І ў гэтым няма нічога благога. Купала — дыянісіец, Колас — апаланіец, а Багдановіч… А Багдановіч хінецца да Сакрата. За гэта яго і любяць. Але і апаланійскага бляску ў ім не менш. *Паэт чыстай красы* — даволі прамовіць тры гэтыя словы, каб мы не вагаючыся паказалі на аўтара «Вянка». І ў такой яго дваістасці — частка *загадкі Багдановіча*. А можа, і траістасці, бо дыянісійскія сілы таксама дрэмлюць пад дасканалымі формамі чыстай красы. Адам Бабарэка азначыў паэта як мастака сінтэтычнага складу. У чым гэты сінтэз? Гэта не эклектыка, не пярэстая коўдра. Багдановіч — як той дыямент, які паварочваецца да нас то адным бокам, то другім, то трэцім, але заўжды застаецца цэльным і аднародным. Паспрабуем падсумаваць тое, што пісалі пра паэта розныя аўтары.

Максім Багдановіч — перадусім мастак сакратаўскага кшталту. І ў гэтым няма нічога благога. Купала — дыянісіец, Колас — апаланіец, а Багдановіч… А Багдановіч хінецца да Сакрата. За гэта яго і любяць

У чым чароўная сіла Багдановіча-мастака? Мне здаецца, найперш у тым, што ў яго асобе шчасліва злучыліся, супалі розныя якасці, тыя, якія ў іншых асобах раскрываюцца паасобку. Багдановіча як паэта без лішніх ваганняў можна аднесці адразу да двух кірункаў — імпрэсіянізму і неакласіцызму — так, што сходу і не скажаш, якую дамінанту паставіць на першае месца. Паводле формы, вонкавага гарту паэт адпавядае крытэрам неакласіцыста, а паводле зместу, паводле вобразнага напаўнення ён пэўна ж — імпрэсіяніст. Адно ўваходзіць у другое так арганічна, так натуральна, што мы нават не заўважаем швоў, нейкіх супярэчнасцей, дваістасці, дысгармоніі.

Неакласіцыст вучыць:

*Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба з цярпеннем.*

А імпрэсіяніст прызнаецца:

*Не даюць мне думаць зыкі,*
*Што ляцяць, дрыжаць, звіняць.*

Да гэтых якасцей дадаецца яшчэ адна рысачка, здавалася б прыватная, не вартая ўвагі пры агульнай характарыстыцы, але насамрэч істотная: маю на ўвазе своеасаблівую рэльефную метафарычнасць, якая надае вершам яркасці, карціннасці, філасофскай глыбіні і, не змяшчаючыся ў вершы, пераходзіць у прозу, крытыку ды публіцыстыку. У звязку з карціннасцю твораў варта нагадаць: сам паэт ахарактарызаваў сябе як «паэта-маляра», не як «лірыка» — узорам апошняга ён лічыў Коласа. Аднак да гэтай пары літаратуразнаўцы любяць разважаць пра «музычнасць» Багдановічавых вершаў. Насамрэч жа музычны прынцып у яго ўжываецца хіба што толькі тройчы: у рамансе «Зорка Венера…» — як сістэма складаных рэфрэнавых паўтораў, у «Маёвай песні» — як узор лёгкага харэя і ў вершы «Завіруха» — як гукапераймание. Усё астатняе — зладжана, гарманічна, але без акцэнту на спеўнасці, і тым больш без усякіх слядоў гукавога сімвалізму. Затое імажыністы ў наступным пасля смерці паэта дзесяцігоддзі маглі б шмат узяць ад Багдановіча, каб усвядомілі прыроду ягонай вобразнасці.

Але ягоная метафарычнасць цікавейшая за імажыніcцкую вобразнасць як голую самамэту. Багдановіч не перанасычае свае тэксты яркімі тропамі, а падбірае іх ашчадна, удумліва і ўстаўляе, як каштоўныя камяні, у цэнтр ідэі твора, фармуючы такім спосабам вобразнае ядро сэнсу. І ў той жа час ён не дае метафары застыць, рэдка даводзіць яе да стану сімвала, а яшчэ радзей — да алегорыі, якая спрашчае думку. У гэтай семантычнай сканцэнтраванасці згледжваецца лучнасць з г. зв. навуковай паэзіяй, заснаванай Лекoнтам дэ Лілем, вытокі якой беларускі паэт прасочваў глыбей: ад натурфіласофскіх вершаў Міхаіла Ламаносава, і нават ад народнай творчасці. Адметна, што Валерый Брусаў, у нейкай меры настаўнік Максіма Багдановіча, прыйшоў таксама да навуковай паэзіі. Ужо тады, калі аўтара «Вянка» не было на свеце.

І тут было б дарэчы сказаць колькі слоў пра дачыненне беларускага паэта да сімвалізму. Да імпрэсіяністаў Багдановіча залучыў у 1923 годзе

Багдановіча як паэта без лішніх ваганняў можна аднесці адразу да двух кірункаў — імпрэсіянізму і неакласіцызму — так, што сходу і не скажаш, якую дамінанту паставіць на першае месца

М. Піятуховіч, а з сімвалізмам, у прадмове да «Выбраных твораў» (1940), звязаў М. Ларчанка. М. Піятуховіч старанна абгрунтаваў сваю ідэю, нават падвёў пад яе філасофскую базу, але рэдакцыя часопіса «Полымя» не пагадзілася з ім, а пазней рэцэнзент высмеяў крытыка: *«Чытаючы творы паэта, апошні бачыць не тое, што напісана, а нешта іншае»*. Яшчэ больш рэзкай была рэакцыя С. Замбжыцкага ў артыкуле «Нацягванне чужога халата». Тым часам М. Ларчанка не абгрунтоўваў свайго сцвярджэння, але з ім ніхто ўсур’ёз і не спрачаўся, затое скрозь сталі дзейкаць пра сімвалізм Багдановіча. Нават С. Майхровіч, з якога пачынаецца міф пра Багдановіча-рэаліста, не прамінуў упікнуць паэта за сімвалізм.

Асаблівай супярэчнасці тут няма, французскі паэт Поль Верлен, якога болей як каго іншага перакладаў Максім Багдановіч, трактуецца і ў рэчышчы імпрэсіянізму, і ў рэчышчы сімвалізму. Глыбокая лучнасць беларускага паэта з сімвалізмам не выклікае пярэчанняў, іначай і быць не магло, бо сімвалізм — гэта найбольш уплывовы кірунак канца XIX — пачатку XX стст. Не толькі навучанне ў Брусава, але і перазовы з вершамі Аляксандра Блока, знаёмства з тэарэтычнымі палажэннямі Андрэя Белага — усё гэта знаходзім у Багдановіча. Той жа імпрэсіянізм можна трактаваць і як перадсімвалізм, а неакласіцызм — як постсімвалізм. Аднак, нягледзячы на ўсе ўзаемаперацяканні сумежных паняткаў, нягледзячы на ўсе выпадкі злучэння ў адной творчай асобе розных кірункаў і, урэшце, беручы пад увагу шматграннасць постаці самога Максіма Багдановіча, аднесці яго да сімвалістаў ніяк не выпадае. Бо іначай мы рызыкуем страціць усе крытэры адрозненняў.

Асноўны стрыжань, які фармуе ўсю творчасць Багдановіча, — гэта рацыянальнасць і гранічная яснасць думкі, канкрэтнасць, нават рэчыўнасць

Літаратуразнаўцы любяць разважаць пра «музычнасць» Багдановічавых вершаў. Насамрэч жа музычны прынцып у яго ўжываецца хіба што толькі тройчы: у рамансе «Зорка Венера…» — як сістэма складаных рэфрэнавых паўтораў, у «Маёвай песні», — як узор лёгкага харэя, і ў вершы «Завіруха» — як гукаперайманне. Усё астатняе — зладжана, гарманічна, але без акцэнту на спеўнасці кожнага вобраза. Каб зразумець гэта, варта параўнаць Багдановіча з дасавецкім Купалам — ірацыянальным, абстрактным ды туманным. Або з Ясакарам (раннім Бядулем) — містычным, летуценным, экзальтаваным. Свет Багдановічавай паэзіі зямны, ад пачатку і да канца тутэйшы, у ім калі і ўспамінаецца нешта надпрыроднае, пазасветнае, то хутчэй дзеля парадоксу, дзеля паэтычнага досціпу, а не як элемент светагляду. І якраз засяроджанасць на зямным надае ягонай паэзіі асаблівае багацце барваў і адценняў. Паэта цешыць практычна кожная дробязь, кожная рысачка свету. У шматстайнасці жыцця ён знаходзіць больш спажытку, чым у нетрах самай неўтаймаванай фантазіі. Калі Купала — гэта паэт цёмнай скрозьдоннай глыбіні, то Багдановіч — перадусім паэт яркай каляровай паверхні.

Толькі не трэба блытаць паверхню і павярхоўнасць, паверхня таксама можа мець сваю глыбіню — празрыстую, а не цёмную. Увага да дэталі, сканцэнтраванасць на паверхні быцця якраз і давала падставу некаторым савецкім гісторыкам літаратуры гаварыць пра Багдановіча як рэаліста, але гэта ілюзія. Яшчэ М. Піятуховіч звярнуў увагу на тое, што ў паэта няма шырокіх палотнаў, панарамнага бачання свету, характэрнага для мастака-рэаліста. Тут, калі і дазваляецца гаварыць пра рэалізм, то ў самым агульным плане, тады і імпрэсіянізм як мастацтва паверхні — форма рэалізму. Аднак мы зноў сутыкаемся з перацяканнем панятка ў сваю процілегласць і, усведамляючы ўмоўнасць усіх катэгорый, мусім не паддавацца ілюзіям падабенства, заставацца пільнымі, каб не скаціцца да алагізму.

Адсутнасць панарамнасці пры ўвазе да дэталі раскрывае яшчэ адну рысу, на якую не прынята звяртаць увагі: Багдановіч — камерны паэт. Гэта ён цудоўна разумеў сам і нават абгрунтоўваў у адным з трыялетаў права мастака быць камерным:

*Чэліні статуй не рабіў,*
*А толькі статуэткі,*
*Аднак, артыста шчыры быў.*
*Чэліні статуй не рабіў,*
*Ці чуеш, крытык едкі?*
*Дарма ты трыялет ганьбіў:*
*Чэліні статуй не рабіў,*
*А толькі статуэткі.*

Арыентацыя на рэчаіснасць абумовіла не толькі карціннасць, яркасць Багдановічавай паэзіі, але і нейтральнасць моўнага стылю. Усякага кшталту алхімія слова, гукавыя і марфемныя метафары — тое, без чаго не маглі абысціся вершы Вацлава Ластоўскага, чым рэдчас бавілася Купалава муза — Багдановічу было без патрэбы. Моўная экзотыка яму нават замінала. Якраз тут мы знаходзім тлумачэнне, чаму шматлікія русіцызмы не псуюць вершаў «Вянка». Моўная абалонка пры ўспрыняцці верша адкідаецца — і застаецца чысты вобраз. Правільны класічны верш, дасканала вытрыманыя строфы, апрабаваныя стагоддзямі, — увесь рыштунак неакласіцызму — таксама можа ўспрымацца як нейтральная — нічыя — форма.

Азірнуўшыся, справядліва было б запытацца: а на каго арыентаваўся Максім Багдановіч у літаратуры, які паэт быў яго ўлюбёным? Мы ўжо пісалі, што рэкордная колькасць перакладаў у Багдановіча — з Верлена, а найболей паралеляў — з Брусавым (таксама, дарэчы, неакласіцыст, дарма што належаў да лагеру сімвалістаў). Але паэтаў бацька ў якасці прыярытэту называе зусім іншае імя, якое рэдка згадваецца ў кнігах Багдановіча, — двойчы ў эпіграфах і некалькі разоў яшчэ, з малазначнай нагоды. Вось што мы даведваемся ад бацькі: *«З пісьменнікаў рускай літаратуры ён найбольш сімпатызаваў Фету і нават сваю паэзію прымяркоўваў да ягонай паэзіі»*.

Безумоўна Фет! Як не здагадацца, што паэт *чыстага мастацтва* для *паэта чыстай красы* не мог не служыць узорам. Менавіта Афанасія Фета часам называюць запабежнікам імпрэсіянізму. Праз яго многае тлумачыцца і ў Багдановічу: і эстэтызм, і камернасць, і той жа імпрэсіянізм. А галоўнае — жывасць ды натуральнасць вобразаў, чаго ніколі не знойдзем у бронзавага Брусава. Аднак беларускі паэт істотна розніцца ад Фета. У Багдановіча значна менш чыстых імпрэсій, абразкоў прыроды, настрояў, затое ёсць тое, чаго зусім няма ў рускага аўтара: вершаваных метафараў-канцэптаў, грамадзянскіх вершаў, фармальных эксперыментаў і стылізацый, і прытым у самым шырокім дыяпазоне — ад класічных узораў да фальклору. Фет — больш цэльны, а Багдановіч — больш разнастайны і больш канцэптуальны. Але яны абодва песняры прыроды, абодва, як той казаў, паэты для душы.

Здавалася б, што ж можа не падабацца ў Багдановічавай паэзіі яго НЕшматлікім НЕпрыхільнікам? Тут адзінага адказу быць не можа. Густы нельга пралічыць. Але, здаецца, самую неадназначную рэакцыю выклікае ягоны канструктывізм. Багдановіч мысліў цыкламі, зборнікамі. Форму верша, яго тэму, кампаненты, асноўную думку ён разлічваў, як шахматную партыю. Свае ўлюбёныя вобразы-парадоксы ён збіраў, як пчала нектар. Нейкі цыкл, нейкая група вершаў маглі папаўняцца з году ў год, паэт вяртаўся да іх, нешта дадаваў, нешта адкідаў і ствараў нанова. Некаторыя групы, мабыць, вычэрпваліся — узнікалі новыя, але ўсё гэта было, як мазаіка, як адзін вялікі твор, што бясконца дапісваўся і перапісваўся. Ад вершаў атожылкі ішлі да апавяданняў, артыкулаў, цягнуліся ў публіцыстыку. Гэтая рацыянальная праца і не даспадобы некаторым — падаецца штучнасцю. Тыя, хто чакае ад паэта спантаннасці, недалюбліваюць Багдановіча за сальерызм, які ён сам, дарэчы, абгрунтаваў «тэарэтычна»:

*Халодным розумам праняўшыся, натхненне*
*Ён мусіў тым губіць, — так кажа абвіненне.*
*Сальеры ў творчасці усё хацеў паняць,*
*Ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць,*
*Абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту*
*І горача любіў сваю свядомасць гэту.*

Ягоная метафарычнасць цікавейшая за імажыністкую вобразнасць як голую самамэту. Багдановіч не перанасычае свае тэксты яркімі тропамі, а падбірае іх ашчадна, удумліва і ўстаўляе, як каштоўныя камяні, у цэнтр ідэі твора, фармуючы такім спосабам вобразнае ядро сэнсу

Абгрунтаваў, вядома, у вершы, затое так пераканаўча, што мысліцца, як быццам тэарэтычна.

Але ці можна вінаваціць творцу за тое, што ён умее думаць, а не толькі адчуваць? Некалі Пушкін менавіта за ўменне думаць вылучыў сярод сваіх сучаснікаў Баратынскага. Багдановіч умеў амаль усё — і думаць, і адчуваць. А не ўмеў, бадай што, аднаго — ствараць панарамныя палотны. Колькі б мы ні напружвалі фантазію, мы не можам сабе ўявіць яго аўтарам паэм-эпапей, шматтамовых раманаў і т. п. «Беларускі Гамер» — жартам называў яго бацька. Не, толькі не Гамер! Катул? Сапфо ў мужчынскім абліччы? Авідый, закінуты воляй лёсу на чужыну?

Што нам узычвае паэт? Вершы надзвычайнай красы. Адшліфаваныя, не пабаімся банальнасцей, як дыяменты. Яркія, як трава, як неба. Крохкія, як лупіна блакітнага шпачынага яйка. Глыбокія і ёмістыя, як вока бурштыну (глыбіня паверхні!). Адзінкавыя, што, здаецца, можна пералічыць па пальцах. Ніводзін з іх не зліваецца з фонам. Кожны ў памяці. І кожны гаворыць пра нешта блізкае і дарагое — чалавечае. Як той казаў, занадта чалавечае. А побач з вершамі, нароўні з вершамі — ягоная выштукаваная, філасофская проза. Хіба гэтага мала? Хіба хто яшчэ ўмее быць і дакладным, і яркім, і крохкім, і глыбокім, і прачулым за адзін раз? Часам і дзве якасці не злучаюцца, не тое што ўсе адразу…

Таму Максім Багдановіч і надалей застанецца нашым вялікім камерным паэтам, да якога можна хінуцца, але нельга перасягнуць. Вечна асобным, апрычоным, ні да кога непадобным і ў той жа час — неадменным настаўнікам для ўсіх: для паэтаў і празаікаў, для маладых і старых. На кожным павароце гісторыі.

Багдановіч мысліў цыклямі, зборнікамі. Форму верша, яго тэму, кампаненты, асноўную думку ён разлічваў, як шахматную партыю. Свае ўлюбёныя вобразы-парадоксы ён збіраў, як пчала нектар

Такі Багдановіч для ўсіх.

Але ёсць яшчэ Багдановіч, як той казаў, для спецыялістаў. Не ўсе ж чытаюць літаратурную крытыку, не ўсе чытаюць палеміку з нейкім князем — даўно забытым міністрам асветы. Калі задумацца — тут можна шмат чаго ўспомніць: Багдановіч і крытык, і гісторык, і мовазнаўца, і музыказнаўца, і палітык, і юрыст, і філосаф, і журналіст… Усё, да чаго датыкалася ягоная рука, ўспыхвала праменьчыкам, хай сабе і мімалётным. Усе кірункі, названыя і не названыя мною, — некалі некім з багдановічазнаўцаў былі апісаныя. Ці просяцца быць апісанымі. Але не будзем раздрабняцца. Нам трэба ўбачыць Багдановіча з вышыні птушынага лёту, а не з мышынай нары.

Хто ён для нас *par excellence?*

Апрача Багдановіча-паэта можна вылучыць яшчэ тры фокусы асобы. Ёсць Багдановіч — крытык. Ёсць Багдановіч — публіцыст. І ў глыбіні, у цені паэта і крытыка, на скрыжаванні публіцыста і аўтара прозы стаіць Багдановіч-філосаф.

«Няўжо ў вас быў такі добры крытык?» — здзіўляўся Карней Чукоўскі ў гутарцы з Якубам Коласам на Шаўчэнкавым юбілеі. Чукоўскі і сам пісаў, паралельна з Багдановічам, пра Шаўчэнку, але толькі праз два дзесяцігоддзі пачуў голас у сумоўі. Менавіта ў артыкуле пра Шаўчэнку Багдановіч назваў свой метад эстэтычным. Эстэтычная крытыка, як і вершы пра лесавікоў, як і санеты, здавалася надмернай раскошай, у той час, калі трэба было проста весці змаганне за адно толькі права пісаць па-беларуску. Але ў тым і рэч, што беларусіка не была для Багдановіча справай

«Беларускі Гамер» — жартам называў яго бацька. Не, толькі не Гамер! Катул? Сапфо ў мужчынскім абліччы? Авідый, закінуты воляй лёсу на чужыну?

сённяшняга дня, яна была марай, з якой не шкада было спакойна памерці. І дзеля якой варта было жыць. Калі чытаеш Багдановічаву публіцыстыку, узнікае пачуццё, быццам ён яе і пісаў толькі дзеля таго, каб лішні раз нагадаць, што жыве Беларусь.

Гэта было гарачае пачуццё, але ў ім не было экзальтаванасці, надлому, надрыву. Спакойная, лагічная аргументацыя, факт лепіцца да факта, а потым — асвятляецца парадоксам, нечаканым паваротам думкі. Багдановіча-крытыка і Багдановіча-публіцыста варта чытаць ужо хаця б дзеля таго, каб павучыцца культуры мыслення, культуры выказвання: лагічна, лапідарна і ярка-метафарычна. Калі ў Багдановічавых вершах метафары заўжды разумныя, то ў артыкулах тыя самыя метафары паварочваюцца сваім маляўнічым бокам.

Максім Багдановіч быў сучаснікам лагічнага пазітывізму. І, калі можна ўявіць лагічнага пазітывіста-эстэта, то гэта і будзе Багдановіч-філосаф. Пад выглядам выкшталцоных апавяданняў, стылізаваных то пад апакрыфічнае Евангелле, то пад актавую мову, ён пакінуў нам філасофска-эстэтычныя трактаты. З аднаго боку, гэта мастацкая проза, і проза найвышэйшага гатунку. З іншага боку, у мастацкай прозе звычай галоўнае месца адводзіцца характарам. А тут — сутыкаюцца не характары, а ідэі. У сусветнай літаратуры хіба толькі Борхесу ўдавалася так арганічна спалучыць філасофскае і мастацкае.

Якім яшчэ бокам можа павярнуцца да нас аўтар «Вянка»? Зборніка, дзе было сканцэнтравана ўсё найлепшае, што давала еўрапейская традыцыя. І не забыта сваё. Ад кожнай краскі — па колеру, таму і заззяла вясёлка:

*Няяркая, маленькая вясёлка*
*Ўкруг месяца ледзь бачна зіхаціць;*
*Яе не кожны нават і прыкмеціць,*
*Хто ў гэты час на неба паглядзіць.*
*Няяркая, маленькая вясёлка! —*
*Праз гэта ты і даспадобы мне,*
*Бо я адну з табою долю маю —*
*Зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне.*

Багдановіча мала — усё напісанае можа змясціцца ў адным томе, але ў гэтым томе — усякай усячыны ёсць, як у зорным небе.

Ніколі нельга адгадаць, дзе і з якога боку заззяе вясёлка.

**Дзмітрый Шулюк**

# Пустэльнік

Быццам пустэльнік. Я гляджу навокал і не бачу людзей. Толькі мёртвыя камяні. Замест дарогі, замест хат, замест сэрцаў. Мёртвыя камяні і здані. «Стаяў калісь тут бор стары…» Я шапчу не малітвы, а вершы. Я спрабую разгадаць, у чым адрозненне. Малітваў ад вершаў. Жывога ад нежывога. Людзей ад зданяў. Спалучэнняў слоў ад загавору.

Горад Чэрвень. Могілкі. Фатограф старанна выстаўляе кліентаў на магіле Марылі Багдановіч. Каб усе былі бачныя, каб усе ў гэты ўрачысты момант трапілі на фотаздымак. Прыгожыя і цалкам. Я крыху адышоў. Быццам я не з імі. Быццам не я ехаў у тым жа аўтобусе з горада Мінска. Быццам я выпадкова прыйшоў на могілкі ў той час, калі там адбываецца гэта ўрачысціня. Я бачу чужыя твары, чужыя прозвішчы, якія глядзяць на мяне з надмагільных помнікаў. Пытаюць у мяне: «А калі будзе твая другая дата?» Я маўчу. У руках фотаапарат. Я таксама ішоў фатаграфаваць, але прыйшоў і не змог. Бо раптам пераблытаў, дзе людзі, а дзе здані. Тыя на чужой магіле з усмешкамі. Тыя, што прынеслі вялікі вянок і паставілі зверху на кветкі. На штучныя кветкі — штучны вянок. Яны здані. Робяць гэта кожны год. Тыя ж самыя дзеянні праз тую ж міміку і рухі. Ніякага сэнсу. Ніякіх эмоцый. Проста сімвал. Сімвал пашаны да паэта. Напэўна, яны здані. Менавіта яны, а не гэтыя, што падымаюцца з магілаў і кідаюць на мяне пытальна-пагрозлівыя позіркі. Не гэтыя, што жывуць тут і ўжо ніколі не сыдуць са сваёй зямлі, не адмовяцца ад сваёй памяці, мовы. І ці трэба казаць, чаму сціхла рака, не шасцяць у палях каласы…

Быццам пустэльнік. Імкнуся спазнаць чысціню. Імкнуся ўбачыць, як ноч плыве над зямлёй, сее росы. Але быццам не ноч. Хоць і ўсё навокал сном адвечным спіць. Быццам далёкім рэхам нясуцца далёкія словы далёкай настаўніцы да далёкага мяне. Словы знаёмства з класікам беларускай літаратуры Максімам Багдановічам. Тады мяне ўразіла, што ён памёр маладым, але мне чамусьці падалося — у дваццаць сем. Выпадкова я паставіў Багдановіча ў шэраг рок-музыкантаў. Ён і зараз там. Ён не класік, гэты малады хлопец, з агнём у словах, рухах, дзеяннях. Ён не класік. Ён наш рок-музыка. Музыка нашага року.



Прапанову паехаць у Чэрвень на імпрэзу да 125-годдзя выдатнай асобы, сімвала адраджэння беларускай культуры я прыняў з задавальненнем. Прапанову напісаць водгук на гэта падарожжа таксама. Я спадзяваўся на радасць, што паліецца словамі. На тое, што яшчэ месяцы ў душы не змоўкне струн вясёлых перабор. Я хацеў сустрэцца з Максімам, сустрэцца праз сотню гадоў. Сустрэцца і сказаць: «Ну што ж ты так». Быццам гэта яго віна, што ён сышоў. Шэптам, каб ніхто не чуў, дадаць: «Дзякуй». Гэта не дзікая містыфікацыя-фантасмагорыя, гэта шчырасць. Я хацеў адчуць, што пісьменнік жыве. Што пісьменнік жыве ў сэрцах. Што сын прыходзіць у родны горад маці. Ходзіць там між людзей і яго можна пабачыць. Ім можна дыхаць. Свечка свеціць, свечка ззяе, свечка дагарае. Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на свеце. Але ж паэт. Такі паэт — больш чым свечка. Ён не можа дагарэць. Я прыняў прапанову паўдзельнічаць у падарожжы ў Чэрвень, дзе нарадзілася Марыя Багдановіч (Мякота), маці Максіма, каб пераверыць у тое, што я раблю зараз патрэбную справу. Каб адказаць сабе і дзясяткам беларускіх пісьменнікаў, якія раз за разам пытаюць, ці можа літаратура змяняць свет, гучнае «можа».

Быццам пустэльнік. Праводжу дзень у роздумах. Спрабую ўтаймаваць мяцеліцу думак. Спрабую падарыць сабе спакой. Але ўсё бурліць, кіпіць, выбухае. Я не цямлю, дзе рука, дзе галава. Навошта мы звяртаемся да пісьменнікаў мінулага? Гэта звычайнае простае пытанне патрабуе новага адказу. Бо той, што даюць у школах, музеях, газетах, часопісах, — мяне не задавальняе. Там кажуць стандартныя словы. Словы, якія, напэўна, даўно прапісаны ў кодэксах беларускай маралі. Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае. Я хачу пачуць шчыры адказ. Мне патрэбна шчырасць. Якім пісьменнікам быў Максім Багдановіч? Шчырым. А чаму вы звяртаецеся да яго? Чаму вы зноў і зноў спрабуеце сказаць, што шануеце яго, што ён вельмі важны для вас чалавек? Чаму? Няўжо гэта так і ёсць? А за што вы шануеце Багдановіча? За тое, што ён аддаў вельмі шмат, аддаў па сутнасці жыццё на тое, што нашмат больш за маладога хворага чалавека? Скажаце яшчэ раз пра беларускі народ, мову, адраджэнне. Скажаце на рускай. А чаму? Чаму вы звяртаецеся да яго на рускай? Беларусы! Дзе ваша пашана? Дзе ваша шчырасць?

Пару тыдняў таму быў на міжнароднай канферэнцыі ў лінгвістычным універсітэце. Слухаў лекцыі даследчыкаў са Славакіі і Польшчы. Лекцыі на прыгожай беларускай. Іспанка Анхела Эспіноса піша ў нашу«Маладосць» тэксты для калонкі на беларускай. А на імпрэзе ў гонар Максіма Багдановіча ў горадзе, дзе нарадзілася яго маці, з вуснаў беларусаў ліўся «русский язык». Магчыма, у нас двухмоўе. Гэта цудоўнае апраўданне для ўсіх тых, хто не ведае родную мову. А навошта тады наведваць такія імпрэзы? Каб пакінуць школе на памяць сваю рускамоўную кнігу пра беларускага першадрукара? Можна, між іншым, да 500-годдзя беларускай кнігі яшчэ і фільм рускамоўны зрабіць. І зняць дзе-небудзь у Санкт-Пецярбургу.

Быццам пустэльнік. Нават у набітым аўтобусе адзін. Гляджу то ў акно, то ў кнігу. Думаю пра лёс. Думаю пра тое, што галоўная пашана для папярэднікаў — гэта працягваць іх справу. Не таптацца на месцы, пераліваючыся то пафасам, то цішшу. А ісці. Бо паміж штодзённасцю і словамі пра наша ўсё ўзнікае такі дысананс. Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу праймае. Мы ўжо выйшлі з цесных душных падзямельных норак, але што з таго. Як былі кратамі, так і ёсць. Вышыванкі, дранікі — пафас. У мяне сяброўка жыве ў Жлобіне і жадае размаўляць на роднай мове. Жадае, але не можа. Бо не настолькі яна псіхічна моцная, каб вытрымаць доўгія і настырныя «гавары па-чэлавечаску».

Ён не класік, гэты малады хлопец, з агнём у словах, рухах, дзеяннях. Ён не класік. Ён наш рок-музыка. Музыка нашага року

Сто дваццаць пяць год таму нарадзіўся Максім Багдановіч. Я быў у горадзе Чэрвень. Слухаў даклады пра яго маці. Пра гісторыю самога горада. Глядзеў з задавальненнем, са здзіўленнем і жахам на малюнкі школьнікаў, прысвечаныя творчасці паэта. Бачыў і сфатаграфаваў цудоўную шыльдачку, якая інфармуе, што ў гэтым горадзе нарадзілася Марыя Мякота. Быў на яе магіле. Я сабраў з сабой шмат думак,назіранняў, эмоцый. А пасля доўга пытаў сябе: «Ці патрэбна гэта ўсё пісаць?» Не аднойчы хацелася сказаць галоўнаму рэдактару, што мне не хопіць смеласці, майстэрства, умення балансаваць на мяжы, каб нікога не пакрыўдзіць. Што я не Максім Багдановіч. Што ён жыў у тыя гады, калі людзі верылі, ішлі, змагаліся і не задавалі пытанняў. Я не рок-музыка. Я не бачыў, як ціха па мяккай траве сінявокая ноч прахадзіла. Але ці маю я права не пісаць? Ці маю я права не крычаць? Ці маю я права не сказаць штосьці ў адказ гэтаму прыгожаму вусатаму мужчыне з партрэта. Я гляджу на партрэт і не бачу ніякай слабасці. Я перачытваю яго «Вянок» і не бачу ніякай слабасці. Ёсць боль. Але калі ты пішаш пра свой боль, то гэта і ёсць сіла. Сапраўдная сіла. І я хачу быць такім жа моцным. І пакуль хтосьці будзе мусоліць пра тое, які ўклад зрабіў наш Багдановіч «в возрождение белорусской культуры», пакуль хтосьці будзе вялізнымі кіпамі сапсаванай паперы гуляць з яго творамі ў валейбол. Перакідваць іх ад дэкадансу да рамантызму, ад рамантызму да сімвалізму, ад сімвалізму яшчэ куды-небудзь. Я буду проста пісаць. Бо…

*І ўраз пабачыў ён, што ізумруд*
*У пярсцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,*
*Што блеску ў ім няма… І з болем тут*
*Ён зразумеў, што ўжо к жыццю не вараціцца.*

Быццам пустэльнік. Вяртаюся ў свой горад. Але ці я вяртаюся.

# Радок бяззбройны і бясспрэчны: Караткевічаўскія паэтычныя чытанні на філфаку (25.11.16)

На філфаку БДУ хапае студэнцкіх традыцый — ад капуснікаў першагодкаў да заўжды яркага «Славянскага вечара». А калі раптам падасца, што сярод традыцый філфака нечага нехапае, заўжды можна ўсталяваць сваю.

Ці, прынамсі, паспрабаваць.

Сёлетнія Караткевічаўскія паэтычныя чытанні на філфаку — ужо другія запар. Як і ў мінулым годзе, напярэдадні дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча ў адной з вялікіх аўдыторый факультэта сабраліся аматары верша. І не абы-якога, а — звонкага, палётнага, трапнага караткевічаўскага радка.

Студэнты і школьнікі маглі паспрабаваць свае сілы ў чытанні вершаў на публіку. Вядома не проста механічна паўтараючы завучаныя словы, але спрабуючы тэатралізаваць сваё выступленне, спрабуючы паказаць і журы, і аўдыторыі ўласную інтэрпрэтацыю абранага твора.

І — так. Удзельнікаў чытанняў ацэнівае самае прафесійнае журы. Мяркуйце самі: тут і Анатоль Леанідавіч Верабей, слынны даследчык творчасці і біяграфіі Караткевіча, тут і Міхась Паўлавіч Пазнякоў, пісьменнік, старшыня МГА СПБ, і Міхась Паўлавіч Кенька, выбітны літаратуразнаўца і перакладчык. Асабліва прыемна, што журы захоўвае такі склад ужо другі год, так што эксперты маглі, ацэньваючы чытальнікаў, параўноўваць іх з папярэднікамі.

У гэтым годзе да журы далучылася і «Маладосць» — таксама і таму, што ў Чытаннях з'явілася намінацыя «Аўтарскі верш». Дзмітрый Шулюк, намеснік галоўнага рэдактара нашага часопіса, і Досця Звяздоўская, наш 2D-карэспандэнт, мелі магчымасць ацаніць творы аўтараў-фіналістаў. Перамагла ж у гэтым спаборніцтве Марыя Крупская (гімназія № 16).

— Паспрабаваць напісаць верш мне параіла Тацццяна Іванаўна Шкурко, мой класны кіраўнік, — трошкі саромеючыся, з усмешкаю расказвала нам пасля Марыя. — Мы чыталі з класам «Кніганошаў», і мой верш напісаны па ўражаннях. Увогуле, я люблю чытаць штосьці дакладнае, гістарычнае, што было насамрэч. І са школьных прадметаў люблю тыя, дзе ацэньваюць па дакладных крытэрах, — матэматыку, фізіку, інфарматыку. А вершы пішу, бо «находзіць», напрыклад, пасля прачытання якога-небудзь твора. Гэта вельмі натхняе мяне, гэтаксама, як маляванне.

— А якія ўражанні ад Чытанняў?

— Па шчырасці, я была ў шоку. Пабачыць столькі таленавітых, яркіх людзей… гэта здзіўляе! Увогуле, я хвалявалася за кожнага, за ўсіх. Вось хтосьці забыў радок — а мне ажно сэрца сціснула: што ж далей будзе? Я рада, што пабачыла столькі адораных людзей. Гэта прыклад!

Права голасу, аднак, мела не толькі журы, але і аўдыторыя, якая магла прагаласаваць за сваіх фаварытаў: аднаго школьніка і аднаго студэнта. Як кажуць, vox populi — vox dei, і таму, магчыма, незалежны выбар гледачоў часта прагназуе выбар журы. Так, напрыклад, адбылося ў мінулым годзе, калі і абсалютным пераможцам, і ўлюбёнцам аўдыторыі стала студэнтка філфака Аліна Агрэніч.

Сёлета на Чытаннях праходзіла маленькая акцыя «Караткевіч — гэта…». Менавіта з такім запытам учэпістыя арганізатары звярталіся да ўсіх: журы, гледачоў і, натуральна, удзельнікаў. І вось толькі некаторыя адказы на гэта няпростае пытанне:

«…глыток кіслароду ў беларускай літаратуры…»

«…ключ ад Беларусі…»

«…любімы, адзіны, непаўторны…»

«…чалавек, дзеля размовы з якім варта пабудаваць машыну часу…»

«…чалавек, які па-сапраўднаму адчуваў кожную дробязь (і не дробязь!) жыцця»

«…рыцар сумлення і свабоды, а таксама цяжкі крыж, але вельмі пачэсны»

«…будучыня нашага мінулага…»

«…НАША ЎСЁ!»

«…Леанарда да Вінчы беларускай літаратуры…»

«…гонар і годнасць, мова і гісторыя. Караткевіч — гэта Беларусь…»

Да душы, з кожным з гэтых азначэнняў цяжка не пагадзіцца. Многія ўдзельнікі Чытанняў прызнаваліся, што менавіта творы Караткевіча «адкрылі» для іх Беларусь і беларускае, што менавіта гэтыя творы ім хочацца перачытваць зноў і зноў. Для пісьменніка, думаецца, найвышэйшая пахвала.



Марына Шэвель. «Кветка Шыпшыны» (да аповесці «Ладдзя Роспачы»).

Чытанні не абышліся і без сюрпрызаў. Такім сюрпрызам, у прыватнасці, стала выступленне гурта «Адарвірог». Даведаўшыся пра чытанні, «адарвірогі», самі аматары твораў Караткевіча, проста не маглі не прыйсці. І зайгралі так, што нават Гервасій Выліваха імі б ганарыўся.

Дарэчы, яшчэ адной«дадатковай» намінацыяй у Чытаннях-2016 было спаборніцтва ілюстратараў. І сімвалічна, што перамагла работа студэнткі філфака Марыны Шэвель «Кветка шыпшыны» — работа, намаляваная па матывах «Ладдзі Роспачы».

Сярод чытальнікаў-школьнікаў першае месца заняла Злата Апалонік, вучаніца гімназіі № 16, якая адкрывала імпрэзу вершам «Быў. Ёсць. Буду…». На другую прыступку паднялася Яна Луферчык (юрыдычны каледж БДУ) з выдатнай і пранікнёнай інтэрпрэтацыяй верша «Апошняя песня Дантэ», а на трэцім месцы апынулася Святлана Аўсяннікава (гімназія № 16), якая шчыра і душэўна прачытала верш «І тады закахалася хмара». Выбар аўдыторыі сярод школьнікаў — бязмерна абаяльны Максім Вяргей (Рэспубліканскі музычны каледж), які так цёпла і радасна распавёў, як «Заяц варыць піва».

— Паўдзельнічаць мне прапанавала класны кіраўнік, — весела распавядала Злата Апалонік. — Я люблю ўдзельнічаць у конкурсах, а тут яшчэ і можна было палепшыць адзнаку. Верш мы з мамай выбіралі ў апошні момант. Пабачыла гэты — і ён упрост «зачапіў» эмацыйнасцю. І яшчэ сілай духу і заклікам. Чытаць вельмі люблю, гэта — маё жыццё. І ў чытанні не люблю сябе абмяжоўваць, чытаю многа і рознае. Люблю вершы, бо там — такт, рыфма, роздум. Сама пішу апавяданні, прычым персанажы — гэта часта я сама. Люблю і маляваць. Можна мне



Караткевічаўскія паэтычныя чытанні на філфаку

ўвогуле не даваць есці, адно даць паперу і аловак. Выступаць мне падабаецца, бо люблю, каб на мяне глядзелі. І яшчэ вельмі хачу, каб мама мной ганарылася.

Сярод студэнтаў трэцяе месца было прысуджана студэнту філфака Яўгену Чарнышову за вельмі прафесійнае і ўдалае выступленне з вершам «Роздум» (з рамана «Нельга забыць»). На другім — Дзіяна Харытановіч (філфак БДУ), якая здолела ўпрост фантастычна данесці да аўдыторыі радкі «Калі паміраюць дрэвы…». А гран-пры ўзяла студэнтка філфака Яўгенія Пракапчук, што выступала з «Баладай аб трыццаць першым сярэбраніку». Гісторыя паўтараецца, і абсалютны пераможца гэтага года быў адзначаны яшчэ і прызам глядацкіх сімпатый.

— Калі прачытала гэты верш, - падзялілася Яўгенія, — не магла не вывучыць, настолькі запаў у душу. Знайшла нешта сваё. Караткевіча, па шчырасці, у школе не чытала, а зараз вось не магу спыніцца, пазнаёміўшыся з раманам «Каласы пад сярпом тваім». Сама трошкі пішу вершы, друкавалася аднойчы і ў «Маладосці», даўно, але вы гэта, калі ласка, не шукайце, бо мне неяк сорамна. У вольны час збіраю паштоўкі, люблю вандраваць. Мэта ў мяне — наведаць гарадоў пяць за лета. Беларускіх. Мінск для мяне горад новы, таму люблю блукаць па ім, вывучаць, захапляцца архітэктурай. Люблю культуру Грузіі і Арменіі, нават адзін верш вывучыла па-грузінску. Увогуле, я вельмі хвалявалася, што забуду верш. Але пасля падумала, што так люблю гэтыя радкі, што, канечне, не забуду. Мяжа была — выступ «Адарвірога». Я іх паслухала і зразумела: я змагу. А наступным удзельнікам хацелася б пажадаць ісці не за перамогай, а за… сабой самім. Ісці, каб знайсці сябе. Вершы Караткевіча чапляюць. І, думаю, варта прыйсці сюды і пабачыць Караткевіча іншым, такім, якім яго бачыць нехта яшчэ. І сябе таксама пабачыць іншым, дакрануўшыся да цэлага новага свету.

Верагодна, менавіта гэтая магчымасць — дакрануцца да цэлага новага свету (а мо і светаў) — прываблівае новых удзельнікаў Чытанняў.

І гэта — быццам абяцанне: кожны год у адзін пахмурны лістападаўскі дзень на філфаку стануць чытаць вершы таго, хто Быў, Ёсць і Будзе.

*Маргарыта Латышкевіч*

**Марыя Крупская**
**гімназія № 16 г.Мінска, 8 «В» клас**

## Жыццё

*вопыт прачытання апавядання Ул. Караткевіча «Кніганошы»*

Свайго жыцця нязведаныя сцежкі
Хацелася б заранеей адшукаць
Ды іх напрамак дзесьці памяняць,
Каб за грахі пазней не ставіць свечкі.
Бывае, жорсткі лёс пашле сустрэчу,
Што для абодвух стане ракавой, —
Каб ведаў, то сцяжынкаю другой
Мінуў бы скрыжаванне супярэччаў.

Чаму жыццёвы шлях такі няроўны?
Ідзеш угору з ношай за плячыма,
Якую часам несці немагчыма,
Але ж нясеш, ледзь стрымліваеш стогны.
І вось, нарэшце, на гару ўзышоў,
А там — пустэча, чорнай прорвы ззянне…
З адчайным крыкам перавёў дыханне
І, проста ўшчэнт знясілены змаганнем,
Ляціш уніз, каб узбірацца зноў.

Ды не на ўсіх ён, цяжар гэты, ціснe:
Звычайна выпрабоўвае таго,
Хто, не шкадуючы жыцця свайго,
Да Мэты і да мар шукае выйсце.
Калі жыве хтось тым, што сёння мае,
І ідэалам сам сябе абраў,
Той не пражыў сваё жыццё — праспаў,
Затое сцежка, як страла, прамая.

Над намі Лёс, ды нам самім рашаць,
Якім свой шлях на карту палажыць:
Ці па гарах ісці — і цяжка Жыць,
Ці на раўніне лёгка
Існаваць.



**Дзмітрый Шулюк**

## Вы гэтага чакалі

У песень гурта «System of a down» выдатныя тэксты. Калі не валодаеце англійскай, то можаце пашукаць пераклады ў сеціве. Адзіннае — не кажыце пасля, што вы гэтага і чакалі. Не кажыце, што гэта прадказальна. Бо гэта хлусня. Амаль заўсёды хлусня. Самая распаўсюджаная хлусня ў свеце. Хлусня, якая пастаянна вакол цябе. Ад твайго нараджэння да смерці.

— А я вось ведала адразу, што хлопчык народзіцца, — кажа кожная другая маці, калі нараджаецца хлопчык. Можаце змяніць слова «хлопчык» на «дзяўчынка» — сутнасць застанецца той жа. Людзі, якія перабіраюць жаночыя і мужчынскія імёны з аднолькавай частатой, насамрэч ведаюць, якога полу будзе іх дзіця.

*Everybody's going to the party have a real good time*
*Dancing in the desert blowing up the sunshine*

Часам мне здаецца, што людзі ўвогуле не сочаць за сваімі словамі. Часам я ўпэўнены, што мне не здаецца

Давайце, скажыце, што калі вы чуеце гэтыя словы, завёрнутыя ў мяккую лагоднасць, вы разумееце іх значэнне падсвядома. Бо падсвядомасць — гэта такая з'ява, на якую скідваюць усё. Само сабой, падсвядомасць — не папера, на якой запісаны ўсе думкі. Гэта штосьці асабістае, схаванае глыбока-глыбока. Гэта тое, што не ўбачыць ніхто, акрамя цябе. Тое, на што можна спасылацца, і ведаць, што ніхто не зловіць цябе на хлусні.

— Падумала яшчэ, вазьму парасон. Ды вось не ўзяла — змокла.

Падумала ды не ўзяла. Але ж ведала, што дождж будзе? Падсвядома?

*Such a lonely day*
*And it's mine*
*It's a day that I'm glad I survived*

Парк Чалюскінцаў. Я спрабую схавацца ў цень. Шукаю самую аддаленую ад шырокіх дарожак лаўку. Хачу спакойна пачытаць «Чужаніцу» Камю. Я загадзя ведаю, што нічога не атрымаецца. Я загадзя чакаю шумных мінакоў, якія будуць адцягваць маю ўвагу ад кнігі на сябе. Але я гатовы да гэтага. Бо я не толькі чытаць прыйшоў, я, як заўсёды, збіраю матэрыял для рубінавых радкоў.

Першай трапляецца мне ў архіў шыракакосная жанчына. Яна ледзь сунецца па роўнай паркавай дарожцы. І ўсім сваім выглядам выклікае жаданне не сустракаць яе на лесвіцы. За ёй з яшчэ меншай хуткасцю крочыць дачка. Маленькая. Плача. Жанчына час ад часу спыняецца і папракае дзіця.

— Я ж так і думала, што ўсё так будзе. Я так і думала.

*Every time you drop the bomb*
*You kill the god*
*Your child has born*

На суседнюю лаўку села расфарбаваная дзяўчына на высокіх абцасах з мабілкай ля вуха.

— Так… Я так і кажу… Так… Я ж адразу ведала, што штосьці не так. Ведала, што ён мяне падманвае. А тут выпадкова заходжу і бачу. Вось уяві. А калі б не зайшла? Усё б так і засталося.

Ведала… Выпадкова заходжу… Часам мне здаецца, што людзі ўвогуле не сочаць за сваімі словамі. Часам я ўпэўнены, што мне не здаецца. У людзей у час размовы аператыўная памяць набліжаецца да нуля. Яны забываюць не толькі тэму, напрыклад, спрэчкі, а нават сваю папярэднюю рэпліку. Пры гэтым заўсёды згадаюць, што падсвядома адчувалі.

*All of what remains,*
*Ego brain,*
*And they shame,*
*Shame, love after it rains*

Закрываю кнігу. Гляджу ўдалечыню. Дрэвы, дрэвы, дрэвы. Зноў і зноў каля мяне праходзяць людзі, якія ўсё ведаюць загадзя: чым скончыцца спроба працаваць, спроба кахаць, спроба жыць. Яны ў любы момант гатовы стаць над трунай і сказаць: «Вось было штосьці на сэрцы, нейкае прадчуванне». Суцешыць сябра: «Я ж табе казаў, што яна такая». Паразмаўляць з сынам: «Сядзеў за сваім наўтбукам і атрымаў, што заслужыў. Ты думаеш, для мяне сюрпрыз — твая «двойка»? Я ведаў пра яе яшчэ на мінулым тыдні. Яшчэ яе і не было, а я ведаў. І не чакаў ад цябе нічога іншага». Адрэагаваць на яркую навіну: «Вось і дачакаліся. Патрэбна было адразу мяне слухаць. А цяпер быццам як снег на галаву. Быццам неспадзявана. Патрэбна было адразу мяне слухаць».

*The ever so popular beating that took you under,*
*The ever so popular beating that broke your skin.*
*Free thinkers are dangerous,*
*Blame, hate for fate's seed.*

Я не ведаю, што будзе заўтра. Нават не ўяўляю. Некалькі верагодных момантаў — вось і ўсё. Мая падсвядомасць не падказвае мне, дзе і калі падаслаць саломы. Мой стары тэлефон упаў у ваду. У дзень, калі давалі заробак, маю картку праглынуў банкамат. Пры гэтым адразу падавіўся, а пасля ўсё ж праглынуў. Я затраціў шмат сіл на напісанне важнага артыкула, ды з-за розных чужых замаруджванняў ён зараз ужо ў друк не трапіць.

Я ведаю, што заўтра таксама штосьці будзе. Тое, што я не магу ўявіць. У гэтым па сутнасці і ёсць жыццё. Кожнае імгненне — сюрпрыз. І гэты сюрпрыз патрэбна прымаць адпаведна. Са здзіўленнем

Я ведаю, што заўтра таксама штосьці будзе. Тое, што я не магу ўявіць. У гэтым па сутнасці і ёсць жыццё. Кожнае імгненне — сюрпрыз. І гэты сюрпрыз патрэбна прымаць адпаведна. Са здзіўленнем. Кожнае імгненне — здзіўленне. У гэтым па сутнасці і ёсць жыццё. У гэтым — пазнанне жыцця, любоў да жыцця.

*You, you went beyond and you lost it all*
*Why did you go there*
*From beyond you saw it all why did you*

Трамвай. Рэйкавая дарога дадому. Стаю, трымаюся за поручань. Літаральна пада мной ідзе размова:

— Калі чалавек захоча, то дажыве да васьмідзесяці гадоў, — гаворыць сівы мужчына.

— А калі, напрыклад, рак? — пярэчыць яму дапенсійнага ўзросту жанчына ў акулярах.

— Прафілактыка. Прафілактыка дазволіць усё папярэдзіць.

— А калі п'яны на дарозе?

— Гэта ўсё абы-што. Я вам кажу: да ўсяго можна падрыхтавацца, усё можна прадказаць.

Нечакана мне захацелася схапіць яго рукамі за шыю і ціснуць. Ціснуць, пакуль ён не заціхне, а пасля спытаць:

— Ты чакаў гэтага?

А вы чакалі?

*The ships are multiplying day after day sir,*
*And they're coming close to the shore sir, shore sir,*
*We need to evacuate the light post,*
*It's all over, it's all over*
*It's all over*

*«System of a down» — сусветна вядомы лос-анджэлескі рок-гурт. Усе ўдзельнікі гурта — армяне, але, як казаў ударнік Джон Далмаян, гэта выпадковасць. Іх музыка — гэта спалучэнне нерэальнага напору, здаровага сюррэалізму і глыбокага ўнутранага трагізму. Цудоўныя словы сказаў гітарыст Шаво Ададжан: «Помніце: будзьце свабоднымі ў сваіх думках і заставайцеся небяспечнымі». Гэтыя словы вельмі трапна апісваюць творчасць «System of a down». Раю вам прыслухацца.*



**Кацярына Захарэвіч**

## Папялушка

Кацярынка разглядае фотаздымкі прыгожых сукенак у інтэрнэце. Што можа быць лепш за прыгожую сукенку? Джынсы зручнай даўжыні і красоўкі.

Касечка вельмі любіла прыгожыя казкі пра прыгожых прынцэс у прыгожых сукенках. Зашмат «прыгожага»? Прыгажосці зашмат не бывае! У прынцэс усё добра. Ім не трэба хадзіць у школу, вучыць урокі, ад іх не патрабуюць прыбірацца ў пакоі (гэта Касечка-Кацярынка не любіць больш за ўсё). Прынцэсы толькі ходзяць у шыкоўных доўгіх сукенках, грацыёзна спускаюцца па шматлікіх лесвіцах сваіх палацаў. Кася ўяўляе, як гэта — асцярожна пальчыкамі прыпаднімаць тканіну, з-пад якой выглядае маленькая ножка ў бліскучым чаравічку, апускаецца на мармуровую прыступку. Зразумела, што сукенку яны прыпаднімаюць не таму, што гэта прыгожа, а таму, што можна навярнуцца з лесвіцы, калі гэтага не зрабіць, але ж у выніку атрымліваецца — прыгожа. А яшчэ у прынцэс улюбляюцца прынцы — толькі хадзі, грацыёзна прыпаднімаючы край сукенкі, ды выбірай, хто табе больш даспадобы.

З прынцамі ў Касечкі не ладзілася. Быў у дзіцячым садку Сашка-хуліган, але ён кахаў Карыну. Быў яшчэ адзін Сашка — светлавалосы і блакітнавокі — вось ён-та сапраўдны прынц! Касечка кахала яго нават больш, чым першага Сашку. Ён за Карынай не бегаў, але і Касю не кахаў. Бо ён усё-ткі прынц, а Кася была зусім не прынцэса, таму што вельмі любіла булачкі, а больш за булачкі — піражкі з павідлам. Гэтая любоў пакінула на Касі след значна большы, чым усе астатнія пачуцці. Быў, праўда, сябар Пашка — таксама яшчэ з дзіцячага садка. Ён аднойчы так і сказаў: «Кася, я цябе кахаю». Кася, уразіўшыся, разбіла аб яго галаву пластмасавую вежачку з буйных кубікаў канструктара. Вежачка была лёгкая і шкоды Пашку не нанесла. Сябраваць яны працягнулі, але ў пачуццях ён больш не прызнаваўся. А потым таксама пакахаў Карыну.

З сукенкамі ў Касечкі гісторыя была яшчэ больш сумная. Дзяўчынка любіла казку пра Папялушку. Напэўна, таму, што Папялушка спачатку не была прынцэсай, а потым раз — і стала. Гэта пакідала Касі, народжанай у звычайнай пралетарскай сям'і, хоць нейкі шанец. У Касечкі была размалёўка з Папялушкай, дзе на апошняй старонцы намалявана галоўная гераіня — у поўны рост у прыгожай пышнай сукенцы аж у падлогу. Кася так баялася сапсаваць гэтую прыгажосць, што размаляваць яе даверыла сваёй цётцы Наташы. Хоць і балюча было аддаваць самае дарагое, але што толькі не зробіш дзеля ідэалу.

Тады Касечка асабліва моцна чакала Новага года. Усемагутнаму Дзядулі Марозу яна замовіла сукенку, як у Папялушкі. Натуральна, сукенку таго перыяду, калі Папялушка стала прынцэсай. Гэтая сукенка — пышная, з залатымі і срэбранымі ніткамі, з гарсэтам і рукавамі-ліхтарыкамі, з ружачкамі на крысе — уяўлялася так дэтальна, варта было толькі заплюшчыць вочы, з'яўлялася ў снах, акуратна складзеная пад упрыгожанай цацкамі ёлкай, апісвалася ўсім сяброўкам да самых нязначных падрабязнасцей. А да Новага года было яшчэ пяць месяцаў…

І вось надышла гэтая — самая чароўная — ноч. А за ёй — раніца, калі спраўджваюцца ўсе дзіцячыя надзеі. Шлэпаючы голымі пяткамі, Касечка пабегла ў пакой, дзе стаяла елка. Пакуначак пад ёй быў невялікі. «Але ж і я невялікая», — супакойвала сябе Касечка тую секунду, пакуль яшчэ бегла. Пад дрэвам ляжаў зборнік дзіцячых вершаў Сяргея Міхалкова. Гэта, відаць, таму, што пра сукенку Кася сяброўкам сказала. Усе ж ведаюць — не кажы, а то не здзейсніцца.

З таго часу Касечка зразумела, што прынцэсай ёй не стаць. Затое можна стаць паэтам. Але пра гэта яна нікому-нікому не казала.





Канстанцін Касяк

# Цукеркі — дзецям!

Навагоднія святы і Каляды — казачная пара. Усе мы спадзяёмся на лепшае, чакаем цуду. Рыхтуемся да таго, каб годна сустрэць і распачаць новы этап у жыцці. Натуральна, што большасць людзей чакае ад надыходзячага года ўсяго найлепшага: поспеху, грошай, здароўя і далей па спісе. Каму што патрэбна. Некаторыя нават пачынаюць рыхтавацца загадзя, бо агульнавядома : як год сустрэнеш, так яго і правядзеш.

Але ж ці варта чакаць гэтага цуду? Можа быць, лепш самому паспрабаваць ствырыць яго? І такім чынам палепшыць уласную карму? Цяпер жа вельмі шмат мажлівасцей. Але з такога ракурсу на гэтае пытанне глядзяць нямногія…

Ці задумваемся мы над тым, што свята будзе не ва ўсіх? У кагосьці не вельмі добрая сям'я, у кагосьці няма грошай, а ў кагосьці і сям'і няма. Няма маці, якая прыгатуе смачную святочную вячэру, няма бацькі, які зробіць класны і патрэбны падарунак, няма нават навагодняга настрою. Няма нічога…

Каму была патрэбна дапамога, яе атрымалі. Ці не цуд гэта?

Зрабіць добрую справу пад Новы год і Каляды вельмі проста. Галоўнае — захацець

Гадоў дзесяць (а мо і болей?) таму на Кастрычніцкай вуліцы, якая цяпер раптам стала адным з цэнтраў начнога жыцця сталіцы, існаваў клуб NC. Здаецца, акрамя яго ў тыя часы ніякіх іншых клубаў там не было. У ім выступалі самыя розныя музыкі, вядомыя і не вельмі.

І вось аднаго разу пад Новы год там адбыўся дабрачынны канцэрт-акцыя «Цукеркі — дзецям!». Усе выручаныя сродкі пайшлі дзецям з бедных сем'яў. Арганізатары набылі ім цукеркі да навагодніх святаў. Ідэя такога мерапыемства належала лідару гурта «Нейра Дзюбель» Аляксандру Кулінковічу.

Натуральна, што ў той час я не асабліва цікавіўся дабрачыннасцю. На канцэрт ішоў выключна паслухаць любімых музыкаў: «Нейра Дзюбель», «ZET», Памідорава. І сам таго не ведаючы, далучыўся да годнай справы. Так і закруцілася...

Насамрэч, спрычыніцца да добрага пачынання цяпер вельмі проста. Ёсць краўдфандынг, традыцыйныя дабрачынныя акцыі, ды і заўжды знойдуцца сярод знаёмых патрэбныя людзі. Галоўнае — жаданне!

У мінулым годзе кампанія, у якой я на той час працаваў, пералічыла свой «навагодні» бюджэт на рахунак праграмы «Болей, чым падарунак». Сэнс яе просты: бізнес-кампаніі адмаўляюцца ад набыцця стандартных навагодніх сувеніраў дзеля падтрымкі сацыяльных праектаў. Аналагічныя праграмы ўжо атрымалі шырокае распаўсюджванне ў іншых краінах. У Беларусі ж праграма была запушчана ў лістападзе 2014 года, і акурат кампанія, дзе я працаваў, стала першапраходцам у гэтай справе. Тады пра акцыю пісалі, рабілі сюжэты, але ж піяр — не галоўнае. Насамрэч, куды важней тое, што тыя, каму была патрэбна дапамога, яе атрымалі. Ці не цуд гэта?

Каторы год запар заўзятары мінскага «Дынама», сярод якіх ёсць і мае знаёмыя, наведваюць дзіцячыя дамы. Хлопцы дораць маленькім дзеткам, якія з розных прычын засталіся без бацькоў, не проста падарункі. Яны арганізоўваюць для іх цэлае свята. Гэта сапраўдны промень святла ў іх маленькім невясёлым жыцці. Робіцца гэта, зноў жа, не для піяру ці самарэкламы, бо ведаюць пра тое хіба што непасрэдныя ўдзельнікі ды набліжаныя да іх.

Зрабіць добрую справу пад Новы год і Каляды вельмі проста. Галоўнае — захацець. Спадзяюся, што гэтай жменькай фактаў здолеў вас зматываваць.

Добрых святаў!



Яна Мусвідас

## Рэцэпт шчаслівага Новага года

Усім вядома, што для шчасця адзінай формулы няма, але ёсць некаторыя кампаненты, якія могуць падысці адразу некалькім людзям. Мой любімы час у годзе — калядныя канікулы, перыяд з 25 снежня да 7 студзеня. Верагодна, гэта звязана з тым, што на гэты час у мяне выпадае максімальная колькасць святаў, нават дзень нараджэння. Я люблю дарыць і атрымліваць падарункі, а гэтыя тыдні — самыя лагічныя для ўзаемных сюрпрызаў. Але майго бязмежнага шчасця не было б без атмасферы, якая акружае мяне ў гэтыя дні. Прызнаюся, гэтую атмасферу ў большасці я ствараю сама і пачынаю прадумваць ледзь не з кастрычніка.

Вось некаторыя элементы маёй навагодняй радасці, можа, каму-небудзь яны дапамогуць зрабіць святы яшчэ больш чароўнымі:

Гастранамічныя адчуванні часта здольныя навеяць нам пэўныя ўспаміны не горш за фатаграфіі. Таму я заўсёды абедзвюма рукамі «за» імбірныя пячэнькі і гарачы глінтвейн

**• Дэталі**

Дэталі граюць у нашым жыцці куды больш важную ролю, чым можа здацца на першы погляд. Не верыце — шукайце доказы ў літаратуры. Таму банальныя агеньчыкі, банцікі і анёлачкі могуць значна наблізіць вас да навагодняга шчасця.

**• Падарункі**

Падарункі — гэта кульмінацыя навагодніх святаў. Іх чакаюць і любяць многія, таму, каб не адбылося расчаравання, яны павінны быць прадуманыя і душэўныя. У Раство «душа» падарунка значна важней, чым яго матэрыяльнасць, бо такі падарунак заклікаены дарыць цяпло і радаваць ў першую чаргу.

**• Музыка**

У Новы год абсалютна ўсё роўна, меламан вы ці не разбіраецеся ў музыцы, бо любы, калі пачуе Magic moments, прасякнецца калядным духам. Мой фаварыт на зіму з года ў год — Фрэнк Сінатра.

**• Стравы**

Гастранамічныя адчуванні часта здольныя навеяць нам пэўныя ўспаміны не горш за фатаграфіі. Таму я заўсёды абедзвюма рукамі «за» імбірныя пячэнькі і гарачы глінтвейн.

**• Літаратура**

Спецыяльная літаратура — адносна новае для мяне каляднае захапленне. Калі ў гэтым пытанні вы такі прафан, як і я, то рэкамендую на зіму калядныя аповесці Чарльза Дзікенса «Калядная песня ў прозе».

**• Кіно**

Тлумачэнне да навагодніх стужак, я думаю, даваць не трэба, у кожнага ёсць свае фаварыты. Толькі скажу, што я не з'яўляюся прыхільнікам «Іроніі лёсу» і «Ёлак», зімой аддаю перавагу фільмам «Шакалад» і «Гары Потэр».

**• Адзенне**

Традыцыю прыбраных сукенак, высокіх абцасаў і элегантных касцюмаў у калядныя святы я не вельмі люблю. Як па мне, куды больш камфортна адчуваеш сябе у швэдры вялікай вязкі або кардыгане з аленямі.

У давяршэнне хачу сказаць, што ўсе кампаненты маёй формулы суб'ектыўныя і не з'яўляюцца заклікам да дзеяння. Самае галоўнае ў зімовых святах — заставацца самім сабой і быць побач з блізкімі.



**Анхела Эспіноса Руіз**

# Мёртвыя словы

Пачну словамі славутага японскага пісьменніка Нацумэ Сосэкі: «こんな夢を見た — *мне сніўся сон*». А ў гэтым сне я была мёртвая. Альбо, прынамсі, памірала. Як ні дзіўна, пачувалася я досыць добра, як чалавек, якому смерць падае руку з парогу. Аднак у маім сэрцы не было сумненняў, што я насамрэч паміраю. Адкуль такая упэўненасць, спытаеце? Словы, якія дасягнулі маіх ледзь жывых вушэй, не пакідалі месца для неадназначнасці: *Анхела — светлая легенда беларускай культуры, амаль што сучасны класік нашай літаратуры!* Добрыя людзі, калі ласка! Няўжо такія сцвярджэнні могуць мець хоць што-небудзь агульнае з маладою, прыгожаю, здаровенькаю дзяўчынаю сумніўнага ці — калі ставіцца да пытання аптымістычна — ўмеранага таленту? Канешне, не! Такое магчыма сказаць толькі пра старэнькіх літаратараў з пасівелымі ад досведу валасамі і шэрагам (хоць адносных) бестселераў, чые дрыготкія рукі дажываюць свой век, даўно адпусціўшы пяро. Калі пра маладога чалавека, дык толькі пра крохкага, хворага паэта, які заўчасна памірае. І то асцярожна, бо раптам выздаравее якім цудам і паверыць!

Я бачыла сон, у якім я памірала. Магла б і падумаць, што я ўжо мёртвая, але ж словы пра сябе я пачула, а мёртвыя не чуюць. Хаця ну не тое, каб я ніколі не была мёртвая: была, і лекары мяне вярнулі да жыцця гэтай машынай, якая дае электрашокі, але мне было толькі пяць гадоў, і я не памятаю, чуюць мёртвыя ці не. І назвы апарата не памятаю. У любым выпадку, дапусцім, памірала. Працягвайма! Жыццё выслізгвала ў мяне скрозь пальцы, як таямнічыя сюжэты «Прыгод Шэрлака Холмса», якія, да майго сораму, я ніколі не дачытвала цалкам, а ўзялася толькі зараз, вось паміраю і ніколі не даведаюся, чым усё скончыцца ў беднага доктара Ватсана. Ну, а чым? Мы ж ўсе памрэм, рана ці позна, як Артур Конан Дойл і той самы Нацумэ Сосэкі.

Як гэта, я згубілася? Зусім не! Што я казала? Сон, сон... Так, жыццё — гэта сон! Як напісаў выбітны іспанскі драматург Пэдра Кальдэрон дэ ла Барка, які, дарэчы, таксама даўно на тым свеце... О, вы маеце пытанне да мяне? Калі ласка, а то ў мяне праблема, шматслоўе, з дзяцінства, бачыце. Давайце, слухаю. Гм. *А як трэба казаць пра жывых пісьменнікаў?* Гэта сапраўды цікавае пытанне. Шчыра, я не ведаю, як *трэба*. Ведаю толькі, як *кажуць*. Каб даведацца, як трэба, то мы павінны ўвайсці ў галіну маралі і этыкі, нават калі гэта з банальнага пункту гледжання класічнага утылітарызму (значыцца, пад дэвізам *як трэба казаць пра жывых пісьменнікаў, каб яны развіваліся як найлепш і далі нам якасную літаратуру*). А потым мы павінны як бы сцвердзіць пэўныя маральныя прынцыпы з магчымасцю ўніверсалізацыі, на што я як маладая, жывая літаратарка не прэтэндую (і вы, як чытач, спадзяюся, таксама). Вось каб я была не чалавекам, а чатырохмернаю істотаю са здольнасцю ўспрымання свету па-за межамі лінейнага часу, я б, напэўна, ведала, як *трэба*, каб лепш. А так, прабачаюся, не, паняцця не маю.

Калі хочаце ведаць, як кажуць пра жывых літаратараў,— кажуць па-рознаму. Я найлепш ведаю, з уласнага досведу, і не толькі, як кажуць пра маладых літаратараў. Звычайна словы іншых людзей пра маладых літаратараў залежаць ад трох (ну, добра, у некаторых выпадках чатырох) фактараў:

> А хіпстэр... Для тых, хто не ведае, хіпстэры — гэта тыя самыя *Дураки* з апавядання рускай пісьменніцы Тэффі, проста ў нашу эпоху жывуць

Калі вы — малады літаратар, і асабліва калі вы любіце выкарыстоўваць у сваёй творчасці ненарматыўную лексіку, дур... Хіпстэр заўжды скажа: *ох! Нарэшце, нешта свежанькае і арыгінальнае! Смерць санетам!!!*

1. Ці таленавіты літаратар, пра якога гаворыць крытык? Хаця ад гэтага, як паказаў досвед, крытыка залежыць у найменшай меры.
2. Наколькі крытык зайздросны ў штодзённым жыцці? Фактар не апошні.
3. Якога ўзросту крытык? І абсалютна, і адносна жывога літаратара, якога крытыкуе. Уплыў мацнейшы, чым можна падумаць з першага погляду.
4. Ці належыць крытык да субкультуры хіпстэраў?

Такім чынам, рэпертуар крытычных канцэртаў, як выходзіць, не такі і разнастайны. Зайздросны крытык, хутчэй за ўсё, скажа нешта ў духу: *Графаман! Не сорамна табе друкавацца?*, уваходзячы ў лінгвістычную крытыку, асабліва калі крытык — равеснік крытыкаванага і тым больш калі вершы першага і другога друкаваліся ў адным аркушы часопіса — вершы першага на правай старонцы, а другога — на левай — які дае пісьменнікам-пачаткоўцам шанец рабіць свае першыя крокі і спрабаваць свае сілы ў літаратуры: *нават мову беларускую родную нашую нармальна не ведаеш, русізмаў безліч! Што за сінтаксіс тут такі?* У рэдкіх выпадках такі крытык можа сказаць: *які гонар і якое шчасце, браце, што нашыя вершы разам апублікавалі!* Шчыра альбо не, бо ўсе ведаюць, чаму менавіта першы на правай старонцы, так?

Старэйшы крытык (крытык-пісьменнік), калі незайздросны і мае нейкую веру ў талент маладога пісьменніка, можа дазволіць сабе разважлівы прыметнік *шматабяцальны* ў дачыненні да крытыкаванага літаратара, калі толькі дапаможа і

Пабла Пікаса сказаў: калі прыйдзе натхненне, хай яно мяне знойдзе за працоўным сталом

паправіць яго памылкі (выдуманыя крытыкам альбо рэальныя). А хіпстэр... Для тых, хто не ведае, хіпстэры — гэта тыя самыя *Дураки* з апавядання рускай пісьменніцы Тэффі, проста ў нашу эпоху жывуць. Логіка ў іх прыблізна такая (цытую у арыгінале):

*— Бальмонта? Не знаю. Не слыхал такого. Вот Лермонтова читал. А Бальмонта никакого не знаю.*

*Чувствуется, что виноват Бальмонт, что дурак его не знает.*

*— Ницше? Не знаю. Я Ницше не читал!*

*И опять таким тоном, что делается стыдно за Ницше.*

Калі не валодаеце рускаю моваю, не хвалюйцеся — я патлумачу. Сутнасць праблемы такая: хіпстэр мяркуе, што крута не ведаць таго, што папулярна і ўсім падабаецца (заслужана ці не, не важна). Калі вы — малады літаратар, і асабліва калі вы любіце выкарыстоўваць у вашай творчасці ненарматыўную лексіку, дур... Хіпстэр заўжды скажа: *ох! Нарэшце, нешта свежанькае і арыгінальнае! Смерць санетам!!!*

Мая парада? Калі вы (малады, жывы) пісьменнік, не прымайце нікога занадта ўсур'ёз, проста працуйце. Пабла Пікаса, ці не самы таленавіты мастак з маёй Малагі, сказаў: калі прыйдзе натхненне, хай яно мяне знойдзе за працоўным сталом. А вы, калі прыйдуць крытыкі, працягвайце пісаць і не адчыняйце дзверы. Калі ж вы крытык — і пры ўмове, што вам дзверы адчыняць, — памятайце, што жыццё — хранічная, смяротная хвароба, ад якой пакуль няма лекаў. Не перабольшвайце, але будзьце добрымі да новенькіх паэтаў і празаікаў хоць раз-пораз, а не толькі да мёртвых. Праўда, так склалася гістарычна, што самыя добразычлівыя словы, як і літасцівае маўчанне пры адсутнасці добрых думак, належаць менавіта тым, хто сышоў ужо з жыцця, але ж... Зрэдку, дзеля унутранай раўнавагі альбо дзеля вонкавай кармы, нават дзеля надзеі ў вачах маладога літаратара, які прынёс вам свой рукапіс, можна замяніць жорсткую крытыку карыснай мудрасцю. Яна ёсць і ў старэйшых пісьменнікаў, і ў рэдактараў, і ў чытачоў.

Натуральна, маеце права мяне і зусім не слухаць, а то і пярэчыць, бо чацвёртага вымярэння я не бачу... Хіба што ў снах. Дабранач!



**Святлана Курганава**

## Шарык рукамі не чапаць, на ложак Гары Потара не класціся

У Мінску адкрыты, як кажуць адны афішы, выстава або, як кажуць іншыя афішы, парк атракцыёнаў «Школа вядзьмарства і чараўніцтва».

Адкрыццё «Школы» прысвечана выхаду восьмай кнігі пра Гары Потара, пераклад якой на рускую мову рыхтуецца да выдання. Прывабныя загалоўкі абяцаюць наведвальнікам унікальную магчымасць узаемадзеяння з магічным прадметамі і небывалае паглыбленне ў атмасферу.

Так, вельмі спадабалася «інтэрактыўная» просьба наглядчыка выставы «шарык рукамі не чапаць, на ложак Гары Потара не класціся». На практыцы аказалася, што да экспанатаў лепш не дакранацца.

Я вырашыла прайсціся па «Школе» і ацаніць, наколькі ўнікальны атракцыён нам прапануецца.

Вельмі цікава, чаму гандлёвы цэнтр вырашыў стварыць «Школу» на сваёй базе. Спачатку ты крычыш ад захаплення, калі бачыш тэкст афішы, але потым глядзіш, хто арганізатар, і радасць здымаецца: становіцца зразумела, што гэта (з большай верагоднасцю) велічэзны рэкламны праект. У мяне ўзнікла адчуванне, што стваральнікі трохі пралічыліся з мэтавай аўдыторыяй, чакаючы, што сюды пойдуць бацькі з дзецьмі, але пра гэта крыху пазней.

**Пясчаны Хогвартс.** Вы заходзіце і бачыце агромністы пясчаны замак. Дакладней, спачатку вы бачыце плот з драўляных будаўнічых паддонаў, а ўжо потым агромністы пясчаны замак. Добра, тут я прыдзіраюся, выглядае цалкам эстэтычна, але гэта не тое, што я чакала ўбачыць. Тым больш не варта адмаўляць таго, што замак выкананы шыкоўна — дваццаць тон пяску сышлі нездарма.

**Вакзал Кінгс-Крос.** Сімпатычная драўляная мадэль будкі машыніста Хогвартс-экспрэса стаіць каля ўваходу. Тут вы плаціце за ўваход у ледзяны пакой (а таксама магчымасць паўдзельнічаць у чарговай рэкламнай акцыі) і атрымліваеце прыгожы стылізаваны квіточак. З рэкламай, вядома, але што ёсць, тое ёсць. Ва ўсякім выпадку, калі вы хочаце зрабіць фота з квіточкам, то яе можна акуратна закрыць. І яшчэ: адразу насупраць увахода стаіць вартая ўвагі каляска з чамаданчыкамі, якая ўпіраецца ў сцяну.

**Таемны пакой.** Пс-с-ст, яны называюць так тыя шахматы, якія стаяць прама перад уваходам. Выглядае класна, не паспрачаешся. Але назваць гэта «пакоем» я б не рызыкнула. А яшчэ там на сцяне вісіць мятла, і стаіць камін, з якога вылятае склееная лавіна лістоў.

**Пакой белай магіі.** Гэта той самы пакой, дзе стаяць скульптуры з лёду. Вось гэта тое, што сапраўды здзіўляе. У Беларусі рэдка можна ўбачыць такую работу, таму тут знойдзецца, на што падзівіцца. Адна з дзвюх рэчаў, дзеля якіх сюды трэба ісці.

**Пакой цёмнай магіі.** «Не хадзіце, дзеці, у Афрыку гуляць». Гэта быў трэці пакой, куды я зазірнула. І тут ужо становіцца зразумела, навошта гэта стваралася і чаму стваральнікі трохі пралічыліся з узростам мэтавай аўдыторыі. Тое, што называюць выставай або атракцыёнамі, — вялікая фотазона, адкуль не вылазіць моладзь. Калі вы чакаеце чагосьці большага, як гэтага чакала я, то лепш не прыходзьце сюды. Гэты пакой выглядае танна, гратэскава, не «па-потараўскі»,



і, відавочна, створаны дзеля здымкаў на тэлефон, а не на «мыльніцу» з выбліскам, якая сцірае 70% таннага містыцызму. Сцены, якія проста распісаны фасфарасцыруючай фарбай і абматаны белай «павуцінай», не ўражваюць.

**Пакой крывых люстраў.** Вось тут выразна бачна, на каго разлічана дадзеная забаўка. Калі памер шахмат мне яшчэ нічога не сказаў (ужо постфактум здагадалася, што яны павінны быць ростам з маленькіх наведвальнікаў, а не па плячо, як мне), то вышыня люстэркаў прымусіла ўбачыць. Я нахілялася, каб разглядзець сваё адлюстраванне. Прасценькае скрыўленне без якой-небудзь разыначкі. Але для маленькіх дзяцей — залічана, спрацуе.

**Школа Вядзьмарства.** Касы завулак, у якім лётаюць ключы, знаходзяцца рэцэпт зелля і чароўная кніжная шафа. 3D-фоташпалеры — наша ўсё. Касы завулак налеплены на сцяну і стварае фотазону для фанатаў кнігі і фільмаў. Фатаграфавацца лепш з пэўнага ракурсу, каб вуліца была аб'ёмнай. Добра, мы змірыліся, што гэтае месца стваралі як фотазону. Але, калі ласка, дайце дзеля яе хаця б нармальнае асвятленне.



Тут яшчэ ёсць тое другое, дзеля чаго сюды можна прыйсці. Магічная кніжная шафа з кнігамі, якія проста выпадаюць з яе і заміраюць. Спачатку робіцца балюча, калі разумееш, што яны склееныя. Але пасля цікаўнасць перасільвае незадаволенасць. Кампазіцыю вянчаюць Лермантаў і Дастаеўскі. Там столькі розных кніжак, якія зусім не выклікаюць асацыяцый з містыкай! Асабліва мяне ўразіла ў той кампазіцыі кніга, у якой апісвалася, як вырошчваць крэс-салату.

**Камора пад лесвіцай.** Ну, пра «на ложак Гары Потара не класціся» я ўжо сказала. Больш нічога вартага ўвагі згадаць нельга, акрамя лесвіцы, што так мяне ўразіла. Тая лесвіца літаральна пасярэдзіне ўпіраецца ў сцяну. І яшчэ. У гэтай каморцы самае добрае асвятленне — шкада, што нельга сфатаграфавацца на ложку.

Гэта не першая выстава ў Мінску, прысвечаная Гары Потару, калі можна назваць гэта выставай. У мінулым годзе выставай ГП была названая маленькая галерэя з фан-арту і крафту. Калі параўноўваць, то цяпер усё выглядае значна больш маштабна, але па-ранейшаму ёсць істотныя недахопы.

**Высновы.** Арганізатарам трэба было падумаць наконт мэтавай аўдыторыі. Калі вы ствараеце забаўку для дзяцей — зрабіце адпаведныя атракцыёны. Калі вы ствараеце маштабную фотазону, то сюды хутчэй набягуць натоўпы людзей, у якіх ёсць інстаграм, падлеткі і моладзь, а гэта іншая аўдыторыя.

Людзі, якія стварылі ўсе экспанаты, — сапраўдныя чараўнікі, таму што ўся ручная работа там заслугоўвае захаплення. Калі вы хочаце ўбачыць усё гэта самі, то ідзіце і глядзіце.

Толькі не чакайце ад гэтага месца замнога — тады атрымаеце большае задавальненне.



**Маргарыта Дзяхцяр**

## Зруйнаваная прыгажосць

Прыгажосць — катэгорыя абстрактная. Для кожнага з нас гэта паняцце рознае, а яго азначэнне — яшчэ больш рознае. Кажуць, не галоўнае — быць прыгожым. Бо знешнасць не толькі падманлівая, але яшчэ і не вечная. Не тое, што свет унутраны. Вось там ты калі прыгожы, то прыгожы назаўсёды. Стужка Нікаласа Рэфна «Неонавы дземан» якраз пра тое. Пра свет знешні, пра свет унутраны, пра свет людзей.

Пра гэты фільм чулі, напэўна, усе. Фільм пра дзяўчыну-правінцыялку, якая перабіраецца ў Лас-Анджэлес і губляе галаву. Прычым, здаецца, літаральна. Гісторыя старая як свет — колькі стужак у Галівудзе было знята ў стылі «гісторыя пра Папялушку». Але Рэфн на тое і вялікі майстар, што зробіць менавіта гэтую гісторыю не проста незвычайнай і не падобнай да іншых, але яшчэ і незабыўнай.

Джэсі — 16-гадовая наіўная дзяўчына са светлымі вачыма і валасамі, з парцэлянавай скурай, з яшчэ дзіцячым, незламаным характарам. Ёй страшна адной у незнаёмым горадзе, у яе тут няма сяброў. Здаецца, Джэсі — адна вялікая адзінота, якой няма спакою і прытулку. Але разам з новымі сябрамі яна ўсё гэта знойдзе.

Стужка пачынаецца вельмі прыгожа — неабходна адзначыць, што візуальны шэраг у ёй проста неверагодны — насычаныя колеры, бліскучыя стразы, прыгожыя, яскравыя кадры. Рэфн, напэўна, рабіў стужку для дзяўчат, якіх у кіназале было, канечне, нашмат больш за прадстаўнікоў моцнага полу.

Калі абстрагавацца ад сюжэта, то можна заўважыць, як па-кліпаваму зроблены фільм. Пераходы выкананы не так, каб іх не адчувалася, а наадварот — каб глядач бачыў, што нешта змяняецца. Вельмі шмат неона, які заяўлены ў назве. І гэта прыгожа выглядае — часам падаецца, што не кіно глядзіш, а ў клуб прыйшоў на дыскатэку (і нават музыка адпавядае).

«Неонавы дземан» прымушае гледача, як у ваду, акунуцца ў атмасферу прыгажосці, ідэальнасці і раскошы — вакол дзяўчаты-мадэлі з заўсёды матавай скурай і валасамі, якія ніколі не выбіваюцца з прычоскі, катэджы з пяццю (можа, і больш) спальнямі і басейнамі, сукенкі ад вядомых дызайнераў і самыя знакамітыя фатографы. Цяжка не згубіцца ў гэтым ідэальным свеце, якога насамрэч наўпрост не існуе.

Рэфн празмерна падкрэслівае ідэальнасць мадэльнага свету. І гэта вельмі добра, бо толькі так мы можам убачыць яго рэчаіснасць і падманлівасць, штучнасць. Джэсі, якая амаль адразу становіцца вядомай мадэллю, разам з прыгожай і дарагой вопраткай набывае і дадатковыя рысы характару. З наіўнай дзяўчыны ператвараецца ў больш упэўненую, нават самазакаханую.

Яна нават і сама сабе кажа пра сваю прыгажосць, ідэалізуе сама сябе. Ідэалізацыя не прыводзіць да дабра, і новыя «сябры» ператвараюцца ў ворагаў. Як кажуць, ад кахання да нянавісці адзін крок.

Стужка пра прыгажосць атрымалася у Рэфна сапраўдным трылерам. Ёсць там і сцэны канібалізму, і нават некрафіліі.

> Насычаныя колеры, бліскучыя стразы, прыгожыя, яскравыя кадры. Рэфн, напэўна, рабіў стужку для дзяўчат, якіх у кіназале было, канечне, нашмат больш за прадстаўнікоў моцнага пола




Камусьці гэта падасца незразумелым і непатрэбным, але гэта своеасаблівая метафара рэжысёра, які разумее, што людзям трэба паказваць жорсткасць менавіта такой, якая яна ёсць. Калі адна дзяўчына маральна «з'ядае» другую за прыгажосць, то дэманстраваць гэтае «маральнае» недастаткова. Глядач не зразумее сапраўднай жорсткасці таго, што адбываецца. Зусім іншая справа — «прызямліць» маральнае. І тут увесь кіназал пачынае ўздрыгваць і скардзіцца. А вось: хсфера прыгажосці менавіта такая! Яна не тое, што мы сабе ўяўлялі. Тут ты нікому не патрэбны ўжо пасля дваццаці.



Цяпер так шмат падробак, што мы ўжо перасталі адрозніваць іх ад арыгіналаў. Хутчэй самі цягнемся да гэтай штучнасці. Руйнаванне прыгажосці — справа лёгкая. Як і руйнаванне ўласнага лёсу.

Акрамя таго, што мадэльны бізнэс — гэта клубок змей, сяброўства тут ніякага няма. Дзяўчыны-мадэлі ў большасці сваёй самотныя. Шчырасці яны вельмі хочуць, але наўрад ці атрымліваюць. Затое атрымліваюць зайздрослівыя погляды.

«Неонавы дземан» неверагодна прыгожы ў сваёй жорсткасці. Гэта стужка пра прыгожае жыццё, але пра неверагодна агідныя душы людзей. За бляскам, глянцам, стразамі і прыгожымі тварамі хаваюцца няшчасныя людзі. А такія наіўныя дзяўчынкі, якім хоць раз у жыцці пашанцавала, як Джэсі, якія прывозяць сваю натуральную прыгажосць у мегаполісы, каб выставіць яе на продаж, альбо прыстасоўваюцца, альбо «праглынаюцца» іншымі.

Абсурднасць сітуацыі, неверагоднасць і ў той жа час быццёвасць сюжэта, каляровасць і яркасць, якая пужае і ў той жа час заманьвае ў свае сеткі, кажуць нам толькі пра тое, што вакол нас — адна штучнасць. Цяпер так шмат падробак, што мы ўжо перасталі адрозніваць іх ад арыгіналаў. Хутчэй самі цягнемся да гэтай штучнасці. Руйнаванне прыгажосці — справа лёгкая. Як і руйнаванне ўласнага лёсу.

# Мульціфандомны цягнічок

**Калі яшчэ вы пракаціцеся ў аўтобусе з Двулікім, пасябруеце з канём і спатыкняцеся на доўгавалосага рыцара, паўцякаеце ад Дэдпула і абдымецеся са штурмавіком Зорных войнаў?**
**Такая забаўка магчымая раз на год, і зараз я, Досця Звяздоўская, распавяду, куды вам трэба ехаць наступны раз, калі шкадуеце, што прапусцілі такое. Калі не шкадуеце або ўяўлення не маеце, што такое Юнікон, то, спадзяюся, пажадаеце завітаць да гікаў-энтузіястаў у наступным годзе.**

У Мінску прайшоў Unicon Convention 2016 — пяты штогадовы беларускі фестываль фантастыкі, фэнтазі, коміксаў і камп'ютарных гульняў. Гэты фестываль — Мекка для разнастайных гікаў, фантастаў, касплэераў і геймераў усіх масцей. Большасць гэтых людзей — як многія кніжныя і камп'ютарныя чарвякі — вельмі замкнёныя, інтравертныя асобы, рэальна захопленыя сваімі любімымі творамі. Многія з задавальненнем узнаўляюць касцюмы ўлюблёных персанажаў, робяць прыгожыя рэчы з эмблемамі з фільмаў, серыялаў, коміксаў, кніг. І далёка не ў кожнага побач ёсць тыя, хто падзяляе іх інтарэсы.

Гэты фестываль — для такіх захопленых людзей. Для людзей, якія ўмеюць фантазіраваць і хочуць рабіць нешта сваімі рукамі.

## «Ну, у мяне зараз муж дапільвае ТАРДЫС»

Юнікон — гэта тое, што зроблена захопленымі людзьмі для захопленых людзей. Шмат становіцца зразумелым, калі сказаць, што гэта не камерцыйнае мерапрыемства. Ніхто не атрымлівае заробак, ніхто не мае нейкага ўзнагароджання за праведзеную працу, акрамя маральнага задавальнення. Арганізатары — людзі, якія робяць для іншых тое, у чым зацікаўлены самі. Яны разбіраюцца ў тэме не менш за самую прасунутую частку наведвальнікаў. Двое арганізатараў стаялі на стэндах сваіх любімых твораў ў касплэі (ці ў ім жа вырашалі арганізацыйныя пытанні). Арганізатар Галіна Вашкевіч — у плашчы 10-ага Доктара




(«Доктар Хто») або арганізатар Марыя Вашкевіч-Васілеўская — у шапачцы з фольгі, майстар-клас па стварэнні якіх праводзіўся на стэндзе «Светаў Дугласа Адамса», — гэта нармальна.

Асяроддзе гэтых людзей — мэтавая аўдыторыя фестывалю і патэнцыйныя ўдзельнікі. Таму не дзіўна, што чыйсьці муж дапільвае ТАРДЫС у ноч перад фэстам.

## «Сцяжкі, сцяжкі, дзе сцяжкі!»

Паніка, паніка, што куды паставіць, паніка, паніка, пяць хвілін да гатоўнасці, дзе гэтыя чортавы сцяжкі і хто пазычыць перфаратар, які ўсе забыліся закінуць у грузавік-пяцітоннік з іншымі рэчамі для стэнда.

Цікава было назіраць, як распакоўваюцца стэнды, грыміруюцца касплэеры, і бегаюць удзельнікі ў барацьбе за сталы ці ў пошуку сцяжак.

Гена з кнігамі са «Спяваючых фантанаў» флегматычна стаяў з кавай сярод неразабраных скрынь з фантастыкай у чаканні шафаў і сталоў. А сярод іншых стэндаў разгортвалася бітва:

— Я ў чувака з Готэма з-пад носа сцягнула стол. Ён такі: «Ёсць, стол!», а я такая — ха! — хапаю і валаку да нас!



## Арганізацыя, або чужыя граблі

Ну, і нарэшце, крыху пра праграму. Я склала для вас мазаіку з яе кавалачкаў. І без кожнага з гэтых пунктаў Юнікон будзе не тым. У гэтым годзе фестываль складаўся з:

- інтэрактыўных стэндаў па самых папулярных фантастычных творах;
- конкурсных праграм: крафт, фанарт, фанвідэа, фотакасплэй, касплэйдэфіле, коміксы;
- майстар-класаў, сустрэч з аднадумцамі і адмысловымі гасцямі, прэзентацый і бясконцых дыскусій з працягам на бясформенных мяшках ў калідоры;
- зон з настольнымі гульнямі;
- шоу фэшн-касплэя;
- выступленняў музычных гуртоў.

Фестываль мяняецца і пашыраецца, кожны год абнаўляецца масіў правілаў для ўдзельнікаў. Арганізатары не толькі вучацца на сваіх памылках, але і выкарыстоўваюць чужы вопыт. «У нас кожны год атрымоўваецца выправіць свае памылкі. І нашкодзіць зноў!» — смяюцца арганізатары. Вікторыя Мазанік — каардынатар стэндаў — распавядала, што хадзіла валанцёрам на іншыя фестывалі, каб паглядзець на арганізацыю знутры і выкарыстаць «чужыя граблі ў сваіх мэтах».

Праца арганізатараў была на вышыні. Гэта той выпадак, пра які можна сказаць: яны зрабілі ўсё, што было магчыма і што немагчыма. На жаль, дзе-небудзь што-небудзь было заменена або адменена ў праграмах стэндаў, але гэта выключна віна чалавечага фактару і бязладнасці.

## Што атрымалася, ці мульціфандомны цягнічок

Асаблівасць Юнікона, як і любога мерапрыемства такога тыпу, у тым, што яго ўзроставая аўдыторыя вельмі шырокая. Часта атрымліваецца так, што бацькі, якія не зацікаўленыя, прыводзяць дзяцей, якім цікава, ці наадварот — бацькі ў тэме, а дзяцей пакінуць няма з кім. У гэтым годзе на кожным стэндзе былі арганізаваны забавы для малых. Пакуль дзеці занятыя, бацькі маглі або ўцячы слухаць лекцыі, або пазнаёміцца з інфармацыйнай часткай стэндаў. Кожны мог расказаць, што тут адбываецца, каму прысвечаны стэнд і хто ўсе гэтыя персанажы — усюды былі інфармацыйныя дошкі і ветлівыя (за некаторымі выключэннямі) уладальнікі стэндаў.

Рознаўзроставыя не толькі наведвальнікі, але і ўдзельнікі стэндаў. Найбольш яскрава гэта выявілася на стэндзе Доктара Хто. Пажылы Доктар не толькі ўвесь дзень «тусаваўся», з аўдыторыяй, але і ўдзельнічаў у забаўках іншых стэндаў. І па ступені актыўнасці мог даць фору многім маладым.

Юнікон — гэта гікаўскі фестываль. І плюс арганізацыі ў тым, што людзям, якія прывыклі ўзаемадзейнічаць толькі з віртуальнай прасторай, было досыць лёгка ўцягнуцца ў агульную весялосць. Калі не хацелася мець зносіны з людзьмі, то заўсёды можна было мець зносіны толькі з самім стэндам або сысці гуляць у настольныя гульні.

У гэтым годзе арганізатары зрабілі міжстэндавыя забавы: сабраць дваццаць налепак, выконваючы заданні на стэндах розных твораў.

Дзякуючы такім міжстэндавым актыўнасцям арганізатары змаглі раўнамерна размеркаваць патокі людзей па фестывальных пляцоўках. Вас прымусіць бегаць калі не жаданне паглядзець усё-ўсё-ўсё, то прага выйграць міжстэндавы квэст. Нават калі вы не збіраліся падыходзіць да гэтых людзей з невядомых вам фандомаў, то ўсё роўна

падыдзеце, таму што гэта квэст. Так арганізатары пазбеглі бескантрольнага натоўпу каля стэндаў бясспрэчных фаварытаў і зрабілі тое, што аб'ядноўвае два дні фестывалю.

Як праходзіў квэст? Вы падыходзіце да ветлівых людзей, кажаце ключавую фразу: «У вас ёсць для мяне заданне?» Пасля гэтага атрымліваеце на выбар некалькі варыянтаў, за якія зможаце атрымаць жаданую налепачку (ці подпіс, што прайшлі, калі налепачкі яшчэ не пад'ехалі). Так усё гэта выглядае ў тэорыі. На практыцы я:

- піла «бурду» у Ведзьмака, вызначаючы, у якой са шкляначак які травяны адвар (шалфей — гадасць);
- шукала прома-коды на ўсіх стэндах (а іх трыццаць) ва ўсіх залах (а іх тры) для стэнда Зорных войнаў;
- спальвалася на вогнішчы ў Ведзьмакоў (ужо выключна дзеля мастацтва, а не дзеля налепак);
- пісала вершы, не ўмеючы рыфмаваць, і адказвала на пытанні віктарыны на стэндзе «Літаратурны дадэкаэдр»;
- у чароўнага штучна-вусатага капітана «Светаў Адама Дугласа» збегла ад воганскай паэзіі і пагуляла, шукаючы сувязь паміж зусім рознымі фандамамі;
- частавала Мятнага Ледзянца са стэнда «D&D + Adventure time» пірагом са стэнда талкіністаў з марнай спробай прычараваць героя.

І гэтак жа шмат я бегала ў пошуках улётак, скрыначак і іншага, што прасілі знайсці па ўсім фестывалю іншыя стэнды. Хтосьці рабіў забавы на базе свайго стэнда, хтосьці адпраўляў прабегчыся па ўсіх пляцоўках. Але! Знайсці дзясятак бутэлечак — не праблема. А вось шукаць пяць дзясяткаў налепак неяк сумна, улічваючы, што бязладная тусоўка цалкам можа іх расцягнуць. Але картай актыўнага ўдзельніка я карысталася хутчэй не з мэтай выйграць каштоўны прыз, а проста, каб прайсціся калі не па ўсіх, то па большай частцы стэндаў. Магу сказаць, што гэта быў цікавы досвед і сваё задавальненне я атрымала.

На большасці стэндаў звычайна знаходзілася група касплэераў, якія рана ці позна адпраўляліся ў «вольнае плаванне». Асобы сакамандснікаў паспяваюць добра надакучыць за час падрыхтоўкі




(а падрыхтоўка да наступнага Юнікону часцей за ўсё пачынаецца адразу ж, як толькі заканчваецца папярэдні). Таму касплэеры са стэндаў не менш за наведвальнікаў курсіравалі па залах, знаёміліся з іншымі стэндамі і фатаграфаліся з усімі жадаючымі. І што з гэтага атрымалася? Штурмавік Зорных войнаў зладзіў сабе фотасэт на троне «Гульні тронаў»; ў адной кампаніі апынуліся тры Дэдпулы; воўк фатаграфаваўся над рыцарам, які прылёг адпачыць; стыхійны мульціфандомны цягнічок, які прайшоў па ўсіх трох залах Юнікона, і многае, многае іншае.

Фестываль таксама забяспечыў інфармацыйна-асветніцкую частку. На працягу двух дзён ў дзвюх залах паралельна ішлі лекцыі. Калі казаць пра літаратуру, то дзякуючы гэтаму блоку можна было: паслухаць лекцыі пра двух ужо спачылых пісьменнікаў — Лаўкрафта і Пратчэта — ад стэнда «Літаратурны дадэкаэдр»; даведацца, што беларуская фантастыка ўсё ж буяе (разам з Аляксандрам Абухоўскім); пачуць лекцыю ад сучаснага фантаста і фізіка Сяргея Слюсарэнкі і папрысутнічаць на прэзентацыі ягоных кніг; асобна сустрэцца з пісьменнікамі Святланай Уласевіч, Вольгай Шумілавай, Міленай Завойчынскай, паслухаць лекцыю пра рамантычнае фэнтазі ў Беларусі ад Ганны Грынь, Наталлі Мазуркевіч, Кацярыны Палянскай і Ірыны Успенскай; паўдзельнічаць у дыскусіі «Аб літаратуры сапраўднай і несапраўднай. Аўтар vs фікрайтер» з удзелам Сяргея Слюсарэнкі і Вольгі Грамыкі. Лекцыі і дыскусіі былі настолькі цікавымі, што «вылазілі» за рэгламент у калідор.




Тут захапляе тое, што можна было ўбачыць сваімі вачамі: вось так выглядае наша, беларуская, літаратурная фантастычная прастора. На лекцыю Аляксандра Абухоўскага сабраліся людзі, якія ў большасці сваёй маюць вельмі цьмянае ўяўленне пра сучасную беларускую фантастыку. Галёрку ж занялі сучасныя пісьменнікі, даследчыкі-эсэісты і людзі, якія непасрэдна з імі працуюць. І яны ўдумліва, разумеючы, пра што ідзе гаворка,ківалі. Ківалі тыя, пра каго ён казаў, і тыя, на працы якіх ён спасылаўся. Цікавае адчуванне, калі сядзіш і слухаеш пра тых, хто знаходзіцца побач.



## «А вы, прабачце хто?»

І пару слоў пра касплэй.

У першую чаргу прыцягвае ўвагу «Фэшн-касплэй» — гэта шоу, якому няма аналагаў у Беларусі. Сутнасць у тым, што гэта фэшн-дэфіле, для якога ўдзельнікі ствараюць касцюмы па матывах любімых персанажаў. Гран-пры мог атрымаць касцюм, які не дэманстраваўся да гэтага нідзе, наогул, прымаць удзел маглі касцюмы, якія не дэманстраваліся да гэтага толькі ў Беларусі.

У касцюмах прыходзяць не толькі ўдзельнікі конкурсу і стэндаў, але і простыя наведвальнікі.

— На мне касцюм не па тэме фестывалю, а сярэднявяковы беларускі касцюм пятнаццатага стагоддзя. Я рэканструктар. Дакладней, быў ім пятнаццаць гадоў таму. Я ўдзельнічаю ў фэсце як крафтар, але ўчора пастаяў, прасякнуўся духам і зразумеў, што хоць які-небудзь касцюм я павінен апрануць! Але ў наступны раз у мяне будзе касцюм па стэндзе Доктара Хто. Не ведаю яшчэ які, але абавязкова будзе!

Я ўжо казала: як толькі заканчваецца адзін фестываль, пачынаецца падрыхтоўка да наступнага. Адны рыхтуюць свае касцюмы на працягу многіх месяцаў, іншыя ўжо перад самым фэстам наносяць грым на працягу многіх гадзін. Гэта тое, што распавялі самі касплэеры:

— Я інквізітар з гульні «Dragon Age». Касцюм рабіўся доўга — дзевяць месяцаў, напэўна. Я, наогул, выкарыстоўваю розныя матэрыялы, але ў асноўным гэта пластык. І яшчэ мой любімы матэрыял — эпаксідная смала. Гэта вельмі тонкая праца. Я ўсё рабіла сама, толькі плашч мне шылі, таму што сама я не моцная ў гэтым, на жаль.

— У першы дзень нас [Атрутны Плюшч і Містык] фарбавалі сем гадзін. Сёння — шэсць. Гэта складана. Вельмі моцна стамляецца спіна, калі фарбуецца ўсё цела цалкам. Але гэта таго варта: мы радуем людзей, яны падыходзяць, фатаграфуюцца. Усе цяжкасці акупляюцца тымі эмоцыямі, якія мы атрымліваем!

Я змагла пагаварыць і з цікавымі касплэерамі сусвету Толкіна:

— Мы здымалі тэматычны ролік, рыхтаваліся год, нават больш. Дзесьці бралі кальчугі ў рыцараў, дзесьці рабілі самі з нуля, дзесьці нам дапамагалі іншыя фірмы — па вырабе скуранай броні, а дэкорам мы ўжо самі займаліся. Гэта групавая праца, усё рабілі для роліка, але мы вырашылі сябе паказаць і тут. Ролік мы зрабілі таму, што можам, таму, што хочам развіваць рух талкіністаў ў краіне. А паколькі знаходзяцца жадаючыя рабіць гэта, мы збіраемся разам і робім.

Вось так прайшла сёлета адна з галоўных беларускіх фантастычных падзей.

Не прапусціце яе ў наступным годзе!

# «Наш свет напаўняўся вадзяніцамі, багнікамі, вядзьмаркамі»

**Вы сутыкаецеся з чымсьці дзіўным, невытлумачальна-магічным. Такім страшным-страшным, але прыгожым, незвычайным, з беларускімі легендамі і беларускай жа мовай.**
**Спачатку ў сеціве з'явіўся канцэпт-трэйлер, потым — відэа з музычнымі тэмамі. Іх робіць каманда «Нерушы» — першага фэнтазі-фільма на беларускай мове, у аснове якога ляжыць беларускі фальклор.**
**Святлана Курганава сустрэлася з рэжысёрам фільма Дзянісам Жыгуновым на Юніконе, дзе праходзіла прэзентацыя, і папрасіла расказаць пра сам праект, пра тое, як праходзіць здымачны працэс, і якія ён бачыць перспектывы.**

**— Вы кажаце, што гэты фільм будзе заснаваны на беларускіх легендах і паданнях. Якімі літаратурнымі крыніцамі вы карысталіся?**

— Сцэнар часткова заснаваны на творы Баршчэўскага «Беларусь у фантастычных апавяданнях» і ствараўся на аснове матэрыялаў па беларускай міфалогіі НАН. Гэтым займалася наша сцэнарыст Юлія Шадзько. І магу сказаць, што ўсе нашы персанажы дасканалыя. Мы самі прыдумалі толькі аднаго героя — загадкавую здань Вірэю.

**— Як гэта звязана з Нерушшу і што гэта такое?**

— Неруш — гэта нешта некранутае, тое, што чалавек не зведаў. І «неруш» у нашай сітуацыі — забытыя пачуцці і эмоцыі, якія збіраюцца ў лесе. «Душой» гэтага лесу з'яўляецца здань Вірэя, якая дыхае чужымі эмоцыямі. І марыць стаць чалавекам. І вось аднойчы ў гэтую непраходную глуш трапляе адважны, але вельмі горды рыцар Мелях. Вірэя прапануе яму саюз ўзамен на дары — Мелях згаджаецца. Яна яго зачаравала — і нічым добрым гэта не магло скончыцца. І потым праз сотні гадоў ужо ў наш час у лес Неруш трапляюць трое маладых людзей. Ну, на гэтым хопіць спойлераў.

**— У сакавіку вы казалі, што здымачны працэс скончыцца да лета 2017-га. Цяпер тыя ж тэрміны?**




— У ідэале — так. І калі б нам удалося сабраць неабходную суму, мы б усё зрабілі да лета 2017-га. Але пытанне фінансавае. Сума збіраецца паступова. Тэрмін пры ідэальных умовах — 2017 год. Пры менш ідэальных — здымачны працэс працягнецца і ў 2018 годзе. Наша мэта зрабіць якасны прадукт, таму мы не спяшаемся. Але мы не збіраемся чакаць, далей цягнуць не будзем.

**— На якім этапе фільм зараз?**

— Мы змаглі зняць адну шостую матэрыялу, які ўвойдзе ў асноўны мантаж фільма. Не проста канцэпт-трэйлер, не проста нейкія кадры, якія ствараюцца для прыцягнення аўдыторыі. Мы правялі ўжо пэўную працу над самім фільмам.

**— Калі не сакрэт, колькі вам удалося сабраць грошай на праект?**

— Я магу сказаць, колькі мы патрацілі грошай сёлета — больш за 10 тысяч долараў. А можа быць, і за 20 тысяч. А ў наступным годзе нам неабходна больш за 100 тысяч. Мы збіраем грошы з дапамогай краўдфандынга. На гэтых пляцоўках мы шукаем людзей, якія зацікаўлены ў прадзюсіраванні праекта. У нас ужо ёсць такія людзі, апоры, якія нам могуць дапамагчы. Але зноў жа, яны арыентуюцца на прыбытак ад самога фільма.

**— Як вы падбіраеце рэквізіт, абсталяванне для здымак?**

— Нас ратуюць пастаянныя партнёрствы. У прыватнасці, я хачу падзякаваць «Тэрыторыі гульні», якая давала нам рэквізіт, нашаму мастаку Крысціне Баранавай, мастаку па грыме Лідзіі Малашанка, якая дапамагла нам ўвасобіць вельмі складаныя вобразы. Яна робіць сапраўды складаны грым, беспрэцэдэнтны ў гісторыі беларускага кіно. І, вядома, дзякуй тым, хто адгукаўся ў нашых групах ў сацыяльных сетках і дапамагаў нам збіраць рэчы.

**— Першапачаткова вы не збіраліся набіраць прафесійных акцёраў, але цяпер яны ёсць у вашай здымачнай групе. Раскажыце, як падабралася акцёрская каманда?**

— Мы не планавалі прыцягваць прафесійных акцёраў, таму што не былі ўпэўненыя, што іх можа зацікавіць удзел у нашым праекце. Але ж зацікавіў! На кастынг, які мы ладзілі, было пададзена каля ста заявак. Гэта радуе, таму што з прафесіяналамі працаваць нашмат лягчэй і зручней. Вялікія рэжысёры кажуць: «Хто-хто, а акцёр павінен быць прафесіяналам!» Прыбіраецца адна важная праблема, калі акцёр не разумее, што яму рабіць. Бо акцёру трэба карыстацца рознымі прыёмамі, у яго павінна быць школа. Гэта рэжысёр часцяком нараджаецца на здымачнай пляцоўцы. Хоць у мяне ёсць рэжысёрская адукацыя, але я разумею, што гэтая адукацыя — пусты гук у адносінах да рэальнай практыкі.

*Здымачны працэс пракаментаваў акцёр Алег Вэбер, які прысутнічаў на прэзентацыі: «Выжыўшы» усе глядзелі? Усё здымалася практычна натуральна. Дык вось скажу, што ў нас усё здымаецца таксама практычна натуральна. Калі холадна, значыць холадна, калі мы тонем, значыць мы тонем.*

**— Што з музыкай да фільма?**

— Музыку стварае аранжыроўшчык і кампазітар Павел Герасімовіч. Ён піша музыку для папулярных беларускіх і расійскіх артыстаў, але я ўгаварыў яго стварыць музыку для кіно. Для яго гэта цікавы досвед, таму што гэта абсалютна новы для яго жанр. Акрамя таго, з намі плануюць супрацоўнічаць вядомыя беларускія музыкі. Ну, я не пра Саладуху. Але, чым чорт не жартуе, бо дзе-небудзь можа граць у плэеры або на радыё. У нас усё ж кіно трохі іншага жанру і накірунку.

**— Вы збіраліся перакладаць фільм? Разлічваеце на замежныя паказы?**

— Так, мы праводзілі прэзентацыю ў Вялікабрытаніі, і нашы сябры ў Ірландыі, якія займаюцца прадзюсіраваннем, нам вельмі раілі рабіць не дубляж, а субтытры. Ім вельмі цікава чуць беларускую мову. Мы будзем выпускаць брэнд менавіта ў заходнім кірунку і з англійскімі субтытрамі. А магчыма, і з субтытрамі на іншых мовах. У нас ужо былі заяўкі з Польшчы, нават з Румыніі.




**— Як бы вы маглі сказаць, што вы здымаеце: фільм для масавай аўдыторыі ці нешта артхаўснае?**

— Мы не лічым, што гэта артхаўс. У нас больш камерцыйны варыянт. І, да прыкладу, кажуць: тое, што мы робім, нечым вельмі падобнае на фільм «Выжыўшы». Гэтак жа сама і мы, выкарыстоўваючы прыёмы элітарнага кінематографа (у тым ліку прыёмы Таркоўскага, прыхільнікам якога асабіста я з'яўляюся), стараемся зрабіць добрае кіно для шырокай аўдыторыі. Зразумела, у нас не тыя магчымасці і сродкі, не такі вопыт, але наш праект мае дастаткова глыбокі філасофскі сэнс. Можна казаць пра тое, што гэта кіно для кінатэатра, але кіно, якое, відавочна, не пусты гук, якое прымусіць чалавека задумацца.

**— Якую мэту вы праследавалі пры стварэнні фільма?**

— У першую чаргу мы робім стаўку не на тэхнічны складнік, а на тое, што мы ствараем нешта новае, што раней беларускі глядач на вялікім экране не бачыў. Мы павінны пагрузіць гледача ў новы свет, даць яму новыя вобразы і новыя пытанні, на якія ён павінен знайсці адказы. Наш свет напаўняўся вадзяніцамі, багнікамі, вядзьмаркамі — тымі істотамі беларускай міфалогіі, якія пакуль адсутнічаюць у кінематографе. Усе прывыклі да фэнтазі на аснове міфалогіі іншых краін, таму мы хочам паспрабаваць папулярызаваць наша, беларускае. Спадзяемся, усё атрымаецца.



Іван Булва

**нарадзіўся 29 жніўня 1987 года ў Мінску. У выніку таго, што любоў да геаграфіі перамагла літаратурныя захапленні, паступіў на геаграфічны факультэт БДУ. З 2009 года працуе настаўнікам геаграфіі ў сталічных гімназіях. Вершы пачаў пісаць даўно, часта кідаў справу, пасля ізноў вяртаўся.  На думку Івана, без геаграфіі паэзія губляе вельмі шмат, таму яго творчасць — запаўненне тых прабелаў, якія засталіся пасля Гумілёва. Пры ўсім тым любіць сваю Чыжоўку, пра якую напісаў таксама нямала вершаў.**

# Снежны золак

## Мемарыял

1

***Маналог Янкі Купалы***

Я б хацеў глядзець на Фудзі —
няма як.
Нават Фудзі ў нашым брудзе —
не маяк.

Вось каб рады даць балоту,
узараць!
Даць нашчадкам асалоду
сузіраць.

Я б хацеў узысці на Фудзі
ў чыйсьці след,
Каб мае ўдыхнулі грудзі
цэлы свет,

Сцежкай на вяршыні сцірту,
як манах.
Толькі немагчыма йсці тут,
як мінак.

Я б хацеў узняць на Фудзі
родны сцяг.
Свету напаказ. Ды людзі
у лапцях

не дацягнуць. Мы не зможам
да вяршынь.
Толькі ўпартым ціхім смоўжам.
Далячынь

рве не Фудзі, не Святая,
а курган.
І не ластаўка злятае,
а груган.

2

******[1]***

*Зрубалі бор — лясун загінуў*
*Максім Багдановіч*

Справа аховы прыроды
ў рынкавы сабекошт
не закладае выгоды
для сціплых лесавікоў.

Вуснам на стрэчным ветры
цяжка закляцці шаптаць.
Казцы патрэбныя нетры.
Казкі не ходзяць ў шыхтах.

[1] У 1917 годзе лясістасць Беларусі складала 22 %, а ў 2017 складзе  40 % (дадзеныя Міністэрства лясной гаспадаркі РБ).

40 адсоткаў лесу
глуха і цёмна маўчаць
Над ракою Арэсай,
над ракою Моўчадзь.

А як на краі лезла
скура ад бізуна,
лапік маленькі лесу
мог прытуліць лесуна.

Месяц ад жудаснай цішы
воблакам шызым зацёк.
Лесу шыхты пасадзіўшы,
мы распладзілі зайцоў.

Лесу 40 адсоткаў
не прашумяць навіной.
Лесу — ў мільён асобнікаў,
кветак — ні на «Вянок».

А як падыдзе ўдушша
рыпам чужых масніц —
хто расцярусіць на пушчу
Зоркі твае, Максім?

Каб светляковай ноччу
Я, праз сто год не госць,
рукі разняў і скочыў
ў родную шэрую поўсць.

Колькі гадоў я лезу,
а ўсё не ўзлезу на…
40 адсоткаў лесу —
ніводнага лесуна.

3
***Два Міцкевічы***

*Столькі галубоў жыве ў горадзе, а ці*
*бачыў хто калі іх птушанят?*
*(з народных назіранняў)*

Адам быў першым, з добрай гліны Свіцязі.
Ты проста gniazdo мог заняць, што звіта ім.
Не крочыць камарынымі дарогамі
і ведаць галубоў, як мы, дарослымі.

І я з-пад электрычнасці дзіўлюся на
лучынку, што трымціць над сшыткам ў Люсіна.
Пяро снуе. Радкі кладуцца кроснамі.
Хай птушанятаў прычакаць дарослымі.

Не стане *жыцця* нават асцярожнага,
куды ж твайго — бадзяжнага, астрожнага.
А нам — каму ўсе ранкі ззяюць росамі —
нам галубы заўжды былі дарослымі.

Мы скарбы слоў дзяўбем на нізкі пацерак,
не памятаем бессані і памперсаў.
Да зорак, да бязважкасцяў дарослыя,
Курлыкаем, кахаемся… дарослыя.

…А як лучынка развярэдзіць раніцу,
прымроіш: птушаня пяром апранецца.
Гані, Кастусе, сон: тут тыя ж ростані.
Ды не, не тыя. Горшыя, дарослыя.

4
***Гідрапоніка***[2]

Мы раслі на вадзе,
як нішчымная каша, што даюць ў сталоўках.
На бядзе, лебядзе,
ды праз тое маглі па аблоках,
у каналах адбітых —
танклявыя — крочыць, матляцца.
Лёс нічым не спавітых —
кахаць, пакідаць і вяртацца.
Ўцеха ўсіх непрыкутых —
з бязладнага лёсу смяяцца.
Мы праводзім у вечнасць мінуты,
як венецыянцы.
Карнавалам без межаў,
без сну, покуль змолваюць жорны
караваны над вежай,
пад ганкам Сан-Джоржэ-Мажорэ.

[2] Гідрапоніка — вырошчванне раслін на штучных замenніках глебы з выкарыстаннем водных раствораў пажыўных рэчываў.

Як ў жыцці,
мы спакусімся раптам на іх макароны.
Ты даруй:
мы ж прасілі сысці
пад твае баркаролы.

*студзень-люты 2016*

***

І нашы сілікатныя дамы —
дзе сваркі, звадкі, горыч, боль, дзе думкам
на метры не раз'ехацца квадратным —
далі прытулак ластаўкам. Паветра
густое, вечаровае ўпікае
пранізлівае ціўканне.
Ў цяснінах
двароў ліхія птушак піруэты
майстэрствам паяднаі наша неба
з далёкім небам Буржа.
Можа быць,
і нашы сілікатныя дамы
так доўга нас трываюць, бо не хочуць
патурбаваць, пакрыўдзіць птушанятак,
што хутка стануць на крыло і будуць
кружыць і славіць цвыркам бесклапотным
бяскрылых архітэктараў саўковых.
І нашы сілікатныя дамы
не прамяняюць на шурпатасць бору
і стромасць берагоў.
Уславім дзіркі
і шчыліны ў парэпаных балконах:
ў іх залятаюць птушкі апраўданнем
ўсіх свар і звад у сілікатным доме.

## Болдзінская восень

Я ў Болдзіне. Ўсё Болдзіна — ад крамаў
да волкага бяззорнага сукна.
У чорны час густы яго атрамант
душой Сальеры льецца давідна.

Збуцвелыя ваконныя шпалеры.
На іх разводы лісця і сцягоў.
Ўсе хворыя. На што? Відаць, халера
адна на свеце ведае яго.

І як у кожным Болдзіне, нясцерпна
Закрэсліваць наўскос лісты прасцін.
З кім ночыш ты, распусная Эўтэрпа?
Як высах па табе твой суччын сын!

Галосяць па нязбытным моры чайкі
над скурчанаю лужай у двары…
Ах, нянька, не пакінь хоць ты! І чаркі
дапітыя за намі прыбяры.

*07-08.09.2016*

## Бэз

Так цяжка «з» і так бязважка «без»,
здаецца, і прыціснутым няймецца.
А пад вакном маім купчасты бэз
не мае лёсу і стаіць на месцы.

Дык пэўна, каб уласны шлях абраў,
ён высек бы сябе — цярпець дакукі
узвышанней, чым пах трываць абраз,
хаваць катоў, утойваць недакуркі.

Стог воблака кудысь плыве рабы…
Выгнанне, пошукі — зайздросны вырак.
Бязважкія на вецці вераб'і
і снежным золкам сноў не сняць пра вырай.

***

Душа, як мокры снег, ляціць наўскос.
І ўсё адно не вызнае закону
і адзіноты, што паўней за поўню,
і ветру, што працяў яе наскрозь.

І ўсё ж імкне імглу пераміргаць —
як святлафор начны, упартым вокам —
і перайсці рашучым, цвёрдым крокам
зіму, што пачала перамагаць.

Пэўны час у дзяцінстве набліжэнне навагодніх свят я чакаў з асаблівым трымценнем. Не з-за Дзеда Мароза, падарункаў ці смалістага водару ялінкі. Вялікі хлопчык, я ўжо хадзіў тады ў школу, умеў чытаць і пісаць. Мама, працуючы на пошце, давярала мне адну вельмі важную справу. У той час, а была гэта другая палова 1980-х гадоў, недзе з сярэдзіны снежня на пошту цэлымі мяхамі прыходзілі навагоднія паштоўкі, якія трэба было своечасова даставіць адрасатам. Аднак перш чым даставіць, іх трэба было размеркаваць па пэўным алгарытме, які вызначаўся адметнасцямі таго ці іншага ўчастка. Улічвалася не толькі назва вуліцы, але і паслядоўнасць дамоў, цотнасць і няцотнасць нумарацыі адрасоў на маршруце, па якім звычайна хадзілі паштальёны. З усімі гэтымі прамудрасцямі я даволі хутка разабраўся, а калі ўзнікалі пытанні — звяртаўся да мамы. Раскладваць паштоўкі мне вельмі падабалася. З'яўлялася адчуванне, што я прычыняюся да чараўніцтва, дапамагаю несці свята суседзям па нашым *жылым масіве індывідуальнай забудовы*.

Час мінаў. Абставіны навокал змяняліся. І з цягам часу наплыў навагодніх паштовак рабіўся меншы. Настолькі меншы, што мама спраўлялася з іх раскладкай сама. Навагоднія святы надалей азараліся іншымі падзеямі. Але жаданне адчуць навагодняе чараўніцтва не знікала. І іншым разам лёс ставіўся да гэтага жадання з разуменнем. Напэўна, невыпадкова з войска дамоў я вярнуўся акурат перад Новым годам. Пад шум хлапушак і ззянне бенгальскіх агнёў.

Жаданне адчуць навагодняе чараўніцтва хоць і знаходзіцца па-за межамі рацыянальнага, застаецца для мяне, дый для многіх маіх суайчыннікаў, нечым нязводным, лунаючым над часам і ўзростам. У юнацтве напярэдадні чарговага Новага года я мог складаць спісы жаданняў, якія старанна запакоўваў у канверцік, што прыклейваў між старонак асабістага дзённіка. Сёння гэты мой звычай ператварыўся ў занатоўку планаў на наступны год у працоўным блакноце дзе-небудзь між чарнавіком верша, бібліяграфічнымі выпіскамі і накідамі краязнаўчага эсэ пра зімовыя забавы ў дарэвалюцыйным Гомелі…

…И в мгновения мы эти
Слепо верили, как дети,
В счастья нового приход:
Все поправит, все изменит,
Все по-новому оценит
Наступивший Новый год!..

Гэта радкі з газеты «Гомельская копейка» 1913 года. Больш за сто гадоў таму невядомы мне зямляк вершам *наіўнага складу* перадаў такое знаёмае чаканне. Сёння, напярэдадні 2017 года, звяртаючыся да чытачоў і стваральнікаў часопіса «Маладосць», зычу захоўваць (а таму, хто страціў, — паспяхова адшукаць) веру ў цуды! А яшчэ зычу атрымліваць з гэтай веры натхненне на стваральную працу для дасягнення добрага плёну ў жыцці! Мяркую, нялішнім было б таксама і зычэнне пачувацца, хоць бы на час зімовых свят, чараўніком, здатным дарыць святочны настрой не толькі сабе, але і навакольным людзям. Як ні дзіўна гэта ўсведамляць, але ў сённяшні, багаты на магчымасці камунікацыі і шчодры на інфармацыйныя плыні час, людзям не заўсёды шчасціць пачуць іншых людзей, нават тых, чые словы былі б суладнымі з іх думкамі і марамі. Зычу, каб вам заўсёды ўдавалася пачуць блізкіх па духу людзей, а вы самі маглі быць пачутымі іншымі! І хто ведае, можа, дзе-небудзь няўрымслівы ў сваёй прычыненасці да чараўніцтва хлопчык ужо раскладае шчаслівыя паштоўкі менавіта для вас.

З Новым годам, дарагія сябры!

*Сяргей Балахонаў*

Юлія Кісель

**нарадзілася 17 студзеня 1987 года у Наваполацку. Жыве ў Пружанах. Гадуе маленькую дачку. У сваіх пачынаннях атрымлівае натхненне ад мужа. Захапляецца сярэднявяковымі замкамі і прыгажосцю некранутай прыроды, цікавіцца сусветнай гісторыяй, міфалогіяй і фальклорам.**



# Прысуд

*Фантастычнае апавяданне*

Віктар Цыбуля, кіроўца вялікагрузных аўтамабіляў, цэлы тыдзень піў. Ён не быў піякам, але не выпускаў з рук пляшку з таго часу, як пабіў больш за сотню мікрахвалёвак, трапіўшы ў ДТЗ. Вінаватым у ДТЗ быў сам Віктар, бо заснуў за стырном. А плаціць за пабіты аўтамабіль і мікрахвалёўкі яму не было чым: ўсе свае грошы аддаў за аднапакаёўку ў Мінску, у якой і прачнуўся ў той нядобры ранак.

Першае, што ўбачыў Цыбуля, быў незнаёмы ў чорным строі, які сядзеў на зэдліку.

«Па грошы», — вырашыў Віктар і заплюшчыў вочы, каб яшчэ нейкі час здавалася, быццам ён спіць. Час ішоў, незнаёмы на зэдліку моўчкі гартаў часопіс, а Віктару карцела піць. Урэшце, не вытрымаўшы, ён прамармытаў ледзь чутна:

— Хто вы і што вам трэба?

— Добра, што вы ўжо адпачылі, спадар Цыбуля, — адказаў незнаёмы. — Гэтыя лекі дапамогуць вам адчуць сябе лепш.

З такімі словамі мужчына ўзяў са стала шклянку вады і кінуў у яе белую пілюлю. Вада зашыпела і пайшла бурбалкамі.

Задаволены, што незнаёмы не пагражае і не крычыць, Віктар выпіў прапанаваную вадкасць.

— А зараз апранайцеся, — загадаў незнаёмы і зірнуў на гадзіннік. — Мы спазняемся.

Вырашыўшы не задаваць пытанняў, Цыбуля моўчкі апрануўся. Ля пад’езда іх чакаў аўтамабіль. Засынаючы на заднім сядзенні, Віктар паспеў заўважыць у небе над горадам велічэзныя металічныя дыскі.

Пакуль Цыбулю вялі па доўгім калідоры будынка КДБ, ён зразумеў, што візіцёр прыходзіў не па грошы. Нарэшце Віктар трапіў у даволі вялікую залу. У ёй шэрагамі стаялі мяккія крэслы, з іх засталося толькі адно незанятае, відавочна, пакінутае для яго. Сабраныя ў зале людзі пазіралі адзін на аднаго недаверліва, напружана. Перад імі стаяла дзяўчына. «Таксама супрацоўніца», —здагадаўся Віктар. Яна кінула на Цыбулю дакорлівы позірк, і той паспешліва сеў на сваё месца. Дзяўчына ўключыла праектар. На сцяне з’явілася выява неба і металічных дыскаў у ім.

— Тое, што вы бачыце, — яна паказала на дыскі, — гэта касмічныя караблі Галактычнай інспекцыі экалагічнай бяспекі.

Па зале прайшоў шорах.

— Мы даведаліся аб існаванні інспекцыі тры дні таму, калі караблі з'явіліся ў межах нашай Сонечнай сістэмы.

«Цікавыя ж падзеі я праспаў», — падумаў Віктар.

— Як высветлілася, — працягвала супрацоўніца, — інспекцыя экалагічнай бяспекі палічыла становішча на Зямлі крытычным. І, як стала вядома, адпаведна з Галактычным заканадаўствам, від, які нясе пагрозу роднай планеце, мусіць быць вынішчаны.

Шолах у зале ператварыўся ў гул.

— Прашу ўвагі, — у голасе дзяўчыны загучалі металічныя ноты, і людзі сціхлі.

— Зараз я патлумачу, навошта вас сабралі ў нашым ведамстве. Усе вы, незалежна ад таго, ведалі вы пра тое ці не, валодаеце звышнатуральнымі здольнасцямі.

На гэты раз адказам ёй была гулкая цішыня. Людзі ў зале замёрлі і, здалося, нават забыліся дыхаць. Дзяўчына дала слухачам крыху апрытомнець і працягвала.

— Мы сабралі вас, каб стварыць спецыяльны атрад супраціўлення. Сёння з вамі пачнуць працаваць нашы інструктары. Аперацыя запланавана на чатыры гадзіны раніцы праз два дні. На поўдзень таго ж дня прыхаднямі запланавана поўнае знішчэнне чалавецтва. Пытанні?

Цішыню раптам прарэзалі дзясяткі галасоў. Людзі, намагаючыся перакрычаць адзін аднаго, пыталіся, ці можна развітацца з сям'ёй, што трэба мець пры сабе і ці будуць за гэта плаціць. Мужчыны лаяліся. Жанчыны плакалі. Калі трохі супакоіліся, супрацоўніца пачала тлумачыць план далейшых дзеянняў. Але Віктар яе не слухаў, ён думаў толькі аб тым, што апынуўся тут памылкова і што трэба хутчэй выбірацца. Калі дазволілі выйсці ў калідор, ён праціснуўся да супрацоўніка, які даставіў яго на сход.

— Паслухайце, я ўпэўнены, што гэта памылка. Адпусціце мяне дадому.

Мужчына пакачаў галавой.

— Не памылка. Мы назіраем за вамі доўгі час. Здольнасці ў вас ёсць, але вы ніколі імі не карысталіся альбо карысталіся мімаволі, не заўважаючы.

— Калі ведалі, — перапыніў яго Віктар, — дык чаму не папярэдзілі раней? Чаму мы зараз навучымся за няпоўныя два дні?

— У нас быў падрыхтаваны атрад звышздольных, і мы пэўны час працавалі з ім. Не маглі ж мы ведаць, што давядзецца збіраць яшчэ адзін...

— Дзе ж ён зараз, гэты атрад? Чаму вы кажаце пра яго ў мінулым часе?

Мужчына адказаў, гледзячы ўбок:

— Калі мы даведаліся пра мэту, з якой прыляцелі касмічныя караблі, мы накіравалі да іх атрад Альфа. Атрад здаўся праціўніку. Цалкам. Але мы ўлічылі памылкі, і новы атрад чакае моцная псіхалагічная падрыхтоўка.

— Ваш першы атрад, які вы збіралі і рыхтавалі працяглы час, здаўся ў палон, а зараз вы спадзяецеся, што мы, смецце, якое вас спачатку не зацікавіла, за два дні падрыхтуемся і пераможам? Ды вы вар'яты! Гэта ж відавочна немагчыма!

Мужчына кіўнуў:

— Я разумею вас. Але трэба ж хоць што-небудзь рабіць. Ад чалавецтва ў хуткім часе нікога не застанецца. На маю думку, загінуць, змагаючыся за планету, — гэта пачэсная справа.

— За планету, вы кажаце? — Віктар саркастычна ўсміхнуўся. — Не, браткі, за нашу планету змагаюцца, наадварот, яны. Ведаеце што? Рабіце што заўгодна, але мяне вы не прымусіце. Я вяртаюся дадому. У мяне маці ў вёсцы, мне трэба яе апошні раз наведаць, хоць на гэтыя дні, што яны нам пакінулі...

Віктара, да яго вялікага здзіўлення, ніхто не затрымаў.

Радыё ў кабінеце маёра Тапарова транслявала міжнародныя навіны. Навіны былі такія, што валасы на галаве падніміліся. Пасля таго, як прыхадні абнародавалі сваю мэту, пачалася паніка, па ўсім свеце выбухалі ўзброеныя паўстанні. Частка паўстанцаў штурмавала касмапорты, спадзяючыся захапіць караблі, на якіх можна было б збегчы на Марс, дзе яны меркавалі схавацца ад Галактычнай інспекцыі. «Наіўныя», — падумаў маёр.

Другая частка паўстанцаў абвясціла сябе паплечнікамі інспекцыі і пачала знішчаць супляменнікаў. Дзяржавы мусілі выкарыстаць уласныя арміі, каб спыніць гвалт. Але на Беларусі па-ранейшаму было ціха. Маёр хмыкнуў і зірнуў на лейтэнанта Ластунскага, які слухаў навіны разам з ім.

— Колькі засталося, Ластунскі?

— Прабачце, таварыш маёр, часу ці чалавек?

— Чалавек, Ластунскі, колькі чалавек?! Пра час я і без цябе ведаю!

— Трыццаць пяць, таварыш маёр. Астатнія адмовіліся.

— І як яны?

— Ды як сказаць... Адзін ветэран Айчыннай, чацвёра студэнтаў, некалькі сталых мужчын... Астатнія — жанчыны і падлеткі.

— Я не цікавіўся, хто яны! Я спытаў, як яны!

— Слаба, шчыра кажучы. Даволі слаба... Часу не хапае.

— Ды годзе ўжо пра час! Заладзіў бы катрынка.

Ластунскі ў задуменні падышоў да акна. Яму ўспомніўся верш, і мімаволі ён пачаў ледзь чутна дэкламаваць: «На твае на пожні, на лугі ды рэкі, каб у час апошні ўзяць з сабой навекі...»

Унізе гуў праспект. Блішчэлі на сонцы аўтамабілі, блішчэла шкло ў вокнах дома насупраць. У небе над горадам віселі касмічныя талеркі. Лейтэнант пашукаў вачыма хоць адно дрэўца, каб развітацца з прыродай, але не знайшоў.

Да маці Цыбуля так і не дабраўся: яго перахапілі па дарозе на вакзал. Бліскучы прамень прарэзаў прастору, і незнаёмая сіла падхапіла Віктара, падняла ў паветра і з хуткасцю святла перанясла на адзін з караблёў Галактычнай інспекцыі. Усё адбылося так хутка, што ён нават не заўважыў пералёту. Стоячы сярод велічэзнай, ярка асветленай залы, ён ашалела азіраўся па баках. У параўнанні з тым, што ён убачыў, ранішнія падзеі падаліся яму штодзённай справай.

Зала была поўная найневерагоднейшых істот: адны нагадвалі грыбы, другія — смаўжоў, некаторыя спачатку падаліся яму камянямі, і ён не адразу зразумеў, што яны таксама жывыя. Ашалелы, Віктар працягваў стаяць на месцы, калі аморфны камяк слізі абвясціў, што трэба лічыць паседжанне Галактычнага суда пачатым. Словы прыхадня гучалі недзе ў галаве Віктара.

— Паседжанне, — тлумачыў тым часам камяк слізі, — мае мэтай вырашэнне лёсу жывёл з саманазвай Homo Sapiens. Адпаведна галактычным законам, — працягваў ён, — на судзе неабходна прысутнасць аднаго прадстаўніка віду.

Усе паглядзелі на Цыбулю. Дакладна кажучы, у большасці істот вачэй не было, але Віктар адчуў: глядзяць. Неяк на свой манер, унутраным зрокам. І ад гэтай усеагульнай цікаўнасці яму зрабілася так кепска, так няёмка, што хоць скрозь зямлю праваліся.

Камяк слізі, які быў старэйшынай на гэтым пасяджэнні, пачаў зачытваць пратакол. Спачатку ён распавёў пра паходжанне віду Homo Sapiens. Паведаміў, што сем мільёнаў гадоў таму ў выніку генетычнай анамаліі з'явіўся першапродак чалавека, што краманьёнцы паступова вынішчылі неандэртальцаў, а іх нашчадкам з'яўляецца чалавек сучаснага тыпу. «Аднак, — падкрэсліў камяк, — самасвядомасць людзей да гэтага часу застаецца настолькі дзікунскай, што яны лічаць сябе адзіным разумным відам у Сусвеце і вяршыняй эвалюцыі».

Істоты ў зале засмяяліся. Дакладней, цішыня стаяла поўная, але Віктар адчуваў іх смех такім самым чынам, як раней адчуваў іх позіркі. Ён ускінуў галаву, але гэта, здаецца, яшчэ больш рассмяшыла прысутных. Тады ён у думках рашуча прамовіў: «Гэта не праўда».

Віктар не чакаў, што здолее прыцягнуць увагу, але камяк змоўк і здзіўлена паглядзеў на яго паловай паверхні  свайго цела (вачэй у яго не было, ён бачыў паверхняй).

— Адпаведна з законамі Галактыкі, прадстаўнік падсуднага віду мае права голасу, — канстатаваў старшыня.— Наколькі я разумею, прадстаўнік не згодзен з маімі словамі.

— Так, я не згодны. Мы ўжо доўгі час ведалі, што талеркі існуюць.

— Прабачце, якія талеркі?

У галаве Цыбулі яшчэ гучаў здзеклівы рогат істот, калі раптам ён пачуў ветлівы жаночы голас:

— Ваша вялікасць, дазвольце слова адвакату.

«Атрымліваецца, у мяне і адвакат ёсць», — здзівіўся Віктар. Перад ім з'явілася напаўпразрыстая здань, вельмі падобная да прыгожай зямной жанчыны.

— Ваша вялікасць,— сказала здань камяку слізі, — нягледзячы на тое, што жыхары іншых планет ігнаравалі ўсе намаганні людзей выйсці на кантакт, людзі ў апошнія стагоддзі ўсё роўна здагадаліся, што яны не адзіныя ў Сусвеце. Гэта адлюстравана ў іх фільмах і кнігах.

— Адхілена, — прамовіў камяк.— Тое, пра што вы кажаце, гэта фантастычныя творы і неафіцыйныя даследаванні асобных вучоных. Ніхто не ўспрымаў іх сур'ёзна.

Пасяджэнне працягвалася. Пасля таго, як старшыня падрабязна пазнаёміў прысутных з эвалюцыяй Homo Sapiens, ён приступіў да чалавечай гісторыі. Расказаў пра старажытныя імперыі і сучасныя  дзяржавы, пра змовы і выкрыцці, катаванні, захопы, перамір'і і здрады, шпіёнаў і карнікаў. Потым перайшоў да навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, здабывання нафты, стварэння новых відаў зброі масавага вынішчэння, экалагічна небяспечнай вытворчасці. Паступова Віктар пачаў губляць адчуванне часу. Стаміўшыся слухаць стоячы, ён, нарэшце, сеў на падлогу, не зважаючы на хвалю асуджэння, якая прайшла праз залу.

Бясконцае апавяданне пра крывавую гісторыю чалавецтва пачало блытацца ў галаве Віктара з уласнымі думкамі, ён згадаў маці, да якой так і не дабраўся, калодзеж у двары, які ён абяцаў адрамантаваць яшчэ летась, перакошаны ганак. Калі ён зноў прыслухаўся, старшыня ўжо пачаў пералічваць пункты, па якіх від Homo Sapiens абвінавачваўся Галактычнай інспекцыяй: вытанчэнне «азонавага пласта», фотахімічны смог, кіслотныя дажджы, дэградацыя глебы, знішчэнне лясоў, апустыньванне, стварэнне велічэзных залежаў адходаў, вынішчэнне шматлікіх відаў жывёл і раслін, атручванне акіянаў нафтай, стварэнне атамнай бомбы, забруджванне паветра атрутнымі газамі, забруджванне ўсяго навакольнага асяроддзя радыяцыяй...

Віктару зрабілася сумна: на яго глядзелі так, быццам гэта асабіста ён уласнымі рукамі забрудзіў і знявечыў планету. Нарэшце, старшыня абвясціў перапынак, каб даць магчымасць адпачыць тым істотам, якія маюць патрэбу ў адпачынку.

Цыбулю перавялі ў невялікі пакой, дзе былі ложак, стол, фатэль і шафа. Пасля вячэры (садавіна, бульба і малако), ён паваліўся на ложак і заснуў глыбокім сном. Ранкам у пакой уплыла здань-адвакат і загадала рыхтавацца да працягу пасяджэння. Здань спытала, ці падабаецца Віктару, як яна выглядае, і паведаміла, што можа прыняць любы выгляд, адпаведна яго жаданню. «А як ты выглядаеш насамрэч?» — пацікавіўся Цыбуля. Здань адказала, што, хутчэй за ўсё, яе натуральны выгляд будзе здавацца чалавеку гідкім. Паціснуўшы плячыма, Віктар адказаў, што выгляд не мае вялікага значэння, галоўнае, каб адвакат не дала знішчыць чалавецтва. Але ў хуткім часе ён засумняваўся ў гэтым, бо, калі пачалося пасяджэнне і слова ўзяла яго абаронца, выгляд яна мела такі, што Віктару зрабілася млосна.

Але гаварыла здань натхнёна. Яна заклікала прысутных успомніць гісторыю сваіх відаў на дзікунскіх этапах іх развіцця. «Ці ёсць сярод прысутных хто-небудзь, чыя гісторыя пазбаўлена жорсткасці і гвалту?» — спытала яна. Іншапланетнікі прысаромлена змоўклі.

Адвакат тлумачыла, што чалавецтва ўзнікла на ўскрайку Галактыкі, у ізаляцыі ад больш прагрэсіўных форм жыцця, таму так марудна і цяжка развіваецца. Распавядала пра мастацтва, пра

лепшыя здабыткі чалавечай культуры і пра рух абаронцаў навакольнага асяроддзя. Віктар адчуў, што істоты ў зале, якія напярэдадні ўспрымалі чалавецтва выключна варожа, пачалі ставіцца да яго больш памяркоўна. Напрыканцы другога дня пасяджэння Віктар пайшоў у свой пакой амаль супакоены, здань-адвакат абудзіла ў ім надзею.

Наступным ранкам, роўна ў чатыры гадзіны, калі Віктар яшчэ спаў, пачалася акцыя «Супраціўленне». Атрад Бэта колькасцю ў трыццаць пяць чалавек атакаваў касмічныя караблі інспекцыі. Акцыя працягвалася роўна чатыры хвіліны: роўна столькі атраду спатрэбілася, каб наблізіцца да караблёў. Затым атрад Бэта быў цалкам захоплены ў палон, падданы хуткай замарозцы і вернуты на Зямлю ў тэрмапакетах. Рада кіраўнікоў галоўных дзяржаў Зямлі пачала абмяркоўваць пытанне аб выкарыстанні супраць прыхадняў атамнай зброі.

У восем раніцы адвакат пабудзіла Цыбулю. Па яе засмучаным выглядзе Віктар адразу здагадаўся, што адбылося нешта дрэннае.

— Я амаль упэўніла іх, што ў чалавецтва ёсць зародак добрага і разумнага, а тут вы са сваім супраціўленнем, — енчыла здань, зноў прыняўшы чалавечае аблічча.

— Што ты на мяне накінулася, быццам гэта я яго арганізаваў, — буркнуў Віктар.— Калі ўжо працяг? Ці не час нам яшчэ ў залу да нашых смаўжоў і слімакоў?

— Гэта найбольш прагрэсіўныя формы жыцця, — абурана працягнула здань. — А я — адна з разумных форм небыцця. А ў залу нам больш не трэба. Пратакол не патрабуе прысутнасці прадстаўніка віду і яго адваката падчас прыняцця выніковага рашэння. Праз некалькі хвілін Вас вернуць на Зямлю. А прысуд будзе абвешчаны ўсяму чалавецтву. Бывайце!

З гэтымі словамі здань выплыла з пакоя праз сцяну.

Віктар яшчэ паспеў паснедаць перад тым, як апынуўся на Зямлі. Дакладна на тым самым месцы, з якога яго ўзялі. І зноў ён не заўважыў пералёту і стаяў некаторы час пасярод ходніка, цалкам разгублены. Апрытомнеўшы, глянуў на гадзіннік на будынку Паштамта, вырашыў усё ж паспрабаваць дабрацца да маці і пакрочыў у напрамку вакзала.

На пачатку дванаццатай гадзіны Рада кіраўнікоў галоўных дзяржаў планеты прыняла рашэнне выкарыстаць супраць прыхадняў атамную зброю. Пачалася падрыхтоўка да масіраванага ўдару па касмічных караблях праціўніка.

Праз некалькі хвілін пасля гэтага Галактычная інспекцыя вынесла прысуд «віду дамінуючых малп», як яны называлі чалавецтва. Пачалася падрыхтоўка да гукавой трансляцыі прысуду зямлянам. Без чвэрці дванаццаць галоўнакамандуючы аб'яднаных войскаў Зямлі аддаў загад: «Зброю да бою». Адначасова без чвэрці дванаццаць на ўсіх кантынентах, ва ўсіх гарадах і вёсках, у кожнай кватэры і кожным доме радыёпрымачы спынілі вяшчанне і пачалі трансляваць зварот галоўнага інспектара Галактыкі. У кожнай краіне трансляцыя вялася на ўсіх дзяржаўных мовах.

Віктар, які ехаў у той час да маці ў прыгарадным цягніку, пачуў штучны голас з рэпрадуктара цягніка: «Галактычная інспекцыя, азнаёміўшыся з падрабязнасцямі справы аб экалагічных злачынствах віду з саманазвай Homo Sapiens, пастанавіла лічыць названы від вінаватым адпаведна пункту 8745.11 Галактычнага Статута: «Разбурэнне біясферы ўласнай планеты».

Усё было падрыхтавана да пуску атамнай ракеты. Глыбока пад зямлёй, у сакрэтным бункеры, мужчына ў вайсковай форме трымаў палец над кнопкай «START». Палец моцна дрыжаў і ніяк не хацеў апускацца. «Аднак, прымаючы да ўвагі абставіны, у якіх дагэтуль існаваў від, — працягваў галоўны інспектар Галактыкі, — і тое, што від знаходзіцца на пачатковай ступені эвалюцыі, камісія пастанавіла (палец, нарэшце, дайшоў да кнопкі «START») даць Homo Sapiens дадатковы тэрмін — семдзесят гадоў — для ліквідацыі наступстваў сваёй дзейнасці і прывядзення планеты ў належны стан». На гэтым трансляцыя скончылася. Касмічныя караблі адляцелі з хуткасцю, большай за хуткасць свету, таму ніхто не паспеў заўважыць, як яны зніклі.

Галоўнакамандуючы аб'яднаных войскаў Зямлі загадаў зрывістым голасам: «Адставіць пуск ракеты!» Палец замёр над кнопкай. Зямляне так ніколі і не даведаліся, што спыніліся ў адным кроку ад атамнага выбуху. Але яны зразумелі, што пагроза з боку іншапланетнікаў абмінула. Ва ўсіх краінах свету людзі спявалі і пускаліся ў скокі, абдымаліся на вуліцах з мінакамі, нават беларусы кідалі адзін аднаму сціплыя ўсмешкі.

Віктар ехаў у цягніку, за вокнамі праплывалі слупы лініі электраперадач.

— Добра ўсё  атрымалася, — думаў Віктар. — А я нават не падзякаваў адвакату. Шкада, бо здолела-такі яна нас выратаваць. І нават чалавечы выгляд прымала, каб мне было зручна. А невядома ж, ці прыгожай яна сама сабе здавалася ў гэты час.

— Падзяка прынята, — пачуў ён раптам у галаве голас здані.— Звяртайцеся, калі што.

— Як вы можаце мяне чуць?—здзівіўся Віктар.

— Тэлепатычная сувязь не залежыць ад адлегласці. А ў вас да яе звышздольнасць. Таму вас і абралі прадстаўніком зямлян. Без гэтых здольнасцей вы не зразумелі б, што адбывалася на судзе.

— А не параіце, паважаная спадарыня адвакат, як мне пазбегнуць платы за мікрахвалёўкі, якія я пабіў тыдзень таму?

— Эх, Віктар, вы ўсё яшчэ такі… Homo Sapiens, — уздыхнула здань, але Віктар адчуў, што яна не злуецца.

***

Маёр Тапароў выцер пот з ілба і паправіў фуражку.

— Таварыш маёр, — звярнуўся да яго Ластунскі, які гартаў паперы за суседнім сталом, — як лічыце, паспеюць за семдзесят гадоў?

— Наўрад ці, — адказаў Тапароў. — Але што табе да таго, Ластунскі?  Ці ты яшчэ семдзесят гадоў жыць збіраешся?

Ластунскі паклаў паперы і глянуў у вакно. Унізе, як і раней, гуў праспект. Блішчэлі на сонцы аўтамабілі, блішчэла шкло ў вокнах дома насупраць.

«Заўтра абавязкова пасаджу дрэва», — вырашыў Ластунскі, але нічога не сказаў.

Гады ідуць — словы віншаванняў заканчваюцца. Сітуацыя ўскладняецца, калі гаворка ідзе аб віншаванні мастака. І становіцца зусім ужо нясцерпнай, калі справа даходзіць да віншавання мастака мастаком. Памкненне да арыгінальнасці часам можа абярнуцца яе супрацьлегласцю. Таму я б хацела пазычыць сваім калегам дзве простыя складаныя рэчы: хлеба надзённага і, як казаў Алесь Разанаў, хлеба наддзённага. Няхай матэрыяльныя выпрабаванні саступяць месца выпрабаванням духоўным. Хай абвастраецца ўспрыманне і знаходзяцца патрэбныя словы (і не толькі для віншаванняў)!

*Кацярына Массэ*

Кацярынка Захарэвіч

**нарадзілася 27 жніўня 1994 года ў горадзе Докшыцы. Выпускніца Інстытута журналістыкі БДУ, рэдактар аддзела спецыяльных праектаў часопіса «Бярозка», карэспандэнт часопіса «Маладосць». Усё жыццё марыла быць Аляксандрай, але зразумела, што за 22 гады стала-такі Кацярынкай.**



## Там, дзе зімы над намі не маюць ніякай улады…

***

Я каменьчык, што скача па ціхай азёрнай вадзе
І імкнецца пакінуць кругі на паверхні люстэрка.
Я дрыжэў у пяску. На ваду я са страхам глядзеў.
Мне казалі: «Каменьчыкі тонуць звычайна, дурненькі».

Я стараўся пазбегнуць упэўненай цёплай рукі,
Што мяне падбірала з зямлі, хоць сырой, але роднай.
Я баяўся стаць часткаю жвіру бурлівай ракі
(Ёй ні днём ні ўначы не бывае спакою, гаротнай).

…Я каменьчык, што скача па ціхай азёрнай вадзе,
Покуль сілы стае, мне нададзенай цёплай рукою,
А люстэрка навокал павольна кругамі ідзе,
І ад кожнага круга на ім патыхае спакоем.

Мне, быць можа, не штормы ўтвараць і не біць караблі.
І не быць караблём. Я як быў, так і буду — каменьчык.
Ды й кругі, найхутчэй, не крануцца ніколі зямлі,
Але кожны з кругоў на вадзе — мая ўласная вечнасць.

***

Дождж мне у шыбу стукае,
Просіцца на гарбату.
Што, Вас ніхто не слухае?
Будзьце ласкавы ў хату!

Ў цемру акно адчынена
Для дарагога госця.
Шчодрасцю гаспадынінай
Множацца весялосці.

Раніцай пасыходзілі
Хмары, бы змёў іх хтосьці.
Проста яны прыводзілі
Мне дарагога госця.

***

А калі буду паміраць,
то навокал людзі
шкадавацьмуць мяне?
Ці сябе ў свеце без мяне?
Ці ўвогуле... не?

***

Мой самы блізкі, самы мой дарагі,
Мой пераможца роспачы і тугі,
Леты глыбокай стромкія берагі,
Што не даюць разліцца рацэ адчаем.

Ты дапамог забыцца, як быць адной,
Як адчуваць бяскрыласць усёй спіной,
Як паміраць хацець кожнаю вясной,
Бо і сама вясна быццам памірае.

Мой самы родны. Родны не па крыві.
Колькі ні будзь сумленны ці ні крыві
Грэшнай душою; што на грудзях ні рві;
Што ні кажы... А я цябе не кахаю.

***

Там, дзе зімы над намі не маюць ніякай улады,
Там, дзе вёсны свой цвет пагублялі ў сцюдзёнай вадзе,
Там, дзе восень — бліжэй з кожным ранкам — п’янкім шакаладам,
Кубкам ранішняй кавы, салодкай тугою — ідзе.

Там, дзе з кожным світанкам цішэць будзе крык жураўліны
І грамчэць — шоргат лісця пад кожнай свавольнай нагой,
Дзе ў любога кахання з’яўляецца прысмак палынны,
Там, у жніўні, яно найсмачнейшым нам будзе з табой .

На парэштках памерлага лета ўспыхне каханне,
Бы букет каляровы кляновага лісця ў руках.
Толькі хутка ты птушкай апошняй спяеш нам растанне,
Палыновае кавы на вуснах пакінуўшы смак.

***

Горад табою стаў.
Горад кожнай мясціне рытм задае тваім подыхам,
Глядзіць тваім позіркам — вокам кожнага ліхтара,

Вулкі, двара, маста,
Што чакаюць цябе — чакаюць уладара,
Я баюся цяпер — бо мне мрояцца зноў твае крокі там.

***

Хто я, скажы? Памажы, я не ведаю, хто я.
Кветка, што мой Гаспадар для букета расціў?
Сонца над ёй, што цяпло ахвяруе на тое,
Каб заквітнела яна… Ці камяк перагною,
Што, незаўважны, сілкуе здранцвелы насціл?

***

А ты ўсё адно вяртаешся да мяне.
Штовечар. На досвітку. Ранкам. Балючаю ранай.
Пустыня наўкол ці дождж, што аж дрэвы гне, —
Сляды твае ўсё адно мой спыняе ганак.

А ты ўсё адно прыходзіш у мой (с)пакой.
Пасля шараговых, пакінутых у адчаі,
І словы твае бурлівай цякуць ракой
І хвалямі б'юцца ў ціхае «прабачаю».

І ты кожны раз вяртаешся да мяне.
А шэраг астатніх — дробязь на хісткіх шалях.
Яна проста сыдзе. Вымыецца. Міне
Пяшчынкай на дне, што вартая толькі жалю.
Прынамсі, я так заўжды сябе суцяшаю.

Вясёлых Калядаў, шчаслівага года!
Кахання (а з ім — незабыўных прыгодаў),
Сяброў (хай не шмат, але шчырых і верных),
І каб «Маладосць» адчыняла вам дзверы,
Раманаў ці вершаў (сынка ці дачку),
А мне пажадайце — на лета ў Баку!

*Таццяна Сівец*



## Кацярына Захарэвіч

Партрэт дзвюх жонак Януша Радзівіла — нябожчыцы *Катажыны Патоцкай* і жывой на момант стварэння партрэта *Марыі Лупу* — быў напісаны Іаганам Шрэтарам, мастаком нямецкага паходжання, у 1646 годзе ў Вільні.

Дзве гераіні паказаны ў розных плоскасцях карціны, і апранутая ў чорнае Марыя як бы засланяе сваю папярэдніцу ў чырвоным. Апошняя глядзіць цераз плячо сваёй наступніцы на гледача, прыціскаючы да сябе веер, ледзь заўважна ўсміхаецца. Вусны Марыі, наадварот, падціснуты, у вачах чытаецца напружанасць, а левая рука сціснула насоўку. Абедзьве фігуры як бы павольна плывуць насустрач гледачу з залацістакарычневага паўзмроку недэталізаванага фону.

# Марыя і Катажына

«Спадар Шрэтар чакае вас», — сказаў лёкай. Марыя лёгка-лёгка кіўнула галавой — так незаўважна, што толькі вышкалены слуга мог заўважыць і зразумець гэты рух. Дзяўчына-пакаёўка, што, седзячы на падлозе, ладзіла прыгожыя складкі на сукенцы сваёй гаспадыні, не адразу зразумела, што Марыя рушыла да дзвярэй, і ледзь утрымала раўнавагу, калі тканіна выслізнула з яе рук. Хуценька падхапіўшыся, пабегла за сваёй гаспадыняй.

Галерэя, якую праз вокны праціналі густыя сонечныя промні, плавілася ад гарачыні летняга дня. Марыя на некалькі імгненняў спынілася, перш чым увайсці сюды. Ёй здавалася, што варта толькі ступіць ў паласу святла, як цяжкая чорная тканіна сукенкі загарыцца на ёй, агонь пачне павольна і балюча есці яе цела, злізваць яго да костак, пакуль яна, слабая, бездапаможная, тонкая, не ўпадзе ў чарговай паласе святла, каб канчаткова здацца гарачай удушлівай матэрыі і бязлітасным жоўтым промням. Неабходнасць прайсці ў чорнай шчыльнай сукенцы па паўднёвай галерэі палаца ў самую спёку здавалася Марыі яшчэ адным, дробным і ўбогім спосабам катавання. Чамусьці менавіта гэтая дробязь і раздражняла больш за ўсё. Але калі яна ўжо дазволіла катаваць сябе, варта вытрымаць да канца.

Жанчына ступіла ў першую паласу святла, прыдзірліва прыслухоўваючыся, як промні кусаюць скуру праз чорную тканіну. Назад ужо нельга, пакаёўка і лёкай не павінны бачыць яе слабасць.

Два гады таму, прымаючы прапанову князя Януша, яна зусім не думала пра тое, што ён — два гады удавец, гаворка пра роспач якога пасля смерці каханай жонкі Катажыны разнеслася далёка ва ўсе бакі. Марыя закахалася моцным, маладым, удушлівым каханнем, у якім ужо не было нясмеласці першага пачуцця і яшчэ не было насцярожанасці сталага чалавека — была толькі сіла, якую не спыніць нічога. Закахалася, напэўна, у гэтыя поўныя загадкавай журбы вочы — вочы чалавека, які шмат пабачыў, перажыў і перадумаў. Вочы, яшчэ поўныя такой самай сілы і імкнення жыць. Вочы мужчыны, што прагне кахання і здольны кахаць. А словы яго… кожны ліст да яе дыхаў мужнасцю і чуласцю, стомленасцю ад самоты і імкненнем да роднай — такой самай чулай душы — усім тым, што так старанна шукае сэрца маладой дзяўчыны.

Марыя была ўпэўненая, што менавіта яна дапаможа яму спатоліць прагу жыцця і кахання. Менавіта яе і не хапае Янушу, каб стаць шчаслівым, каб забыцца на ўсе мінулыя беды, на ўсе змрочныя дні яго жыцця, на роспач, што панавала доўгі час. Яна прыме на сябе частку ягонага цяжару, а сама дасць яму жыццё, маладосць, каханне — будзе заранкай у цёмным небе, іскрай, якой так не хапае яму, каб разгарэцца. А ён будзе ўдзячны ёй усё жыццё… З якім замілаваннем яна думала пра яго, як кахала яго! А зараз?

А зараз яна ідзе па сонечнай, напоўненай летам галерэі ў чорнай шчыльнай сукенцы, якую выбраў для яе сам Януш. Ідзе пазіраваць вядомаму ў Вільні нямецкаму мастаку для свайго партрэта, замоўленага князем. На тым партрэце яна будзе побач з памерлай Катажынай.

Яна думала пра гэта і ніяк не магла паверыць. Нават у гэтыя імгненні, ужо ідучы да мастака, не магла ўсвядоміць. Яна — жывая, маладая, прыгожая і радавітая жанчына, дачка гаспадара Зямлі Малдаўскай, як заўсёды з гонарам падпісвалася ў лістах, — што яна робіць, куды ідзе? Няўжо кахае так, каб дазволіць ставіць побач з сабой нябожчыцу? Злучаць жывых і мёртвых на адным палатне — гэта ўсё адно, што руку на той свет працягнуць! І не для таго, каб некага адтуль выратаваць, а толькі каб сябе загубіць. Але яна ідзе, пераходзячы з адной плямы свету ў другую, уяўляючы гэтую галерэю пеклам, адчуваючы, як вогненнае смыленне па ўсім целе то заціхае, калі на паўкрокі заходзіш у цень, то ўзмацняецца. Ідзе, узняўшы галаву, суняўшы дрыжэнне, нібы гэты шлях — самы вялікі гонар, што можа выпасці чалавеку.

Дух Катажыны, здаецца, хоць і бясплотны, нябачны, а жыве побач з імі. Яе (ці не яе?) Януш усё робіць з аглядкай на дзве рэчы — Княства і Катажыну. Як жыў ён з ёй, так і жыве пасля яе смерці, новы сямейны саюз нічога, здаецца Марыі, не змяніў. Прагу жыцця не яна спаталяе — Катажына. Не Марыя, а Катажына — тая заранка ў небе, прывабная і недасяжная. Заранка заўсёды застанецца ідэалам, бо ніхто ніколі не дацягваўся да яе рукой. Ідэал таму і ідэал, што мёртвы — ніколі не схібіць, не расчаруе. Гэта злуе. О, як гэта злуе!

Гэтаму ідэалу князь і Марыю пакланяцца прывучае. Яна маладая, статная, жывая і цёплая, пахаваная ў гэтай чорнай сукенцы, што твар яе робіць бледным і мёртвым, нібы ў траўры па чужой жанчыне, якая не аддае ёй мужа — нават з таго свету не аддае. І стаіць — у сукенцы колеру жыцця за спінай, і пасля смерці сваёй над усімі ўладу мае…

Нарэшце, галерэя скончылася. У імправізаванай майстэрні было светла, але, на шчасце, прахалодна. Спадар Шрэтар сустрэў Марыю лёгкім паклонам. Ён ужо гатовы працаваць і не хоча марнаваць час на лішнія размовы. Жанчына стала насупраць мастака з мальбертам. Ганарліва падняла галаву, усім сваім целам і поглядам кажучы: «Я — гаспадыня тут. Я — жывая і буду жыць побач са сваім князем, сваім мужам, сваім каханым. Я трымаю яго за руку, я адорваю яго каханнем штоноч, я даю яму парады, калі ён у роздумах, я супакойваю яго журбу і не даю захапіць самоце. Назаўсёды толькі тое, што зараз, мінулае — не паўторыцца, будучыня - невядомая».

Лагодны ветрык, што гуляў па майстэрні, бясшумна перабіраў складкі сукенкі Марыі. Шоргат тканінаў, які прагучаў побач з жанчынай, ветрыку не належаў. Ён належаў ледзь заўважнаму чырвонаму сілуэту, што праплыў побач, — Марыя ўбачыла бакавым зрокам. Спадар Іаган, таксама ўлавіўшы гэты рух, схапіўся за пэндзаль. Цяпер, калі ўсе, хто павінен быць на партрэце, тут, сапраўды можна пачынаць.

Навошта Марыя робіць гэта? Пытанне з'яўляецца ў яе кожны раз, калі яна адчувае дотык ненавіснай чорнай тканіны да далікатнай скуры. Паўтараецца кожны раз, калі джаляць праз сукенку промні святла на кожным кроку па галерэі. Гэта пытанне чытаецца зараз у вачах мастака, калі яна заходзіць у майстэрню. З кім заўгодна гатова Марыя паспрачацца, што гэта — адна з самых дзіўных замоў яго. Але гэта не яго справа. І не яе справа.

Навошта Марыя робіць гэта? Гэтае пытанне, магчыма, зададуць і нашчадкі яе, не здольныя ўявіць, як можна бачыць сябе на партрэце побач з нябожчыцай, як можна мужа дзяліць з ёй. Але як можна апісаць салодкае трапятанне сэрца, калі князь нечакана заходзіць у майстэрню падчас працы, лагодна ўсміхаецца ёй — жонцы сваёй, і вочы яго кажуць: «Я разумею цябе. Я ўдзячны табе»? Як ён цёплай і вялікай рукой сваёй сціскае з любоўю яе пальцы, па якіх да самага яе сэрца бяжыць каханне. Як ён прыабдымае за плечы і лёгка дакранаецца вуснамі да ілба, — і перастае існаваць усё, што па-за яго рукамі і вуснамі, і можна вытрымаць усё. Як свеціцца твар Януша, калі, зазіраючы праз плячо спадару Іагану, ён бачыць на палатне, як дзве часткі душы яго — памерлая і жывая — побач, і будзе так заўсёды, бо людзі паміраюць, а мастацтва і каханне — вечныя.

Паважаны чытач!

«Прыгожыя словы — не правільныя, а правільныя словы — не прыгожыя».

Новы год і Каляды – гэта час цудаў і мар. Дык няхай твае жаданні ўвасабляюцца лёгка і найлепшым чынам. Дабрыні, святла, здароўя, любові і кахання!

*З павагай,*
*Вераніка Ляўчук*



## Вераніка Ляўчук

**нарадзілася 23 сакавіка 1990 года ў Гомелі, жыве ў Мінску. Па адукацыі лінгвіст, выкладае англійскую мову, піша дысертацыю. Пры нагодзе выпраўляецца ў падарожжы, малюе акварэллю, танцуе кейлі-рылы ды полькі. Бае казкі.**

# Пакуль быў час

*Hiroyuki Sawano — Bauklötze (Piano cover Shingeki no Kyojin OST)*

Ноч завалодала прыморскім горадам, прымушаючы сабак падціскаць хвасты, а разбэшчаных жыхароў забівацца ў цёплыя куточкі. Здрыгануўшыся ад холаду, Марыя Цямко, жанчына сталага веку і гаспадыня дома, завярнулася ў пуховую хустку. Можна, вядома, закінуць чарговае паленца ў топку, але час зараз няпэўны. Лепш з'эканоміць. Спадарыня Цямко нахохлілася каля буфета і кінула нешта ў кубачак. Вярнулася да стала, задаволена размешваючы гарбату, салодкую, смачную, карысную. Тое, што трэба чалавеку ў зімны час, каб дачакацца нарэшце лета, калі саспеюць у садзе чарэшні, якія прагна скупляюць турысты. Вось тады яна разжывецца. А пакуль даводзіцца падключаць старыя кантакты, каб атрымаць мяшэчак дэфіцытнага цукру.

У дзверы пагрукалі.

Гаспадыня дома закашлялася. Зірнула на дзверы і вокамгненна ўліла ў сябе гарбату. Закашлялася зноў, завохкала, замахала рукамі перад тварам, бо апаліла горла.

Асцярожна адчыніла дзверы.

— Дазвольце ўвайсці, калі ласка.

Студэнта яна памятала. Ён заходзіў два дні таму, пытаўся, ці здае яна памяшканні. Такога яна браць не захацела. Спаслалася на тое, што чакае пастаяльцаў, якія замовілі пакойчык. Але студэнт выглядаў зусім тужліва, словы вымаўляў з высілкам, хоць і захоўваў ветлівасць. Ну, добра.

Падарожны ступіў у сталовую, зрабіў колькі крокаў і зваліўся ў фатэль, хоць любой цаной намагаўся выглядаць прыстойна. Бач ты, інтэлігент. Але ад вачэй гаспадыні не схаваецца ні бледна-васковы твар, ні бляск у вачах, ні надзвычайная стома.

— Я нікуды не пайду, — вымавіў госць.

Спадарыня Цямко прыжмурылася, вокамгненна прыкідваючы прыбытак з патэнцыйнага пастаяльца. Сціплы, выхаваны, плаціць павінен спраўна. Але наўрад ці ў яго кашалёк напханы. Не, тут і разважаць няма пра што, такіх у мясцовыя пансіянаты не бяруць. Неахайнае студэнцкае паліто, абшарпаны чамадан, запэцканыя боты. І што з яго ўзяць? А зрэшты, вайна ўсё яшчэ працягваецца, краіну трасе, працоўныя бастуюць, Сялянскі банк вось-вось выбухне; ды і холадна па-ранейшаму, ліха ясна, не прыгадваецца, калі апошні раз быў такі сцюдзёны сакавік. Турыстаў амаль няма. Ды й невядома, што летам будзе. Ну, не ісці ж на працу, калі дом здаваць можна!

— Ну, добра, — звяла рахункі гаспадыня. — Толькі папярэджваю адразу: харчавання ў мяне няма. Кубак-лыжка-ручнік, спадзяюся, свае?

— Вядома, — адгукнуўся патэнцыйны пастаялец, уважліва сочачы за жанчынай.

Суровасць госця яе крыху непакоіла.

— Цудоўна, хадзем, пакой пакажу.

Яны абышлі дом па тонкай прасцінцы хрусткага снегу, падняліся па знешняй лесвіцы на другі паверх. Гаспадыня адчыніла пакой, прапусціла госця, а сама стала ў парозе.

— Бялізна на ложку, лямпа на стале. Нават балкон ёсць, да мора блізка — хвілін дзесяць, не больш, — гаспадыня склала рукі на грудзях і падціснула вусны. — Сосны, кіпарысы, сонца. Праветрываць толькі не забывайце. Пакой асобны, турбаваць ніхто не будзе. Калі нешта спатрэбіцца, спускайцеся і грукайце ў дзверы. Але я дома бываю рэдка. І, — спадарыня Цямко, не маючы ніякага жадання да свецкай размовы з пастаяльцам, паказала на дзверы, — ключ — у шчыліне. Адпачывайце.

— Дзякуй.

Малады чалавек сеў на ложак і выдыхнуў. Яму нялёгка даваліся гутаркі з чужымі людзьмі. Заўсёды нерваваўся і апранаў нябачны панцыр.

Пастаялец згорбіўся, яму не хапала паветра. Але ж менавіта гэта марознае паветра разразала бронхі і лёгкія. Утаропіўся ў боты. Чатыры дні. Чатыры дні шукаць кватэру. І гэта ў зімовай Ялце. Віншую, Максім, на Вас не хапае толькі німфы Каліпса! Малады чалавек весела хмыкнуў і закашляўся. Вось таму цябе бацька ўсур'ёз і не ўспрымае. Хіба можна ўявіць, каб ён ці Лёва загразлі ў сумётах пад Гомелем, чакалі цягніка на Бахмачы шаснаццаць, а тое ўсе васямнаццаць гадзін! І пасля слухалі бухценне жывата на двух цягніках з чатырох, бо напакавалі ў чамадан паперак і кніжак больш за правіянт. Хіба напісаць колькі катрэнаў? Як там было… Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага яснага дня. Забыцца… За-бы-цца.

***

Лагодны ветрык летуценна блукаў па ціхай светлай вулачцы. Ад крокаў дарожны пыл вальсаваў з пясчынкамі. Танцораў віталі садовыя кусты і дрэвы, якія з нагоды прыбраліся ў маладыя салатавыя карункі. Самавітыя старасвецкія дамы назіралі за моладдзю з ціхім ухваленнем. Гаспадар свята даў згоду, і першыя пушынкі сонна паляцелі паміж зграбных пар і зачараваных гледачоў.

— Максім! — пачуў ён глухое. Пух і пыл віравалі вакол яго. — Максім!

Коля Какуеў! Бяжыць насустрач. На вуліцы сабраліся гімназійныя сябры. Спрачаліся на дарозе, сядзелі на плытах, гаманілі.

— Трымай! — хлопчык працягнуў кій, што выкарыстоўваўся замест біты. — Ну, давай жа! Пакажы клас!

Метраў за дзесяць з маленькіх бярозавых слупкоў яны выбудавалі «калодзеж». Трэба добра прымерыцца. Ён даўно не гуляў у гарадкі. Як там робіцца? Замах, лёгкі разгон і — кідок.

— Так! — ускрыкнуў Рафа, брат Колі. — Ай да, Максім, выбіў!

Усміхаўся, шырока ўсміхаўся, пераможна ўзняў рукі, вуліца кіпела. Момант трыўмфу. І тут жа атрымаў мячом па спіне.

— Гэй, хто там? — з усмешкай разварнуўся Максім.

Замест брам шпурнулі партфелі па два бакі вуліцы і доўга гулялі ў мяч, крычалі, смяяліся, дапамагалі дзяўчатам збіраць дзьмухаўцы для вянкоў, залазілі на дрэвы, каб трэсці пялёсткі.

— Давай, Максім! — Коля паказаў на тоўстага белага галуба з сіваватымі плямамі на галаве і шыі.

Галуб круціўся побач, прыкормлены пірагом, які спадарыня Какуева пакавала дзецям на падвячорак. Максім рэзка падаўся наперад і ўхапіў пузана.

— Пабеглі!

Гімназісты памчаліся да дома Какуевых. Кожны хлапчук трымаў галуба. Забраліся на дах, клапатліва прытульваючы да сябе мяккіх цёплых птушак. Галубы трывожна буркавалі і падціскалі лапкі.

— Гатовыя? — Максім агледзеў сяброў, ці ўсе падняліся. — Тры, чатыры! — і падкінуў галуба высока ў блакіт.

Птушкі пырхалі ў паветры, хутка хлопалі крыламі і белымі аблачынкамі ляцелі ўвышыню. Навярнуўшы кола-другое, падалі на дахі і сарамліва вярцеліся на месцы. Дзяўчаты пляскалі ў далоні, хлопцы падбухторвалі галубоў вяртацца ў неба, а Максім смяяўся, чыста, лёгка.

… Драпіраваныя крэслы, драўляны стол, накрыты абрусам, вялікія вокны, дагледжаныя расліны — у гасцёўні ўтульна. Стройны стан, тонкія рысы, сур'ёзныя бровы. Аня... Рафа выцягваў з віяланчэлі разважныя гукі, Коля падыгрываў на скрыпцы, і Аня… Так, гэта Аня. Над раялем схілілася Аня, пяшчотна дакранаючыся да клавішаў.

… Аня… Ён крочыў за дзіўнымі чорнымі хвалямі, рассыпанымі па белай блузцы. Пахла свежай травой і яблычнай квеценню. Ён паднырнуў пад бела-ружовую галінку і крочыў глыбей у сад, туды, дзе тын ледзь вытрымліваў цяжар плюшчу, дзе паважны дом губляўся сярод гнуткіх яблынь і груш, дзе гукі сціхалі.

— Аня, — ён абышоў чарговую галінку ў кветках і пучках зеляніны.

Яна павярнулася, стаяла так блізка:

— Ты на мяне крыўдуеш?

— Я... — голас абарваўся. Чорныя вочы пранізвалі да глыбінь душы. — Ты такая прыгожая.

Яна рассмяялася. Звонка. Белыя пялёсткі сарваліся з дрэў, змяшаліся з пухам і луналі вакол іх.

— Аня, — як мог ён крыўдаваць на такі чысты смех, які бывае, бадай што, толькі ў такіх жа чыстых душ. Пялёсткі падалі на яе чорныя валасы і ўпрыгожвалі іх, нібы пацеркі. — Аня, — хацеў дакрануцца да яе гладкай шчакі.

Яго трэсла. Моцна.

***

Максім збянтэжана моргаў. Святло асляпляла. Празрыста-блакітныя вочы. Спадарыня Цямко. Стаяла над ім. Занепакоена разглядала збялелы твар.

Максім цяжка дыхаў, хмурыўся. За вакном падаў брудны снег напалову з дажджом. Дрэвы голыя, неба шэрае. Гаспадыня падціснула вусны:

— Я вады прынесла. Добрай раніцы, а можа, ужо добрага дня.

Спадарыня Цямко вышла з пакою. Максім слухаў яе тупат на лесвіцы, пакуль крокі не расталі ў парывістым шоргаце непагоды.

Малады чалавек адкінуў галаву на падушку і прашаптаў:

— Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы ў ціхую сінюю ноч… Я так хацеў бы...

Спадарыня Цямко дробненька тупала па заіневелай сцежцы. Мокры снег гэтымі днямі чаргаваўся з дажджом і замаразкамі. Вільготна і сцюдзёна, зусім няўтульна. Падмерзлымі пальцамі жанчына намацала дзвярную ручку. У пакоі не надта цяплей, затое на стале падыходзіць самавар. Гаспадыня дома, не скідваючы пуховую хустку, спяшалася да надзейнага сябра.

Самавар амаль нагрэўся, і жанчына працягнула да яго рукі. Круглыя бакі масянжовага гаспадара паблісквалі ад слабых шэрых промняў, на якія расшчодрылася надвор'е. Спадарыня Цямко за раніцу нацерла самавар два разы. Засталося тры. Спецыяльна падрыхтаваным ручнікам лёгка

правяла па гладкім боку. Так, даражэнькі, сонейка маё, што б я без цябе рабіла? І тут вочы жанчыны пашырыліся, яна ледзь стрымала крык. Бо на рудаватым боку адлюстравалася змрочная постаць у глыбіні пакою. Спадарыня Цямко развярнулася. І моцна пры гэтым ўдарылася нагой аб стол.

— Прабачце, — ціха прамовіў пастаялец і асцярожна прысеў на край фатэлі.

Вось ужо пашэнціла з госцем! Быццам здань ходзіць! Жанчына супакоіла дыханне і ўтаропілася ў студэнта: няхай засаромеецца, што ў яе цяпер гузак будзе. Хоць бы прычасаўся прыстойна. Пагаліўся б! І рукі ад чарніла адмыў бы.

Пастаялец быў нейкі бледны, ускалмачаны, разгублены, зусім няшчасны. Ні гальштука, ні шаліка. Адвярнуўся да акна і маўчыць. Трымае невялічкі кубачак і час ад часу паглядае на дым з самавара. Спадарыня Цямко хіснула галавой і адчыніла дзверцы буфета. Яна нікому не прапаноўвала, але:

— Вам будзе карысна, — жанчына грукнула цукерніцай па стале.

Пастаялец надзьмуўся, задыхаў раз'юшана, аднак роўна вымавіў:

— Мне толькі гарбаты, — і, памарудзіўшы, дадаў: — Калі ласка.

— Але Вам трэба набрацца моцы, — гаспадыня амаль прасіла.

— Я не буду цукар! — не вытрымаў студэнт.

Падышоў да самавара і наліў гарбаты сам. Насупіўся, забурыўся ў фатэль і грэў рукі кубкам. Пакой моцна прапах адэкалонам, і Максім грэбліва моршчыў нос. Непагадзь крыху сунялася, застаўся толькі вецер. Ён вырашыў выправіцца ў парк, каб удыхаць там хваёвыя водары.

Бяскрайняя шэрая хмара тым часам напаўзала з-за гор. Яна насоўвалася тушай на сонца, намагаючыся злучыцца з морам. Вецер накінуўся на сосны, кіпарысы і голыя магноліі, якія малілі хмары не засыпаць іх снегам. Усходнеславянская турыстычная Мекка зараз больш нагадвала вялізны шпіталь пад адкрытым небам, чым месца, куды курортнікі з усёй імперыі з'язджаліся на марскія і сонечныя купанні, горныя шпацыры і вінаград. Прыезджы накіроўваўся да набярэжнай, не аднаўленай пакуль пасля першага і, як спадзяваліся, апошняга абстрэлу варожага крэйсера два гады таму. Жыхары знакамітага раней курорта заўважалі высокага, добра складзенага чалавека, прыгажосць якога псавала прыгорбленасць. Курортнік швэндаўся бліз мора і неўзабаве хаваўся паміж паўднёвымі дрэвамі і кустамі парка.

Сёння не пішацца. Малады чалавек стомлена апусціўся на лаву. Ён сумна глядзеў пад ногі і пяшчотна гладзіў тоўсценькі расхрыстаны сшытак, які адпачываў на яго каленях. Праз сілу ўсміхнуўся: гэты сшытак шмат пабачыў на сваім папяровым веку. Ён цалкам спісаны самымі рознымі герогліфамі. За матэматычнымі вылічэннямі, якія пужалі выпадковых чытачоў, зашыфраваныя памеры вершаў. Артэфакт захоўваў выпісаныя са слоўнікаў, зборнікаў і старадрукаў коды антычных строф, еўрапейскіх санетаў, японскай паэзіі і народных песняў. Усе яны так ладна выходзілі на роднай мове! Яму заўсёды хацелася пісаць вершы. Няхай звычайныя, няхай мудрагелістыя па шкілеце герогліфаў, але трэба пісаць і не спыняцца, пакуль мільганула думка. Пакуль ёсць час.

А хтосьці называў іх дэкадэнцкімі. Яно, пэўна, і правільна, іх пісаў юнак шаснаццаці-дваццаці гадоў. Зараз бы так не напісаў. Занадта апантана, аголена, як наогул можна было такія асабістыя рэчы даваць каму-небудзь чытаць? Палову можна смела выкрэсліць. Астатнія, мабыць, і атрымаецца як-небудзь абгладзіць. Казаў жа тады, больш вырэзвайце гэтыя трафарэты… Адзінае, што ў таго юнака здзіўляе, дык гэта натхненне. Так, трэба перапрацаваць. І дадаць лепшыя вершы, якія напісаў пазней. Зборнік можна назваць «Маладзік». Або «Красавік». Падумаць трэба… А яшчэ шмат выкшталцоных вершаў, якія друку не бачылі. Таксама на зборнік стане. Напрыклад, «Пярсцёнак»! Там якраз хапае розных метафар ды алюзій. І абавязкова — «Палын-трава» з «Шыпшынай». Падпісаць і ў Пецярбург адправіць.

Максім крэсліў пазнакі на вокладцы сшытка. Зрабілася крыху цяплей, і ў вушах быццам адышло. Малады чалавек здзіўлена патрэс галавой. Трэба спяшацца. І пераклады Верлена абавязкова выдаць трэба. Мо, кнігу цэлую зрабіць? Шаўчэнку, Франка, Крымскага ўкласці. Папрасіць бацьку, каб з дому сшытак з перакладамі Купалы на рускую мову даслаў. Папрацаваць з італійскай, нямецкай, польскай, грэцкай, чэшскай, сербскай… А што, рэальна! Пераклады наогул любяць. У Кіеве ж тады кнігу надрукавалі, 125 старонак ды з прадмовай яшчэ на 15. Нарысы ва ўкраінскіх часопісах змяшчалі, эсэ — у расійскіх выданнях, артыкулы — у нашых газетах.

Не, трэба пісаць вершы.

Па парку хадзіла жанчына разам з хлопчыкам у аграмністай насунутай на лоб шапцы навыраст. Малы адной рукой трымаўся за руку маці, а другой абхапіў пацёртага цацачнага мядзведзя. Максім усміхнуўся. Яго Наташа, мабыць, зараз спіць у абдымку з такім жа мядзведзікам, якога ён прывез пляменніцы ў падарунак, калі той споўнілася два гады. Лепш бы падаўся да цёткі Магдалены ў Ніжні. Гарланіў бы «Чаму ж мне не пець?» і падвываў «Купалінку», слухаў паданні пра млыны Менеска і лесуна, які хрысціў дзікую душу ў цёмным возеры. Хіба ў лістападзе завітаць у госці? Паставіць куццю на Дзяды і павітацца з мамай, калі пачнуць трымцець агеньчыкі на свечках.

Жанчына спынілася пагутарыць з сустрэчнай дамай. Хлапчук пазіраў па баках, віснуў на руцэ маці і ўрэшце пабег ганяць галубоў. Праўда, птушкі маломy хутка надакучылі, затое зацікавілі рэшткі снегу пад ялінкай, каменьчык на дарозе, змерзлая галінка. Пакуль малы нязграбна нахіляўся за каменьчыкам, вялізны мішка выслізнуў з-пад пахі. Максім усхапіўся да хлапчука. Падняў і працягнуў цацку маломy, які глядзеў на незнаёмага дзядзьку вялізнымі вачыма.

— Твій? — запытаўся Максім па-ўкраінску, седзячы на кукішках і падмятаючы застыглую сцяжынку крысамі паліто.

Малы ўзяў мядзведзіка ў ахапак.

— Як яго завуць?

— Міхайла.

— Гэта твая маці?

Малы згодна хіснуў галавой.

— А бацька дзе?

— На працы.

— А кім ён працуе? — дапытваўся Максім.

— Доктарам.

— Ого! Якая важная справа, праўда? — шчыра захапіўся малады чалавек. — А ты, пэўна, калі вырасцеш, як бацька будзеш? Працягнеш яго справу? — асцярожна дадаў Максім і затаіў дыханне.

— Так!

Які мілы сынок расце!

— Юрко! — маці ўзрушана падышла да хлапчука. — Хадзем адсюль, зараз жа! — жанчына кінула нядобры позірк на расчырванелыя шчокі чужынца.

Аддаляліся яны імкліва, а Максім так і застаўся на кукішках пасярод застыглай зямлі, з болем гледзячы, як шпарка перабіраюць маленькія ножкі. Малы азірнуўся.

— Пакуль, — праз сілу, усяго на імгненне ўсміхнуўся Максім і слаба ўзмахнуў рукой.

Вечарамі спадарыня Цямко сядзела каля самавара і вязала. Масянжовы пузан пыхкаў цяплом, а тоўстыя ваўняныя ніткі збіраліся ў новую хустку, якая падчас працы прыемна прыгравала калені. Спіцы падзынькалі і пускалі бляклыя водбліскі на падлогу. Сантыметраў дзесяць, і можна з чыстым сумленнем класціся спаць.

— Ведаеце, у Менску я працаваў у Камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны, — сказаў малады чалавек, калі вярнуўся са шпацыру.

Гаспадыня прыўзняла бровы. Яна ўжо ўцяміла, што новы пастаялец займаўся немаведама чым і нават амаль прызвычаілася да яго простых заўваг. Але дапамагаць бежанцам, калі атрымліваеш вышэйшую адукацыю? Жанчына пацiснула плячыма.

— У аддзеле харчавання, — дадаў Максім. — Акрамя аплаты нам выдавалі паёк, збольшага — цукар.

Дык вось у чым справа! Жанчына станоўча хіснула галавой і прайшлася пальцамі па ўзоры. Падціснула апошняе вочка, каб палатно атрымлівалася шчыльным.

— Свой я ніколі не спажываў, хаця, па шчырасці, мне падабаецца салодкая гарбата. Але я не мог і не магу дазволіць сабе такую раскошу, калі людзі галадаюць. Я лічыў, што раблю нейкую ахвяру.

— Пятнаццаць, шаснаццаць, — мармытала спадарыня Цямко, засяроджана перабіраючы накручаную на спіцу нітку. Ёй падалося, што праз гутаркі са студэнтам яна набрала залішняе вочка, і зараз давядзецца правязаць два разам, каб не сапсаваць узор.

— І аднойчы я прынёс паўпуда цукру. Аддаў яго для дзяцей. І гэта думка мяне хоць крыху пацяшае.

— Дваццаць тры, дваццаць…

Жанчына падняла галаву.

— Як кажуць, пі чашу любую, але толькі да дна.

***

— Самым першым із сямёх
Сватаўся ка мне Цімох.
У панядзелак ён прыйшоў
Ні кашулі, ні штаноў!
Што ж ты, дзеўка, робіш?
Ты ж усіх пагоніш!
Адна застанешся,
Тады пасмяешся.

У шэрым празрыстым паветры зазвінеў дзявочы смех. За пакошаным драўляным плотам, за голымі каштанамі, ліпамі, шыпшынай, бэзам, што рыхтуюцца з надыходам вясны спаборнічаць у конкурсе прыгажосці, на нізкім ганку каля драўлянага дома гаманілі трое.

— А Мікіта ў аўторак
Цалаваў разоў сто сорак.
За Мікіту не пайду,
Можа, лепшага знайду.

Дзяўчаткі перарывіста дыхалі і ўслухоўваліся ў кожнае слова ладнага брунета. У канцы страфы яны гучна хіхікалі, запрашаючы юнака працягваць чытанні.

— Максім, вы самі напісалі гэтыя вершы? — запыталася адна з іх, пакуль прыгладжвала чорную пасмачку ў гладка прыбраным вузле.

— Ён? — раздалася насмешлівае за іх спінамі. З дома вызірнуў круглагаловы хлопец з вялізным носам. — Куды яму! Што, Максім, думалі бессаромна заляцацца да маіх сястрычак, чытаючы народныя песенькі?

— Як можна, пане Плаўніку! Мы з Рэняй і Геняй марылі, як будзем вандраваць па свеце.

— А, вось у чым справа. Тады чаму б адразу не зладзіць батлейку? Геня цудоўна шые, Рэня размалюе лялькам тварыкі, я напішу такі-сякі сцэнар, ну а вы, Максім, будзеце… за нітачкі торгаць.

— Спадар Плаўніку, — хлопец намагаўся здавіць смех, каб надаць голасу ўрачыстасць, — вы едзеце з намі, — абвясціў ён.

Так пачыналася раніца на Рабкораўскай. А таксама з гулу аднаго-двух аэрапланаў, якія кожны дзень заносіла з фронту ў Менск. Яны кружылі над горадам і скідвалі бомбы. У аэрапланы намагаліся патрапіць зенітчыкі. За год да гэтых сцэнак прызвычаіліся настолькі, што ўжо б і не звярталі ўвагі, калі б толькі не грукат, дым і ўсведамленне, што разам з разбуранай сцяной маглі загінуць людзі.

Гарэлі цэлыя вёскі. Агонь праглынаў хаты, хтосьці гінуў, а хтосьці губляў блізкіх. І ў прыземісты горад над Свіслаччу сцягваліся тыя, у каго засталося толькі жыццё. Вось для такіх уцекачоў Таварыства і працавала. Знаходзілі для іх прытулак. Вядома, не такі прасторны, як яго пакой зараз, але ўсё ж такі прыдатны куток. Ён і сам у Менску начаваў паміж буфетам і сталом, у доме, які здымаў спадар Плаўнік разам з сёстрамі. Дзяўчаты жылі ў адным пакоі, у другім — маці і дачка Сівіцкія, якія ратаваліся ад вайны, а сам Плаўнік мясціўся ў той жа прахадной сталовай, побач з фатэлем.

Максім прасачыў, як малады Плаўнік прайшоў двор, стаў пад каштанам ля плота і запаліў. Максім нахмурыўся, але змаўчаў.

— Сёння павінны хлеб прывезці і, — хлопец памарудзіў, выпусціў дым, надарыў кожнага пераможным поглядам: — і коўдры!

— Коўдры! — паўтарыла Геля і кінулася абдымаць брата.

— Трыццаць дзве коўдры! — пацвердзіў Самойла.

Нейкім дзіўным чынам у яго атрымлівалася здабываць сапраўдныя рэдкасці: хлеб, бялізну, коўдры, боты ці нават мяса, якія былі патрэбныя бежанцам.

— Вы прыроджаны вынаходнік скарбаў! — ухваліў сябра Максім.

Спадар Плаўнік папярхнуўся і хвілін пяць не мог адкашляцца. Сагнуўся, пырхаў дымам. Рэня адвярнулася і трымалася за сцяну дома, яе плечы дрыжалі. А Геля выцірала слязінкі.

— Ой, — у адкрытую рагатаў Самойла, — ой, Максім… — толькі сабраўся нешта сказаць і зноў зарагатаў. — Прыро-т-ч-аны, — весяліўся Плаўнік. — Хатняе заданне вам: навучыцеся нарэшце вымаўляць гук «дж». Пакуль не выправіцеся, мы не дазволім вам ужываць у вершах словы нараджаць, абуджэнне і, — Самойла падмаргнуў, — дождждык!

Пільнае ж у яго вока! Вядома, ён адзін з тых, хто кажа «смачна есці» ці там «дабранач» не задумваючыся. Правільна, ён адзін з тых, хто адраджае Беларусь. Адраж-жае. Адратшае… Адрад-жае. Дзіўнае слова.

— Адрад-шае! — ускрыкнуў Максім, задаволены, як кот, які упаляваў мыша.

— Адра-дж! Адраджае! «Дж», Максім! Вучыцеся. А пакуль будзеце класціся спаць не пазней за іншых, — выдаў яго Плаўнік. — А тое сёння да трох сядзеў.

— Да трох, да двух… — адмахнуўся Максім, прыкідваючы, калі Самойла паспеў прачнуцца — зусім жа ціха было. — Затое хутка новы верш зачытаю! Незвычайны атрымліваецца, па біблейскіх матывах, — пахваліўся хлопец.

— Ты ж памятаеш, што мы займаемся крамолай? — як заўжды пакпіў сябра.

— А навошта я ў Менск прыехаў? Толькі каб на забароненай мове вершы крэмзіць ды з вамі размаўляць.

— Хадзем? — на ганку з'явілася хударлявая дзяўчына, паненка Людвіка Сівіцкая. — Максім, толькі я вас вельмі прашу, — Ядвіга ўзняла плечыкі і перакрывіла тварык, — а давайце сёння не будзем доўга каля касцёла стаяць.

Па дарозе ад дома Плаўніка да казённага пісьмовага стала са стосам справаздач, дакументаў і калонак лічбаў выпускнік Дзямідаўскага юрыдычнага ліцэя заўсёды спыняўся ля новага касцёла з чырвонай цэглы. Ён разглядаў пакрытыя інеем цагліны, звяртаўся ў думках да Алены і прасіў яе заступіцца перад Стваральнікам за Беларусь. Калі чысцюткія зачараваныя сняжынкі сонна апускаліся на валасы, ён ведаў: Алена пачула яго. Але Людвіку заўсёды турбавала, калі малітва зацягвалася. Казала, што пачынае замярзаць ці што ў Таварыстве іх зачакаліся.

— Ды й у Камітэце мне трэба раней быць, — заенчыла Людвіка.

— Добра, — ціха прамовіў Максім, змрочна разглядаючы, як дагарае папяроса Плаўніка. З тых часоў, як на Рабкораўскай пасяліўся Максім, Самойла ніводнага разу не запаліў у доме.

***

Маленькі сонечны зайчык падскочыў да акна. Пухнаценькі камячок дрыгануў пару разоў вушкамі, прынюхаўся і цікаўна стаў на заднія лапкі. У пакойчыку за акном раскінуўся на ложку малады мужчына, нават не зняўшы боты. Грызун настрыў вушы і, не ўчуўшы небяспекі, прашмыгнуў унутр. Маленькі скок на стол. І яшчэ маленькі скок на фатэль. Зайчаня ўхітрылася падабрацца да чалавечага твару. Прынюхалася. Чыхнула. Чалавек, відавочна, не хацеў звяртаць увагі на гарэзу, закрахцеў, некалькі разоў адмахнуўся і перакуліўся да сцяны.

Пакой вялікі і сумны, ён пах вільгаццю і зямлёй. Падлога пакрылася пылам, са стала звісаў стары абрус, на ім спачываў начнік і збан з вадой, далей выбудавалася чарада зялёна-блакітна-карычневых бутэлечак, за імі прыхавалі тэрмометр, унутры якога выцягнулася даўжэзная чырвоная лінія. Каб хоць крыху развесяліцца, сонечны зайчык прыняўся скакаць па падлозе, сценах, столі.

Максім пацягнуўся і расплюшчыў вочы. Пакой залівала ялцінскае сонца, першае за пяць дзён.

Ён адчыніў чамадан і расклаў яго на падлозе, шукаючы кубак паміж нешматлікай адзежай, сякімі-такімі кнігамі, паперай, атрамантам, насоўкамі… А вось! Наліў вады і вызірнуў праз акно. Сёння будзе добры дзень. Сёння ён зробіць шмат, возьме рэванш за ўсе дні без паперы і алоўка.

Над морам навісалі расхрыстаныя дажджавыя аблокі, з-за якіх хутка пакажацца сонца, яно праб'ецца праз залатыя вокны ў хмарах і падфарбуе сталёвыя хвалі меддзю. Малады курортнік выправіўся чакаць натхненне да мора.

Яму было крыху прахалодна: старое студэнцкае паліто не надта саграваела, а на літасць ветру спадзявацца не выпадала. Апошнім часам не пісалася. Максім прыжмурыўся: святло было празмерна яркім. Але сонечныя промні — гэта карысна. Трэба спажываць іх паболей.

Мора ўздымалася вялікімі хвалямі, яны шыпелі, разбіваліся на белыя пырскі, імкліва заваёўвалі ўвесь пляж і тут жа капітулявалі, бо ім не хапала моцы ўтрымаць тэрыторыю. Наступленні паўтараліся. У паветры адчувалася соль, якая змешвалася з водарамі хваёвых за спінай. І былы студэнт прызямліўся на лаўку ў першай лініі.

Да ног курортніка падкульгаў галубок. Правая лапка ператварылася ў кульцю, пэўна, не вытрымаў зімовых халадоў. Птах круціўся на месцы і прыглядаўся да незнаёмца.

— Што круцішся? Так, скрыдлы ў цябе стракатыя, нібы палітра мастака, — абыякава кінуў Максім галубу. — Не пішацца, браце, не пішацца.

Юнак намацаў у кішэні мяккі скрутак. Некалькі белых камячкоў упала долу.

— Спецыяльна для цябе са сталоўкі прыхапіў.

Галуб забуркаваў, ці тое з удзячнасці, ці тое ад самазахаплення, што звёў небараку на літасць.

— Вось уяўляеш, у снежні мне споўнілася дваццаць пяць гадоў, — вестка пра булку вокамгненна разнеслася па птушыным радыё. — І што ў мяне ёсць? Лебедзі ды вішнёвыя пялёсткі ў галаве!

Галубы прагна дзяўблі крыхі хлеба, пакуль не завіталі ваяўнічыя кагаркі і не разагналі птаства. Малы верабейка падскочыў на лаву, мяркуючы, мо і яму падзяўбці перападзе. Як толькі турыст азірнуўся, птушанятка шуганулася прэч.

— Гэй! — Максім рассмяяўся.

Але смех ператварыўся ў глыбокі кашаль, які распужаў суразмоўцаў. Згорбіўшыся і ўхапіўшыся за лаву, юнак цяжка дыхаў. У грудзях балела, нібы шматкі адрываліся. Максім прыціснуў далонь да рота, баючыся кашлянуць зноў. Пакрысе паветра знайшлося, і прыступ суцішыўся. Максім выпрастаўся і прамовіў:

— Быццам я сам не ведаю, што недаўгавечны. Вы б хоць не нагадвалі! — ён кінуў чарговую порцыю здобных камячкоў, запрашаючы птушак узнавіць вячэру.

На шчоках з'явіліся чырвоныя плямы, галаву быццам уціснулі ў металічны шлем. Максім шчыпаў булку, утаропіўшыся ў зямлю, бо глядзець на святло было балюча.

Сілкавацца вярнуўся галуб з размаляванымі скрыдламі.

— Калісьці лічылася рамантыкай, — ціха вымавіў Максім. — Хвароба мастакоў і паэтаў! Калі паміраў Вадзім, усюды пахла адэкалонам. Пакой прасвяжалі. Рамантыка...

Малады чалавек нахмурыўся.

— А ведаеш, — Максім кінуў галубу да падмерзлай лапкі крышак, — я не гаротны. У мяне кніжка ёсць. Тоненькая такая, але на дзве тысячы экзэмпляраў. Уяўляеш? Так і напішу калі-небудзь: у краіне светлай, дзе я ўміраю, у белым доме ля сіняй бухты, я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты, — Максім насмешліва хмыкнуў. — Ніхто з вас, пэўна, не бываў у тых краях. Мяне і самога выправілі ў выгнанне.

Уладар тоненькай кніжкі раздражнёна стрэс рэшткі булкі з паліто. Вось калі б з'явілася сонейка, пісаць было б нашмат утульней і зручней. Галубы наразалі круг за кругам перад задуменнай постаццю з лёгкай усмешкай, быццам спадару беларусу засталося чым іх пакарміць. Нарэшце, птушкі зразумелі і зляцелі карміцца ў больш спрыяльнае месца. Пакуль незаўважна змярзалі рукі і ногі, Максім гартаў стары сшытак, толькі каб час сышоў хутчэй. Раней бы прывязаўся да якога дзівака, завёў бы з ім гутарку, а яшчэ лепей — туды. Да тых, з кім смяяўся. Калі б пабачылі яго зараз, то адразу б накінулі калматы кажух, які знайшоў спадар Галубок у дэпо вартаўнікоў.

А цікавая ж вандроўка атрымалася! Перавозілі дзяцей з Карпілаўкі ў Ратамку. Шкада, як жа шкада, што школку давялося перадаць у распараджэнне Таццянінскага камітэта. Але Ванда, малайчынка, змагла выбіць навучанне на беларускай мове. Трэба буквар напісаць. Так, ім буквар трэба! Каляровы. З цікавымі вершыкамі. З добрымі прыкладамі з нашай і сусветнай паэзіі…

Максім падскочыў з месца, як толькі сонца пралілося з-пад хмары. Яго вочы зрабіліся бліскучымі, святло балюча рэзала, але як жа прыгожа! На бераг выкінула ільдзіны, і зараз яны, нібы крышталь, выпраменьвалі жоўтыя, чырвоныя, белыя… Буквар — абавязкова! А яшчэ літаратурную хрэстаматыю для дзетак. І даследчыя артыкулы. А як мы марылі, што зладзім лялечны тэатр і будзем вандраваць па Беларусі!

— Рана мне яшчэ! Рана! — крыкнуў ён сонцу.

Твар пабялеў, на ім зноў праступалі чырвоныя плямы. Дыхаў перарывіста, жадаючы набраць як мага больш салёнага паветра. А мабыць, такая блізасць да мора шкодная? У вачах згаралі аблокі.

Хутка узыдуць спрадвечныя зоры, яны суцішаць чалавечую мітусню і марнатраўства. Максім злёгку пакланіўся і выправіўся на Мікалаеўскую, 8. Уначы працуецца лягчэй, лекі выпіць забыў, ды й пагрэцца не пашкодзіць. І правіць вершы. А не, лепш узяцца за буквар, пакуль думка ў галаве біецца.

Раптам ён азірнуўся:

— Я дачакаюся вясны, каб убачыць, як каля мора квітнеюць ружы, як гандляры за пяць капеек прадаюць букеты закаханым, — халодныя промні праціналі выкінутыя на бераг ільдзіны і маўчалі. — Вось толькі вясны дачакаюся. І адразу набуду цэлы пук духмяных руж.

Жадаю вам, паважаныя чытачы «Маладосці» з усіх канцоў Галактыкі, каб новыя трыста шэсцьдзясят пяць дзён аказаліся нашмат лепшымі за тыя, якія мінулі, каб усе перадНавагоднія спадзевы не проста сталі явай, а сама рэальнасць перасягнула самыя смелыя вашы чаканні.

Няхай Новы год — Год Чырвонага Агністага Пеўня па кітайскім гараскопе, Несумнеўнага Поспеху па гараскопе расы Х'мнргр-нгмрг з сузор'я Трох падвойных зорак, Ліса, які крадзецца, — па старажытнарускім, Вярблюда паводле зараастрыйскага — падорыць вам жаданне пакарыць самыя высокія вяршыні, дасць сілы ісці да канца, падзеліцца ўменнем дасягаць самых складаных мэт.

Няхай у новым годзе ваша жыццё напоўніцца мноствам дзіўных сюрпрызаў, няхай кожны дзень у вас з'яўляюцца новыя сябры ва ўсіх населеных сусветах, а старыя — ніколі не забываюць пра шлях да вашай планеты!

Няхай нітка Норнаў будзе для вас, дарагія сябры, бясконцай, а Фартуна палічыць за гонар апекаваць вас. І хай вашым крэда стануць словы Казьмы Пруткова: «Хочаш быць шчаслівым, то будзь ім».

1101000010010111001000001101000010011010110100001011000011010000101110111101000110001111110100001011010011010000101100001101000010111100110100011001011000100001




*Сяргей Белаяр*

Алесь Яфімаў



**нарадзіўся 7 чэрвеня 1991 года ў Міёрах. Магістр філалагічных навук, аспірант БДУ. Чытачу «Маладосці» вядомы па аповесці «Каменная ноч», якую і пісаў пераважна начамі. «Прададзеная споведзь» — твор не менш нечаканы для чытача. Мо нават і больш.**

*Аўтар пра твор*

*«Прададзеная споведзь» — постмадэрнісцкая празаічная гутарка. Тут няма ніякай стылізацыі ці імітацыі, але агульныя рысы цалкам адпавядаюць характарыстыцы адзначанага жанру. Пры гэтым «гутарковае» ядро твора схавана ў шкарлупіне адносна вялікага аўтарскага тэксту і прасякнута скразным сюжэтам, таму завершаны твор выходзіць за межы класічнай гутаркі.*

# Прададзеная споведзь

## *аповесць*

Людзі ў вагоне былі быццам мёртвыя.

Было ўжо позна, першая гадзіна ночы. Пасажыраў у вагоне метро было мала, значная частка сідзячых месцаў заставалася вольнай. Людзі выглядалі даволі стомленымі, многія з іх сядзелі з заплюшчанымі вачыма…

Маявер глядзеў на пасажыраў, што сядзелі насупраць, на процілеглым баку вагона. І раптам яму здалося, што ўсе гэтыя людзі — быццам мёртвыя. Як на пасмяротных фотаздымках, папулярных у XIX стагоддзі. Нябожчыкаў апраналі, як жывых, садзілі ў натуральнай нязмушанай позе ці нават ставілі пры дапамозе спецыяльнага штатыва, грыміравалі і фатаграфавалі. Калі фатаграфавалі ў атачэнні родных, па фотаздымку іншым разам было цяжка заўважыць — хто тут жывы, а хто памерлы. У нябожчыкаў нават былі «жывыя» расплюшчаныя вочы. У адных выпадках гэта быў мантаж, а ў іншых трупам насамрэч расплюшчвалі вочы і апрацоўвалі іх спецыяльным рэчывам, каб тыя не высыхалі і не мутнелі. Маглі нават адрэзаць памерламу павекі, каб толькі ў яго быў жывы пагляд. Зараз гэта многім падаецца жудасным і жахлівым, але такія фотаздымкі рабіліся не для ўслаўлення смерці. Людзі проста імкнуліся захаваць памяць пра сваіх блізкіх, хацелі мець хоць фотаздымак. І калі такія фотаздымкі пры жыцці чалавека, асабліва дзіцяці, рабіць не паспявалі — рабілі іх пасмяротна.

І вось цяпер Маявер ехаў у вагоне метро і яму здавалася, што вакол яго не жывыя, а мёртвыя людзі, якіх ужо пасмяротна апранулі ў паўсядзённае адзенне і рассадзілі па вагоне ў нязмушаных позах. Ад гэтага ўяўлення было жудасна, аднак Маявер разумеў: гэта толькі ўяўленне. Урэшце Маявер падумаў, што ехаць у адным вагоне з сапраўднымі нябожчыкамі было б не так страшна. Жудасна, але не страшна. Бо што могуць нябожчыкі? А вось ад жывых Маявер заўжды адчуваў патэнцыйную небяспеку. Да таго ж выпівох, гопнікаў і проста аматараў «дакалупацца» ў гэтым горадзе ніколі не бракавала. Тым больш зараз была ноч, што павялічвала рызыку сутыкнуцца з не самымі прыемнымі асобамі. Але ўсё было спакойна: людзі ў вагоне былі быццам мёртвыя.

Галава ў Маявера была цяжкая, ён адчуваў слабасць і нават млоснасць, хацелася легчы спаць і адначасова — хутчэй патрапіць на свежае паветра. Маявер прагна ўдыхаў «ветрык», які яго абдавала падчас набыцця вагонам хуткасці. Аднак «ветрык» гэты быў, як заўжды, спёртым і душным і меў характэрны ўстойлівы пах машыннага масла, гару і крэазоту, які апрацоўваюць драўляныя шпалы.

Маявер адчуваў сябе так, быццам ён з пахмелля. Не вельмі моцнага, але ўсё ж заўважнага. Аднак ён не піў і ехаў не з папойкі. Ён ехаў з эксперымента.

## Перапіска

Як і большасць сучасных людзей, Маявер меў акаўнт у сацыяльнай сетцы, нават у некалькіх сацыяльных сетках адначасова, што таксама нярэдкасць. І вось аднойчы яму прыйшла заяўка ў «сябры» ад чалавека, якога звалі Даявед. Сітуацыя, калі ў сацыяльнай сетцы з табой жадае «сябраваць» абсалютна незнаёмы чалавек, з якім у вас нават няма нават агульных «сяброў», досыць тыповая, таму здзіўлення не выклікала. Больш за тое, Маявер лічыў, што праводзіць у такіх выпадках нейкія допыты і роспыты — параноя і дарэмнае марнаванне часу, таму дадаваў усіх без разбору. А пасля, калі новы «сябар» паводзіў сябе неадэкватна, спаміў ці ўвогуле не праяўляў ніякай актыўнасці, ад яго можна было пазбавіцца. Карацей, Маявер дадаў Даяведа ў «сябры» без усялякіх роздумаў. Неўзабаве Даявед даслаў паведамленне:

**Даявед:** «Вітаю! Запрашаю прыняць удзел у эксперыменце па постклінічным выпрабаванні медыцынскага прэпарата ў якасці добраахвотніка. Прэпарат УЖО ПРАЙШОЎ даклінічныя і клінічныя даследаванні, таму мы можам гарантаваць яго бясшкоднасць для здароўя. Кожны добраахвотнік атрымлівае за ўдзел у даследаванні выплату ў памеры *[нядрэнная сума]*.

Усе неабходныя дакументы, якія пацвярджаюць бясшкоднасць прэпарата, законнасць эксперымента і гарантыю выплаты згаданай сумы, прадастаўляюцца добраахвотнікам у абавязковым парадку».

Маявер прачытаў гэтае паведамленне без асаблівага энтузіязму: нярэдка ў інтэрнэце прапануюць лёгкі заробак. Ён быў упэўнены, што гэта чарговы «развод», але яго форма была даволі незвычайнай. Маявер яшчэ раз уважліва перачытаў паведамленне. «Усе неабходныя дакументы прадастаўляюцца добраахвотнікам у абавязковым парадку...» «Развод» насамрэч падаваўся Маяверу вельмі цікавым. Ён падумаў, што законнасць такой дзейнасці няцяжка праверыць, а ў выпадку чаго — можна звярнуцца куды трэба. Вырашыў адказаць жартам:

**Маявер:** «А пазначаная сума — з улікам ПДВ ці не?»
**Даявед:** «Пазначаная сума выдаецца Вам на рукі. Вам толькі трэба падпісаць паперу, што грошы Вы атрымалі (для справаздачы), ніякіх падаткаў з яе выплачваць не трэба.»

Сур'ёзны адказ зацікавіў Маявера, і ён вырашыў працягнуць перапіску ў такім жа сур'ёзным рэчышчы:

**Маявер:** «Калі ў вас ёсць усе дакументы, калі ўсё па законе, адкуль грошы? Як даўно дзяржава плаціць за ўдзел у такіх эксперыментах? І чаму Вы пішаце з асабовага акаўнта, а не ад імя кампаніі? І ўвогуле, з якой пары добраахвотнікаў шукаюць праз сацсеткі?»

**Даявед:** «Мы не дзяржаўная кампанія. У нас ёсць спонсар, які зацікаўлены ў распаўсюджванні прэпарата, грошы — ад яго. Але ніякіх супярэчнасцей няма: даследаванні такога фармату праходзяць строга па законе, гэта цалкам дазваляецца. Яшчэ раз падкрэслю: прэпарат ужо прайшоў даклінічныя і клінічныя выпрабаванні. Ён ужо зарэгістраваны, таму мы можам дакладна сказаць: ніякіх кепскіх наступстваў ад яго не будзе. Аднак для аптымізацыі ўжывання вытворца і спонсар зацікаўленыя ў далейшых выпрабаваннях. Пераканаўшыся ў тым, што прэпарат не шкодзіць здаровым людзям, мы можам праводзіць эксперыменты з вялікім колам добраахвотнікаў. Эксперыменты ўжо праходзяць адначасова ў некалькіх гарадах, таму супрацоўнікі накшталт мяне і выкарыстоўваюць розныя спосабы пошуку добраахвотнікаў, у тым ліку і сацыяльныя сеткі. Кантраляваць усё праз нейкі адзіны цэнтр немэтазгодна і нерэальна. Я адказаў на Вашыя пытанні?»

**Маявер:** «Можна на «ты»… Раз эксперымент ужо праходзіць у розных гарадах з вялікай колькасцю добраахвотнікаў, і кожны атрымлівае пазначаную суму — адкуль столькі грошай?»

**Даявед:** «Прэпарат каштуе даволі дорага, яго рэалізацыя прыносіць неблагі даход. Увогуле, гэта ўнутраныя справы кампаніі, прабач. Дарэчы, да мяне можна таксама на «ты».

**Маявер:** «Яшчэ раз: вы бясплатна раздаяце добраахвотнікам «даволі дарагі», як ты кажаш, прэпарат, а яшчэ даяце грошы «зверху»?

**Даявед:** «Я займаюся пошукам добраахвотнікаў, а не фінансавымі пытаннямі.»

**Маявер:** «Карацей, у чым падвох?»

**Даявед:** «Карацей, няма ніякага падвоху.

Добраахвотнікам можа стаць асоба, старэйшая за 18 гадоў, у якой няма сур'ёзных праблем з сардэчна-сасудзістай і нервовай сістэмай. Але ў любым выпадку мы заключаем дагавор і даем добраахвотніку пакет дакументаў з гарантыяй. Калі раптам што — ён можа прайсці медыцынскае абследаванне за наш кошт. Але яшчэ раз нагадаю: прэпарат прайшоў даклінічныя і клінічныя выпрабаванні, шкодных наступстваў не выяўлена.»

**Маявер:** «Дык а што хоць за прэпарат? Дарэчы, ты сам яго ўжываў?»

**Даявед:** «Для чысціні эксперымента мы не можам раскрыць добраахвотніку прынцып дзеяння прэпарата. Па гэтай жа прычыне я сам, як і іншыя супрацоўнікі, яго не ўжываў. Падрабязная інфармацыя будзе пасля эксперымента. Але павер, там няма нічога шакіруючага і прынцыпова новага».

**Маявер:** «Добра… А што, калі я дашлю скрыншот гэтай перапіскі ў кампетэнтныя органы?»

**Даявед:** «Ды калі ласка. Я ж кажу: у нас усё па законе. Ёсць усе дакументы. Я нават адразу магу адрас напісаць, каб тваім кампетэнтным органам было прасцей нас знайсці. Прыедуць, паперкі паглядзяць і паедуць».

Маявер усур'ёз задумаўся. Ён адчуваў, што нейкі падвох адназначна ёсць. Калі кампанія гатова ахвяраваць вялікія грошы — значыць, яна ўзамен атрымлівае нешта большае. Ды і чаму такая сакрэтнасць? Як увогуле можна прапаноўваць добраахвотнікам невядома што? Як людзі на гэта пагаджаюцца?

Маявер пашукаў у інтэрнэце звесткі пра кампанію Даяведа. Знайшоў. Сапраўды, існуе такая кампанія, мае ліцэнзію. Пра эксперымент ані на сайце, ані ў сеціве ўвогуле — нічога. Сайт абсалютна тыповы, нічога незвычайнага. Пашукаў агульныя звесткі пра постклінічныя выпрабаванні медыцынскіх прэпаратаў. Так, насамрэч такое ёсць. Насамрэч, усё сур'ёзна і патрабуе цэлую кіпу паперак, хоць у гэтай краіне пануючай бюракратыі кіпу паперак патрабуе любая дробязь. Маявер думаў. Перачытаў перапіску, яшчэ раз прагледзеў суму выплаты. Не тое, каб багацце, але больш за траціну яго зарплаты. Хоць зарплата ў яго была так сабе. Аднак Маявер думаў: усё ж лішнімі грошы ніколі не бываюць. Вырашыў удакладніць у Даяведа некаторыя рэчы:

**Маявер:** «Няўжо прэпарат зусім няшкодны?»

**Даявед:** «Перад эксперыментам мы даём добраахвотнікам падрабязную інфармацыю на гэты конт, даём статыстыку. І добраахвотнік вырашае — удзельнічаць яму ў эксперыменце ці не. Ён мае права адмовіцца нават у самы апошні момант. А так магу сказаць, што першыя гадзіны пасля эксперымента могуць адчувацца слабасць, галавакружэнне, санлівасць, млоснасць. Але могуць і не адчувацца. У любым выпадку, прэпарат цалкам выходзіць з арганізма праз дзесяць гадзін пасля прыёму. Пакуль яшчэ ніхто з добраахвотнікаў не звяртаўся да нас пасля эксперымента са скаргамі.»

**Маявер:** «Дык можа яны ўсе памерлі?»

**Даявед:** «Можа, і памерлі. Але дакладна не ад дзеяння нашага прэпарата.

Карацей, мая прапанова будзе дзейнічаць яшчэ як мінімум пару тыдняў. Калі надумаеш — адпішыся».

Маявер па натуры не быў авантурыстам, не любіў прымаць неабдуманых рашэнняў і ўдзельнічаць ва ўсякіх «эксперыментах». Аднак цяпер ён ужо пачаў схіляцца да думкі, што прапанова Даяведа — ўсё ж не «развод»: ніякай інфармацыі пра «разводы» такога кшталту ён не знайшоў. Уважліва прагартаў старонку Даяведа ў сацыяльнай сетцы. Гэта была не «аднадзёнка», а старонка сапраўднага жывога чалавека, якая існавала, што вельмі важна ў такіх выпадках, не першы год. Маявер узважыў усю інфармацыю і ўжо ўсур'ёз думаў прыняць удзел у эксперыменце. Каб канчаткова вырашыцца, ён папрасіў Даяведа даслаць пасведчанне супрацоўніка. Той неўзабаве адаслаў Маяверу адсканаваны дакумент, і справа была вырашана.

Маявер і Даявед пачалі абмяркоўваць зручныя дату і час. Даявед даслаў адрас. Маявер заўважыў, што гэта адрас звычайнай кватэры, аднак Даявед нагадаў: паколькі даследаванні постклінічныя і адбываюцца адначасова ў розных гарадах, эксперымент будзе праходзіць у яго, Даяведа, кватэры. Маявер збянтэжыўся, аднак вырашыў, што гэта, у прынцыпе, лагічна…

## Фармальнасці

У дамоўлены час Маявер прыехаў на патрэбны адрас. Ён хваляваўся, аднак яму ўжо было цікава, што ж гэта за эксперымент і для чаго патрэбны прэпарат, які выпрабоўваюць.

Даявед быў у кватэры, відавочна, адзін. Ён паказаў Маяверу ванную і прыбіральню і запрасіў у пакой. Кватэра была двухпакаёвая: справа ад увахода быў пакой, куды запрасіў яго Даявед, злева — прыбіральня і ванная, за імі — кухня, а непасрэдна насупраць увахода былі дзверы ў, відавочна, спальню Даяведа. Пакой, куды запрасіў яго гаспадар, быў тым, што называюць гасцёўняй ці залай. Яна была адносна прасторнай, дзесьці тры на шэсць, на ўскідку Маявера. Насупраць увахода ў куце стаяў нятанны скураны фатэль, злева ад яго — таршэр, потым канапа — з аднаго з фатэлем набору, а за ёй яшчэ адзін таршэр. За канапай, на прылеглай сцяне быў выхад на лоджыю і акно. Злева ад акна ў куце стаяў яшчэ адзін фатэль — такі ж самы, як і першы. За гэтым фатэлем на штацiве стаяла камера. Перад канапай знаходзіўся невялікі часопісны столік, на якім ляжала тэчка, нейкія

паперы і ручка. Пасярод століка стаяў кандэнсатарны мікрафон, які выклікаў у Маявера асацыяцыі з радыёстанцыяй. Такім чынам, у пакоі было два фатэлі, два таршэры, канапа, столік і апаратура.

Даволі дарагая, але строгая мэбля і адсутнасць якіх-небудзь хатніх дробязей, аднатонныя шпалеры і такое ж аднатоннае дывановае пакрыццё, светадыёдныя лямпы ў нацяжной столі стваралі ўражанне, што гэта не кватэра, а офіс. Маявера вельмі насцярожыла гэтая акалічнасць, бо адна справа, калі супрацоўнік нейкай кампаніі проста працуе ў сябе дома, а іншая, калі жытло гэтага супрацоўніка абсалютна непадобнае да жытла «нармальнага» чалавека. Жыць у «двушцы» і адводзіць цэлы пакой (да таго ж большы) пад патрэбы працы — вельмі вялікая раскоша. Ці няўжо Даявед такі мінімаліст, што ў яго няма патрэбы мець, напрыклад, дадатковую шафу ці яшчэ нешта такое? Чаму на сценах няма фотаздымкаў?..

— Сядай, калі ласка… — Даявед паказаў рукой на канапу.

— Гэта твая кватэра?

— Здымная.

— Як тут усё «па-багатаму», — паспрабаваў пажартаваць Маявер, — нават страшна на такую канапу садзіцца… — ён акуратна сеў, — гэта ад гаспадароў ці твая? Ці ад кампаніі?

Маявер спадзяваўся нейкім чынам справакаваць Даяведа, каб па яго рэакцыі зрабіць пэўныя высновы. Якія менавіта, ён і сам не ведаў, але адчуваў, што кватэра-офіс у сукупнасці з выпрабаваннем сакрэтнага прэпарата — нешта не тое. Тым не менш Даявед без усялякіх эмоцый адказаў: «Гаспадароў» — і сеў побач. Маявера такі адказ не задаволіў, і ён нават хацеў запытаць, колькі каштуе здымаць кватэру з такой мэбляй, але вырашыў, што гэта ўсё ж занадта нетактоўна. Адразу ж яму ў галаву прыйшла думка, што некаторыя кватэры адмыслова здаюцца пад офісы, а Даявед, хутчэй за ўсё, не першы, хто здымае гэтую кватэру. Маявер падумаў, што, магчыма, у гэтай кватэры быў офіс яшчэ за часамі мінулых арандатараў, мэбля па нейкіх прычынах засталася, вось Даявед і вырашыў яе здымаць. Увогуле, Маяверу больш не хацелася быць параноікам і шукаць аргументы на карысць таго, што насамрэч нічога дзіўнага і незвычайнага не адбываецца. Тым часам Даявед адкрыў тэчку і павярнуўся такім чынам, каб Маяверу было як мага зручней у яе глядзець. У тэчцы былі файлы з рознымі дакументамі.

— Ну вось, тут у нас усе дакументы… Праўда, ксеракопіі… Тут доказы таго, што наша кампанія насамрэч існуе, што выпрабаванні адбываюцца ў межах закона і гэтак далей… — Даявед гартаў файлы. — Вось тут звесткі менавіта пра выпрабаванні прэпарата: даклінічныя, клінічныя і крыху пра постклінічныя. — Даявед закрыў тэчку і даў Маяверу. — Вось, можаш вывучаць.

Маявер пачаў павольна гартаць файлы, чытаючы па дыяганалі, — ён цудоўна разумеў, што, калі яму далі гэтую тэчку ў рукі, нічога цікавага ў ёй быць апрыёры не можа: натуральна, што кожная паперка тут пацвярджае законнасць дзеянняў кампаніі, бо ўсе гэтыя дакументы былі сабраны самой кампаніяй, а не кім-небудзь яшчэ. «Рэгістрацыя, ліцэнзія, дазвол, пастанова, заключэнне, справаздача»… Маявер таксама разумеў і тое, што дакументы могуць быць і несапраўднымі, падробленымі. Думка пра тое, што ўсё гэта — «развод», дасканалы і да дробязей прадуманы «развод», не пакідала яго. Аднак ён усур'ёз не хваляваўся, бо адразу, яшчэ падчас перапіскі с Даяведам знайшоў два жалезныя аргументы. Першы заключаўся ў тым, што Даявед дзейнічае адкрыта — калі гэта «развод», то вельмі-вельмі рызыкоўны, наўрад ці сапраўдны злачынец стаў бы так сябе падстаўляць. Другі аргумент быў нават больш аргументны: з Маявера не было чаго браць. Цяжка выцягнуць нешта з чалавека, які не мае ні грошай, ні маёмасці, ні ўплыву, ні нейкіх сакрэтных ведаў. Маяверу нават крэдыт на вялікую суму наўрад ці б далі. Дарэчы, пасля таго, як ён даведаўся, што пашпарт на эксперыменце не патрэбны, асцярога наконт крэдыту канчаткова знікла.

Больш цікавымі Маяверу былі дакументы, якія тычыліся непасрэдна выпрабаванняў прэпарата. Аднак нічога карыснага для сябе ён у іх таксама не знайшоў. Акрамя таго, у некаторых даку-

ментах частка інфармацыі была замазана чорным маркерам: назва прэпарата, прынцып яго дзеяння і г. д. — усё тое, што, па меркаванні кампаніі, магло паўплываць на ход эксперымента. Даявед тлумачыў гэта перастрахоўкай ад эфекту плацэба.

Маявер закрыў тэчку і паклаў яе на столік.

— Ну што, усё добра? Працягваем? — спытаў Даявед.

— Так, — млява адказаў Маявер і паківаў галавой, быццам бы пагадзіўся з нейкай цікавай высновай.

— Добра. Тады зараз запоўнім анкету і падпішам дагавор, — Даявед падсунуў Маяверу паперы і ручку.

Анкета была досыць лаканічнай: імя, пол, узрост, пытанні пра агульны стан здароўя і наяўнасць/адсутнасць хранічных захворванняў, пра псіхічныя захворванні і траўмы галавы. Пасля таго, як Маявер перадаў Даяведу запоўненую анкету, той хуценька яе праверыў, адклаў убок і даў новыя паперкі:

— Вось гэта дагавор, самае галоўнае. Прачытай уважліва, каб потым не было пытанняў. Калі ўсё зразумела — запаўняй і падпісвай.

Маявер пачаў чытаць тэкст дагавора. У ім вялася гаворка пра тое, што паддоследны пагадзіўся на выпрабаванні добраахвотна і без прымусу, азнаёміўся з усімі прапанаванымі дакументамі і правільна запоўніў анкету, за што браў на сябе ўсю адказнасць. Іншы бок браў на сябе абавязак выплаціць абумоўленую суму пасля экперымента, а таксама правесці медыцынскае абследаванне і пры неабходнасці за свой кошт аказаць добраахвотніку медыцынскія паслугі ў выпадку звароту апошняга па прычыне пабочных дзеянняў прэпарата. Таксама ў дагаворы прапісвалася, што аўдыё- і відэаматэрыялы з эксперымента будуць выкарыстоўвацца выключна супрацоўнікамі кампаніі, а іх распаўсюд і публікацыя ў вольным доступе забараняюцца. Ніякіх «зорачак» і дробнага шрыфту ў дагаворы не было. Маявер задаволіўся тым, што ў дакуменце гарантавалася бяспечнасць прэпарата і выплата грошай за ўдзел у эксперыменце, таму ён запоўніў і падпісаў паперы.

Даявед сабраў падпісаныя Маяверам дакументы, пакінуўшы таму копію дагавора, і спытаў:

— Ну што, пачынаем?

— Пачынаем, напэўна…

Даявед уключыў камеру і мікрафон, узяў тэчку і дакументы:

— Зараз я дам знак — скажы што-небудзь спакойным голасам, як ты заўсёды размаўляеш, — праверым гук.

Праз некалькі секунд ён гучна вымавіў з другога пакою «Давай!». Маявер не прыдумаў нічога лепшага, чым сказаць:

— Раз-раз… Як чутна?.. Прыём?..

— Пахадзі па пакоі, паразмаўляй у кутах.

— Вось я падняўся… Вось я іду, іду… Вось я стаю ў куце… Як чутна? Вось я іду ў другі канец пакоя… Як чутна?.. Прыём?..

— Добра, сядай!

Даявед выйшаў з іншага пакою, пайшоў на кухню. Неўзабаве вярнуўся з далёка не поўнай шклянкай вады і маленькім слоічкам.

— Ну ўсё, апошні рубеж. Не перадумаў?

— Не…

— Ну, добра, — Даявед адкрыў слоічак і асцярожна вытрас адтуль адну авальную таблетку. — Папрашу адключыць тэлефон, каб ён не перашкаджаў, — раптам хто патэлефануе...

Маявер дастаў з кішэні тэлефон і паслухмяна адключыў яго.

— Калі трэба — схадзі ў прыбіральню. Падчас эксперымента ў ванную і прыбіральню хадзіць не забараняецца, але лепш зараз. На кухню і ў іншы пакой — нельга. Калі што спатрэбіцца — проста скажы.

— Добра… Пакуль не трэба…

— Тады паехалі... Таблетку глытаць. Запіваць усёй вадой неабавязкова, пі, колькі трэба... Будзь у зоне бачнасці камеры.

Маявер узяў таблетку, закінуў яе ў рот і праглынуў. Ніякага смаку і паху адчуць не паспеў — таблетка не была ні горкай, ні салодкай і не смярдзела лекамі: яна была ніякай. Маявер зрабіў некалькі глыткоў, паставіў шклянку, у якой вады засталося прыкладна на чвэрць ад усяго аб'ёму, на столік і сеў ямчэй, адкінуўшыся на мяккую спінку канапы. Даявед зірнуў на наручны гадзіннік: эксперымент пачаўся.

— Ну, цяпер я цябе пакідаю, — Даявед хлопнуў сябе па калене і ўстаў з канапы. — Не сумуй, — ён усміхнуўся і выйшаў з пакою.

## Эксперымент

Маявер застаўся ў пакоі адзін. На стале перад ім стаяў мікрафон «з радыёстанцыі», а з кута назірала шкляное вока відэакамеры. Наяўнасць апаратуры яго скоўвала і не дазваляла цалкам расслабіцца. Маявер злавіў сябе на думцы, што і сам факт эксперымента, і ўся гэтая сітуацыя трымае ў напрузе і не дазваляе паводзіць сябе цалкам натуральна, аднак менавіта апаратура значна ўзмацняе гэтую напружанасць.

«Добраахвотніку нават не тлумачаць прынцып дзеяння прэпарата… Для «чысціні эксперымента»… Але пры гэтым ставяць камеру і мікрафон… Хіба гэты фактар не ўплывае на «чысціню эксперымента»?.. Нейк дзіўна… Выпрабаванні постклінічныя, але фактычна адбываюцца ў лабараторных умовах… Гэта ж ненатуральнае асяроддзе паддоследнага… Як яны ўлічваюць гэты фактар пры аналізе даследавання?..»

Маявер разважаў над гэтай акалічнасцю і чакаў, калі пачне адчувацца дзеянне прэпарата. Пры гэтым пакуль нічога не адбывалася, ніякага эфекту ён не назіраў.

«Звычайна медыцынскія прэпараты пачынаюць дзейнічаць прыкладна праз паўгадзіны пасля ўжывання… Пачакаем…»

Ён згадаў, як аднойчы на вечарыне адзін хлопец частаваў усіх «траўкай». Маявер тады паспрабаваў яе ўпершыню, але ніякага эфекту не заўважыў. І «бывалыя» растлумачылі яму цікавы феномен: яны сказалі, што, калі чалавек спрабуе «траву» першы раз, звычайна ён настолькі засяроджаны на чаканні «прыходу», што гэты самы «прыход» можа і не адбыцца. Увогуле, «трава» ж не сінтэтычны наркотык і па мазгах занадта не б'е, пару чарак гарэлкі ствараюць больш заўважнае ўздзеянне, пры гэтым незалежна ад таго, чакае чалавек гэтага ўздзеяння ці не. Кантраляваць ап'яненне практычна немагчыма, у той час як расслабляльны эфект «травы» лёгка перабіць засяроджаннем на чаканні гэтага эфекту. Тым больш калі чакаць ад пары зацягаў яскравых галюцынацый, эйфарыі або нечага такога. «Трава» ўсё ж не экстазі, а ўласна трава. Урэшце, цалкам легальны кальян расслабляў Маявера куды лепш, чым нелегальная марыхуана.

Гэты эпізод, які ўсплыў у памяці Маявера, навёў на думку аб тым, што ўмовы эксперымента ўсё ж не спрыяюць яго чысціні. Так, Маявер не ведаў, што канкрэтна ён выпіў, аднак ведаў, што выпіў нешта, што павінна мець эфект. А эфект пакуль ніяк не праяўляўся, і Маявер усур'ёз лічыў, што нічога не адбываецца менавіта таму, што ён — паддоследны — нечага чакае. Але разам з тым Маявер разумеў, што пакуль прайшло вельмі мала часу, каб рабіць шмат якія высновы.

Згаданы эпізод з марыхуанай навёў Маявера і на думку аб тым, што прэпарат, магчыма, з'яўляецца псіхатропам: нездарма ж пры апытанні добраахвотнікаў рабіўся акцэнт на стан цэнтральнай нервовай сістэмы…

«Я чамусьці думаў, што гэта снатворнае… Але камера і мікрафон… Ну, хай сабе камера — навошта такі вялікі мікрафон, калі я буду спаць?.. Значыць, не снатворнае… Ды і спаць зусім не хочац-

ца…Чаму не было кантрольных аналізаў? З чым будуць параўноўваць вынікі эксперымента?.. Якім чынам?.. Калі не было кантрольных аналізаў, значыць, параўнання не будзе… Значыць, насамрэч псіхатроп… Параўнання няма, але ёсць камера і мікрафон… Яны чакаюць змен маіх паводзін… — Маявер пачаў хвалявацца, але знешне захоўваў спакой. — А што, калі гэта наркотык?.. Але ж, калі гэта наркотык, які ўплывае на паводзіны чалавека, праводзіць эксперымент у такіх умовах небяспечна… Калі я стану агрэсіўным, ці зможа Даявед даць мне рады? А што, калі я паламаю апаратуру ці выкінуся ў акно?.. А можа, у кватэры ёсць яшчэ нехта?.. — Маявер ужо сур'ёзна нерваваўся. — З іншага боку, калі прэпарат зробіць мяне не агрэсіўным, а, наадварот, кволым і слабым, навошта тады мікрафон?.. Навошта мікрафон?.. Я буду нешта казаць?.. У мяне будзе трызненне або галюцынацыі?..»

У той жа час ніякага эфекту Маявер па-ранейшаму не адчуваў.

«А што, калі гэта насамрэч не выпрабаванні прэпарата, а сацыяльны эксперымент? Што, калі таблетка — крухмал і цукар, а сэнс эксперымента ў тым, каб прааналізаваць паводзіны чалавека, які быццам бы выпрабоўвае невядомы прэпарат?.. Так, так… Гэта падаецца лагічным… — Маявер крыху ўзбадзёрыўся. — Гэта шмат што тлумачыць… Няма рэальнай рызыкі для здароўя, таму аналізы добраахвотнікаў браць неабавязкова… Дзеянне прэпарата не апісваюць, каб добраахвотнік сам яго прыдумаў… А насамрэч ніякага дзеяння ўвогуле няма… Пакуль усё сыходзіцца… Але вось затраты… Эксперымент атрымліваецца занадта дарагім… Калі прэпарат сапраўдны — выдаткі пакрываюцца, як тлумачыў Даявед, яго рэалізацыяй… А калі насамрэч прэпарату не існуе — адкуль грошы?.. Хто б стаў спансіраваць сацыяльны эксперымент такога кшталту?.. Так, добра… Версія пакуль самая рэалістычная, але ёсць сур'ёзная хіба… Пачакаем… А што, калі эксперымент праводзіць замежная кампанія? Для іх гэтыя грошы — дробязь, праводзіць эксперымент у нас танней, чым на Захадзе…»

Маявер узрадаваўся: яму падалося, што ён разгадаў загадку гэтага эксперымента. Пазл быў складзены, усё здавалася лагічным і цяпер ужо відавочным. Маявер быў упэўнены калі не на сто, то прынамсі на дзевяноста адсоткаў, што зрабіў правільныя высновы. Яго версія выдатна суадносілася з усёй гэтай сітуацыяй і давала адказы на шэраг пытанняў: эксперымент не медыцынскі, а сацыяльны; яго мэта — прасачыць за паводзінамі добраахвотнікаў, якія прынялі пустышку, але думаюць, што гэта быў нейкі медыцынскі прэпарат, каб высветліць, якое дзеянне гэтага прэпарата яны самі сабе прыдумаюць; грошы — замежныя, бо тут праводзіць эксперымент танней, чым на Захадзе. З гэтага вынікала, чаму не было кантрольных аналізаў; чаму эксперыментатар не патрабаваў сапраўдных медыцынскіх даведак, а задаволіўся толькі анкетай; навошта патрэбныя камера і мікрафон. Маявер быў вельмі задаволены сабой і сваім «адкрыццём», аднак вырашыў нічога не казаць і нічога не рабіць:

«Тыя грошы, якія мне заплацяць пасля эксперымента, не вартыя таго, каб я тут ладзіў цырк і забаўляў эксперыментатараў. Буду сядзець ціхенька і маўчаць, а ўрэшце скажу, што нічога не адчуваў і ніякага эфекту не заўважыў. Хацелі цікавага відовішча, хацелі «пасцябацца» — хрэн ім!.. Пару гадзін цішыні і абсалютна нуднага відовішча таго, як чалавек сядзіць на канапе…»

Маявер быў задаволены і лёгка пасміхаўся. Ён сядзеў на шыкоўнай скураной канапе, разглядаючы мікрафон «з радыёстанцыі», адчуваў сябе ўжо спакойна і ўтульна.

«Напэўна, самыя лёгкія грошы ў маім жыцці — проста сядзіш і нічога не робіш, а табе за гэта плацяць, як за тыдзень на працы. Заўжды б так…»

Ён прасядзеў так некалькі хвілін, проста разглядаючы мікрафон, столік, падлогу, уласныя шкарпэткі і ні аб чым не думаючы.

«Цікава: няўжо астатнія паддоследныя не прыйшлі да такой жа самай высновы? Не верыцца, што я самы разумны, павінны былі прыйсці. Хоць бы частка… А калі нават і не прыйшлі — што яны рабілі? Як сябе паводзілі? Няўжо рабілі нешта цікавае і незвычайнае? Няўжо матэрыялы такога экс-

перымента ўвогуле маюць пэўную цікавасць?.. Ну, добра — апытанне пасля эксперымента, маўляў, што вы адчувалі і гэтак далей… Але ж камера і мікрафон… Няўжо астатнія дэманстравалі нейкі экшн?.. Апытання павінна быць дастаткова… Увогуле, калі я насамрэч правільна ўсё зразумеў, гэты эксперымент было б больш мэтазгодна праводзіць у хатніх умовах… Рабіць гэта ўсё тут варта толькі для таго, каб упэўніцца, што паддоследны выпіў таблетку… Але ж, калі праводзіць эксперымент у хатніх умовах, паддоследных можна было б крыху прыстрашыць — сказаць: потым у вас будзе ўзята кроў на аналіз, які дасць зразумець, пілі вы таблетку ці не. І калі не — вам ніхто грошай не дасць… Навошта так усё ўскладняць?..»

Маявер зразумеў, што яго гіпотэза адносна эксперымента можа быць памылковай. Аднак яму хацелася верыць у тое, што ён разважаў правільна і прэпарат ніякага дзеяння не мае і мець не можа. Так ці інакш Маявер ужо прыгрэўся на канапе, супакоіўся і расслабіўся. Ён не хацеў прымаць трывожныя думкі наконт эксперымента і наконт чаго-небудзь увогуле.

Хвілін праз пятнаццаць пасля таго, як Маявер праглынуў таблетку, у пакой зайшоў Даявед.

— Ну, як справы?

Маявер насцярожыўся, бо лічыў, што да канца эксперымента ніхто ў пакой уваходзіць не будзе. Ён сеў раўней, перастаўшы абапірацца на спінку канапы:

— Нармальна…

— Як самаадчуванне? Заўважыў якія-небудзь змены?

— Не, нічога…

Раптам у Маявера ўзнікла нечаканая і шакіруючая думка:

«Гей-бомба! Што, калі прэпарат — гей-бомба? Пентагон займаўся распрацоўкай хімічнай нелегальнай зброі: хімікаты скідваюцца на варожыя войскі і стымулюць гомасексуальныя паводзіны… І салдатам ужо не да вайны і не да ворага… Такая зброя дакладна распрацоўвалася, але пасля скандалу праграму закрылі… А што калі не закрылі і яна працягваецца вось такімі эксперыментамі?.. Божа мой! Я не гей, я не гей, я настолькі не гей, што нават не гамафоб!.. Цыцкі-цыцкі-цыцкі! Думаць пра цыцкі, старыя добр… Так! Не-не-не, не старыя — маладыя добрыя жаночыя цыцкі…»

— Устань і прайдзіся, — сказаў Даявед.

— А? — Маявер быў вельмі заглыблены ў сваю свежую думку, але градус напружання крыху збіла тая акалічнасць, што ён хацеў думаць пра «старыя добрыя цыцкі».

— Устань і прайдзіся.

Маявер устаў з канапы, зрабіў некалькі крокаў.

— Галава не кружыцца?

— Не, здаецца, што не.

Пры гэтым Маявер заўважыў, што адчувае нейкую лёгкасць, быццам бы выпіў крыху алкаголю. Гэта яго здзівіла, бо, пакуль ён сядзеў, насамрэч ніякага эфекту не заўважаў. Думка пра гей-бомбу адразу ж здалася яму вялікім глупствам. Маяверу было адначасова смешна і сорамна ад таго, што ён увогуле пра такое падумаў. Ён адчуў, як яго твар пачырванеў і стала горача, і звязаў гэтую акалічнасць менавіта з брыдкай думкай.

— Ну, добра, можаш сядаць, — Даявед сказаў гэта так, быццам і не чакаў іншага адказу, і паглядзеў на гадзіннік на руцэ.

## Што было раней: дабро ці зло?

— Ніколі не размаўляйце з незнаёмымі, — сказаў Даявед і паглядзеў на Маявера.

Павісла паўза. Маявер нічога не адказаў і глядзеў на Даяведа, разумеючы, што гэтая фраза не з'яўляецца самастойнай — павінен быць нейкі працяг. І насамрэч Даявед пасміхнуўся і працягнуў:

— Так Булгакаў назваў першую главу «Майстра і Маргарыты»… Але якім чынам заводзіць новыя знаёмствы, калі не размаўляць з незнаёмымі?

— Лагічна…

Маявер быў досыць замкнёным і некамунікабельным чалавекам. Звычайна кампанія незнаёмых людзей напружвала і скоўвала яго. Але гэтым разам побач з фактычна чужым чалавекам Маявер надзіва хутка супакоіўся і разняволіўся, быццам пасля пляшкі піва. Ён ужо забыўся на свае гіпотэзы адносна эксперымента і нават не спрабаваў разважаць, навошта Даявед увогуле зайшоў да яго ў пакой, калі ўсё і так здымалася на камеру. Маявер зрабіў выснову, што Даяведу сумна і ён проста хоча паразмаўляць. Увогуле, самому Маяверу таксама было не зусім цікава сядзець у самоце рэшту часу, адведзенага на эксперымент, таму ён нават узрадаваўся, што будзе гутарыць з жывым чалавекам замест таго, каб разглядаць інтэр'еры пакоя ці ўласныя шкарпэткі.

Акрамя таго, Маявер падумаў, што размаўляць з незнаёмцам іншым часам больш лёгка і прыемна, чым нават з блізкім сябрам. Бо толькі з незнаёмцам можна весці «свецкую гутарку» — з сябрамі і знаёмымі ўсё звычайна «скатваецца» ў празаічныя тэмы быту і нейкіх праблем. І, як пісаў Кастанеда, чым больш людзі, якія вас акаляюць, ведаюць, што вы сабой уяўляеце і чаго ад вас варта чакаць, тым мацней гэта абмяжоўвае вашу свабоду… Разам з блізкім нярэдка больш прыемна проста памаўчаць. А побач з незнаёмым маўчаць неяк няёмка, таму лепш паспрабаваць завесці гэтую самую «свецкую гутарку». І хоць сам Маявер звычайна такіх гутарак не пачынаў, цяпер яму было нават прыемна паразмаўляць з Даяведам.

— Чытаў? — спытаўся Даявед.

— Не… Я ўвогуле мала чытаю мастацкай літаратуры… Але ведаю ў агульных рысах… Я памятаю, што там у якасці эпіграфа ўрывак з «Фауста» Гётэ: « — Хто ты? — Я частка той сілы, якая заўжды прагне зла, але заўжды стварае дабро»… Ну, ці неяк так. І ведаю, што Булгакаў быццам бы паказаў Воланда амаль як станоўчага персанажа. Гэта даволі цікава, бо аднойчы я задумаўся: а што ў людской свядомасці з'явілася раней — Бог ці Д'ябал? У сэнсе, добры пачатак ці злы?..

Маявер паглядзеў на Даяведа і працягнуў сваю думку:

— Ведаеш, як кажуць: «чорт паблытаў»? Насамрэч, гэта ж ніякі не чорт — гэта ты сам зрабіў нейкую лухту… І вось я, напрыклад, ніколі не чуў, каб чалавек зрабіў нешта добрае, і сказаў «Бог наставіў»… Маўляў, гэта не я такі малайчына, гэта ўсё — і так асцярожна пальцам у неба — Ён. Не, магчыма, у пэўным асяродку якія-небудзь рэлігійныя фанатыкі так і робяць, магчыма, гэта было модным у якія-небудзь сярэдневяковыя ці барочныя часы, але звычайныя сярэднестатыстычныя людзі сёння так не кажуць. У лепшым выпадку могуць сказаць «з Божай дапамогай» ці «з Божай літасці», ці нешта такое, маўляў, Бог — так, на падхваце, а ўсю асноўную працу зрабіў я сам. А вось калі ўчынак дрэнны, дык адразу ж — «чорт паблытаў». Вельмі зручна… Дык вось, хто яго ведае, магчыма, тысячы год таму менавіта так і ўзнікла вера ў нейкія звышсілы. Напрыклад, не вельмі сумленны прадстаўнік старажытнага грамадства ў адну зяпу сажраў агульны запас ежы ці зрабіў яшчэ нешта падобнае. Астатнія за такую справу вырашылі сжэрці яго самога, злыя, абступілі «пацука» з дзідамі, а ён і кажа — «Гэта не я!». А злыя і галодныя людзі ў адказ: «Што ты, псячая морда, брэшаш? Вунь, у цябе яшчэ ўвесь твар нашай ежай запэцканы!». А гэты несумленны, але хітры і знаходлівы чалавек адказвае: «Дык гэта ўсё злы дух! Я з ім змагаўся-змагаўся, ды ён мацнейшы: засяліўся ў мяне і з'еў усе нашы запасы!». Ну, не проста так, канечне, а больш прыгожа і пераканаўча. З іншага боку, калі б людзі паверылі ў яго байку, яны маглі б забіць гэтага чалавека ўжо не за ежу, а за сувязь са злымі духамі. Але маглі б і абраць якім-небудзь шаманам ці аракулам. Гэта ўжо значна пазней нехта разумны здагадаўся назваць абжорства і іншыя тыповыя хібы чалавека «грахамі», каб у рэшце рэшт перакласці адказнасць за іх на ўласна чалавека, а не на нейкага абстрактнага «чорта»… Таму, хто яго ведае, магчыма, у чалавечай культуры, міфалогіі і гэтак далей адмоўныя персанажы з'явіліся раней за станоўчых…

— Цікавая тэорыя…

— Але ж я не кажу пра тых істот, якіх лічылі багамі — стваральнікамі Свету. Здаецца, яны заўсёды былі досыць абстрактнымі. Затое ўсе тыя «духі», «дэманы» і іншыя, якія быццам бы маглі ўзаемадзейнічаць з жывымі людзьмі, былі больш канкрэтнымі… Магчыма, пакуль прыродныя з'явы «спісваліся» на багоў, асаблівасці чалавечых паводзін, якія выступалі за межы нейкіх норм, «спісваліся» на духаў ці дэманаў, ці яшчэ нешта такое…

— Ну, дык так і ёсць. У Сакрата было паняцце «даймоній», якое абазначала «ўнутраны голас» і тое, што ў наш час называецца сумленнем. Іншымі словамі, тады гэта паняцце мела станоўчую канатацыю…

— Значыць, цёмныя сілы ў самім чалавеку перамаглі. Увогуле, здаецца паказальным, што злых духаў пералічыць значна прасцей, чым добрых. У міфалогіі, фальклоры. Я нават зараз ніводнага станоўчага духа і не згадаю… Вось і ўся сутнасць чалавечай натуры: як зрабіў нешта мала-мальскі станоўчае — адразу я, а як зрабіў нешта кепскае — не я. Нехта іншы, у крайнім выпадку — злы дух. Даказаць немагчыма, але і абвергнуць таксама. Вельмі зручна… Дарэчы, цікавая акалічнасць: у тытуле манарха звычайна пазначалася «З Божай міласці» ці нешта такое… Маўляў, я не проста так манарх, а «з Божай міласці»… Хоць невядома якім чынам ён стаў манархам. Нямала ж выпадкаў, калі чалавек прыходзіў да ўлады праз разнастайныя злачынствы, нават забойствы. Забіў чалавека — «чорт паблытаў». Забіў чалавека і праз гэта стаў манархам — «з Божай міласці кароль», «памазаннік Божы»…

— Ну, дык звычайная рэч. Народу патрэбны вобраз станоўчага лідара…

— Народу патрэбны станоўчы лідар, а не вобраз, не?

— О-о-о… Ну, ты захацеў. Перамагае больш моцны, а не больш станоўчы. Стварыць вобраз станоўчага лідара значна прасцей, чым прывесці да ўлады сумленнага і шчырага чалавека. А так — бярэш любога, хоць нават бандыта, падключаеш адміністратыўны рэсурс, грошы, каманду добрых піяршчыкаў — і станоўчы вобраз будзе гатовы. Бо галоўнае не тое, кім насамрэч з'яўляецца лідар, галоўнае — як яго ўспрымае народ… Можна вярнуцца да таго ж эпіграфа з «Фауста»: калі нават чалавек першапачаткова прагнуў улады, грошай, асабістых бонусаў ці нечага такога, што ў дадзеным кантэксце можна назваць «злом», для захавання ўлады яму ў любым выпадку будзе неабходна ствараць «дабро».

— Ага, асабліва ў першы тэрмін і перад выбарамі.

— Я табе так скажу: сярод уладароў мала насамрэч мудрых людзей, бо насамрэч мудрыя людзі не прагнуць улады. Так усюды заўжды было, ёсць і будзе. Вось і ўсё. Разумныя, прагматычныя, нават адносна шчырыя і сумленныя — так, але не мудрыя.

— А што такое мудрасць?

— А халера яе ведае.

— Мудра… Але ж чалавецтва дайшло да рэспублікі, да дэмакратыі. Каб мудрыя людзі «знізу» маглі ўплываць на ўладу… Хоць некаторыя і не дайшлі…

— Ведаеш, ва ўсякіх прытчах і байках мудрацы заўжды знаходзяцца дзесьці адасоблена ад грамадства, у нейкіх гарах, напрыклад… Я думаю, што ў рэальнасці яны таксама адасобленыя, хоць не фізічна, але сацыяльна ці яшчэ як-небудзь. Менавіта таму, што мудрыя…

## Пра грамадства

— Дарэчы… Пра дабро, зло і рэспубліку, — Маявер дэманстратыўна ўзняў кулак. — Вось хрысціянства — адна з галоўных рэлігій свету, ёй амаль дзве тысячы гадоў, — Маявер адтапырыў вялікі палец. — Хрысціянскіх краін даволі шмат, — адтапырыў указальны палец. — Галоўныя запаветы Хрыста: любі Бога і любі бліжняга свайго. Я разумею, у які час мы жывем, таму ў гэтым кантэксце першы запавет апусцім. А запавет «любіць бліжняга свайго» — выдатны падмурак для, скажам так, свецкай этыкі. Згодны?

Даявед становуча кіўнуў. Маявер адтапырыў сярэдні палец:

— Тры тэзісы, — Маявер трасануў рукой з адтапыранымі пальцамі, як быццам імкнуўся замацаваць сваё сцвярджэнне гэтым жэстам, пасля чаго апусціў руку. — І вось, наколькі я ведаю, за гэтыя амаль дзве тысячы гадоў ніводная хрысціянская краіна не зрабіла сваёй, так бы мовіць, дзяржаўнай ідэяй любоў чалавека да бліжняга. Я ведаю пра крыжовыя паходы, пра інквізіцыю, якія прыкрываліся хрысціянствам… А вось грамадства, пабудаванае на запавеце самога Хрыста, я не ведаю… У наш час у свецкіх дзяржавах рэлігія адышла на другі план, затое існуе паняцце свецкай этыкі. Добра, але ж запавет «любіць бліжняга», відавочна, знаходзіцца ў аснове і свецкай этыкі, і гуманізму ўвогуле. Але што мы маем насамрэч? Свецкая этыка фактычна не адпавядае таму, аб чым казаў Хрыстос. Бо яна заўжды падзяляе людзей на катэгорыі. Свецкая этыка вучыць быць прыкладам для малых — проста таму, што яны малыя; шанаваць старых — проста таму, што яны старыя; саступаць жанчынам — проста таму, што яны жанчыны (хоць у наш час гэта ўжо неактуальна). Ну, і гэтак далей… Быць талерантным да ўсялякіх меншасцей — проста таму, што яны меншасці… І гэта прапагандуецца, выкладаецца ў школах, гэтаму бацькі вучаць дзяцей у сем'ях. Але ўсё гэта падзяляе людзей на катэгорыі. І фраза пра тое, што ў наш час найбольш дыскрэдытуюцца белыя мужчыны-натуралы, ужо не выглядае смешнай… Аднак я не пра гэта. Я пра тое, што, наколькі мне вядома, нідзе не вучаць і не прапагандуюць проста любіць усіх людзей. Ніхто не стварыў на гэтым тэзісе паўнавартасную ідэалогію. Так, чалавечае жыццё фармальна прызнаецца найвышэйшай каштоўнасцю, што замацавана ў розных статутах, але гэта не тое. Бо, папершае, фармальна, а па-другое — размова не пра любоў… І я лічу, уся справа ў тым, што падзяляць людзей на розныя групы, — проста выгадна. Бо ў рэшце рэшт атрымліваецца падзел свой/чужы… А далей — падзяляй і ўладар. І па-ранейшаму чалавек чалавеку не брат, а воўк. Сацыяльны дарвінізм не проста захоўваецца, ён культывуецца, таму што на гэтым трымаюцца ўсе іерархіі, і ў рэшце рэшт — дзяржава. Бо чым больш будзе груп і катэгорый у грамадстве, тым больш разрозненым яно будзе. Прадстаўнікі такога грамадства будуць удзельнічаць у бясконцай мышынай валтузні паміж сабой, бо кожны чалавек адначасова адносіцца да некалькіх сацыяльных груп, і знайсці абсалютнага, скажам так, пабраціма ў такім грамадстве вельмі цяжка. І нават калі такія людзі знойдуцца, раптам можа высветліцца, што ў аднаго — Apple, а ў іншага —Samsung… Разумееш? Карпарацыі і культ спажывання таксама спрыяюць падзелу грамадства. А ў той жа час любая дзяржава з'яўляецца амаль манолітам, бо ў яе ёсць моцны шкілет з прапісаных правілаў.

— Ой, ну гэта нейкая тэорыя змовы. Відавочна ж, што ў людзей ад прыроды ёсць схільнасць падзяляцца на катэгорыі, утвараць іерархіі і ўсякае такое…

— Калі з грамадствам добра «папрацаваць», яго можна змяніць. Згадаць хоць бы камунізм, нацызм, культ асобы і шмат чаго іншага. Сам жа казаў: адміністратыўны рэсурс плюс грошы плюс каманда добрых піяршчыкаў… Калі б такім чынам культываваць любоў да бліжняга — можа вынік і быў бы. Але асабіста я прыкладаў такога кшталту ў гісторыі не ведаю.

— Не, тут справа ў тым, што камунізм, нацызм, культ асобы, усякія секты і гэтак далей трымаліся на нейкім ідэальным вобразе. У рэальнасці не быў пабудаваны Тысячагадовы Рэйх, не быў пабудаваны сапраўдны камунізм… Культавыя асобы былі далёкімі ад «простага» народа і з'яўляліся вобразамі, пра якія я казаў. А бліжні — не ідэальны, а рэальны. Са шматлікімі хібамі і мінусамі.

— Але ж людзі любяць родных і сяброў? А яны таксама не ідэальныя, таксама з хібамі і мінусамі. Думаю, што ўсё ж справа ў дэфініцыі свой/чужы… А што тычыцца грамадства — ёсць жа, напрыклад, амішы. Было б цікава паглядзець, як бы яны жылі, калі б мелі сваю незалежную дзяржаву.

— Ну, у амішаў таксама ёсць раздзяленне свой/чужы. Хто не аміш, хоць нават таксама хрысціянін, — чужы… Так, цікава было б паглядзець на дзяржаву амішаў. Думаю, у наш час такая

дзяржава тэарэтычна магла б з'явіцца. У сэнсе, у ранейшыя часы гэта было ў прынцыпе немагчыма, бо яе хутка б знішчылі больш ваяўнічыя суседзі… Але ўвогуле, нездарма некаторыя кажуць, што жыццё — гэта вайна, вайна ў глабальным сэнсе: кожнага асобнага чалавека са светам. І я лічу, што ў гэтай вайне не бывае саюзнікаў, бываюць толькі тыя, хто пэўны час страляе ў той жа бок, што і ты… Незаўважна мы перайшлі ад літаратуры да вайны.

Маявер моўчкі паківаў, разумеючы, што гэта не проста канстатацыя факта. І насамрэч Даявед неўзабаве працягнуў:

— Вось ты кажаш, што мала чытаеш. Але ці ёсць у цябе любімы твор? Любімы пісьменнік?

— Не… Любімых няма… — Маявер заўважыў, што яшчэ некалькі хвілін таму радаваўся перспектыве паўдзельнічаць у «свецкай гутарцы», але цяпер у яго ўжо не было што сказаць па такой «свецкай» тэме, як літаратура.

Тым не менш ён разумеў, што яго ўжо крыху «панесла», — папярэднія маналогі пра дабро, зло, Бога і ідэальнае грамадства маглі здавацца суразмоўцы недарэчнымі і нейкімі дзіўнымі. А фразу пра незаўважны пераход ад літаратуры да вайны Маявер успрыняў як празрысты намёк на тое, што лепш размаўляць менавіта пра літаратуру. Таму ён вырашыў паспрабаваць весці гутарку ў адпаведнасці з фарматам, які, на яго погляд, імкнуўся навязаць Даявед. Бо той быў гаспадаром кватэры, у якой сам Маявер быў толькі госцем.

## Зімовы шлях

Крыху падумаўшы, Маявер сказаў:

—…Але ёсць творы, якія моцна ўразілі… Магчыма, нават аказалі нейкі ўплыў… Вось, напрыклад, мяне вельмі моцна ўразіў цыкл песень «Зімовы шлях» на музыку Шуберта. Ты ведаеш?

— Не, я не аматар класічнай музыкі…

— Вершы напісаў нямецкі паэт… як жа яго прозвішча… Мюлер! Так, здаецца, Мюлер… Але цыкл стаў знакаміты менавіта ў якасці песень, ужо як музычны твор… Карацей, адносна ўласна літаратуры прыклад, магчыма, так сабе, але ўсё ж. Сам Шуберт назваў яго «вянок жудасных песень»… І сапраўды, на мой погляд, гэта самы трагічны твор у свеце. Ніякія «Рамэа і Джульета» і побач не стаялі! Я ўжо дакладна ўсё не памятаю, апошні раз слухаў яго досыць даўно. Але гэты цыкл мяне вельмі моцна ўразіў… Сэнс у тым, што герой вымушаны сысці ад нявесты, якую вельмі кахаў. Калі не памыляюся, таму што ён быў занадта бедны для яе, і яго неўзабаве маглі выгнаць. І вось ён вырашыў не чакаць такой ганьбы і пайшоў сам. Але ісці яму няма куды, і грошай у яго няма. І вось ён блукае. Зіма, холад, пустата… Усё быццам мёртвае… У героя няма дома, няма грошай, няма ніводнага блізкага чалавека, няма сэнсу жыцця. Хоць яшчэ нядаўна — усё было. І ён проста ідзе, не ведаючы куды… У маім пераказе гэта, магчыма, не так уражвае, але музыка Шуберта робіць сваю справу: кожная песня надзвычай атмасферная… Можа падацца, што ўсё досыць трывіяльна і ніякай сур'ёзнай трагедыі насамрэч няма… Так, гэта рамантызм і ўсё такое… Але ўяві сябе ў такой сітуацыі… Калі задумацца, гэта ўсё вельмі страшна і сапраўды трагічна... І справа не толькі ў тым, што чалавек пасярод зімы стаў фактычна валацугай без дома, грошай і знаёмых, якія б маглі яму дапамагчы. Ён у адчаі, ён вельмі перажывае, яму кепска ў першую чаргу ў маральным плане, а не ў фізічным…

Дык вось, самае трагічнае ў гэтым цыкле… Там адна песня называецца «Вясновы сон». Герой бачыць цудоўны сон: яму сніцца май, прырода, птушкі… Але крычыць певень, і ён прачынаецца: навокал цёмна, халодна, чутны крыкі крумкачоў… Замест кветак, якія яму сніліся, — намаразь на вакне… Яму становіцца вельмі крыўдна і горка, але ён зноў засынае… У другім сне герой бачыць сваю каханую, яна яго абдымае і цалуе, яму зноў добра… Певень крычыць яшчэ раз, і герой вяртаецца ў суровую рэальнасць…

І зноў жа — трэба чуць музыку, яна вельмі значна ўзмацняе эфект. У сне музыка светлая, лёгкая, пяшчотная, а ў рэальнасці — мінорная, нейкая калючая, цяжкая… Відавочна, Шуберт адлюстраваў у ёй не толькі кантраст сну і рэальнасці, але і кантраст вясны і зімы… Карацей, ведаеш, я думаю, што гэты матыў, напэўна, і ёсць самае трагічнае ў літаратуры. І, магчыма, у жыцці ўвогуле… Калі насамрэч у цябе нічога і нікога няма, навокал толькі цемра і холад, але пры гэтым сніцца нешта добрае і светлае... Такі сон — не суцяшэнне, гэта жорсткі здзек… Зноў-такі, не ведаю, магчыма, у маім пераказе ўсё не так красамоўна, як у самім творы, аднак, калі ўявіць такую сітуацыю — сапраўды страшна. Сапраўды жудасна…

Маявер замаўчаў і паглядзеў на Даяведа так, быццам толькі што агучыў нейкую непрыемную навіну. Даявед быў сур’ёзны — Маяверу нават здалося, што той сапраўды паспрабаваў уявіць сабе апісаную сітуацыю і паставіць сябе на месца галоўнага героя. Праз некалькі секунд цішыні Даявед сказаў:

— Цікава… Але прыём кантрасту — рэч не новая. Нават прымітыўная. Аднак гэта жыццёва… З іншага боку, выкарыстанне такога прыёму ў літаратуры, магчыма, дзейсна, але не арыгінальна… «Зімовы шлях», кажаш? — Маявер адказаў станоўчым ківаннем. — Цікава, трэба будзе паслухаць… У прынцыпе, галоўнае ў любой сітуацыі — захоўваць самакантроль і цвярозы розум. Трэба прымаць сапраўдную рэальнасць, каб падсвядомасць не стварала альтэрнатыўную. Іначай атрымаеш суцэльнае расчараванне ці нават псіхічныя расстройствы… Таму я думаю, што насамрэч трагізм гэтага твора ў першую чаргу ў тым, што герой якраз не змог прыняць рэальнасць, а не ў самой сітуацыі, у якой ён апынуўся. Бо ўвогуле трагізм — рэч суб’ектыўная. Само па сабе нічога — нават смерць — трагедыяй не з’яўляецца, усё залежыць ад успрымання чалавека…

— А які ў цябе любімы твор?

— Я таксама не асабліва шмат чытаю… Шчыра кажучы, назва першай главы з «Майстра і Маргарыты» і іншае — гэта проста такая фішка, каб пачаць размову. Калі зусім шчыра — я даволі часта ёй карыстаюся…

— Дзейсна, але не арыгінальна, — Маявер з’едліва пасміхнуўся.

Даявед дэманстратыўна ўзняў вялікі палец, зрабіўшы адпаведны выраз твару, — маўляў, «падкальнуў, малайчына».

## Успрыманне часу

Маявер запытаўся:

— А «Фауста» ты таксама не чытаў?

— Цалкам — не.

— А вось я калісьці чытаў. Памятаеш, што Мефістофель прапанаваў Фаусту?

— Спыніць імгненне, калі не памыляюся.

— Так… На мой погляд, гэта вельмі цікавая спакуса. Толькі спыніць хацелася б не пэўны момант, а пэўнае становішча, пэўную сітуацыю… Ведаеш, вось у дзяцінстве, напрыклад, жыццё падаецца статычным. Нараджаешся, і адразу, як толькі пачынаеш усведамляць сябе і наваколле, падаецца, што свет быў менавіта такім, якім ты яго бачыш, заўсёды. Разумееш, што жыццё было і да цябе, разумееш, што ўсё старое калісьці было новым, што ўсе дарослыя калісьці былі дзецьмі… Нават можаш глядзець старыя фотаздымкі, на якіх твае дарослыя сваякі яшчэ малыя… Табе тлумачаць, што некаторыя з людзей на гэтых фотаздымках ужо памерлі… Ты ведаеш, што ўсё нараджаецца, старэе і паміраe, і гэта падаецца натуральным. Аднак яшчэ не разумееш гэтага насамрэч, а проста ўспрымаеш як факт. Усё, што было да твайго нараджэння, для цябе з’яўляецца небыццём, тым, чаго ніколі і не было, а калі і было, то вельмі-вельмі даўно… І па вялікім рахунку не мае значэння, калі канкрэтна нешта адбывалася — за сто, за дзесяць ці за адзін год да твайго нараджэння. Ці, дакладней, таго часу, калі ты пачаў сябе ўсведамляць і нешта дакладна запамінаць…

Існуе меркаванне, што чалавек фарміруецца як асоба і дакладна разумее сваё «я» ўжо ў тры гады. Дык вось, калі табе ўсяго тры-чатыры гады, тэрмін у дзесяць гадоў падаецца велізарным, бо ён ў некалькі разоў перавышае працягласць твайго жыцця… І пры гэтым ты разумееш, што ўжо шмат чаму навучыўся, шмат што засвоіў. І калі спрабуеш уявіць сабе адрэзак у дзесяць ці ў сто гадоў, табе здаецца, што за такі вялікі тэрмін можна навучыцца абсалютна ўсяму, можна знайсці адказы на ўсе пытанні… Сто гадоў падаюцца табе амаль бясконцасцю… Бо ты проста не разумееш, што большую частку жыцця будзеш вымушаны марнаваць не на самога сябе.

Але ж я крыху адхіліўся… Калі чалавек прыходзіць у гэты свет, ён быццам трапляе ў нейкі мастацкі твор, у нейкую п'есу, дзе ўсё прапісана ў самым пачатку. Кшталту, персанаж такі, у такім вось узросце, мае такі вось характар і гэтак далей… Тое ж і з «дэкарацыямі». У цэнтры сусвету дзіцяці знаходзіцца яно само. Дзіця з'яўляецца пакуль не галоўным героем, але ўжо галоўным гледачом «п'есы», у якую яно трапляе… І вось у чым галоўнае хараство ўспрымання часу і нават жыцця ўвогуле ў дзяцінстве: табе здаецца, што так, як ёсць, было заўсёды, што старыя заўсёды былі старымі, што хворыя заўсёды былі хворымі, што багатыя заўсёды былі багатымі, а бедныя — беднымі, добрыя — заўсёды добрымі, буркатлівыя — буркатлівымі. Больш за тое, табе здаецца, што кожнага чалавека задавальняе яго становішча. Ты нават можаш кпіць з інвалідаў і перадражніваць іх, але не таму, што ты такі злы і бессардэчны, а проста таму, што не разумееш усёй трагедыі: усё, што ты бачыш навокал, здаецца табе нормай. Здаецца, што нейкі стары перакошаны будынак развальваўся заўсёды, але пры гэтым ён ніколі не развaліцца. Здаецца, што патрэсканы асфальт з ямамі заўсёды быў патрэсканым і з ямамі, але ён ніколі не стане горшым, чым зараз. Здаецца, што выцвілая і аблупленая фарба на сцяне заўжды была выцвілай і аблупленай, але яна ніколі не выцвіце і не аблупіцца канчаткова... Ды што далёка хадзіць — ва ўласным доме ўсё здаецца спрадвечным і вечным: шпалеры, мэбля, свяцільні, нават некаторыя хібы кшталту драпін і плям. Канечне, пры гэтым існуе рух, рух і ў часе, і ў прасторы. Аднак падаецца, што ён адбываецца ў межах статычнай карціны. Ведаеш, я думаю, што ў гэтым і ёсць шчасце ранняга дзяцінства: ілюзія абсалютнай статыкі і стабільнасці. І вось спыніць гэта — не імгненне, а ўсю сітуацыю, закансерваваць яе — вялікая спакуса, якой бы я, магчыма, паддаўся б… А вярнуцца ў той дзіўны свет можна толькі ў снах — як у тым «Зімовым шляху»…

Маявер паглядзеў на Даяведа і працягнуў:

— Потым час крыху паскараецца. Дзіця пачынае заўважаць цыклічнасць: зімой яно памятае мінулую зіму, летам — мінулае лета. Цыклічнасць падкрэсліваюць і сямейныя святы, традыцыі. Напрыклад, Раство ці Вялікдзень. Рэлігійныя святы… Бо традыцыі ў іх, калі адзначаць правільна, даволі жорсткія, нават у наяўнасці пэўных страў і спосабу прыёму ежы. Дзень нараджэння самога дзіцяці кожны год адбываецца па-рознаму, таму цыклічнасць, напэўна, тут у поўнай ступені не заўважаецца. А вось на рэлігійныя святы існуе пэўны непарушны алгарытм. Асабіста я, напрыклад, часткова памятаю пост перад Раством. Мае бацькі не былі фанатычнымі вернікамі, але ў некаторай ступені посту прытрымліваліся… Памятаю, як кожны год 24 снежня мы ставілі і ўпрыгожвалі ялінку… Потым хадзілі ў лазню… І гэта была не проста лазня: было адчуванне, што менавіта ў гэты дзень ты становішся чысцей не толькі целам, але і душой. Потым была адмысловая вячэра, з адмысловымі стравамі, якія ў нашай сям'і гатавалі звычайна толькі перад Раством... Усе апраналі «параднае» адзенне, хоць нікуды не хадзілі, ды і да нас ніхто не прыходзіў… Па тэлебачанні ў гэты дзень таксама было нешта адмысловае, у тым ліку і для дзяцей… І засыналася 24 снежня неяк па-іншаму, не так, як звычайна. Адчувалася атмасфера нейкага цуду і менавіта рэлігійнага, духоўнага свята — весялосці не было, але было пачуццё ўрачыстасці… У маёй дзіцячай галаве нават былі нейкія развагі пра Бога, пра ўласную грахоўнасць… Хоць у той час я быў яшчэ дашкольнікам і, здаецца, нічога асабліва грахоўнага нарабіць яшчэ не паспеў… Я засынаў з малітвай, але пры гэтым дзесьці ў галаве блукалі і звычайныя дзіцячыя думкі: хацелася як мага хутчэй заснуць, каб раней прачнуцца і пабегчы пад ялінку за падарункам… А на наступны дзень свята насіла больш свецкі характар.

Нешта падобнае памятаю і пра Вялікдзень. На гэта свята звычайна збіралася шмат сваякоў у найстарэйшага прадстаўніка роду. І хоць Вялікдзень не прывязаны да пэўнай даты, ён усё роўна характарызуецца строгай традыцыйнасцю, а таму — выразнай цыклічнасцю…

Зноў я паглыбіўся ва ўласнае, але ж гэта толькі прыклады, каб ты лепш зразумеў, пра што я кажу… Не ведаю наконт рэлігійных святаў, аднак упэўнены, што ў многіх існуюць аналагічныя ўспаміны пра Новы год у дзяцінстве... Даўно не адчуваў такіх пачуццяў, як калісьці на Новы год…

Пасля (напэўна, калі ідзеш у школу) час паскараецца вельмі заўважна. Заўважаеш у першую чаргу лінейны рух: ты хутка расцеш, хутка пераходзіш з аднаго класа ў іншы. У цябе застаецца вельмі мала вольнага часу, дні здаюцца значна карацейшымі, чым раней. Навучальны год пралятае значна хутчэй, чым табе здавалася… І толькі летам можна быццам бы вярнуцца назад, у пэўную бесклапотную статычнасць і стабільнасць. Але і лета пралятае вельмі-вельмі хутка. Калі табе было тры-чатыры гады, лета здавалася амаль бясконцым. Бо ў тры-чатыры гады ты за адзін дзень атрымліваў настолькі велізарны аб'ём інфармацыі, што і сам гэты дзень падаваўся вялікім і надзвычай цікавым… А школьныя канікулы — так, як пашэнціць. Канечне, у малодшых класах гэта яшчэ дзяцінства, гэта яшчэ гульні, актыўны клопат бацькоў, нейкія адкрыцці і вялікая прага і цікавасць да жыцця. Вечарамі нярэдка было сумна, што дзень ужо прайшоў, і хацелася, каб хутчэй надышоў новы, бо ў цябе было шмат цікавых і прыемных спраў…

Дык вось, падчас навучання ў школе, на мой погляд, рух часу выглядае больш лінейным: ты ідзеш наперад крок за крокам. Цыклічнасць застаецца і нават падкрэсліваецца школьным жыццём: 1 верасня, чвэрць, канікулы, чвэрць, вялікія зімовыя канікулы з Раством і Новым годам, чвэрць, канікулы, чвэрць, апошні званок, лета… Лета ў школьныя гады — як маленькае жыццё… Але гэтая цыклічнасць ужо не ў межах статычнай карціны — яна дынамічная; гэта не рух па коле — гэта рух па спіралі. Рух быццам бы ўверх, але ў той жа час — у невядомасць. Акрамя таго, менавіта ў школьныя гады ты ўжо памятаеш дастаткова цыклаў. Дастаткова для таго, каб асобныя ключавыя падзеі згубілі сваю ўнікальнасць, сваю чароўную атмасферу, свой шарм. Усё становіцца, як кажуць, «ужо не тым». І самае галоўнае — у гэты час ты канчаткова разумееш, што ніякай стабільнасці не існуе. Ты бачыш, як усё змяняецца (часта не ў лепшы бок), і разумееш, што нічога вечнага не існуе. Ты разумееш, што хворым не падабаецца быць хворымі, а інвалідам — інвалідамі. Разумееш, што дурныя звычкі ці кепскі характар у некаторых людзей — не налады «па змаўчанні», а вынік нешчаслівага лёсу. Ты непазбежна сутыкаешся з пераменамі, куды больш радыкальнымі, чым, напрыклад, перастаноўка мэблі ці замена шпалер… І дакладна ўсведамляеш: таго, што было, ужо больш ніколі не будзе, і тое, што ёсць, таксама наўрад ці захаваецца на доўгія часы…

А потым, дзесьці са старэйшых класаў і асабліва пасля школы, час пачынае несціся, як шалёны. Усё ператвараецца ў нейкі віхор: усе магчымыя цыклы неверагодна паскараюцца, іншым разам нават не паспяваеш заўважыць, як змяняюцца поры года. Што ўжо казаць пра чаргаванне будніх і выхадных… Нават Новы год, здаецца, адзначаецца не так ужо і рэдка. І самае цікавае, што вельмі часта ўсе гэтыя цыклы нейкім чынам адасабляюцца ад твайго жыцця, зноў быццам бы становяцца дэкарацыямі. Іх спіраль ператвараецца ў нейкі тунэль, унутры якога ты проста крочыш сваёй дарогай. Ты рухаешся крок за крокам да нейкай мэты, а вакол цябе пракручваюцца тыдні, месяцы, гады… Перастаеш заўважаць спецыфічныя, характэрныя толькі для пэўных сезонаў пахі ў паветры; не звяртаеш увагу на тое, калі ўзыходзіць і садзіцца сонца, колькі працягваецца дзень… А ўсё чаму? Таму што, як там было ў Кэрала: «Трэба бегчы з усіх ног, каб толькі заставацца на месцы, а каб куды-небудзь трапіць, трэба бегчы як мінімум удвая хутчэй»… Толькі невядома, куды ты ўрэшце «прыбяжыш» і ці варта было туды «бегчы» з такой хуткасцю, каб не бачыць тое, што адбываецца навокал…

## Калі б жыць засталося тры гады

Маявер разумеў, што яго ўжо «панесла», што яго маналог, падобны на нейкую п'яную споведзь, ужо зацягнуўся. Аднак вельмі хацелася выгаварыцца, і ён працягнуў:

— Ведаеш гэты трывіяльны сюжэт, калі чалавек памірае, але нейкім чынам выпрошвае сабе яшчэ пэўны перыяд жыцця? Уяві, вось ты, напрыклад, памёр, трапіў на нябёсы і пачаў кленчыць яшчэ некалькі гадоў жыцця на зямлі. І нейкім дзівам табе далі дазвол. Маўляў, ідзі ты ўжо куды хочаш, толькі хопіць тут ныць. І ты вяртаешся на зямлю, скажам, на тры гады — не больш, але, магчыма, менш. Ніякіх гарантый таго, што ты не памрэш раней, няма — тут усё як звычайна. Пры гэтым уявім, што тваё здароўе не пагоршылася з моманту клінічнай смерці. І ты дакладна ведаеш, колькі дзён табе засталося. Але што б ты рабіў?

Кінуць усё і вандраваць, гуляць па свеце, жыць у сваё задавальненне — някепска. Аднак для гэтага неабходны грошы. Добра, калі ў цябе ёсць пэўная маёмасць, якую можна прадаць, каб апошнія тры гады жыць так, як табе падабаецца. Але ці шмат каму ёсць што прадаваць? Пасля апошняй палучкі кінуць працу і стаць жабраком? Ну, добра, пажывеш крыху… А што рабіць астатнія два гады адзіннаццаць месяцаў і тры тыдні? Узяць крэдыт у банку і збегчы — вельмі рызыкоўна: ёсць шанец правесці рэшту жыцця за кратамі…

Жыць як жыў, толькі пры гэтым казаць і рабіць усё, што хочацца? Таксама вельмі небяспечна: ёсць перспектыва добра атрымаць па мордзе, страціць тую ж працу і патрапіць за тыя ж краты. Ну, урэшце, гэты сцэнар можна прыхаваць на апошні тыдзень жыцця. А ў самы апошні дзень — увогуле адарвацца па поўнай. Верагодна, за твае паводзіны цябе і заб'юць. Такі вось эфект Разэнталя на практыцы. Дарэчы, цікавая думка… Калі крыху перайначыць, можа атрымацца пацешная гісторыя: чалавек, напрыклад, падчас аперацыі бачыць галюцынацыю, быццам памірае, але выпрошвае яшчэ некалькі гадоў жыцця. Толькі гэта ўсё галюцынацыя. Тым не менш пасля аперацыі ён даведваецца, што сапраўды быў у стане клінічнай смерці, таму шчыра верыць у сваё ўяўленне. Падлячыўшыся, чалавек мяняе сваё жыццё: становіцца вельмі актыўным, але ў той жа час бескампрамісным. Дзякуючы сваёй актыўнасці і працавітасці ён дасягае значных поспехаў і становіцца, напрыклад, вядомым палітыкам або, наадварот, апазіцыйным актывістам… Ці без палітыкі — бізнесоўцам або рэлігійным ці культурным дзеячам. Ён разумее, што часу ўсё менш, таму яго бескампраміснасць і прынцыповасць становяцца больш выразнымі, ён становіцца вельмі рэзкім і нават радыкальным. І, натуральна, ёсць тыя, каму яго дзейнасць не падабаецца. І гэтыя людзі вырашаюць яго «прыбраць». Чалавек, «ведаючы» з галюцынацыі дату ўласнай смерці, вырашае схавацца ў гэты дзень. Але замах адбываецца раней: цяжкапараненага чалавека адвозяць у бальніцу, за яго жыццё змагаюцца некалькі сутак, але ў рэшце рэшт ён памірае, не прыходзячы ў свядомасць… Нядрэнная гісторыя, так? Толькі ў гэтай гісторыі сапраўды эфект Разэнталя, а я кажу пра сітуацыю, калі дата смерці насамрэч вызначана.

Дык вось, відавочна, што большасць людзей з'яўляюцца эканамічна залежнымі, усё пакінуць і з'ехаць у цёплыя краі можа далёка не кожны. Пры гэтым быць занадта правільным ці рабіць і казаць усё, што хочацца, — таксама небяспечна. І што ж застаецца? Прысвяціць сваё жыццё іншым і апошнія тры гады дапамагаць людзям? Стаць валанцёрам, заўсёды даваць міласціну… А хто перашкаджаў займацца гэтым раней? Ці хто перашкаджаў раней паспрабаваць сябе ў творчасці або навуцы? Хто перашкаджаў раней зрабіць нешта такое, што б, груба кажучы, запісала тваё імя ў гісторыю?..

Я б нават мог паверыць у тое, што дакладнае разуменне хуткай і непазбежнай смерці запускае ў чалавеку нейкі інстынкт, нейкі механізм, з дапамогай якога можна правільна расставіць прыярытэты. Я б мог у гэта паверыць, толькі практыка паказвае, што нічога такога не існуе. Людзям нярэдка ставяць смяротныя дыягназы, у першую чаргу рак. Пасля гэтага звычайна застаецца колькі

месяцаў, пакуль арганізм працуе амаль паўнавартасна. І што робяць людзі ў гэты перыяд? Так, некаторыя да апошняга змагаюцца, спрабуюць утрымацца за кожную саломінку. А іншыя шкадуюць марнаваць гэты час на бальніцы. Яны прымаюць безвыходнае становішча і распараджаюцца сваімі апошнімі месяцамі, як ім падаецца, больш рацыянальна. Такія людзі жывуць і зараз, якраз ў гэты час… А ці чуў ты што-небудзь пра нейкія вялікія здзяйсненні, якія зрабілі смяротна хворыя? Я — не… Напэўна, таму, што гэтыя людзі бавяць час з роднымі і сябрамі і ходзяць у храмы. Некаторыя, магчыма, падарожнічаюць… Ці проста займаюцца самымі звычайнымі паўсядзённымі справамі. На мой погляд, пытанне ў тым, чаго не хапае людзям у такой сітуацыі: магчымасцей ці ідэй?..

— Ёсць жа фільм «Дастукацца да нябёсаў»… Глядзеў?

— Ну, дык гэта ж фільм, мастацкі вымысел… Героі выпадкова ўкралі машыну з мільёнам… долараў ці чаго там. У сапраўдным жыцці такога быць не можа. Але добра, смяротныя хваробы — асобная тэма. Вернемся да нашай сітуацыі.

Ёсць тры гады і ўмова, што здароўе не будзе пагаршацца з кожным днём. Што б ты змяніў? Што б ты здолеў змяніць? Зноў узнікае пытанне магчымасцей і ідэй ці, калі трэба, жаданняў. Ці з'явіліся б у цябе новыя ідэі і жаданні, а калі так, то чаму яны не з'явіліся раней? А калі ўжо былі — чаму ты іх да гэтага часу не здзейсніў? Усё ж, на мой погляд, галоўная праблема вельмі празаічная: чалавек з'яўляецца эканамічна залежным. І для большасці людзей сумная праўда ў тым, што, каб пражыць хоць бы і апошнія тры гады адзетым, абутым, сытым і з дахам над галавой, трэба будзе захаваць ранейшы ўклад жыцця: пяць дзён на тыдзень аддаваць на працу мінімум па дзесяць гадзін уключна з дарогай і абедам. Мне здаецца, што менавіта ў гэтым — сапраўдная трагедыя сітуацыі. У гэтым, а не ў тым, што жыць засталося тры гады…

## Чаго б ты хацеў пасля смерці?

Маявер крыху памаўчаў, разумеючы, што ўжо, магчыма, надакучыў суразмоўцу і ўвогуле выглядае дзіўным і залішне навязлівым, але не стаў чакаць, пакуль слова возьме Даявед:

— Але што, калі смерць — не канец?.. Толькі абстрагуемся ад рэлігійных уяўленняў: вось ты паміраеш, але пасля існуе нейкі працяг. І калі б ты сам мог вызначыць, якім ён будзе, чаго б ты хацеў?..

— Не ведаю… Хацеў бы паразмаўляць з Богам… Спытацца, у чым быў сэнс майго асабістага жыцця і ў чым сэнс жыцця ўвогуле, спытацца, навошта Яму ўсё гэта трэба і што будзе пасля… Пасля Апакаліпсіса... Хацеў бы даведацца, ці існуе і ці існавала дзесьці яшчэ ў Сусвеце разумнае жыццё… Ці існавалі раней цывілізацыі на Зямлі… Хацеў бы даведацца, якім чынам увогуле пабудаваны Сусвет і ці сапраўды ён з'яўляецца бясконцым… А яшчэ мяне б цікавіла, што было да Вялікага Выбуху… Як і дзе ўтварыўся Сусвет, калі раней нічога не было... Увогуле, як гэта: нічога не было?.. Карацей, я б хацеў даведацца пра тое, чаго не можа даведацца звычайны чалавек… Заўжды цікавіла, прадвызначана ўсё ў гэтым жыцці ці не. Калі не, хацелася б паглядзець альтэрнатыўныя варыянты развіцця падзей… Здаецца, што і бясконцасці мала, каб высвятліць усё цікавае…

Маявер быццам толькі і чакаў, пакуль Даявед скончыць. Напэўна, ён задаў пытанне суразмоўцы выключна з ветлівасці ці толькі для таго, каб пачуць у адказ «А ты?». Бо ў галаве самога Маявера ўжо быў падрыхтаваны новы маналог. Хоць чаканага сустрэчнага пытання і не прагучала, Маявер ніколькі не збянтэжыўся і пры першай жа магчымасці пачаў агучваць свае думкі:

— У дзяцінстве мне здавалася, што ўсё маё жыццё запісваецца на відэакамеру… І я ўяўляў сабе, як калісьці мы ўсёй сям'ёй — я з бацькамі — будзем разам глядзець гэты запіс. Канечне, уяўляў сабе даволі прымітыўна: быццам мы ў тагачасным узросце, я зусім малы, бацькі маладыя, у сваёй гасцёўні нядзельным вечарам сядзем на канапе і будзем глядзець запіс нашага жыцця па тэлевізары. Зараз нават смешна… Я ўяўляў, што запіс будзе вельмі вясёлы, як быццам ней-

кая камедыя… Прагляд будзе ўтульным, мы будзем уголас абмяркоўваць і каментаваць пэўныя эпізоды… Я нават іншым часам рабіў пэўныя «рэпартажы», дзе распавядаў пра нейкія навіны, пра сваю сям'ю, пра сябе… Ці проста дурэў і ўчыняў пацешныя выхадкі, каб потым пасмяяцца…

Толькі ведаеш, на справе атрымалася не камедыя, а нейкая драма…

Ведаеш, калі цяпер час ад часу ў мяне ўзнікае думка, што ўсё маё жыццё запісваецца і з'яўляецца, скажам так, «матэрыялам справы», мне ўжо нявесела. Мне больш сорамна і страшна. Бо далёка не заўсёды я паводзіў сябе так, як варта паводзіць сябе галоўнаму пратаганісту. А калі ў сваім уласным жыцці галоўны пратаганіст не я — то хто ж яшчэ?.. Ведаеш, у адной краіне падчас масавых мерапрыемстваў у натоўпе працуюць адмысловыя аператары — агенты спецслужбаў. Яны імкнуцца не вылучацца з натоўпу, ніякім чынам нікому не замінаюць… Яны проста здымаюць — так, на ўсякі выпадак. Калі раптам што, гэтыя архівы могуць спатрэбіцца… І калі ўявіць, што побач з кожным чалавекам ёсць, напрыклад анёл-аператар, які заўжды здымае ўсе дзеянні чалавека з лепшых ракурсаў… У такім выпадку маё жыццё — вартае жалю відовішча… І адначасна адзін вялікі кампрамат…

— Ага, патрапіш да Пятра, і ён такі скажа, ну што, шаноўны, давайце зараз паглядзім адзін фільмец… А ты такі — не, не, я, калі ласка, у пекла… Дазвольце толькі касету з сабой узяць…
— Даяведу, напэўна, ужо надакучылі сумныя і нудныя псеўдафіласофскія маналогі Маявера і ён вырашыў далучыцца да гутаркі. І не проста далучыцца, а пажартаваць, каб змяніць танальнасць размовы і перавесці яе ў іншае рэчышча.

— Ага…

— Ці можна сказаць, што гэта такі артхаўс… Маўляў, на аматара, не кожны зразумее…

— Насамрэч сумна ўсё гэта… Іншым разам вінаваціш сябе, што зрабіў не так, як трэба… Але потым зноў наступаеш на тыя ж граблі… Карацей, наўрад ці я б хацеў пасля смерці праглядзець стужку свайго жыцця. Магчыма, некаторыя эпізоды… Хоць, напэўна, памяць і так захоўвае лепшае… Мне было б больш цікава паназіраць за сабой збоку. Даведацца, што казалі пра мяне людзі, калі мяне не было побач… А самае цікавае, на мой погляд, павандраваць у мінулым… Не вельмі далёкім — будаўніцтва пірамідаў ці нешта такое мяне не цікавіць. Я б хацеў, напрыклад, хоць на дзень трапіць на дзесяць гадоў назад. Паглядзець збоку на сябе, сваіх сяброў, родных. Проста паназіраць. Пасядзець у родным доме, паблукаць па родным горадзе. Усё ж за дзесяць гадоў шмат што мяняецца… Потым — яшчэ на дзесяць гадоў назад. Зноў: спачатку паглядзець на сябе, падзівіцца, чым я тады займаўся, як выглядаў; паназіраць за блізкімі і сябрамі. Зноў паблукаць па горадзе. На наступны дзень — яшчэ на дзесяць гадоў назад, потым яшчэ і яшчэ… Урэшце цікава было б апынуцца ў часе, які я яшчэ не памятаю. А пасля — у часе, калі мяне яшчэ не было. Уяві, як гэта цікава. Магчыма, было б і пэўнае расчараванне, бо той час падаецца нейкім дзіўным і загадкавым, нейкай невядомай эпохай… А насамрэч можа выявіцца, што тады не было нічога незвычайнага… Але ж цікава… У любым выпадку, тады была іншая мода, іншыя рэчы… Усё было іншым.

Потым адматаць яшчэ дзесяць гадоў. Паназіраць за зусім маладымі мамай і татам, якія ячшэ нават не былі знаёмыя… Крыху пагасцяваць у іх дома, паглядзець, як яны жылі. Магчыма, параўнаць іх паводзіны са сваімі… Потым адматаць яшчэ дзесяць гадоў, у той час, калі бацькі самі яшчэ былі дзецьмі… Паглядзець, якія ў іх былі цацкі, як яны бавілі час, чым захапляліся, аб чым марылі… Паглядзець на маладых бабуль і дзядуль… І зноўку — паблукаць па горадзе. Горад, напэўна, ужо б значна адрозніваўся ад таго горада, у якім я жыў… Дарэчы, што тычыцца назіранняў за роднымі, я б, напэўна, спыніўся на дзяцінстве бабуль і дзядуль, бо прабабулі і прадзядулі для мяне — фактычна чужыя людзі. Я іх амаль не ведаю, і наўрад ці мне было б цікава сачыць за іх жыццём. Так, у агульных рысах: побыт, ежа, адзенне… А вось родны горад — гэта зусім іншае. Мне сапраўды было б цікава блукаць па ім у розныя часы. Цікава было б паглядзець на яго падчас акупацыі, у пе-

радваенны час, нават асабліва ў перадваенны… Цікава было б паглядзець, як узводзіліся вядомыя будынкі… Карацей, я б, напэўна, блукаў па родным горадзе ў мінулым аж да таго моманту, як на яго месцы пасяліліся першыя людзі…

— А ў будучыню?

— Не… Ну, чыста з цікаўнасці зазірнуў бы адным вокам. Проста, каб даведацца, ці будзе якое развіццё, ці працягнецца застой, ці ён увогуле прыйдзе ў заняпад… Але на значна большы інтэрвал: не на дзесяць, а на пяцьдзясят або на сто гадоў… А пасля, магчыма, адразу на пяцьсот, на тысячу… Але будучыня мяне не так цікавіць, як мінуўшчына. У мінуўшчыне — мае карані, як фізічныя, так і духоўныя… А будучыня — гэта пакуль пустое месца, голае паветра, у якое, магчыма (а магчыма і не), прарастуць новыя галіны і лісце…

## Іголка і кружэлка

Маявер задуменна замаўчаў. Даявед вырашыў гэтым скарыстацца і паспрабаваў пераняць ініцыятыву ў гэтым выразна несіметрычным дыялогу, які нагадваў размову пасля п’янкі, калі ўсе ўжо разышліся, але двое самых трывалых працягваюць дапіваць гарэлку, паліць і разважаць аб жыцці, засынаючы над талеркамі:

— Разумееш, усё адносна. Табе можа здавацца, што жыццё лінейнае, што ў ім ёсць пачатак і канец. У гэтым сэнсе яно тоеснае часу. Час ідзе няспынна і незваротна, а ўнутры яго ідзе тваё жыццё. Шмат людзей марылі аб тым, каб адматаць пэўны адрэзак часу назад, вярнуцца да пэўнай кропкі, нешта змяніць. Ды і нават не змяніць — проста перажыць ці толькі пабачыць штосьці, што здаецца назаўсёды згубленым у мінулым. Але ўсё адносна. Вось возьмем, напрыклад, грамафон. Адносна іголкі — песня лінейная. У яе быццам бы ёсць пачатак і канец, яна мае пэўную працягласць і змяняецца ў часе. Бо гэта — іголка: яна можа адначасова «бачыць» толькі адну кропку. Аднак мы можам узяць у рукі кружэлку, на якой уся песня цалкам існуе ў адзін і той жа час. І адносна самой кружэлкі песня не мае развіцця, яна статычная. «Пачатак» і «канец» тут — рэчы ўмоўныя. Мы нават можам пракруціць яе наадварот, ззаду наперад, можам пракруціць больш павольна ці больш хутка. А іголка ў любым выпадку будзе «бачыць» толькі лінейнае развіццё, кропку за кропкай, якія змяняюцца з цягам часу. Мы ж можам проста дакрануцца да кружэлкі пальцам, тым самым дакранаючыся адначасова да некалькіх кропак, якія адносна іголкі знаходзяцца на вялікай адлегласці, паміж якімі палягае нібыта сам час. Разумееш? Тое, што адносна кружэлкі — толькі прастора, для іголкі — яшчэ і час, бо адносна яе заўжды будзе кропка, якая знаходзіцца ў мінулым, кропка, на якой іголка стаіць у сучасным, і кропка, якая наперадзе, гэта значыць у будучыні. А адносна кружэлкі часу быццам бы не існуе, бо ўсе кропкі на яе паверхні, кожная канаўка, кожны зашыфраваны гук суіснуюць адначасова. І гэта — не штосьці абстрактнае, не якая-небудзь там «тонкая матэрыя», гэта, можна сказаць, бытавы прыклад, добра вядомы амаль кожнаму чалавеку. І гэты прыклад з’яўляецца фізічнай дэманстрацыяй адноснасці часу.

Хто яго ведае: магчыма, час — тая ж самая кружэлка, на якой запісана ўсё, «ад» і «да», так бы мовіць, ад альфы да амегі. Проста мы не бачым усёй карціны. А нехта, магчыма, трымае гэтую кружэлку ў руцэ.

— Але ж хочацца верыць, што мы самі яе запісваем, а не проста «агучваем», быццам нейкая механічная прылада…

## Асцярожна, дзверы зачыняюцца

Зноў павісла паўза, якая пачала небяспечна зацягвацца, — так, што сядзець у адным пакоі суразмоўцам станавілася няёмка. Першым загаварыў Даявед:

— Магчыма, мне падаецца, але ж я заўважыў, што ў цябе нешта вельмі шмат песімізму і негатыва… Чаму так? Канечне, гэта не мая справа, але было б цікава даведацца, у чым прычына. Распавядзі пра сябе, пра сваё жыццё.

— У двух словах? — Маявер сумна ўсміхнуўся: ён паспрабаваў намякнуць на стандартнае пытанне «Распавядзіце пра сябе ў двух словах», якое задаюць пры ўладкаванні на працу.

Даявед, відавочна, зразумеў гэтую адсылку, таму таксама пасміхнуўся:

— Ну, можна і так.

— Нічога цікавага, — Маявер зноў усміхнуўся. Цяпер усмешка была больш шырокай, але вочы ў той жа час — больш сумнымі. Ён ужо агучыў усе сваі думкі, якія, відавочна, узніклі не ў працэсе размовы, а назапашваліся доўгі час. І вось нарэшце ён іх выказаў — выказаў услых, выказаў жывому чалавеку. Ад гэтага Маяверу стала неяк больш лёгка і вольна, але ў той жа момант ён адчуваў, што нагаварыў занадта шмат і, магчыма, не так прыгожа і складна, як яму ўяўлялася. Акрамя таго, агучыўшы свае «нарыхтоўкі», Маявер не быў гатовы да «імправізацыі» — адказаў на пытанні, тым больш асабістага характару. Таму проста аджартаваўся: нягледзечы на незвычайную для сябе балбатлівасць, Маявер не хацеў раскрываць падрабязнасці свайго жыцця і закранаць балючыя тэмы.

Даявед моўчкі глядзеў на суразмоўцу, даючы зразумець, што яму ўсё ж цікава і жартам Маявер не абыдзецца. Не прайшло і пятнаццацці секунд, як той пачаў адказваць на пытанне цалкам сур’ёзна, але максімальна абагульнена — такім быў кампраміс паміж эмацыйным жаданнем раскрыць душу і рацыянальным імкненнем не казаць нічога канкрэтнага:

— У мяне такое адчуванне, быццам я праехаў свой прыпынак... Людзі, з якімі я пачынаў свой шлях, ужо павыходзілі. Іх ужо няма побач, а я нават не заўважыў, як гэта адбылося. У самым пачатку вакол былі толькі блізкія і знаёмыя. Аднак яны паступова сыходзілі, а на іх месца прыходзілі новыя. З некаторымі я нават паспеў пазнаёміцца, пасябраваць. Але потым сыходзілі і яны. І я нават не заўважыў, як раптам апынуўся ў атачэнні чужых людзей. Больш за тое, за акном — таксама ўсё чужое. Я ўжо не бачу там знаёмых мясцін, не пазнаю вуліцу, не ведаю, дзе я знаходжуся, і што будзе далей. Я проста еду. Ціха сяджу і гляджу ў акно. Не магу сказаць, што мне ўтульна, аднак маё месца ўжо цёплае, я на ім ужо прыгрэўся. І вось так сядзець, напэўна, лепш, чым выходзіць у халодную невядомасць.

І так я еду. Сяджу ціха, моўчкі гляджу ў акно на чужыя, амаль варожыя пейзажы і ў той жа час імкнуся менш глядзець на незнаёмых людзей побач са мной. Бо мне з імі няўтульна. Шчыра кажучы, я нават іх баюся. Не думаю, што яны могуць зрабіць мне нешта насамрэч дрэннае, але я іх не ведаю — сярод іх можа быць хто заўгодна. Таму я не магу цалкам расслабіцца, увесь час думаю: толькі б мяне не чапалі. А гэта нервуе. Было б лепш, каб побач увогуле нікога не было. А так — чужыя. Хто яго ведае: магчыма, гэта нядрэнныя людзі. Натуральна, што ў кожнага з іх ёсць сябры і блізкія, якія іх любяць і паважаюць. І натуральна — ёсць за што. Ва ўсялякім разе, павінна быць. Але мне побач з імі няўтульна і крыху страшна.

Тым не менш я еду. Хоць у чым па вялікім рахунку гэта выяўляецца? Фактычна я нічога не раблю: проста сяджу і гляджу ў акно і на тых, хто побач. Таму, напэўна, больш дакладным будзе сказаць не «я еду», а «аўтобус вязе мяне». Здаецца, што сітуацыя быццам бы някепская. Аднак расслабіцца нельга не толькі таму, што вакол чужыя. Больш сур’ёзная прычына — голас, які час ад часу кажа «Асцярожна, дзверы зачыняюцца!..». Гэта напамінак таго, што аўтобус не проста «едзе»: ён едзе з кропкі «А» ў кропку «Б» і — рана ці позна, але непазбежна — прыедзе на канчатковы прыпынак. І мне ўсё ж трэба будзе выйсці. І ўвесь абсурд у тым, што чым далей я еду, тым горш. Па вялікім рахунку трэба было выходзіць разам з сябрамі. А так у рэшце рэшт я апынуся зусім адзін у далёкім і чужым месцы. Мае выпадковыя спадарожнікі разыдуцца па сваіх дамах, будуць вячэраць

у сваіх утульных кухнях разам з роднымі. А я застануся адзін на халодным брудным прыпынку ў абсалютна невядомым раёне. І я разумею, што лепш было б выйсці некалькі прыпынкаў таму ці хоць бы зараз, а не сядзець да апошняга. Аднак я ўжо прыгрэўся на сваім месцы. І мне больш падабаецца нічога не рабіць і проста спадзявацца, што канчатковага прыпынку ўвогуле не будзе. Магчыма, аўтобус едзе па коле і неўзабаве вернецца туды, адкуль я пачаў сваё падарожжа. А магчыма, на наступным прыпынку зойдзе хто-небудзь знаёмы, а потым яшчэ адзін, і яшчэ… Мы сядзем разам, пачнем размаўляць, расказаваць навіны, жартаваць… І мне зноў стане спакойна і ўтульна… Аднак, відавочна, нічога такога не будзе. Вяртацца ўжо няма куды: ад «маіх» прыпынкаў па вялікім рахунку засталіся толькі назвы. Іх абнавілі, перафарбавалі, а некаторыя ўвогуле знеслі. А на тых, якія засталіся, ужо новыя людзі... І сябры наўрад ці зойдуць у гэты аўтобус. Максімум — зойдуць людзі, якіх я лічыў сваімі сябрамі некалькі прыпынкаў таму. Цяпер яны мне ніхто. Таму ніякіх размоў, навін і жартаў не будзе: у лепшым выпадку — павітаемся…

«Асцярожна, дзверы зачыняюцца!..» Чым даўжэй я сяджу, тым менш выбару ў мяне застаецца. Напрыклад, калі ў пачатку паездкі я тэарэтычна мог выйсці на адным са ста прыпынкаў, то цяпер — на адным з, дапусцім, дзесяці. А ў рэшце рэшт, калі мы прыедзем на канчатковы прыпынак, у мяне не застанецца аніякіх варыянтаў увогуле: хочаш не хочаш — выходзь, прыехалі. Канечне, магчымасць выбраць адзін са ста прыпынкаў у самым пачатку — насамрэч ілюзія. Так ці інача й можна выйсці толькі на адным прыпынку. Чакаць на ім наступнага аўтобуса можна ўсё жыццё. Таксама ўсё жыццё можна крочыць пешшу да іншага прыпынку, а памерці дзесьці пасярэдзіне шляху на раздарожжы. Аднак гэта ілюзія выбару натхняе… Так і ў жыцці. Калі ты бачыш сто дзвярэй і разумееш, што можаш абраць абсалютна любую з іх — гэта надае энергіі і моцы. Хоць у той жа час ты разумееш, што нельга зайсці ва ўсе дзверы адначасова. Акрамя таго, невядома, што чакае цябе за тымі дзвярыма, якія ты абраў. І па вялікім рахунку фактычна няма розніцы — сто дзвярэй перад табой ці адна. Аднак ілюзія выбару дае адчуванне ўлады, адчуванне таго, што ты сам ствараеш свой лёс, адчуванне таго, што ты можаш уплываць на падзеі, што ты — суб'ект, а не пасіўнае быдла. Хоць няма ніякай гарантыі, што ўсе сто дзвярэй не вядуць у адзін і той жа пакой...

Калі ты нарадзіўся здаровым чалавекам — у цябе кругагляд 360 градусаў. Ты быццам сядзіш у сярэдзіне велізарнага круглага пакою, у якім амаль бясконцая колькасць дзвярэй. І пакой гэты белы, светлы, чысты, з высокай столлю… Але ты пачынаеш рухацца і ідзеш у пэўным напрамку. І твой кругагляд ужо звужаецца. Ужо не 360, а, напрыклад, 300 градусаў. Бо набліжаючыся да адных дзвярэй, ты аддаляешся ад дыяметральна супрацьлеглых. Падыходзіш, адчыняеш. Заходзіш у іншы пакой. Усё, кругагляд ужо 180 градусаў, бо ззаду — толькі сцяна. Выбіраеш наступныя дзверы, ідзеш да іх. Адчыняеш, заходзіш у новы пакой. І кругагляд ужо 90 градусаў, па баках дзвярэй ужо зусім мала, але ёсць некалькі наперадзе. Ідзеш. Заходзіш у наступны пакой і разумееш, што гэта — калідор. Доўгі цёмны і пусты калідор, у якім бакавых дзвярэй увогуле няма, дзверы ёсць толькі ў супрацьлеглым канцы. Звычайна — адны, але калі пашанцуе, то і некалькі... І твой кругагляд ужо звузіўся настолькі, што ты цяпер можаш глядзець толькі прама перад сабой. І ты, ужо стары і стомлены, з пэўнай цяжкасцю крочыш у канец гэтага калідора. Разумееш, што перад табой ужо апошнія дзверы, і спадзяешся, што там будзе не тупік і не цёмная пустата небыцця. Спадзяешся, што там будзе нешта такое, дзеля чаго трэба было прайсці ўвесь гэты шлях, адчыніць усе гэтыя дзверы, губляючы на іх час і сілы… У рэшце рэшт, табе хочацца верыць, што там — за апошнімі дзвярыма — будзе як мінімум ўтульная канапа, ежа і гарачая гарбата, каб ты проста мог адпачыць. Аднак насамрэч няма ніякай гарантыі, што ты ўвогуле дойдзеш да тых дзвярэй. І няма ніякай гарантыі, што яны сапраўды апошнія. Калі нават там не тупік і не чорная пустата, гэта не азначае, што там не можа быць наступнага калідора. А за ім — яшчэ аднаго і яшчэ аднаго. Магчыма, усе гэтыя калідоры ўтвараюць адзін бясконцы лабірынт, які ў прынцыпе нельга прайсці і з

якога нельга выйсці. Але ты спадзяешся. І вялікую крыўду выклікае ў цябе разуменне таго, што ты абраў памылковы шлях. Што ты не здабыў на ім нічога карыснага, а наадварот — разгубіў тое, што ў цябе было. Табе крыўдна, што людзі, якія ў самым пачатку абралі іншыя дзверы, дасягнулі больш, чым ты. І ты пачынаеш бессэнсоўна мучыць сябе развагамі, што было б, калі б ты пайшоў у іншым напрамку, калі б павярнуў у іншы бок… Пачынаеш задаваць сабе пытанні пра тое, дзе і калі ты памыліўся… І нават пачынаеш крыўдаваць і злавацца, што такі шлях увогуле існуе, бо гэта ж несправядліва, што адны крочаць па мяккіх дыванах у светлых і шырокіх пакоях, што перад некаторымі ўсе дзверы самі адчыняюцца, што камусьці ключы ад шматлікіх дзвярэй дораць бацькі, а ты ідзеш навобмацак па нейкіх цёмных завалах, увесь час аб нешта спатыкаючыся… Чаму такі шлях увогуле існуе? Чаму ён выпаў менавіта табе?.. Гэта пакаранне, выпрабаванне ці проста… Але голас з рэпрадуктара «Асцярожна, дзверы зачыняюцца!..» увесь час падганяе цябе наперад, прымушае спяшацца, рабіць памылкі, спатыкацца. Ты нават не можаш нармальна агледзець пакой, у якім знаходзішся, бо ўся твая ўвага — на наступных дзвярах, ты імкнешся да іх, пакуль яны канчаткова не зачыніліся… І нават смерць не з’яўляецца выхадам. Бо калі ты памрэш пасярод шляху, ты не выйдзеш з лабірынта, ты проста памрэш пасярод шляху…

Дарэчы, разумееш, жыццё нашмат карацейшае, чым здаецца большасці людзей. Па-першае, існуе нейкі агульны зман, што чалавек быццам бы «па заводскіх наладах» жыве сто гадоў. Аднак ёсць аб’ектыўная статыстыка: большасць мужчын у гэтай краіне не дажывае да сямідзесяці, большасць жанчын — да васьмідзесяці. Але калі людзі адзначаюць дваццаціпяцігоддзе, ім здаецца, што за спінай толькі чвэрць жыцця, а наперадзе яшчэ тры чвэрці. Аналагічна і ў пяцьдзясят: яны думаюць, што прайшлі «экватар», што ў іх засталося яшчэ столькі ж часу. Але не, спадарства: у першым выпадку вам засталося гадоў сорак, а ў другім — пятнаццаць. І вось тут трэба згадаць пра другую акалічнасць: абсалютна відавочна, што дзесяць гадоў з пятнаццаці да дваццаці пяці зусім не тое ж самае, што дзесяць гадоў з шасцідзесяці да сямідзесяці. Так, ёсць выпадкі, калі людзі дасягалі нейкага поспеху ў сталым узросце, але гэта выключэнні, якія толькі падмацоўваюць агульнае правіла. Трэба прызнаць, што з кожным годам магчымасцей становіцца ўсё менш і менш, «дзверы зачыняюцца» ўсё хутчэй і хутчэй. Калі ў пятнаццаць гадоў ты не маеш ніякага дачынення да спорту, верагодней за ўсё, ты не станеш прафесійным спартоўцам. Здаецца, што наперадзе яшчэ амаль усё жыццё, але гэтыя дзверы ўжо назаўсёды зачынены. Аналагічна і з іншымі сферамі, толькі лічбы іншыя. Жыццё большасці людзей фарміруецца ў першыя дваццаць гадоў, далей пачынаецца інерцыя. І праблема не толькі ў тым, што яна такая моцная, што кругагляд звужаецца да дзясятка градусаў, а жыццёвая прастора ператвараецца ў вузкі калідор. Проста большасць прызвычайваецца да свайго становішча і ўжо не хоча нешта змяняць. Людзі пачынаюць лічыць свае былыя мары і планы наіўнымі і несур’ёзнымі і адмаўляюцца ад іх. Штодзённая мітусня, нейкія пабытавыя дробязі і неабходнасць зарабіць капейчыну на наступны дзень… Усё гэта спрыяе таму, што чалавек ператвараецца ў дробязнага абывацеля…

Таму я па-добраму зайздрошчу тым, хто абраў — не ведаю як, бо калі трэба рабіць гэты выбар, у чалавека яшчэ няма вопыту — менавіта свае дзверы і здолеў у іх увайсці. І шчыра спачуваю людзям, якія ніколі не патрапяць туды, куды імкнуліся… Але мая трагедыя ў тым, што я не ведаю, куды мне трэба. Я проста пасажыр, які праехаў свой прыпынак. Нават не ведаю, які дакладна, але яўна адчуваю — праехаў… І вельмі здарожыўся...

## Адысей

Даявед глядзеў на суразмоўцу сур’ёзна і сумна. Напэўна, ён чакаў іншага адказу — нейкіх цікавых гісторый ці нечага такога. Урэшце ж атрымалася абстрактная, аднак шчырая і трагічная споведзь. Яна выразна адрознівалася ад папярэдніх маналогаў Маявера і, магчыма, нечым

зачапіла эксперыментатара. Даявед зразумеў, што змяніць танальнасць гутаркі не атрымалася і наўрад ці ўжо атрымаецца, аднак ён вырашыў паспрабаваць дадаць у яе хоць крыху нейкага аптымізму:

— Падарожжа само па сабе з'яўляецца маленькім жыццём. Іншым разам цяжка сказаць, што мае больш сэнсу: тое, куды і для чаго ты едзеш, ці сам працэс гэтай паездкі. Напэўна, найбольш яскравы прыклад у гэтым выпадку — падарожжа Адысея. Памятаеш, ён так імкнуўся хутчэй патрапіць дадому, да жонкі… Вяртанне было яго мэтай, а доўгія вандраванні былі быццам бы перашкодай да яе дасягнення. Калі адштурхоўвацца ад таго, што Адысей жадаў вярнуцца дадому, усе яго прыгоды з'яўляліся, так бы мовіць, палкамі ў калёсах, якія ўвесь час спынялі яго, не дазвалялі здзейсніць жаданае. Адысей сумаваў, абураўся, шкадаваў час, які вымушаны быў губляць… Аднак відавочна, што менавіта гэта падарожжа было самым галоўным у яго жыцці. Не вайна, з якой ён вяртаўся, і не далейшае жыццё ў родным доме побач з жонкай. Само падарожжа. Іншымі словамі, не дзейнасць у пункце «А» і пункце «Б», а рух ад першага да апошняга. Пры гэтым натуральна, што сам Адысей якраз планаваў дзейнасць, чакаў ад яе пэўных вынікаў, надаваў ёй значны сэнс. А вось рух, які спачатку разглядаўся як нейкая фармальнасць, нейкі чыста тэхнічны момант, наўрад ці ўвогуле ўваходзіў у жыццёвыя планы Адысея. Ведаеш, быў бы ў яго такі спіс спраў… Кшталту, пасля вырашальнага бою дастае ён паперку і ручку і бухціць сабе пад нос: «Тааак, што тут у нас?.. Ага, нацягнуць траянцаў — ёсць (ставіць «галачку»), застацца жывым і здаровым — ёсць (ставіць «галачку»)… Красава! Што цяпер?.. (Задумліва пасміхаецца) Так, Пенелопа… Пабухаць з сябрамі — будзе што ім расказаць за келіхам віна… І адпачыць — хопіць з мяне спраў на бліжэйшы час… Памыцца нармальна трэба, выспацца як след… Зачэкаўся я на гэтай вайне…» Уяўляеш? Ці мог бы ў такім спісе быць пункцік «хутка, акуратна і без прыгод даплыць дадому»? Гэта ж не падарожжа на сучасным трансатлантычным круізным лайнеры, гэта звычайнае вяртанне з вайны: сам працэс як штосьці цікавае і незвычайнае не разглядаўся… Але бачыш, як усё адбылося? Тое, што спачатку было дробяззю, не вартай увагі, нечакана стала галоўнай падзеяй у жыцці Адысея — расцягнутай у часе і насычанай шматлікімі прыгодамі, на фоне якіх вайна, якую Адысей лічыў важным элементам жыцця, сама стала дробяззю…

— О, дарэчы пра трансатлантычны лайнер. Ведаеш знакаміты факт: калі тануў «Тытанік», аркестр граў да апошняга? Пра гэта звычайна згадваюць, маючы на ўвазе, што трэба рабіць сваю справу да канца, калі нават становіцца абсалютна відавочна, што ўсё скончыцца кепска. Але я лічу, што прыклад няўдалы, бо дзеянні аркестра на «Тытаніку» былі цалкам рацыянальныя. Месцаў у шлюпках на ўсіх не хапала, бегчы было бессэнсоўна — раз. Музыка як-ніяк стрымлівала паніку. Дарэчы, кажуць, што насамрэч аркест граў не рэлігійны гімн, а лёгкую танцавальную музыку — менавіта для таго, каб не драматызаваць сітуацыю. Гэта два. Карацей, няма ў гэтым учынку ніякага экзістэнцыялізму, толькі здаровы сэнс і практычная карысць. Канечне, тое, што музыкам хапіла ў такой сітуацыі самакантролю, бясспрэчна, заслугоўвае павагі. Але гэта не з'яўляецца прыкладам таго, што ў любой сітуацыі трэба рабіць сваю справу да канца.

Вось у мяне адчуванне, быццам мой «Тытанік» тоне, а я вымушаны драіць на ім палубу. І гэта сапраўдны экзістэнцыялізм і абсурд. Я задаюся лагічным пытаннем: на якую халеру мне гэта трэба, калі відавочна, што вось-вось ты і сядзеш на тым самым месцы і ўсё пойдзе на самае дно? А мне адказваюць: «Закон суровы, але гэта закон, драіць палубу — твой абавязак, і пакуль ты жывы — драй. І ўвогуле, пакуль карабель не затануў, ён не затануў. Вось зараз ён перастане тануць, і што тады? Прабоіну залатаюць, ваду адкачаюць, і паплывем далей, а ў цябе будуць сур'ёзныя праблемы…». І ведаеш, нейкая частка мяне верыць, што карабель перастане тануць. І я буду вымушаны плысці на ім да самага канца, аднак маё становішча яшчэ больш пагоршыцца. Карацей, я не адчуваю сябе

Адысеем ці капітанам карабля. Я адчуваю сябе юнгам, які вымушаны за юшку з хлебам драіць палубы пры любых абставінах… Нейкія ніжнія палубы, з якіх нават нябачна, што адбываецца навокал… І мне не хапае сілы і смеласці, каб пакінуць гэты карабель і пайсці ў вольнае плаванне…

— Ніколі не ведаеш, дзе згубіш, а дзе знойдзеш. Магчыма, што такое «падарожжа» і ёсць сапраўдная мэта і сэнс твайго жыцця… З іншага боку… Вось ты казаў пра нейкія калідоры, лабірынты… Добра. Уяві: ёсць пакой. Маленькі, шэры пакой, у якім няма абсалютна нічога цікавага. І некаму неабходна забіць у сцяну гэтага пакоя цвік. Толькі вось у гэтага некага няма ні цвіка, ні малатка. Але цвікі з малатком ёсць у тваім пакоі — такім жа шэрым і нецікавым. І вось увесь сэнс твайго жыцця, твайго існавання — проста аднесці цвікі і малаток са свайго пакоя ў той, другі. Ніякіх подзвігаў, ніякіх гераічных здзяйсненняў, ніякай самаахвярнасці ці чагосьці такога — проста ўзяць цвікі і малаток і аднесці ў іншы пакой. Усё. Бо акрамя цябе — няма каму. Калі ты не прынясеш, ніхто не прынясе, і той пакой застанецца шэрым і нецікавым, бо ў таго, хто там, без цябе проста не будзе магчымасці павесіць у пакоі карціну або палічку і тым самым зрабіць яго крыху лепш і ўтульней. Такі сэнс жыцця цікавы? Не. Лёсавызначальны? Не. Але ў ім ёсць практычная мэта, і гэта галоўнае. Аднак самае цікавае ў тым, што паміж гэтымі двума пакоямі — калідор. Гэта можа быць, напрыклад, галерэя, на сценах якой вісяць шэдэўры сусветнага мастацтва. І пакуль ты будзеш выконваць сваю маркотную і нецікавую місію, ты можаш адначасова атрымаць асалоду і задавальненне ад самога шпацыру па гэтым калідоры. Іншымі словамі, калі нават ад цябе не патрабуецца нейкіх надзвычайных здзяйсненняў, нішто не замінае пражыць гэта жыццё прыгожа…

— Цвікі і малаток?.. Хм… адзін аднойчы таксама нёс малаток і цвікі… І ведаеш, што адбылося, калі ён данёс іх у той, другі пункт?.. Яго прыбілі гэтымі цвікамі да крыжа.

— Ай… — Даявед незадаволена зморшчыўся.

— А што? Якраз цесляром быў… Малаток і цвікі — звычайны цяслярскі атрыбут… Ішоў будаваць…

— Калі пайшла такая гаворка, перайначу: дай чалавеку жытло — і ён будзе жыць у ім, пакуль яно не разбурыцца. Дай чалавеку малаток і цвікі — чалавек пабудуе жытло і будзе рамантаваць яго, пакуль сам не памрэ. Той сам пабудаваць не паспеў, аднак навучыў іншых. Табе не далі жытло, але табе далі інструменты, каб ты самастойна пабудаваў яго, і сказалі, як гэта рабіць. Бо калі б табе далі гатовае жытло, ты знайшоў бы, да чаго дачапіцца. Маўляў, гэта мне не падабаецца, гэта я б зрабіў па-іншаму, гэта ўвогуле не патрэбна, гэтага не хапае… Таму табе далі толькі інструменты — будуй так, як сам хочаш. А хочаш — увогуле нічога не будуй, выбар за табой…

— Добра, інструменты далі. Але ж не далі рэсурсаў. З чаго будаваць? Што рабіць з малатком і цвікамі, калі ты нарадзіўся сярод пустыні?.. А ў той жа час нехта нарадзіўся сярод леса. Разумееш? Добра, у кожнага аднолькавыя інструменты, але ж ва ўсіх розныя рэсурсы…

— Не бывае бясконцых пустыняў. Вось табе зноў матыў руху і падарожжа. Вакол пяскі — не сядзі на месцы, рухайся. Ідзі, і рана ці позна прыйдзеш туды, дзе знойдзеш свае рэсурсы. Валоданне інструментамі — гэта лепш, чым валоданне рэсурсамі. Бо калі той, хто нарадзіўся сярод лесу, згубіць свае інструменты, будзе быццам… як там яго… Тантал, вакол якога вада і ежа, але якія не можа паесці і напіцца. Нават знаходзячыся сярод процьмы рэсурсаў, ён не можа іх выкарыстаць, атрымаць ад іх карысць і асалоду. А той, хто нарадзіўся сярод пяскоў, але не згубіў свае інструменты, заўсёды будзе мець надзею, што выйдзе з пустыні і пабудуе сабе жытло. І гэтая надзея будзе даваць яму сілы на шлях да лепшага… А твая асабістая мэта, магчыма, — проста аднесці інструменты ў іншы пакой і перадаць іх таму, каму яны патрэбны, таму, хто ведае, як імі карыстацца...

## Авечка і Пастух

Даявед паглядзеў на суразмоўцу і пасля невялічкай паўзы працягнуў:

— Ведаеш біблейскі вобраз Добрага Пастыра? Ёсць меркаванне, што ён быў створаны на пустых землях, дзе знайсці добры выган для авечак не так ужо і проста. Пастухам трэба было гнаць статак досыць далёка, гнаць праз пяскі і сухія землі туды, дзе было багата свежай травы і вады. І вось уяві: ёсць пастух, які добра арыентуецца ў мясцовасці, які дакладна ведае, куды яму трэба гнаць сваіх авечак. І ён гоніць іх па пустыні да гэтага, умоўна кажучы, аазіса. Але ці ведаюць пра гэты маршрут авечкі? Натуральна, не. І вось, напрыклад, адбылося так, што пасярод шляху адна авечка заўважыла нейкі пучок травы. Яна, узрадаваная, рушыла да яго, каб паесці. Але ў хуткім часе да яе падышоў пастух і пацягнуў назад. Не ведаю, што адбываецца ў авечых мазгах, але, калі б яна мела розум, напэўна, абурана падумала б: «Ну што за халера? Толькі-толькі **Я** сама знайшла сабе добрыя ўмовы, толькі-толькі пачала жыць нармальна!.. І тут з'яўляецца гэты мужык, адрывае мяне ад майго сціплага, але сумленна здабытага багацця і цягне мяне назад у пустыню! На які ляд ён гэта робіць?». Авечка, напэўна, у гэты час адчувала б вялікую крыўду і нават адчай. «Я і так вельмі доўга ішла па гэтай пустыні. Мне было цяжка. Я хачу адпачыць. Я хачу піць і есці. І вось як толькі я нарэшце знайшла сабе хоць нешта, з'явіўся гэты мужык і ўсё ад мяне адабраў!» Разумееш, авечка не можа ўсвядоміць, што пастух адарваў яе ад скуднага пучка травы і пацягнуў назад у пустыню толькі дзеля таго, каб пасля прывесці ў тое месца, дзе травы больш. Авечка не ведае мясцовасці, не ведае канчатковай кропкі маршруту. Тое, што для яе здаецца трагедыяй, насамрэч з'яўляецца выратаваннем.

Магчыма, што так і ў жыцці. Чалавек абураецца, губляючы нейкі дабрабыт, асабліва калі ён сам яго здабыў. Аднак гэта можа з'яўляцца не трагедыяй, а выратаваннем. Яму здаецца, што ён згубіў нешта вялікае, аднак насамрэч гэта можа выявіцца толькі дробяззю ў параўнанні з тым, што чакае яго наперадзе. І чалавеку не варта ўпадаць у роспач і крыўду, а варта даверыцца Таму, у параўнанні з Кім яго розум выглядае авечым.

— Ай, гэтая псеўдафіласофія — толькі глеба для самасуцяшэння і адгаворак няўдачнікаў і проста пасіўных людзей. Вельмі зручна — перакладваць усе свае няўдачы на лёс ці нейкія звышсілы. Сутыкнуўся з цяжкасцямі — усё згубіў, апусціў рукі. Маўляў, а можа, так і трэба?

— А можа і трэба?.. Увогуле, я не кажу пра нейкія там цяжкасці... Я кажу пра сур'ёзныя, лёсавызначальныя змены. Пра тыя фактары, якія не залежаць ад самога чалавека. Калі пастух адрывае авечку ад яе травы і ўздымае на плечы, хіба можа авечка штосьці супрацьпаставіць? Яна можа толькі крычаць і брыкацца, аднак істотна паўплываць на сітуацыю яна не можа. Проста таму, што не мае магчымасцей. Тое ж здараецца і з чалавекам: раз — і ўсё, ты нічога змяніць не можаш, застаецца толькі брыкацца і крычаць. Але ж я вяду да таго, што такія паводзіны — паводзіны неразумнай авечкі. Бо відавочна, што раз ты ўжо не суб'ект, які можа нешта вырашыць, а аб'ект, у дачыненні да якога штосьці адбываецца, то і галасіць няма ніякага сэнсу. Але веруючы чалавек не проста змірыцца, ён пры гэтым не перастае верыць, што ўсё гэта — да лепшага…

— Слухай, я ведаю «Кнігу Іова». Не трэба зараз яе пераказваць… Але перад гэтым ты распавядаў пра нейкія інструменты і рэсурсы. Казаў, што галоўнае — не згубіць інструменты, і калі-небудзь знойдзеш свой рэсурс, з якога пабудуеш жытло. Сам жа казаў, галоўнае — рухацца, галоўнае — шукаць, выбар за табой. А цяпер кажаш, што чалавек насамрэч нічога не вырашае, што ён толькі авечка, якая нават не мае магчымасці для супраціўлення нейкаму пастуху. Вось, напрыклад, чалавек, які нарадзіўся ў пустыні, не згубіў свае інструменты, усё жыццё блукаў з імі і нарэшце знайшоў рэсурсы. І толькі ён пачаў будаваць жытло — пажар, усё згарэла і навокал зноў пустыня. І ты кажаш, быццам бы гэта да лепшага?.. Не заўважаеш нейкай супярэчнасці?

— Абсалютна не. Ці думаў ты, што знойдзеных рэсурсаў магло быць недастаткова для пабудовы жытла? Ці думаў ты, што гэтыя рэсурсы маглі быць нізкай якасці? Магчыма, калі б чалавек пабудаваў сабе жытло са знойдзеных ім рэсурсаў, яно б абрынулася і заваліла б гэтага чалавека. Так, яму трэба будзе зноў блукаць па пустыні, зноў шукаць, але ж гэта лепш, чым быць пахаваным пад абломкамі? І няма тут ніякіх супярэчнасцей з вобразамі авечкі і Пастыра. Калі б авечка засталася са сваім скудным пучком травы, яна б доўга не пражыла — аналогія празрыстая… Ці, напрыклад, калі б авечка знайшла шмат добрай травы, аднак трава б гэтая расла па іншы бок ад рэчышча высахлай рэчкі. Авечка не можа ўсвядоміць, што пасля дажджу рэчка вернецца і дарогі назад ужо не будзе… А «Кніга Іова», дарэчы, не зусім пра гэта…

— Добра… Але ведаеш, што мяне заўсёды забаўляла ў гэтых старазапаветных вобразах?.. Відавочна ж, што авечак трымаюць толькі для таго, каб іх стрыгчы, а ў рэшце рэшт пусціць на мяса.

— Зноў-такі, трэба разумець, што гэты вобраз быў створаны, як лічыцца, дзесьці ў Палесціне. А там авечак разводзілі галоўным чынам для шэрсці, у авечак нават былі ўласныя імёны… Шэрсць — гэта тое, што авечка можа даць свайму пастуху, не страціўшы нічога. Як вобраз яна абазначае, напэўна, добрыя справы ці нешта такое…

## «Рука Бога»

Маявер ужо цалкам уключыўся ў размову, «навязаную» Даяведам. Яго смутак незаўважна развеяўся, ён узбадзёрыўся і прагнуў жывой спрэчкі, фармат якой цяпер падабаўся яму куды больш, чым фармат «свецкай гутаркі»:

— Ай, на мой погляд, нейкая супярэчлівасць тут усё роўна застаецца. Калі ўжо паглыбляцца ў рэлігійную парадыгму, атрымліваецца так, што, з аднаго боку, трэба рабіць нешта самому і пры гэтым спадзявацца на дапамогу Бога, а з іншага — нельга паддавацца спакусе. Так?

— Так.

— Дык вось… Іншым разам адрозніць, скажам так, руку Бога ад спакусы вельмі складана. Але «рука Бога» — гэта я так, умоўна. Тут і лёс, і карма… Карацей, нейкая правідэнцыя. Пытанне, напэўна, нават не ў веры ў нейкія звышсілы, а ў псіхалогіі самога чалавека, разумееш? Вось іншым разам лёс даруе нешта. І чалавек успрымае гэта адназначна, маўляў, «пашанцавала» ці «заслужыў», і карыстаецца гэтым падарункам. Іншым разам нейкія магчымасці, якія дае лёс, успрымаюцца як спакуса. Напрыклад, заляцаўся да адной жанчыны — яна адмовіла. Ажаніўся з іншай. І вось першая, скажам так, празрыста намякае на адзюльтэр. Табе хочацца, аднак ты разумееш, што гэта — спакуса. Разумееш, што гэта няправільна, што гэта выклікае негатыўныя наступствы. І ўвогуле, гэтай жанчыне трэба было раней думаць, а цяпер ужо позна… Тут усё адназначна… Але нярэдка бываюць такія выпадкі, калі правідэнцыю ад спакусы адрозніць вельмі складана. Напрыклад, ты вельмі шмат зрабіў, каб атрымаць працу, якую хацеў. І вось цябе заўтра гарантавана могуць туды ўладкаваць. Але сёння табе паступае прапанова аналагічнай працы, толькі з больш высокай зарплатай. І што гэта? Ты маеш магчымасць зрабіць выбар на карысць другога варыянта, не парушаючы пры гэтым ніякіх норм. Аднак існуе нейкая трывога і няўпэўненасць. І тут рацыянальнага складніка ўжо недастаткова. Недастаткова проста ўважліва прааналізаваць абодва варыянты, узважыць плюсы і мінусы, пралічыць рызыкі. Ёсць нейкая зусім нерацыянальная боязь таго, што, калі ты абярэш другі варыянт, у будучым гэта вылезе бокам, і ты пашкадуеш. Ведаеш, як кажуць: «Лепш верабей у руцэ, чым голуб на страсе» — гэты прынцып нават у народнай свядомасці замацаваўся. Многія людзі, сапраўды многія людзі ўспрымаюць шчодрыя падарункі лёсу як бясплатны сыр. Яны чакаюць ад іх нейкага падвоху, таму часта адмаўляюцца ад шэрагу магчымасцей. Некаторыя лічаць сябе нявартымі, таму і разглядаюць гэтыя падарункі менавіта як спакусу. Але ці так гэта насамрэч? Канечне, калі чалавек занадта паглыбляецца ў самакапанне і ва ўсім бачыць нейкую

сістэму, яму лепш звярнуцца да псіхатэрапеўта. Аднак нават прагматычныя людзі з цвярозым розумам іншы раз вагаюцца і не могуць вырашыцца… Ці, напрыклад, такая сітуацыя, калі ты можаш заставацца абсалютна пасіўным і пры гэтым нядрэнна жыць, а можаш біцца, каб паспрабаваць дамагчыся лепшага. З аднаго боку, вяртаючыся да тваіх слоў, — магчымасць напоўніцу выкарыстаць дадзеныя інструменты, шматкроць ускладняючы сабе жыццё, а з іншага — магчымасць карыстацца дадзенымі рэсурсамі: жыць ціха і спакойна, але сціпла і шэра… Дык як адрозніць руку Бога ад выпрабавання?

— Я думаю, што, калі гаворка ідзе менавіта пра Бога, верніку дастаткова толькі шчыра памаліцца і сказаць: «Калі не ад Цябе — забяры». А калі чалавек у Бога не верыць… хай падкіне манетку. Манетка, дарэчы, можа супакоіць чалавека псіхалагічна, дазволіць зняць з сябе маральную адказнасць…

— Ага, вось тое, пра што я раней казаў: калі ў такім выпадку нешта пойдзе не так, «вінаватай» будзе манетка… Зручна, зручна…

— Слухай, мне так здаецца: калі чалавек нечага насамрэч жадае — хай спрабуе, хай змагаецца. Вядома, не ўсё будзе адразу. Але ж трэба спрабаваць, трэба быць настойлівым… Калі дакладна ведаеш, чаго хочаш. А калі чалавек не можа зрабіць выбар і доўга топчацца на адным месцы, не ведаючы, у якія дзверы ўвайсці… Ну… Значыць, няма ў такім чалавеку характару і рашучасці. Але гэта неяк несур'ёзна, дарослыя людзі не павінны так сябе паводзіць…

— Добра, але я крыху пра іншае. Вось ты верыш у лёс, у знакі лёсу?.. Няўжо ты ніколі не сутыкаўся з такой сітуацыяй, калі ўсё само нейкім дзіўным чынам складаецца ў цэласную карціну і ты разумееш — гэта не супадзенне, гэта знак?..

— Сутыкаўся… Але чалавек часта бачыць толькі тое, што хоча бачыць. І тут можна сутыкнуцца не з «рукой Бога» і не са спакусай, а з банальным самападманам. Разумееш? У чалавека можа быць нейкая ўнутраная ўстаноўка, і ён пачынае… пачынае інтэрпрэтаваць факты такім чынам, каб яны гэтай устаноўцы адпавядалі. Умовы падстройваюцца пад ужо вядомы вынік, а гэта няправільна… А яшчэ я ведаю, што актыўны пошук нейкіх таемных знакаў і ўзаемасувязей — гэта псіхічнае расстройства… Апафенія, калі не памыляюся.

— Ну бывае ж так, што ты да нечага імкнешся, а ўсё быццам бы супраць цябе, нават усялякія форс-мажоры ўзнікаюць… Ты глядзеў «Пункт прызначэння»? — Маявер ужо стаміўся ад таго, што Даявед не разумее ці не хоча разумець сэнс яго пытання, таму паспрабаваў пажартаваць, каб крыху разбавіць спрэчку, якая ўжо станавілася нуднай.

Даявед станоўча кіўнуў і ўсміхнуўся — па інтанацыі і міміцы Маявера ён зразумеў, што пытанне пра фільм несур'ёзнае. Маявер жа працягваў:

— …Ну вось кшталту таго. А бывае наадварот: ты асабліва нічога не робіш, але ўсё само складваецца найлепшым чынам. Але гэтыя сітуацыі, на мой погляд, можна патлумачыць двума спосабамі. Першы: усё не так, як здаецца. Ведаеш, гэтая канцэпцыя адлюстравана ў шматлікіх казках… карацей, у культуры. Напэўна ж — не проста так? Сэнс у тым, што лепш абраць складаны шлях. Бо цяжкасці з'яўляюцца не пакараннем і не знакам таго, што ты трапіў у тупік, а выпрабаваннем. А лёгкі шлях з'яўляецца спакусай. Таму, калі ты абярэш складаны шлях і пройдзеш яго — будзеш шчаслівы, а калі абярэш лёгкі — загінеш. З іншага боку, магчыма, усё нашмат прасцей: складаны шлях — насамрэч складаны, а лёгкі — насамрэч лёгкі і ніякага падвоху тут няма. Але ж які падыход правільны? Дзе праўдзэнцыя, а дзе спакуса?

— Слухай, ну ты ж разумееш, што абедзве гэтыя канцэпцыі цалкам ірацыянальныя? Разумны чалавек павінен быць прагматычным, абапірацца на факты, аналізаваць і рабіць прагнозы: што будзе, калі абраць гэты шлях, і што будзе, калі абраць іншы. Вось і ўсё. Няма ніякай праўдзэнцыі, і

няма ніякай спакусы... Ёсць спрыяльныя і неспрыяльныя ўмовы — гэта нармальна. Ёсць псіхічныя асаблівасці ўспрымання інфармацыі. Але галава на плячах павінна быць у любым выпадку. І ўвогуле, мне нават цяжка ўявіць, каб дарослы чалавек так моцна пакутаваў перад выбарам і не адчуваў схільнасць да аднаго пэўнага варыянта… У крайнім выпадку — манетка, я ж сказаў… Не ведаю, што ты яшчэ хочаш ад мяне пачуць…

Наступіла цішыня. Маявер заўважыў, што зноў занадта разгаварыўся. Гэта было для яго нетыповым. Ён мог паводзіць сябе падобным чынам хіба што ў сваёй кампаніі, ды і то — толькі за чаркай. А тут нешта панесла: спачатку споведзі, пасля спрэчкі. Ды і на якія тэмы? З фактычна чужым чалавекам. Маявер быў здзіўлены сваімі паводзінамі, яму стала крыху сорамна і неяк няёмка за тое, што нагаварыў шмат лішняга, за тое, што настойліва спрабаваў выцягнуць з Даяведа разгорнуты адказ не нейкае ідыёцкае пытанне. Ён падумаў, што суразмоўцу, магчыма, увогуле нецікавыя такія тэмы, а тым больш — яго асабістыя перажыванні і псеўдафіласофскія разважанні. Маявер згадаў, што ў пачатку вечара спадзяваўся на лёгкую гутарку, а не на тую размову, якая ўрэшце атрымалася.

Але пачуццё сораму ў Маяверы было нейкае зусім малое і кволае. Яно знаходзілася дзесьці глыбока-глыбока ўнутры, быццам тычылася падзей, якія адбыліся ўжо даволі даўно, а не хвіліну таму. У той жа час ён адчуваў лёгкасць ад таго, як яму здавалася, што выгаварыўся. Маявер разумеў, што наўрад ці змог бы так пагутарыць з блізкім чалавекам, а Даяведа, магчыма, ён больш ніколі ў жыцці і не пабачыць. Такія думкі падаўлялі ўзніклае пачуццё сораму; Маявер адчуваў, што па вялікім рахунку ўсё зрабіў правільна, і ні аб чым імкнуўся не шкадаваць. Яму было лёгка і спакойна. Але разам з тым ён заўважыў, што паўза, якая ўтварылася пасля досыць працяглай гутаркі, збіла ў ім нейкі запал. Маявер адчуваў, як у ім згасае нейкая энергія і бадзёрасць, як баявы настрой змяняецца звыклым сумам. Аднак эмоцыі і думкі Маявера былі быццам бы нейкімі тусклымі; яны раствараліся ў густым, цёплым і ўсеабдымным адчуванні спакою, стомленасці і санлівасці…

Цішыню перарваў Даявед:

— Добра… Вось уяві, што ты на добрай машыне едзеш па аўтабане. Роўна, гладка і хутка. Прыгажосць. Але ты можаш з’ехаць на разбітую дарогу. І ехаць кудысьці ў іншы бок. Адразу ж знізіцца хуткасць. Машыну будзе значна трэсці, ехаць будзе вельмі нязручна. Задавальненне ад такога падарожжа значна меньш, чым ад язды па аўтабане. Будзе пыл і бруд. Машына можа забуксаваць ці ўвогуле зламацца… Але, з іншага боку, едучы па такой дарозе, ты можаш значна скараціць свой шлях. Магчыма, аўтабан робіць вялікую пятлю, а гэтая дарога ідзе напрамкі. Магчыма, наадварот. Вось і ўвесь выбар: ніякага падвоху няма. Можна спакойна ехаць па роўным аўтабане, а можна рызыкнуць і паехаць па разбітай дарозе. Трэба проста прааналізаваць кожны варыянт, а зрабіўшы выбар — весці сябе адпаведна. Бо забіцца можна ўсюды: справа не ў дарозе, а ў тым, як ты па ёй едзеш, — Даявед паглядзеў на Маявера так, быццам бы пытаўся: «Ну што, такім адказам ты задаволены?».

— Мая праблема ў тым, што я еду ў аўтобусе, — асаблівага імпэту ў Маявера ўжо не было, аднак яго ўзрадавала тое, што Даявед сам вырашыў працягнуць гутарку.

## Цыгарэты забіваюць

Праз некалькі секунд цішыні Маявер няўпэўнена спытаў:

— Мне можна паліць?

— Я ж не доктар — адкуль я ведаю, — Даявед паспрабаваў пажартаваць, перайначыўшы стары анекдот. — Калі сур’ёзна, то пачакай, для чысціні эксперымента лепш абыйсціся без гэтага. І ўвогуле, цыгарэты забіваюць.

Маявер расчаравана ўздыхнуў — хацелася паліць:

— Цыгарэты забіваюць... Але колькі трэба выпаліць цыгарэт, каб яны цябе забілі?.. Тысячы, дзясяткі тысяч… І толькі тады можа ўзнікнуць рак лёгкіх, ці яшчэ нешта… І скажуць: «Яго забілі цыгарэты». Але калі за ўсё жыццё выпаліць усяго адну цыгарэту — нічога не будзе. Калі за ўсё жыццё выпаліць пачак і нават блок — нічога не будзе… Калі паліць усё жыццё па адной цыгарэце ў дзень — напэўна, таксама нічога не будзе. Разумееш? Цыгарэты забіваюць, толькі калі іх вельмі шмат і калі паліць іх сістэматычна… Тое ж самае і з любымі непрыемнасцямі, стрэсамі, крыўдамі, расчараваннямі. Калі яны дробныя і здараюцца нячаста — іх можна нават не заўважыць. Калі адбылося нешта насамрэч сур'ёзнае — гэта можна перажыць. Але калі яны ідуць суцэльным патокам, калі новая непрыемнасць наганяе цябе яшчэ да таго, як ты здолееў адысці ад папярэдняй, — гэта забівае. Забівае ў самым прамым сэнсе, як забіваюць цыгарэты ці іншая атрута. Гэта не вобразнасць і не перабольшванне. Дарэчы, на дапамогу прыходзяць тыя ж цыгарэты, бухло, яшчэ нешта… Чалавек мае неабходнасць у нейкіх транквілізатарах, у нейкіх антыдэпрэсантах, але ў нашых умовах самымі даступнымі з іх з'яўляюцца нікацін і этанол…

Паўсюдная незадаволенасць, якая ёсць ва ўсіх сферах, пачынаючы ад асабістага і завяршаючы нечым глабальным, нібы правакуе піць і паліць… Я разумею, што гэта не аргумент, што гэта — спроба перакласці адказнасць з сябе на вонкавыя фактары… Але ж нездарма гэтая краіна — у сусветных лідарах па колькасці алкаголікаў і суіцыднікаў…

## Есці перад тэлевізарам

Даявед вырашыў паспрачацца:

— Ведаеш, я, як і многія іншыя людзі, люблю есці перад тэлевізарам. Там, праўда, звычайна паказваюць розную дрэнь. Цыцкі, дупы, жарты пра лайно… Неверагодна тупыя і прымітыўныя фільмы, у якіх акцёры нейкім чынам могуць і недаігрываць і пераігрываць адначасова… Паказваюць рэпартажы пра вайну, разруху, трупы, калек, галосячых жанчын, паміраючых дзяцей… А я ем… І ведаеш што? Мне смачна.

Разумееш, пра што я кажу? Трэба імкнуцца да нейкіх ідэалаў, да нейкай дасканаласці. Але разам з гэтым нельга прымаць блізка да сэрца ўсё тое, на што сам не можаш паўплываць. Так, калі паглядзець тэлевізар, а іншым разам — нават глянуць у акно, хочацца напіцца і забыцца ці выпаліць пару цыгарэт, каб супакоіцца. Але трэба прасцей да ўсяго ставіцца… Нават і ў асабістым…

— Гэта добра для тых, хто з'яўляецца насамрэч незалежным суб'ектам. Калі ў цябе ёсць уласны кавалак зямлі, гаспадарка, якая цябе цалкам забяспечвае, і ружжо, каб у выніку чаго пастаяць за сябе, — гэта адна справа. Пры такім раскладзе можна быць эгаістычным аднаасобнікам і смачна есці, гледзячы, як па тэлевізары паказваюць апакаліпсіс у жывым эфіры… Гэта сто гадоў таму можна было вось так вось жыць на якім-небудзь хутары паводле прынцыпу «мая хата з краю — нічога не знаю»… Але нават і тады маглі прыйсці і ўсё забраць. Дарэчы, і прыходзілі, і забіралі… А цяпер усё яшчэ горш, бо ты не суб'ект, не гаспадар, а так — у лепшым выпадку арандатар. І калі што — нагой табе пад зад і ўсё… І праблема нават не ў тым, што так ёсць па сутнасці, праблема ў тым, што гэта ўсё навідавоку і немагчыма забыцца на такое становішча і жыць, пакуль жывецца… Бо кожны дзень усё гэта наваколле нагадвае, што ты тут ніхто і зваць цябе ніяк… Нават сам гэты горад…

## Горад

— А што з ім не так?

— Ну, па-першае, трэба ўдакладніць, што я не мясцовы. Гэты горад мне не родны і ніколі такім не стане… А па-другое… На мой погляд, гэта не горад, гэта нейкі вялікі вакзал, і людзі ў ім — нібы праездам… Няма нейкай утульнасці, адчування, што ты дома. Ведаеш вакзалы? Граніт, шкло… Усё строга, усё прыбрана… Але няма нейкіх дробязей, нейкіх рэчаў, якія адрозніваюць

вакзал ад жытла… Такі казарменны парадак і чысціня. І ўвесь час туды-сюды сноўдаюць паліцыянты і прыбіральшчыцы. Паліцыянты і прыбіральшчыцы, казарменны парадак і чысціня… Але няўтульна… Усё функцыянальна, усё побач — ежа, чытво, прыбіральня, крэслы. Але немагчыма насамрэч расслабіцца. Няма на вакзалах… ну, ва ўсякім разе на тых вакзалах, дзе я быў, такіх куточкаў, дзе табе добра і спакойна, дзе ты адчуваеш сябе як дома. І справа, напэўна, не ў паўсюдных паліцыянтах, прыбіральшчыцах, бамжах і камерах назірання. Проста сама гэта вакзальная атмасфера, ведаеш? Мітусня… І, нягледзечы на парадак, чысціню і нават пэўную прыгажосць, увесь час смярдзіць чабурэкамі і танным бухлом… Вось прыкладна такое ж уражанне ў мяне і ад гэтага горада…

І людзі… Мясцовыя людзі не жывуць у гэтым горадзе, яны жывуць толькі ў сваіх уласных кватэрках. Калі не казаць пра бамжэй… А ў самім горадзе яны, як і на вакзале, — праездам. На працу, з працы, туды-сюды… Я ж кажу, на сапраўдных вакзалах заўжды ёсць нейкія патрэбныя пункты: кропкі харчавання, крамы, кавярні, прыбіральні, цырульні, забаўляльныя цэнтры… І тут таксама: з кватэркі — на працу, з працы — у кавярню, з кавярні — у краму, з крамы — у кватэрку. Але ў самім горадзе, як мне здаецца, амаль ніхто не жыве. Бо гэты горад, як той вакзал — казённы. Гэта не твой дом, гэта дзяржаўная ўласнасць… Для мясцовых людзей нават пад'езд ці лесвічная пляцоўка — не іх дом. Таму ўвесь час такая мітусня і абыякавасць, бо па вялікім рахунку ўсе ў гэтым горадзе — праездам…

— Але ж ты ў ім жывеш.

— Так склаліся абставіны… Скажам так, мой горад даў мне інструменты, але ў ім не было рэсурсаў… А тут яны ёсць. Але я б не сказаў, што жыву тут — я тут пражываю, часова знаходжуся. І таму адчуваю сябе, быццам на вакзале. Пакінуў рэчы ў платнай камеры захоўвання — і па справах… Увогуле, пра сваё жыццё я табе ўжо распавядаў…

## «Shocking Blue»

Маявер цяжка ўздыхнуў. Магчыма, ён успомніў нейкія асабістыя праблемы ці свой маналог пра аўтобус:

— …І вось што ў такім жыцці добрага?

— Ну як жа… Як мінімум «Shocking Blue».

Маявер разгубіўся ад такога нечаканага адказу. Ён нават крыху задумаўся — ці не пачулася яму. Зразумеўшы, што не пачулася, усвядоміў: гэта такі жарт. Аднак усім сваім выглядам быццам бы запытаў у Даяведа: «Ці ты дурны, ці ты смяешся?». Тым не менш пасля невялікай паўзы сказаў:

— Я ж маю на ўвазе сваё жыццё, а не жыццё ўвогуле.

— Ну… У цябе ёсць магчымаць слухаць «Shocking Blue».

Маявер паспрабаваў зрабіць сваю міміку, якая ўвасабляла неагучанае рытарычнае пытанне, больш выразнай. Аднак на яго твары ўжо сама сабою расплывалася шырокая ўсмешка. Яму стала сапраўды весела. Маявер разумеў, што адказ суразмоўцы не такі ўжо і просты, што ў ім ёсць пэўная філасофія і глыбокі сэнс. Але весела яму было ўсё ж ад абсурднасці і нечаканасці такога адказу, ад нейкай дзіцячай непасрэднасці, якая ў ім была.

— Ды ідзі ты са сваім «Shocking Blue…»

Маявер знарок паспрабаваў адказаць раздражнёна, злосна. Ён жа тут душу раскрывае, а Даявед жартуе, ператвараючы інтымны момант, чарговую споведзь, у нейкі сіткам. Аднак у яго адказе адчувалася толькі весялосць. Даявед задаволена усміхаўся. Маявер, таксама усміхаючыся, на некалькі імгненняў аб нечым задумаўся, быццам спрабаваў нешта згадаць. Пасля паглядзеў на Даяведа і нягучна прабубнеў:

— There's a long and lonesome road… na-na-na-na-world… of you and me, babe…

Ён амаль шэптам прамармытаў яшчэ два радкі, а пасля гучна і дастаткова выразна праспяваў:

— Well, I wonder, well, I wonder, where I am…

Твар Маявера зноў стаў сумным:

— Гэта ж амаль пра мяне… «Мне цікава ведаць, дзе я знаходжуся… Ёсць доўгая і самотная дарога…» Нічога сабе. Таму ты згадаў менавіта «Shocking Blue»? Няўжо ты прадугледзеў?..

— Я проста пажартаваў. Увогуле ў гэтага гурта шмат добрых песень. Я не мог прадугледзець, што ты згадаеш менавіта гэту. Я нават не ведаў, ці памятаеш ты што-небудзь з «Shocking Blue» увогуле…

## 420

Даявед паглядзеў на гадзіннік на руцэ.

— Прабач, я зараз, — ён падняўся і выйшаў з пакою.

Праз некалькі хвілін ён вярнуўся са шклянкай вады, якую паставіў на столік перад Маяверам. Гэтым разам шклянка была поўнаю практычна да краёў:

— Калі ласка… Стаміўся?..

— Не, нармальна… — Маявер узяў шклянку і адразу ж выпіў больш за палову.

— Як ты звычайна засынаеш?

— У сэнсе?..

— Хутка ці не? Што робіш, калі не можаш доўга заснуць?

— Ну… па-рознаму…

— Авечак лічыш?

— У дзяцінстве некалькі разоў спрабаваў — нічога, здаецца, не атрымлівалася. А што?

— Ёсць меркаванне, што здароваму чалавеку для таго, каб заснуць, у сярэднім патрабуецца сем хвілін. Чатырыста дваццаць секунд… — Даявед гаварыў вельмі павольна і спакойна. — Можна паспрабаваць проста лічыць ад аднаго да чатырохсот дваццаці. Канечне, перад гэтым трэба ўтульна легчы і расслабіцца… У цёмным, свежым, але не халодным пакойчыку, ва ўтульным мяккім ложку…

Маявер пазяхнуў:

— Мне ажно спаць захацелася… — Ён узяў са століка шклянку і выпіў ваду.

— Можаш прылегчы. Дык вось, лічыць ад аднаго да чатырохсот дваццацці. Канечне, чалавек звычайна, асабліва перад сном, лічыць больш павольна, чым праходзяць секунды, але далічыць да канца не так і проста… Увогуле лічыць па ўзрастанні можна «на аўтамаце», таму гэта нецікава…

Маявер слухаў і не мог зразумець, навошта Даявед ўсё гэта расказвае, але ўжо ад самога маналогу хацелася спаць. Ён пазяхнуў яшчэ раз і амаль «расцёкся» па канапе, аднак пакуль яшчэ хутчэй сядзеў, чым ляжаў. Даявед жа працягваў.

— …цікавей, але і складаней лічыць наадварот — ад чатырохсот дваццаці да аднаго. Часта нават не заўважаеш, як збіваешся і пачынаеш лічыць у другі бок… Напрыклад, чатырыста дзесяць… чатырыста дзевяць… чатырыста восем…

Даявед гаварыў павольна і спакойна, робячы вялікія паўзы. Маявер ужо сапраўды засынаў…

— …пасля падумаеш аб нечым і збіваешся: зноў ідзе чатырыста дзевяць, потым чатырыста дзесяць… І толькі пасля разумееш, што пайшоў назад… Іншым разам не можаш згадаць, на якім ліку спыніўся… А сакрэт у тым, што праз некаторы час — звычайна вельмі хутка — паміж лічбаў пачынаюць усплываць нейкія цікавыя думкі, успаміны, вобразы… І ты сам нават не заўважаеш, як пераключаеш усю ўвагу на іх і паглыбляешся ў нейкае падарожжа па сваім уласным свеце… Гэта быццам нейкі транс…

Маявер ужо распластаўся на канапе з заплюшчанымі вачыма. Даявед жа працягваў:

— І калі ў цябе сёння дзень эксперымента, давай правядзём яшчэ адзін… Уяві сабе табло, на якім будуць адлюстроўвацца лічбы, якія я называю… Чатырыста дваццаць… Чатырыста дзевятнаццаць… Чатырыста васямнаццаць… Чатырыста сямнаццаць…

Маявер сапраўды паспрабаваў уявіць сабе нейкае табло. Ён бачыў чорны экран, на якім гарэлі зялёныя лічбы. «Чатырыста сямнаццаць… Чатырыста шаснаццаць…» Аднак неўзабаве ўяўляць лічбы стала цяжка, ён згубіў канцэнтрацыю і проста слухаў павольны і спакойны голас Даяведа. У свядомасці насамрэч пачалі ўсплываць нейкія вобразы, нейкія цьмяныя думкі, якія былі вельмі абстрактнымі і расплывістымі… Здавалася, што голас Даяведа гучыць аднекуль здалёк... Маявер не заўважыў, як заснуў.

## Завяршэнне

Прачнуўся Маявер неяк раптоўна, без усякіх падстаў. У пакоі было ціха, святло таршэра было мяккім і цьмяным. Ён проста неяк здрыгануўся — і прачнуўся. Магчыма, проста таму, што спаў у не зусім зручнай позе.

Галава была цяжкай, быццам ён спаў вельмі шмат ці наадварот — закімарыў пасярод дня на некалькі хвілін. Маявер сеў на край канапы, абапёрся лакцямі аб калені і паклаў твар у далоні. Ад руху галава крыху закружылася. У пакой зайшоў Даявед:

— Ты памятаеш, дзе ты?

Маявер прамармытаў нешта адабральнае.

— Ты памятаеш, хто я?

— Ага…

— Добра. Тады хуценька адкажы на пытанні. Сем на восем.

Маявер падняў галаву, некалькі імгненняў падумаў і млява адказаў заспаным голасам:

— 56?..

— Сталіца Францыі.

— Парыж...

— Першы элемент табліцы Мендзялеева.

Маявер зноў задумаўся. Цяжка ўздыхнуў і працёр вочы:

— Вадарод?..

— Добра. Цяпер вельмі ўважліва. Згадай падрабязна ўсё, што ты памятаеш з таго часу, як прыехаў сюды. Падрабязна, Маявер.

Маявер глыбока ўздыхнуў і адкінуўся на спінку канапы. Зноў закружылася галава, стала млосна.

— Ну… Калі я прыехаў, паглядзеў на гадзіннік… Было 17:58, мы дамаўляліся на 18:00… Я пазваніў у дамафон, ты адчыніў дзверы. Ты паказаў ванную і прыбіральню. Я памыў рукі і зайшоў у гэты пакой… Пасля… Пасля ты паказаў мне дакументы… Яны адразу ляжалі на гэтым століку. Я іх прагледзеў. Потым я падпісаў дагавор. Ты даў мне таблетку і ваду, я выпіў…

— Што было далей?

— Я памятаю, што ты выйшаў з пакою… Я сядзеў адзін… Пасля, напэўна, заснуў… Здаецца, я разважаў пра сутнасць эксперымента…

— Ты памятаеш, як мы размаўлялі пасля таго, як ты выпіў таблетку?

— Не, здаецца, што не памятаю…

— Маявер, згадай: праз некаторы час я зайшоў у пакой…

— Не…

— Я папрасіў цябе ўстаць і прайсціся. Спытаў, як ты сябе адчуваеш. Памятаеш?

— Не, не памятаю… Магчыма, нешта цьмянае…

— Пасля мы крыху паразмаўлялі і я выйшаў… Ты памятаеш, пра што мы размаўлялі?

— Не, я ўвогуле не памятаю, што мы размаўлялі.

— Добра… Не хвалюйся, гэта нармальна.

— Колькі часу?

Даявед паглядзеў на гадзіннік на руцэ:

— Амаль поўнач. Ты можаш застацца тут.

— Не… Я лепш паеду дамоў…

— Разумею… Я таксама люблю перад сном чысціць зубы ўласнай шчоткай… Але яшчэ некалькі пытанняў. Раскажы падрабязна, як ты сябе адчуваеш.

— Галава баліць… Слабасць… Увогуле такое ўражанне, быццам бы я моцна выпіў напярэдадні… Лёгкае галавакружэнне, млоснасць…

— Хочаш кавы або гарбаты?

— Не, вады, калі можна…

— Добра, зараз прынясу. Скажы, табе снілася што-небудзь?

— Не, здаецца, нічога… Магчыма, нейкі мутны і цяжкі сон, але я нічога не памятаю…

— Успамінай… Ці не было ў цябе галюцынацый? Не толькі візуальных, але і слыхавых...

— Не, здаецца, нічога не было… Не памятаю…

— Як ты ўжо, напэўна, здагадаўся, прэпарат — снатворнае. Сродак досыць эфектыўны, але пакуль мае некаторыя хібы… Пра самыя распаўсюджаныя я цябе папярэджваў, але былі выпадкі, калі ў людзей здараліся яскравыя галюцынацыі, калі людзі трызнілі. Таму мы зараз яго і дапрацоўваем… Ну, добра…

Даявед устаў, узяў са століка пустую шклянку і выйшаў на кухню. Вярнуўся з вадой і нейкімі паперамі. Даў Маяверу шклянку:

— Вось абяцаныя грошы. Запоўні дакумент, што ты сапраўды іх атрымаў.

Маявер папіў вады, упэўніўся, што яму далі ўсю суму, і запоўніў дакумент. Уключыў тэлефон і паклаў яго ў кішэню. Пасля схадзіў у прыбіральню і ў ванную. Доўга мыў халоднай вадой рукі і твар, імкнучыся асвяжыцца, але ўсё роўна адчуваў сябе досыць кепска.

Калі ён ужо апрануўся, Даявед сказаў:

— Калі заўтра або пасля будуць якія-небудзь праблемы з самаадчуваннем — абавязкова тэлефануй або пішы. Але яшчэ раз нагадаю, што нічога такога быць не павінна. Карацей, усе неабходныя паперы ў цябе ёсць… Ну ўсё, шчасліва даехаць! Да пабачэння!

Мужчыны паціснулі рукі, і Маявер выйшаў з кватэры.

## Канец

…Даявед сядзеў перад камп'ютарам, праглядаў відэазапіс эксперымента і гаварыў у мікрафон: «…кантакт пачаўся прыкладна праз 15 хвілін пасля прыёму прэпарата… Паводле слоў аб'екта, дзеяння прэпарата і якіх-небудзь змен у самаадчуванні ён не заўважыў… Каардынацыя нармальная, гаворка крыху запаволеная… Аб'ект заўважна разняволіўся і актыўна падтрымліваў размову… Хутка цалкам пераняў ініцыятыву… Паддоследны пераважна займаўся рэфлексіяй, закранаў рэлігійныя тэмы… Разважанні абстрактныя… Тэматыка разважанняў накіравана ў асноўным на асобу самаго аб'екта, што адпавядае прынцыпу дзеяння прэпарата… Форма разважанняў, наяўнасць вобразнасці, рэлігійныя матывы тлумачацца суб'ектыўнымі прычынамі і асабаснымі характарыстыкамі аб'екта і дзеяннем прэпарата не абумоўлены… Гаворка звязная, лагічная, крыху запаволеная… Аб'ект не губляў сувязь думак і не рабіў рэзкіх пераходаў з адной тэмы на іншую… Такім чынам, можна зноў канстатаваць: дзеянне прэпарата не ўплывае на кагнітыўныя

функцыі… Аб'ект можа падтрымліваць размову, разумець пытанні і адказваць на іх, ён захоўвае здольнасць думаць і размаўляць лагічна. Таксама падчас дзеяння прэпарата не назіраецца праблем з памяццю. Больш за тое, у аб'екта прысутнічае тэндэнцыя да ўспамінаў з дзяцінства. У канкрэтным выпадку гэта было ў завуаляванай форме, аднак увогуле стасуецца з вынікамі папярэдніх эксперыментаў. Такім чынам, можна зрабіць выснову пра пэўную заканамернасць, пра дадатковую праяву дзейнасці прэпарата...

Сярод мінусаў у першую чаргу зноў трэба назваць залішнюю балбатлівасць аб'екта… Лічу, што гэты пабочны эфект можа ўскладніць ці як мінімум замарудзіць вырашэнне непасрэдных задач, ускладзеных на прэпарат. З іншага боку, дзякуючы гэтаму аб'ект можа даць нават больш карыснай інфармацыі, чым чакалі. Аднак нагадаю, што пакуль у большасці выпадкаў у якасці такой залішняй інфармацыі выступае рэфлексія, пра дакладнасць і аб'ектыўнасць гаворка не ідзе… Занадта «перагнулі»: ад адназначных адказаў пераскочылі да разгорнутых апавяданняў, трэба шукаць баланс…

Так… Аб'ект пад уздзеяннем прэпарата становіцца вельмі камунікабельным, адкрытым і шчырым, што адпавядае вынікам папярэдніх даследаванняў…

Антыдот я даў добраахвотніку ў раствораным выглядзе праз гадзіну пасля прыему прэпарата… Можна канстатаваць, што, як і ў ранейшых выпадках, аб'ект не заўважыў у напоі, у дадзеным выпадку вадзе, дадатковага рэчыва… Ніякіх пытанняў адносна смаку і паху вады ад аб'екта не паступала… «Каталізатарам» антыдоту паслужыў маналог эксперыментатара, падрыхтаваны ў адпаведнасці з інструкцыяй… Аб'ект вельмі хутка пачаў губляць канцэнтрацыю і актыўнасць, у тым ліку гутарковую… Заснуў прыкладна праз пяць хвілін пасля таго, як ужыў антыдот…

На будучае: лічу неабходным змяніць умовы эксперымента, каб пасля ўжывання аб'ектам антыдоту наадварот стымуляваць яго актыўнасць і ўздзейнічаць разнастайнымі раздражняльнікамі… Напрыклад, яркім святлом, гучнай музыкай… Папрасіць яго выканаць якую-небудзь працу, не дазваляць садзіцца ці абапірацца на што-небудзь… Важна прасачыць дзеянне антыдоту ў неспрыяльных для сну ўмовах. Гэты паказчык трэба будзе абавязкова ведаць, выкарыстоўваючы прэпарат на практыцы. Больш за тое, лічу мэтазгодным правесці эксперымент, у межах якога аб'екту ўвогуле будзе забараняцца спаць. Неабходна даведацца, якія будуць вынікі пры такой умове. Разумею складанасць і рызыкі такога эксперымента, таму прапаную дэтальна распрацаваць адпаведны праект…

Так, далей… Аб'ект прачнуўся прыкладна праз чатыры гадзіны дваццаць пяць хвілін пасля ўжывання антыдоту. Сімптомы: галаўны боль, галавакружэнне, слабасць, млоснасць… Аб'ект памятае свае дзеянні прыкладна дзесяць-пятнаццаць хвілін пасля таго, як выпіў прэпарат. Нават наводзячыя пытанні эксперыментатара не садзейнічалі вяртанню памяці… Відавочна, што аб'ект не ставіць пад сумненне агучаную версію эксперымента і верыць: ужытая таблетка з'яўлялася снатворным. Яшчэ раз падкрэслю, што аб'ект, мяркуючы па ўсім, не зразумеў, што ўжыў таксама і антыдот. Такім чынам, можна канстатаваць: эксперымент прайшоў паспяхова. І прэпарат, і антыдот спрацавалі так, як і планавалася. Падрабязны аналіз будзе падрыхтаваны на працягу тыдня, з улікам далейшага апытання аб'екта…

Дадатак. Вынікі праведзеных эксперыментаў сведчаць пра тое, што і прэпарат, і антыдот дзейнічаюць надзейна і стабільна. Лічу, што назапашаных дадзеных ужо дастаткова, каб у мэтах эканоміі спыніць эксперымент у цяперашнім фармаце і перайсці на новы этап. Прапаную праводзіць больш адкрытыя апытанні, каб даведацца, як лёгка аб'ект можа даваць эксперыментатару асабістую і канфідэнцыйную інфармацыю… Спрабаваць ставіць пытанні наўпрост… З гэтага вынікае, што трэба мець магчымасць праверыць дакладнасць атрыманых звестак, таму варта

больш сур'ёзна займацца адборам паддоследных… Псіхалагічных партрэтаў і асноўных звестак будзе ўжо недастаткова — трэба рабіць упор на факталагічны матэрыял…

Акрамя таго, няма гарантый, што аб'ект спакойна адрэагуе на адназначна няёмкае пытанне, напрыклад, пра пін-код банкаўскай карткі. Зыходзячы з нашай мэты, проста атрымаць дакладную інфармацыю — недастаткова. Паколькі пад уздзеяннем прэпарата аб'ект захоўвае здольнасць лагічна мысліць і досыць актыўна рухацца, неабходна ўпэўніцца, што ён не будзе рабіць спробаў збегчы ці аказаць супраціўленне… Пры гэтым варта ўдакладніць, паводле атрыманых даных, нягледзячы на захаванне згаданай здольнасці лагічна мысліць, аб'ект фактычна губляе здольнасць аналізаваць сітуацыю. Вынікі даследаванняў сведчаць, што аб'ект можа разумець прычынна-выніковыя сувязі, правільна рабіць лагічныя высновы, паслядоўна выкладаць свае думкі. Аднак уся яго ўвага накіравана на самаўсведамленне і рэфлексію, «аўтапсіхааналіз». І калі ўвагу аб'екта звонку не пераключыць на пэўную тэму, сам ён яе не пераключыць. Тэарэтычна аб'ект можа адказваць на абсалютна любыя пытанні і спакойна «выдаваць» самую інтымную інфармацыю, таму што пры гэтым яму будзе здавацца: нічога дзіўнага не адбываецца, сітуацыя нармальная, усё так, як павінна быць. Але калі аб'ект нейкім чынам задумаецца над тым, што адбываецца з ім у дадзены момант, і супаставіць факты, ён зробіць правільныя высновы. У нашым выпадку гэта азначае недаверлівае і варожае стаўленне да таго, хто задаваў пытанні, што можа прывесці да спробы збегчы ці агрэсіі. Такім чынам, неабходна праверыць рэакцыю паддоследных на самыя рэзкія пытанні на практыцы... Таксама нагадваю аб прапанове актыўна перашкаджаць засынанню аб'екта пасля прыёму антыдоту… Акрамя таго, лічу, што трэба змадэляваць сітуацыю, калі аб'ект увогуле не ўжываў антыдот…

Відавочна, што новы этап эксперымента характарызуецца значна большымі рызыкамі, галоўнымі з якіх з'яўляюцца рызыка непадпарадкавання і агрэсіі з боку аб'екта, а таксама, што больш важна, рызыка ненадыходу арганічнай амнезіі. Прымусовае выкарыстанне антыдоту для гарантаванай амнезіі небяспечна прыцягненнем залішняй увагі як падчас, так і пасля эксперымента (шум, сляды на целе аб'екта). Такім чынам, ствараецца сур'ёзная пагроза сакрэтнасці даследаванняў. З гэтай прычыны для перасцярогі, магчыма, будзе мэтазгодным вяртанне эксперымента ў межы закрытых устаноў…»

**Ад аўтара:** тут http://www.kgbveikla.lt/docs/show/2883/ і http://www.kgbveikla.lt/docs/show/2877/ можна спампаваць PDF-файлы з раней сакрэтнымі дакументамі КДБ (1983 г.) пра выкарыстанне «сыроваткі праўды». Такім чынам, скразны сюжэт у маім творы — не зусім фантастычны (калі ўлічыць, што за апошнія 40 гадоў «прэпарат» неаднойчы дапрацоўвалі).

**Глеб Ганчароў**

# Каятан Чабор

***раман у вершах***

*(заканчэнне, пачатак у № 9, 10, 11 за 2016 г.)*

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

XXXI

Часам цяжка ўявіць у апошнім стагоддзі,
Як ягоны старэйшы, сямнаццаты, брат
Здольны быў існаваць і рабіць пры феодзе,
У якім чалавек чалавеку — пірат.

Але так і жылі: сумавалі, служылі,
Нажывалі дабро, гадавалі дзяцей
Ды стараліся ў працы не рваць сухажыллі —
Прабаўлялі свой век, як і мы, карацей.

Роўна так ні за што не лічылі іх гранды,
Каралі, багдыханы і білі мурло,
І цярпеў просты люд пад уладай той банды.
Хіба што прэзідэнтаў тады не было…

У няспынных, падманлівых пошуках шчасця
Той, хто быў у майстэрстве сваім мастаком,
Увесь час уцякалі ад хатняй напасці
Да чужынскіх шчадрот разбітным маштаком[1].

Гэты ўчынак не быў вераломствам на справе,
Аніхто не трымаў бегуноў за жуллё:
Толькі-толькі аб нацыянальнай дзяржаве
Першым клопат займеў кардынал Рышэльё.

Ён пакрыху, ледзь-ледзь, памаленьку, старанна
Пачынаў прыпыняць феадалаў капрыз,
Каб пакінулі пыхі Атос з д'Артаньянам,
А таксама з Партосам ханжа Араміс.

Але гэтай ідэі ў астатніх краінах
Птушанём яшчэ доўга дзяўбціся на свет,
І крывавыя ліўні, бы сок журавіны,
Чалавецтва дасюль даганяюць услед.

Ну, а Густаў Адольф па сваіх меркаваннях
Быў не супраць гуманных падходаў. Таму
Да Сцякольны сцякаліся і лютэране,
І суніты, прыхільныя богу свайму,

І папісты, што ўніклі астрожных калодак…
Вось і ў верфі сярод пяцісот чалавек
Іншаземцаў быў вельмі вялікі адсотак,
І ўсе разам узводзілі шведскі каўчэг.

Мітуслівы мурашнік нагадвалі докі.
Тут ламалі хрыбты ад зары да зары
Разнастайных рамёстваў умелыя докі:
Абшывальшчыкі вошвай, краўцы, пушкары.

Высякалі чухонскія каменячосы
З непадатных гранітаў баластавы груз,
Плёў старанна на кроснах пяньковыя тросы
Малады кірпаносы канатчык-француз.

Так, плацілі ім добра — кароль не скупяндзіў,
Але, каб пра будоўлю гаворкі спыніць,
Кожны сябра, што быў у мантульнай камандзе,
Мог пра волю ажно на трохгоддзе забыць.

Тут яны начавалі ў клапіных каморках,
Пазіраючы праз агароджу на свет,
І на небе паўночным для іх дальназорка
Зіхацеў Млечны Шлях, роўна як бранзалет.

[1] Маштак — невялікі моцны конь.

(Толькі Хансан і Флемінг утрох з Якабсонам
Мелі права ў Сцякольну хадзіць уначы,
А чацвёртым да іх Каятан беспардонна
Далучыўся, дачасніку дзякуючы.)

Наш герой, не марудзячы, выйшаў на элінг[2],
Каб убачыць хутчэй таямнічы «Арго»,
Ды застыў, скамянеўшы. Мо так кожны элін
Камянеў пад палаючым вокам гаргон.

Не здаралася хлопцу дагэтуль відовішч
Сустракаць велізарней, і ён, як прафан,
Быў гатовы ўцячы да няўразлівых сховішч,
Бо са стапеляў тушаю левіяфан

Навісаў — гэты змей, што, паводле Ісаі,
Забівае крывава пачвараў марскіх,
Сваё тулава ў хвалях буйных выгінае
(Дваццаць сёмы ісаеў раздзел, першы сціх).

Палымнеючым вогнішчам, карай Садому
Ён пральецца на свет непахісным дажджом,
І дарэмна аб літасці будзе мадонну
Ў божым храме маліць, віючыся вужом.

Перад ім «Рыцар Ежы» раздаўленым зернем
Спарыннёвага жыта, расцёртага ў прах,
Безумоўна здаваўся, таму шчыры вернік
Быў не ў сілах суцішыць нявызнаны жах,

Што душыў і расплюшчваў нязмыўнай абразай
Чалавека нароўні з бязмозгаю тлёй.
Каралём галеон быў ахрышчаны «Вазай»
У няспыннай, сусветнай пагардзе сваёй

На ўспамін пра ягонага цёзку і дзеда[3],
Які вывергнуў вонкі раз'юшаны сверб,
Заснаваўшы дынастыю, мілую шведам,
Аб чым сведчыў фамільны загадкавы герб.

Гербаносцам заўжды на шчытах і пратэсах
Падабаліся цмокі, арлы і быкі,
Што клеўрэтам сваім дараваў Рымскі кесар
Пасля войнаў і боек са шчодрай рукі,

Паўнагрывыя львы, аднарогі з тыярай,
Леапарды, грыфоны, ваўкі, крумкачы…
Як сустрэнеш знянацку такі бестыярый,
Так і выцягнеш боты ад жаху ўначы.

Да таго ж у эмблемах сваіх ганарліва
Скарыстоўвала панства любы каларыт.
Ваяўнічыя роды пад гербам Ляліва
Аздаблялі сусаллю нябесны блакіт,

І намёт лазурковы быў золатам шыты;
Залацісты паўмесяц, сагнуты на ніз;
Па-над ім — залацістая зорка Давіда,
Дый увенчваў Ляліву фамільны дэвіз:

«Прама ў зоркі высокія мецяць мужчыны».
Каятан толькі зараз спасцігнуў душой —
Для яго менавіта з бацькоўскай прычыны
Старажытны дэвіз быў чароўнай імшой.

Але герб венцаноснага шведскага роду
Не падобным быў ні да адзінага з іх,
Нібы роданачальнік рыдлёўкабароды
Геральдыстам свядома намерваў пад дых.

Ці жаўтушны фантан, ці сапраўдная ваза,
Ці тальмахамі перапяразаны ферт[4]…
Кожны можа ўявіць нецэнзурныя фразы,
Што шаптаў сам сабе геральдычны эксперт.

Ды калі ты пакорліва тлусціш ля трона,
Будзь гатовы прыдумаць такі варыянт,
Каб паверыў кароль, быццам нават варона
Ўвасабляе сабой неацэнны брыльянт.

[2] Элінг — тое ж, што і стапель.
[3] Цёзка і дзед — маецца на ўвазе кароль Густаў І Ваза, нацыянальны герой Швецыі.
[4] Ферт — кірылічная літара «Ф».

Геральдысты таму запісалі ў аналы
Каментар, адпаведна якому набоб
Уздымае на гербе сваім дасканалы,
Неабдымны, як Швецыя, збожжавы сноп,

Бо з маленькіх правінцый, маёнткаў і вёсак
Пад правіцаю несакрушальнай сваёй
Ён стварыў на пагібель Еўропе калоса
І над светам падняў, нібы сноп над раллёй.

Толькі праўда заўсёды прасцей за паданне:
Беспадстаўна ахрышчаны вазаю сноп
Быў узняты на герб не цаной намагання,
А таму, што праславіў яго хлебароб.

На скалістых раўнінах усходняга ўзмор'я,
Ледзь прыкрытых падзолам і бедным пяском,
Чым яшчэ мог з убоства наладзіць падвор'е
Селянін, як не клопатам над каласком?

Мусіць, значна дакладней было на эмблеме
Маляваць не батфорты, вянец ці даху,
Не кентаўра з мячом альбо рыцара ў шлеме,
А сівую кабылу, кантар і саху?

Але ганьбы ад гэтага не абярэшся!
Хіба здольныя будуць прызнаць за раўню
Да сябе колькі-небудзь, хоць трошкі, нарэшце,
Самавітыя сем'і. Яны ж мітусню

Распачнуць навакол легендарных прабацькаў:
Той — пайшоў ад Аціпы, таму — Гедымін
Малаком у калысцы ўсе шчокі замацкаў.
Ну, а трэцяму — важны пра Мешку ўспамін.

І паблякне паблізу лілеі Бурбонаў,
Жаўтазелю[5] ангельскага, роўна янтар,
Ды рачынага крыжа паноў Ягелонаў
Саматканы са зрэб'я сялянскі кантар.

Але хай жа цяпер хоць адзін нагадае
Пра вытокі дынастыі, бо галеон
Пакарае адразу таго разгільдзяя,
Адрадзіўшы навекі святы таліён[6]!

Тое, што Жыгімонт будзе першай ахвярай, —
Гэта хатняя справа: ахвота ж яму
На кузэна было нападаць пад фанфары!
Дык настала пара, каб падгаіць чуму.

Трыццаць моргаў[7] дубровы жывой лесарубы
Ссеклі, спляжыўшы тысячу велічных дрэў.
Разам сёмы анёл, што павінен у трубы
Затрубіць, сапсаваўся, аглух, састарэў…

Кругам бортаў ад юта да краю бушпрыта
Цяслы грызлі драўніну, нібыта бабры.
Гэта прагнымі статуямі майстравіта
Аздаблялі ліхі карабель разьбяры,

На ўвесь рост акуратна рабілі фігуры,
На ляўкас[8] ільняны накладалі сусаль.
Як шкада, што для гэтай цудоўнай натуры
Быў пакуль што не ўзведзены дзіўны Версаль!

Згодна з густамі царственнага салдафона,
Запалохвання ворагаў дзёрзкіх дзеля,
Пазіраў апантаны берсерк на грыфона,
А Тыфон — ашаломлена на караля.

Імператараў рымскіх нахіл каракала
Пацвярджалі Нерон і Геліягабал,
Маркачом спадылба наглядаў Каракала,
Як любуецца чэравам медным Баал.

Тут Давідаў наёмны забойца Авеса[9]
Віжаваў за ахвярамі з цёмнай мур'і[10].
Пагражала, як джала, кап'ё Ахілеса,
Выпаўзаючай з вока прывіда змяі.

---

[5] Жаўтазель — кустовая расліна; была сімвалам англійскага каралеўскага роду Плантагенетаў.
[6] Таліён (старажыт.) — кроўная помста за злачынства.
[7] Морг — гл. заўв. 1 да часткі другой.
[8] Ляўкас — від мастацкага грунту альбо лаку, які выраблаўся з крэйды, размяшанай у рыбным клеі; у ляўкас найвышэйшага гатунку дадавалі льняны алей.
[9] Авеса — пляменнік і военачальнік цара Давіда, які, у прыватнасці, забіў Урыю Хетэяніна, калі Давід закахаўся ў ягоную жонку Вірсавію.
[10] Мур'я (старажыт.) — тое ж, што і трум.

І ў дадатак да гэтай раз'юшанай плоймы,
Што з бедламу вар'яцкага вылезла прэч,
Панакіданы горамі ядраў абоймы,
Ланцуговыя кніпелі[11], ножны[12], карцеч…

Узвышаліся ў шыхту літыя марціры,
Зіхацелі гарматы, як стосы манет,
І на фланзе чаргі, нібы згустак сатыры,
З вераб'іным жарольцам стаяў фальканет[13].

Спахмурнеў Каятан, бо заўважыў адразу,
Што алівавы флот — гэта воўчая сыць:
Ён не здольны адолець драпежнага «Вазу».
Тут бы хоць да другога анёла даплыць…

XXXII

— Ну, спадар Гаэтан? — засмяялася тройца. —
Прыпадала служыць на такім красуне?
Памаліцеся ж, каб наш любімы забойца
Жыгімонту штоночы кашмарыўся ў сне.

Толькі жаль, што на ім, як рапірай скрозь масла,
Немагчыма працяць праз пячонку ўсю Рэч.
Вось тады б і Варшава навекі пагасла,
Дый ірвала б Літвой на казацкую Сеч.

— Не, панове, даруйце, — іх трапныя злосці
Астудзіў Каятан. — Бо таму не бываць.
Беларусь ад таго не закурчыцца ў млосці,
І Варшава злаўчыцца рапіру стрываць.

Нездарма я сюды дабіраўся аж месяц.
Хіба гэтак зрабіў бы пусты крытыкан?
Ваш забойца не надта страшнейшы за «Месяц»
І працяць здольны будзе ўсяго «Пелікан».

Я самвочна пабачыў на верфі «Аліва»,
Як халопы славянскія без валакіт
Уздымаюць вялікай гурмою рупліва
Галеон пад мянушкаю «Бэзавы кіт».

Наша «Сонца» насупраць яго — толькі знічка,
Ды і «Ваза» — як ерэтыкоўскі касцёр.
Будзе Швецыя знішчана, нібы сунічка,
Па якой цяжкім ботам прайшоў скурадзёр.

На ім толькі гармат самых моцных калібраў
Устаноўлена болей раза ў паўтара.
Я ўжо пра фальканеты памерам з калібры
Ўспамінаць не жадаю — яны мішура…

Як у жніўні ці ў верасні іхні забойца
Пазасыпле чыгунным агнём Гамластан,
Мы тады закрычым да нябеснага Ojca[14], —
Іранічна па-польску сказаў Каятан.

Ад ягонай прамовы гаворка сцішэла.
З вока Флемінга выскачыў монакуляр,
Сёфрынг Хансан са збана ліў аслупянела
За каўнер Якабсону бруснічны адвар.

Цёк струменьчык за пояс аж чвэртку хвіліны,
Пакуль сцёгнамі змог Якабсон уявіць,
Як марнее ў пялёнцы малютка бязвінны,
Калі маці забылася перапавіць.

— Што тут ваша асоба бяссэнсава верзла? —
Запытаў Якабсон, распачаўшы скандал.
У раз'юшанасці баявых кантраверзаў
Падаваўся пяшчотнейшым выкрык «вандал»,

Бо ў пакрыўджанасці самых лепшых пачуццяў,
Што валодаюць творцам з зародкавых дзён,
Успрымалася невуцкаю каламуццю
Ўсё, у чым пераконваў смаркач-маладзён.

«Вы марочыце нас! — упікаў яго Флемінг. —
Гэта неверагодна. Адкуль у славян
Можа быць столькі моцы?» У крыку палемік
З ледзяной галавою стаяў Каятан

---

[11] Кніпель — артылерыйскі снарад, які ўяляў сабой два ядры, злучаныя жалезным ланцугом; выкарыстоўваўся для заблытвання такелажу варожага карабля.
[12] Ножны — артылерыйскае ядро, складзенае з двух паўшар'яў, да якіх былі прылітаваныя доўгія кінжальныя лёзы; у палёце паўшар'і круціліся адно адносна другога, і лёзы разразалі чалавека напалам, як нажніцы.
[13] Фальканет — гармата маленькага калібру, не болей за 5 см.
[14] Ojca(польск.) — Айца.

Ды чаканіў сваё: — Непрыяцель увосень
Спусціць «Бэзавы кіт» на абшар з ланцуга,
Вось тады мы прачуем праз месяцаў восем,
Як нам зубы са сківіц павыб'е цынга!

Якабсон з пурпуровым ад лютасці тварам
Чыркнуў пару радкоў на шурпатым жмутку,
Вартавому ўручыў і з бязлітасным жарам
Велізарнага дыхту даў жартаўніку.

Паўгадзіны шалёныя, злыя нападкі
Адбіваў Каятан. Але раптам кур'ер
Увайшоў і пакет з каралеўскай пячаткай
Перадаў Якабсону. Той з месца ў кар'ер

Разламаў найсвятлейшы сургучны адбітак,
Кінуў вокам ў дэпешу, збянтэжыўся і
Праглынуў проста з гляка бруснічны напітак,
Што яму не паспелі даліць у парткі.

На ягоным паклёпе зняважны, ліловы,
Красамоўны з кутка да кутка па пісьму
Быў накладзены «хер[15]», і ў дадатак — два словы
Петэрсонавым почыркам: «Верыць яму!»

XXXIII

О, чыноўны загад, нібы ў бронзе адліты!
Колькі спраў пахавана пад бронзаю той!
Колькі душ запісалася ў касмапаліты,
Каб іх не раздушыла загаднай плітой!

Мне таму Якабсона шкада неймаверна:
Ён амаль тры гады будаваў галеон,
Без астачы свой талент уклаў інжынерны,
Ажыўляючы «Вазу», як Пігмаліён,

Бракаваў асабіста дубовыя брусы
І звінючую ніць карабельнай сасны,
Падсумоўваў загадкавых лічбаў хаўрусы,
Зарабляючы працай буйныя чыны,

Карпатліва на контур выводзіў абводы
Крутабокага борта, і дошкі ў старчак
Шчыльна ссоўваў, каб у акіянскія воды
Выйшаў на паляванне імклівы ганчак.

Для яго не было нечаканым сюрпрызам,
Што не кеміць заказчык у справе марской,
А таму патураць каралеўскім капрызам
Не жадаў ані розумам, ані рукой.

Дур манаршай фантазіі буйна і бурна
Маляваў ва ўяўленні такі карабель,
Што пусці яго на супастата бравурна,
Гэта будзе не больш, чым плывучы бардэль.

Якабсон безуцешна круціў галавою,
Растлумачваў, што нельга ні мачтаў дадаць,
Ні прыбавіць каюты для тысячы вояў,
Ні паменшыць асадку «хоць футаў на пяць».

Ён употай і так шырыню павялічыў,
А тым самым паменшыў разлічаны ход,
Толькі б Густаў Адольф сваёй ласкай не ўзычыў
Ды ізноў не пачаў гарадзіць агарод.

Прыцягнуў жа з палону дахаты знянацку
Славалюба Чальборга нячысцік ліхі!
І ад кулі ў баі не сканаў па-салдацку,
І на дно не пайшоў у разгуле стыхій.

Караля на мякіне правесці няпекна,
Ды, аднак, дапушчальна, а здрада навек
У дзявятае кола[16] бяздоннага пекла
Завядзе, згодна з Дантэ. Хто ён? Імярэк!

Якабсон баязліва спытаў адмірала,
Але флемінгаў позірк, цякучы, як ртуць,
Гаварыў гераічна з адкрытым забралам,
Што не дасць на сябе вырашэнне спіхнуць.

[15] Хер — літара «Х» кірылічнага алфавіта.
[16] Дзявятае кола — у дзевятым коле апраметнай Дантэ змясціў здраднікаў, якія падманулі тых, хто даверыўся.

Сёфрынг Хансан, прыняўшы мужчынскую постаць,
Папраўляў перад люстрам фарсісты мундзір,
І, як брыдкая муха над ямай з кампостам,
Цягамотна звінеў малады бамбардзір.

Застагнаў Якабсон: «О, прадажныя змеі!»
Бо крывой і крывавай карціна была.
Тое, што Каятан пераконваць умее,
З чыстым сэрцам Гуніла пацвердзіць магла…

Якабсон выдзіраў з верхавіны валоссе,
Мураваныя сцены абстукаў ілбом,
Безнадзейна круціўся навокала восі
Ды скарыўся, сагнуты Чаборам нагбом.

Вось цяпер флатаводцы з вялікай падзякай
Падтрымалі на ўра Якабсонаў прысуд:
Хто прымае рашэнні ў прафесіі ўсякай,
Той свой хіб самым першым падсуне пад склюд.

Ёсць загад караля: галеон быў павінны
Сабе роўні не мець, і патрэбна было
Скончыць справу да дня трэцяе гадавіны[17] —
На дзясятага жніўня прыпала часло…

Працавала няспынна руплівая дума
Ледзь не тыдзень, і выйсце знайшоў Якабсон:
Калі зменшыць памеры баластнага трума,
Калі зняць са шпангоўтаў[18] чыгунны кільсон[19],

Калі кожную бэльку змяніць пацурбалкам
Ды станчыць абалонкі карцечных гранат,
Калі выкінуць розныя бэбахі цалкам,
Можна ў судна ўваткнуць яшчэ ярус гармат.

Рызыкоўна? Вядома! Бо будзе магчымасць,
Што тады галеон у бязветраны штыль
Да цабэрка з лайном прыпадобніцца чымсьці
І пакажа шыкоўна круты аверкіль[20]!

Але да заканчэння паўночнага жніўня
Яшчэ трэба зіму са слатою дажыць,
Перанесці ў нудзе красавіцкія ліўні
Ды абложныя майскія злыя дажджы,

Да пячонак у чэрвені гніць пад цуркамі,
Пад імжакаю ліпеньскай боты мачыць…
Хто там енчыць нясмела, што сэрца — не камень?
Лепей ціха ў анучку, сумленне, маўчы!

XXXIV

Каб не выйсці за межы фінальнага часу,
Зноў засеў Якабсон за таблеі, падлік,
Чарцяжы, трохвугольнікі і ватарпасы,
Зноў у нетры тэхнічнай навукі пранік.

Ах, шкада, што няможна манарху дэпешу
З запытаннем далейшых інструкцый пасланць!
На вайне ардынарац што конна, што пешшу
Будзе месяцы два па Еўропе гуляць.

А калі сапраўды на апошні дзень лета
Ў гавань прагна ўварвецца той «Бэзавы кіт»
І з марцір на адлегласці стрэлаў мушкета
Раздраконіць Сцякольну, як Саула Давід?

XXXV

Майстравітая брацыя ціха сустрэла
Перайначаны план карабельнай гульні,
Што з афэлкам наладзіў заморскі афэлак,
Абы грошы плацілі ва ўрочныя дні.

Паўздыхаў пралетарый і ўзяўся за свердлы,
За двухручныя пілы, грунтвагі, адвес.
Ах, як добра, што Божухнам створаны смерды,
На якіх і грунтуецца кожны працэс!

Згодна з новаю схемай гарматнай паставы
Дадатковыя люкі ўразалі на борт,
На насцілы дуб'ё пілавалі пластамі
Дзеля большай аховы ад віслінскіх орд.

[17] «Ваза» будаваўся роўна тры гады з 10 жніўня 1625 г. па 10 жніўня 1628 г.
[18] Шпангоўт — папярочны руб корпуса судна.
[19] Кільсон — падоўжны брус, які клалі на кіль карабля для большай устойлівасці.
[20] Аверкіль — перакульванне судна дагары нагамі.

Забрываў Сёфрынг Хансан на службу матросаў,
Красамоўна малюючы сытны паёк,
Пераможніцкі лёс між ільдоў і таросаў,
Ды захоўваў наўме выхаваўчы лінёк,

Але ўголас суцэльны рыксдалер[21] у тыдзень
Джэнтльменам на круг абяцаў капітан,
А таму да Сцякольны сцякаліся злыдзень,
І галодны жабрак, і гвалтоўны буян.

Адмірал… Ну, аб ім разважаць разнастайна
З непадробленай, шчырай пашанаю льга,
Калі б вобраз ягоны ваенная тайна
Не ахутвала начыста, быццам пурга.

Ён замкнуўся на ключ у сакрэтнай кватэры
І на мапах вычэрчваў праекты баёў,
Уяўляючы, як на антычнай трыеры
Топіць персаў каля саламінскіх краёў.

Каятану не менш лёсаносную справу
Даручыў Якабсон, аказаўшы давер:
— Вы павінны гарматы з чыгуннага сплаву
Перавозіць ад мануфактуры на верф!

Хто ж яшчэ, як не вы, разбярэцца рупліва
Ў асаблівасцях тонкіх дэталяў ліцця?
(Гэта годная мэта для герба Ляліва.
Вам жа, пан карабел, не хапае чуцця:

Запускаеце шэрага воўка ў аўчарню.
Гэты воўк не змарудзіць зарэзаць ягнё;
Каятанаў нагляд будзе значна пачварней
За напад, што на ніву вядзе груганнё!)

У прадмесці Сцякольны ліцейныя цэхі
Курадымілі неба, нібыта вулкан.
Металічныя рэхі таўкліся аб стрэхі
Так, што нават спачатку аглух Каятан.

— За цаной не марудзьце, — наказваў Чабору
Якабсон, — бо за зброю заплаціць казна!
Але гэты наказ быў ужо пераборам —
Каятана і так не трымала б цана.

Майстар «шэрая світка» казаў, што патрэбна
Прэць ля домны, чакаючы гаспадара.
Каятан выцер пот анучынаю зрэбнай
І вады сербануў аж з палову вядра.

Як тут людзі працуюць, зусім не зайздросціш!
Між струменяў металу і зорак агню
Мо яны на зямлі нежаданыя госці?
Дык Егову тады засячы за хлусню!

— Нечаканая радасць! — за спінай ялеем
Узвышаўся ў дыскант разліўны барытон,
Ад якога гіена пяшчотна самлее.
Каятан абярнуўся наўкол: — Петэрсон?..

— Так, мой сябар бясцэнны. О, як жа прыемна
Бачыць вас на няхітрым заводзе маім!
Спадзяюся, што вы да мяне недарэмна
Ў час нягоды звярнуліся… (Во, херувім!)

— Мусіць, зноў Якабсону патрэбны гарматы?
Я радзіме ахвярна аддам паўжыцця
Ды не буду запрошваць вялікае платы:
Толькі тысячу марак за штуку ліцця.

Каятан захапіўся цынічным прайдохам:
Налажыў сваю лапу на выраб баліст
І дашчэнту дзяржаўны бюджэт ухайдохаў…
Вось дык жук гэты чухальшчык-манапаліст!

Трэць казны — у кішэнь за марціры літыя,
Трэць — за пільны нагляд гарадскіх рубяжоў,
Трэць — за тое, што пяткі казыча і мые…
Адстаём мы яшчэ ў галіне крадзяжоў.

[21] Рыксдалер — грашовая адзінка Швецыі, якая змяшчала 25,6 грамаў срэбра.

Па руках? Па руках! І па ўласніцкай волі
Распаліў велічэзную печ качагар.
Зацягнуўся на твары маршчыністым соллю,
Нібы дымам, сухотны вяндлінны загар.

— Сценкі трэба прадбачыць таўсцей на паўцалі,
Каб ад моцных набояў не лопнуў канал!
Вам за працу вялікі барыш абяцалі,
Аніхто не загне, быццам я замінаў.

Павялічце прарэшкі ўдвая для прывязак[22],
Узмацніце лафет, ліце ў шыхту свінец.
На рашучую бітву пускаецца «Ваза»,
І няхай нам паможа нябесны Айцец!

Ці не вельмі нахабна сябе ён паводзіў?
Відавочная рызыка ў гэтым была,
Але чуў Каятан, што, з сумленнем у згодзе,
Па-над ім Петэрсон не закрые скрыдла.

Калі блізкае золата засціла вочы,
Ён на дыбе не выдасць ніводны сакрэт:
За сваю каліту нават рай раскуроча
Кожны сціплы чыноўніцкі анахарэт.

Рабацягі кракталі гурмою з натугі,
Калі плён Каятанаў цягалі на дэк.
Каб ім ведаць: дарэмнымі будуць ліхтугі —
Не каштоўней за талы залеташні снег.

У турботах зіма памаленьку сканала,
Вохкім ветрам да поўначы знесла вясну,
Алавянае сонца ў зеніце заззяла,
Цераз лета праворваючы баразну.

Горад заўтра ўрачыста ўпадзе на калені,
Будзе шчыра ўслаўляць баявы лупанар,
Быццам славяць Ісусава Богаяўленне
Вешчуны Бальтазар, Мельхіёр і Каспар.

Толькі зараз Чабор здолеў дух перавесці
Апасля сямі месяцаў працы на злом,
Калі ў сэрцы таемна нянавісць ён песціў,
Мімаволі наскрозь прасякнуўшыся злом,

Бо за месяцы гэтыя нават з Гунілай
Вельмі рэдка страчаўся. Начамі душа
Скавытала, рыдала, гнаілася, ныла,
Нібы тую душу верадзіла парша.

Але досыць! Дзясятага жніўня ён «Вазу»
Асабіста праводзіць у першы паход,
Потым — бегма за любай, і з ёю адразу —
На Літву, на Радзіму, на золак, на ўсход!

Як даўно ён не бачыў прынёманскіх пушчаў!
Там дурніцы, што бісерная біруза.
Як даўно пад ляшчынай арэхаў не лушчыў
Ля стаўка, дзе бразгоча крылом страказа!

Як шыпулькай даўно не калоў яго вожык,
Не сцябаў даўгахвостай сцяблінай лазняк!
Як даўно ён не чуў песнапенняў Каложы
І дасыта не еў дражджавы кулябяк!

Там пасецца табун у смарагдавых травах,
Па Птушынай дарозе да выраю гусь
Адвандроўвае ўвосень у хмарах дзіравых,
Паглядаючы з неба на Белую Русь.

Каятан прыляцеў з растрапаным панашам[23]
Да Гунілы… і ўчуў абяссілены стогн:
— Паслязаўтра ў царкве пра заручыны нашы
Ўсёй Сцякольне аб'явіць спадар Петэрсон.

XXXVI

Днём дзясятага жніўня ў сталіцы шалелі
Жабракі, мараходы, папы, парвеню;
У найлепшыя строі матроны адзелі
Беспардонна зняважаную малышню.

[22] Прывязкі — у XVII ст. гарматы на караблях мацаваліся на лафетах пяньковымі лінамі.
[23] Панаш (старажыт.) — віхор, чубок.

Са світанку на прыстань, дзе «Вазу» паважна
Ледзь пагойдваў павевамі свежы норд-ост,
Як наўзахваткі беглі і шлеечнік мажны,
І да пахвіны страціўшы ногі матрос.

У супольстве наспела вялікая драма,
Бо не кожнага Флемінг на борт запрасіў.
(Праклінала зацята прыемная дама
Даму, болей прыемную ў стаўленні ўсім.

Тая сціпла фасоніла побач з бізанню[24],
Вымушаючы Хансана на камплімент,
І букетам герані сяброўцы вітанне
Пасылала, як тэму для новых гавэнд).

Што яшчэ нам аб гэтай звычайнай нядзелі
Можа нудна казаць адрыўны каляндар?
У Сібіры казакі разбойнай арцеллю
Заснавалі тайговы астрог «Красный Яр».

У Маскве скамарох карагодзіў і блазніў
Ды мядзведзя вадзіў па Цвярской, па Ямской
З той нагоды, што ў царскай нацепленай лазні
Разрадзіцца гатова царыца дачкой.

За пацехай сачыў састарэлы апрычнік…
Па-за кратамі Фельтана, выйшаўшы з сіл,
Лэдзі Вінтэр — пантэра ў жаночым абліччы —
Спакушала, каб ён Бэкінгэма забіў.

У пакоі сваім, абудзіўшыся рана,
Каралева французская ўзмахам пяра
Напісала ласкавы дазвол д'Артаньяну
Перавезці Канстанцыю з манастыра.

З ненаеднай пражэрлівасцю печанега
Трэці дзень ля свінуха ў адрыне пустой
Пастухоў гвалтавала Дарота Сапега,
Ужываючы ўладу з усёй паўнатой[25].

XXXVII

О, якая ўрачыстасць узнесла сталіцу!
Капельмайстар батуту[26] падняў над плячом —
І ваенныя горны, як біч жарабіцу,
Цішыню напалохалі трубным мячом!

Тупаў рыцарскі марш, яркай меддзю абліты,
За бемолем імкнуўся ў паветра дыез,
Але ведаў Чабор, што з палёў Паспалітай
Коннай лавай насустрач ляціць паланэз!

Для Літвы і для Польшчы звычайны, будзённы,
Што ў сялібах і замках павольна гучаў,
Гэта ты — «Старадаўні», «Круглявы», «Хадзоны[27]» —
Грамады паспалітай карэнны прычал.

Колькі б нас не стамлялі агнём і жалезам,
Колькі б гора на долю не выпала спрэс,
Пачынаюцца балі ў Літве паланэзам,
І жыццё завяршае заўжды паланэз.

Пад уладаю Швецыі плакала Сольвейг,
Сінявокая Аўра[28] хавалася ў лес,
І паэт малады, азіраючы больверк[29],
На ліцвінскае мове шаптаў паланэз:

*— Возьмем, панна, белы бэз*
*І чырвоную вербену:*
*Распачнема паланэз*
*Нетаропкі і нятленны.*
*Распачнём апошні баль*
*Перад доўгім развітаннем,*
*І ўзляціць да неба жаль,*
*Пераплецены з каханнем.*

[24] Бізань — кармавая мачта; таксама ветразь на гэтай мачце.
[25] Усе гэтыя сапраўдныя і выдуманыя падзеі (згодна с летапісамі і раманам А. Дзюма «Тры мушкецёры») адбываліся 10 жніўня 1628 года.
[26] Батута — масіўны кій, які да XVIII стагоддзя выкарыстоўваўся ў якасці дырыжорскай палачкі.
[27] Старадаўні, Круглявы, Хадзоны — першапачатковыя назвы паланэза.
[28] Аўра — жаночая персаніфікацыя Фінляндыі, маладая жанчына 25-і гадоў; вядомая з XV стагоддзя.
[29] Больверк — набярэжная.

*Паланэз, паланэз,*
*Ты ляці з Дняпра на Нёман*
*Над палямі, цераз лес,*
*Праз густы птушыны гоман.*
*Ты на танец запрашай*
*Беларускую сябрыну.*
*Карыльён, званчэй іграй!*
*Раскатурхай вечарыну!*

*Возьмем крэмавы язмін*
*І пунсовую вяргіню:*
*Нашых продкаў успамін*
*Аніколі не загіне!*
*Бачыш, панна, навакол*
*Побач з намі сталі пары:*
*Вострых шабель частакол*
*Ды крылатыя гусары!*

*Паланэз, паланэз,*
*Ты ляці з Дзвіны да Буга:*
*Шаблі рыцарскай эфес*
*І шырокая папруга!*
*Ты на танец запрашай*
*Беларускую суполку:*
*Крочаць Гомля і Пяршай,*
*Крочаць Орша і Саколка*[30].

*У цябе рдзяны відук*
*І жамчужная пралеска:*
*Мы за кругам пойдзем круг,*
*Мая любая нявеста.*
*На сукенках чараўніц,*
*На хвалюючых гарсэтах*
*Ззяюць зоркі бліскавіц,*
*Бел-чырвона-белых кветак!*

*Паланэз, паланэз,*
*Ты ляці на Сож ад Шчары:*
*Не патрэбен нам англез,*
*І няма аб вальсе*[31] *мары!*
*Ты на танец запрашай*
*Беларускую айчыну!*
*Пацалунак, панна, дай.*
*Не саромейся, дзяўчына.*

*Палымнеючы гваздзік,*
*Маціцовая валошка,*
*Невялічкі чаравік*
*Ды какетлівая ножка —*
*Як шкада, што нам з табой*
*Не прызначана вянчанне,*
*Бо шляхецтва йдзе на бой,*
*Гарадзенцы і мінчане.*

*Адпачні, палітэс,*
*Сярод селішчаў і вёсак!*
*Беларускі паланэз*
*Узлятае да нябёсаў!*
*Паланэз, мацней іграй!*
*Бі, літаўра, апантана!*
*Кавалеру ручку дай,*
*Пераборлівая панна.*

— Якар выбраць! — скамандаваў Хансан матросам. —
Стаўце фок[32] і фор-марс[33], распусціце бізань! —
І дадаў да загаду абсцэнную глосу,
Ад якой у самога пяршыла гартань.

— Капітан! — зухавата Чабор адчаканіў,
Толькі голас ягоны быў грузным, што склюд: —
Можа, даць са сцвалоў перад доўгім расстаннем
Для супольства сапраўдны вайсковы салют?

[30] Саколка (цяпер — Сакулка) — горад на паўдарогі паміж Беластокам і Гародняй.
[31] Тут маецца на ўвазе сярэдневяковы французскі танец з той жа назвай «вальс» («вольс»), які і быў папярэднікам сучаснага вальса.
[32] Фок — ветразь на насавой мачце судна.
[33] Фор-марс — невялікі верхні ветразь на насавой мачце.

— Чаму не? — захапілася свецкая львіца. —
Цельпучок, абібочак, аддай жа загад!
Хансан пабарвавеў, як пракуда пад віцай[34],
І прасыкаў змяёй: «Гаспадарнічай, гад».

Феерверкеры зграбна адкінулі люкі,
З іх дзясяткі гармат паказалі насы.
Камендоры забегалі, бы мамелюкі,
З картузамі[35] льнянымі накшталт каўбасы,

Туга зброю набілі пад самае горла,
І ля кожнай з паходняй паўстаў кананір.
Утрапёна чакаў зачараваны горад,
Як да «Вазы» пацеху дадуць на гарнір.

«Ваза», быццам «Арго», адышоў ад прычала,
Аддаляўся ён прэч ад надзейнай зямлі.
Каятан, прычакаўшы сустрэчнага шквалу,
Падначаленым нема скамандаваў: «Плі!»

Нездарма Каятан сваю вольніцу цукаў,
Муштраваў на вучэннях і ноччу, і днём:
З усіх камараў[36] з порахам — хрусткім, што цукар —
Адначасна смальнула гарматным агнём!

Набярэжная радасна загаласіла,
Але тут жа экстаз памяняўся на жах,
Бо раптоўна магутны, вялізны асілак
Гайдануўся і неяк зачах на вачах.

Праз гарматныя порты, праз люкі, кінгстоны[37]
Ірванулася мора ў міжпалубны змрок,
І ад націску хваляў бізон мнагатонны,
Як карова на лёдзе, зваліўся на бок.

Не прынялі ад «Вазы» нябёсы малітву,
Падавіўся вадой крывапіўны маскіт —
Так дзеля Паспалітай апошнюю бітву
Адной назвай сваёй выйграў «Бэзавы кіт»!

Нешта мне сарамліва пісаць аб далейшым,
Толькі з песні ніколі не выкінуць слоў:
Каятан, не марудзячы, выпырхнуў першым —
Нібы стрыж на паветра ўзляцеў стрымгалоў,

Азірнуўся навокала з задавальненнем,
Улавіў нарастаючы лямант і шум,
Скінуў выспяткам хвосткім людзей са ступеняў
І задраіў на клямкі ўсе лесвіцы ў трум,

Потым скочыў за борт і паплыў да Сцякольны
То сажонкамі, то, як калан, на спіне;
Ён даўно не паводзіў сябе гэтак вольна,
Калі воля бывае ў чужой старане.

На аддаленым беразе змытая дамба
Адзінока стаяла пад ветрам марскім.
Там ляжала ў пяску непрытомная дама,
Дужа-дужа памерлая ў стаўленні ўсім.

Ані імені дамы, ні нават мянушкі
Так ніколі не здолеў прачуць Каятан.
Бірузовыя банты і жоўтыя стужкі
Апляталі яе, як магілу бур'ян…

XXXVIII

Цэлы дзень Каятан асцярожна дадому
Прабіраўся сярод галашэнняў і слёз.
Са Сцякольны да неба, як быццам з Садому,
Узнімалася хцівая безліч пагроз.

Ён таіўся цішком у глухіх падваротнях,
У смярдзючых закутках жабрацкіх трушчоб —
Каятана вяло да Гунілы смяротна
Нагаворнае зелле любоўных хвароб.

Уначы прашмыгне ён пры бліскanні поўні
Да пакоя Гунілы праз чорны ўваход
І з каханкаю разам апоўнач на поўнач
Накіруе хутчэй прадзіраўлены бот.

[34] Віца (старажыт.) — тое ж, што і розга.
[35] Картуз — мяшок з порахам.
[36] Камара — поласць у казённіку гарматнага ствала, дзе размяшчаецца парахавы зарад.
[37] Кінгстон — адтуліна з клапанам у вонкавай абшыўцы судна для прымання ці выдалення вады.

На сялянскіх драбінах, вярхом адвуконна[38]
Дабяруцца да горада Еўле[39] яны:
Там ніводзін нацкованы шпег Петэрсона
Аб Чаборы яшчэ не паведамлены.

У шумлівым, ажыўленым еўлінскім порце
Каятан зафрахтуе двухмачтавы кэч[40],
Дзе з Гунілай ніхто іх не знойдзе на борце,
Ды праз Фіншчыну — на Паспалітую Рэч!

Летуценні, куды ж вы заводзіце дурняў?
Хіба можна надзеі на шыю пятлю
Прыстасоўваць пад енчанне маршаў хаўтурных?
Гэта не спадабаецца і каралю!

Спаў маёнтак радней ядавітай прынадзе,
Не трывожыў яго ані гук, ані зык.
Цераз шторы сачыўся, падобна лампадзе,
Серабрыстага Месяца доўгі язык.

Пад нагой з асцярогай рыпелі масніцы,
Як на сметніку мачты патрэсканых шхун.
На манер згаладалай у лютым сініцы
Манатонна цырыкаў самотны цвыркун.

Ні адзінага малага шоргату нельга
Дапусціць… (Дык чаго ж ты таўчэшся, як тур?)
Гэта — ложак Гунілы, а побач з ёй Хельга
Запускае сімфоніі фіярытур.

Не паспеў Каятан дакрануцца да мілай,
Як атласная коўдра зашастала: «Шорг!» —
І знаёмым баском прахрыпела Гуніла:
— Аніякай ад вас неспадзеўкі, Чальборг.

Ён па-хамску прыбег за маёй нарачонай
Апасля самай подлай з магчымых афер,
Быццам нейкі вялікі, славуты вучоны,
А я — пэўны смаркач… — Гэта вы, Крыстафер?

— Так, мой сябар бясцэнны, і не прыдумляйце,
Што вас нешта другое сюды прывяло.
Свае байкі да допыту лепей стрымайце.
Эй, хто-небудзь, хутчэй запаліце святло!

Аб Гуніле забудзьце і думаць навекі:
Вам пабачыць яе не садзейнічаў лёс.
Да чаго ж акрыляюць дзявочыя вейкі
Ў дыяментах цнатлівых разгубленых слёз,

Быццам выпіў пякучы настой мандрагоры!
Ну, пайшлі, а то трэба гадзінку паспаць.
Мы з табою, нягоднік, яшчэ пагаворым
Так, што потым ні слова не зможаш сказаць!

XXXIX

…Ля драўлянага сподка з сапрэлым бацвіннем
Баляваў з асалодай руды таракан.
У кутку казэмата, нібы ў дамавіне,
Камячком беспрытомным ляжаў Каятан.

Петэрсон увасобіў свае абяцанні
Ды заліў цераз горла расплаўлены воск.
Разам з воскам нястрымна пякельныя здані
Заляцелі сляпнямі ў запалены мозг.

Па крываваму Нёману, зрублены з вязу,
Рушыў «Бэзавы кіт» у дурнічны прыток,
Дзе Пярун асядлоўваў пярэстага «Вазу»,
Абляпляючы сажай каваны эсток.

Патанулая дама малітвы бубніла,
Увіваўся за ёй трансільванскі сатыр,
Выгіналася ў скоках распусных Гуніла,
Непакрытая Хельга чытала псалтыр.

На жыгучай асіне асінае джала
Падаўжалася і запляталася ў дрот,
І з вачніцы Сапегі змяя выпаўзала,
Забіваючы вострым цвіком страваводд.

[38] Адвуконна (старажыт.) — прыслоўе, якое значыць: «адначасова на двух конях» (параўн. з рускім «одвуконь»).
[39] Еўле — партовы горад за 170 км на поўнач ад Стакгольма.
[40] Кэч — гандлёвае судна для прыбярэжнага плавання.

Петэрсон, як прывёз Каятана за краты,
Безупынна да ранку яго катаваў.
Пугабойцы спадручныя, нібы вар'яты,
Прыкладалі да спіны пякучы метал,

Насыпалі на язвы лімонную цэдру,
Раз'ядаючы луг[41], шараваную соль,
І кругом галавы абвівалі паледру[42],
Каб праз лямант ірваўся нястрыманы боль.

Расказала пра ўсё змардаванае цела.
Петэрсон не паверыў спачатку, але
З горла слова, збіваючы слова, ляцела,
Быццам кінуць баялася праўду ў імгле.

— Божа мой! — шапянуў Петэрсон гарапашна. —
Як жа гэта нязграбна, няправільна ўсё:
Адмахнуцца ад спадчыны і бесшабашна
На разніцу адправіцца, што парасё!

Разумееш, дурненькі, твой подзвіг — бязмозгі,
За радзіму на карту не ставяць жыццё.
Я б табе з асалодаю выпісаў розгі,
Каб да скону гадзін адчуваў калаццё,

Толькі час адышоў, і адзінае выйсце
Для цябе безумоўна адкрыецца ў свет:
Паслязаўтра ты будзеш, як жухлае лісце,
На вяроўцы матляцца. Мо хочаш кларэт?

Пагаджайся, бо ты ні гарэлкі, ні элю
Ўжо ніколі не зможаш ад сэрца папіць.
Мабыць, толькі атрутны настой з пустазелля
Да катла прынясуць, каб у кіпень падліць.

А ты ведаеш, як я цябе рассакрэціў,
Здагадаўшыся, што ты варожы шпіён?
Не патрэбна зашчэпліваць трумныя клеці,
Калі ў хвалі кульнуўся набок галеон.

Баязлівец бы скокнуў у мора адразу,
А не стаў бы на клямкі праход замыкаць.
Значыць, ты быў упэўнены цвёрда, што «Ваза» —
Не жыхар. Ну, і хто абыякавы таць[43]?

Ну, не хочаш кларэту, дык, можа, раптоўна
Лічыш воск саладзейшым за гэта віно?
Бо жыццё чалавека таму бескаштоўна,
Што нічога зусім не каштуе яно.

XL

Ужо позна чаргой на сябе нараканні
За нязданую, чорную долю валіць:
Ах, як добра было б з маракамі вякамі
Пад прывольным распушчаным ветразем плыць!

Недзе ў далях засмечаных плошчаў і вулак
Сярод лужын слаты — коўзкай, нібы алей, —
Цесляры будавалі апошні прытулак
Для бязбожнага вылюдка — як маўзалей.

Два надзейных слупы на трывалым памосце,
Паміж імі звісае аборкай каўнер,
Каб трашчалі, драбніліся шыйныя косці
І каб цяжка памёр, падабраны памер…

Ад Літвы паўставала вялізнае сонца,
Падрумянены бок паказаўшы на чвэрць,
І бясконца,
                    бясконца,
                                        бясконца,
                                                            бясконца
Са скрадка, нібы рысь, падкрадалася смерць.

— Сын мой любы, — святар нахіліўся над вязнем,
І адрыжка ад рыбы запоўніла свет.
(Пэўна, так па-над возерам серным міязмы
Душаць д'ябла, як сведчыць святы Запавет).

[41] Гл. заўв. 12 да часткі трэцяй.
[42] Паледра — венецыянскае катаванне, якое зводзіцца да сціскання галавы суровай вяроўкай; таксама вяроўка для такога катавання.
[43] Гл. заўв. 19 да часткі трэцяй.

— У грахах сваіх недаравальных пакайся,
Каб мы з Госпадам паадпускалі табе,
Альбо гэткіх грахоў непад'ёмная кайстра
Надламае цяжарам твой кволы хрыбет.

Хто ты ёсць па абраду, бадзяжны бывалец?
Каталік, праваслаўны ці, можа, кальвін?..
Але ўзняўся ўгару размажджэраны палец,
І Чабор прасіпеў цераз воск: — Я — ліцвін!

— Хопіць, пастар! — сказаў Петэрсон раззлавана. —
Хай з яго Сатана зварыць юшку ў катле.
Яму дай толькі волю: такога рамана
Не прыдумаюць нават Сервантэс з Рабле!

Валачыце яго — ужо сонца на ўсходзе,
Хутка горад прачнецца, а лішніх вачэй
Мне на службе хапае. Павесім — ды й годзе!
Каралю справаздача патрэбна хутчэй.

Каятана да дрогкіх драбін прыкавалі,
Ды праз брамку, якая ў завулак вяла,
Курс на шыбеніцу ва ўзбярэжным квартале
Прыгаворніцкая кавалькада ўзяла.

Загрымела брусчатка пад цугам канвою,
Конскі крыж абвівала шляя, бы змяя,
Але раптам маланкай пранізлівай мроя
Асляпіла: «Няўжо Суламіта мая?..»

Так! Спадар Петэрсон у адкрытай карэце
Прымасціўся ў пазадках жалобных калёс,
Быццам бы сваю кралю айцец Капулеці
На агледзіны вёз, учыняючы лёс:

— Пакуль нас да канца не наблізіў кірунак,
Развітайцеся з прагнаю марай сваёй,
І не трэба казаць, нібы мой падарунак
Вылучаецца скнарлівасцю. Божа мой!

Я б, Гуніла, для вас жамчугі, дыяменты,
Камяні самацветныя ў ложак насіў,
Распяваў серэнады, складаў кампліменты
Так, што вы б у знямозе ляжалі без сіл,

Але ж вы мне сказалі лухту, ахінею,
Папрасіўшы знянацку наведаць турму.
Бачыць Бог, што я гэтага не разумею!
Ну, чаму ж?!
              Ну, чаму ж?!
                            Ну, чаму ж?!
                                          Ну, чаму ???

Нам да вісельні ехаць амаль паўгадзіны,
Паглядзіце апошні разок на яго…
Залунаў па-над Швецыяй ключ лебядзіны,
Выглядаючы стрэлападобнай чаргой,

Цішынёю мяло па сцякольненскіх стогнах[44],
І рассейваўся моташны колавы рып
У маўклівых і немых Гуніліных стогнах,
Безнадзейных, як вечнасці роспачны хрып,

Як адчай пад'ярэмнікаў каменяломні,
Як канаючага перарывісты ўдых,
І з блакітнымі промнямі карыя промні
Запляталіся цесна ў абдымках нямых.

Кавалі Каятана з драбін адкавалі
Ды пад пахі да плахі ўзвялі стрымгалоў.
Па Гуніліным твары танюсенькай хваляй
З пабялелай губы пакацілася кроў.

Распасцерла свой зеў павукова жавала,
І ўзнасілася ў горную высь малітва́:
Перад вокам анёла, як рай, паўставала
Незнаёмая ёй Беларусь — мо Літва —

Той чаборавы край, дзе чужынскія зграі,
Быццам дома, святкуюць вядзьмарскі абрад,
Там, дзе ў косткі іграюць пачварныя граі[45],
Дзе краіну з падвор'я вядзе канакрад.

---

[44] Стогна (старажыт.) — шырокая вуліца.
[45] Граі (міф.) — тры брыдкія старыя, у якіх на ўсіх былі толькі адно вока і адзін ікол, якія яны штодзень разыгрывалі ў косці.

Перакладзіны вісельні — Волга і Вісла,
А слупы — гэта Швецыя і Дзікі Стэп:
Беларусь над бяздоннем між імі павісла
З галавой, заматанай ва ўдушлівы крэп!

— Бач, як смешна прыдурак матляе нагамі, —
У клікунстве зайшоўся пузаты святар, —
Каб яго ў апраметнай крывымі рагамі
Да прагнілых вантробаў бадаў Люцыпар!

І Гуніла шпурнула ў пустую лічыну,
Хоць сляза выядала ёй вочы, як дым:
— Той, хто здолеў бясстрашна сканаць за Айчыну,
Не бывае ні смешным, ні нават дурным!

## ЭПІЛОГ

У сямнаццатым слёзатачывым стагоддзі
Пад бясконцыя стрэлы марцір і гармат
Над Еўропаю войны ў буйным карагодзе
Гнаякроўем сплывалі, нібыта стыгмат.

Дзеля большага поспеху гонарных тронаў
Самадзержцы ў чалесніку лютай вайны
Адпраўлялі не толькі князёў ды баронаў,
А яшчэ і народы вялі да труны.

Апускаліся людзі ў бясконцы калодзеж,
Пакідаючы неба блакітны абрус,
І ніводнай душы ў памінальны сінодзік
Не занеслі ні Швецыя, ні Беларусь.

Каятану дасталася гэтая ж доля.
Скрозь муаравы вэлюм марудлівых хмар
Толькі срэбныя зоркі, нібы жырандолі,
Асяняюць далёкі засыпаны яр.

Больш цікавая справа была ў Петэрсона:
Да вяртання ў сталіцу свайго караля
Так аформіць паперы, каб нават кансона
Не была мілагучней за тое «ля-ля».

І, калі цераз месяц валовым батфортам
Да Сцякольны наблізіўся Густаў Адольф,
Петэрсон сустракаў яго доказным тортам,
Што жыццё караля — гэта тло і юдоль.

— Хто зачыншчык ганебнай пагібелі «Вазы»?
Вы, мой любы ўладар! Ну, а як жа інакш?
Дайце толькі загад — і тады вадалазы
Паспускаюцца ў мора з імпэтнасцю квакш.

Там яны адшукаюць сляды галеона,
Пазнімаюць памеры, і ўбачыце Вы,
Што дарэмна сярдуеце на Якабсона.
Ён і так ледзьве-ледзь не знасіў галавы.

Вось усе чарцяжы, праектыўныя схемы,
І на кожнай Ваш пэўны аўтограф стаіць.
Хіба можна дзеля вырашэння праблемы
Са слугі паслухмянага здзекліва кпіць?

(Пакуль Густаў Адольф пасля доўгай адлучкі
Асабісты свой подпіс дакладна звяраў,
Якабсон у кішэні свавольныя ручкі
З поснай мінай манаха глыбей прыхаваў.)

— Ды якія шпіёны, якія агенты?
Хай мяне за хлусню засячэ крапіва!
Гэты жах пачалі разнасіць інсургенты,
А пад'юджвае іх гарадскі галава.

Так, адзін баязлівец прабраўся на «Вазу»,
Але ён быў звычайны нявопытны кок,
Як учуў небяспеку, дык з плачам адразу
Проста ў мора сцюдзёнае з камбуза — скок!

І кароль зразумеў, што ніколі ён праўды
Не даб'ецца, хоць здохні, як марная моль!
Аніяк бюракрата не схопіш за фалды,
Можна толькі да скроні прыставіць пістоль

Ці адправіць яго на абед папуасу
(Каб не ўжыць болей мацерны моўны зварот),
Але ўжо дэмакратыя Новага Часу
Бессаромна таўклася ля задніх варот.

«Гэта ж век не дваццаты і не дваццаць першы,
Каб бязвінных садзіць без разбору ў турму», —
Думаў Густаў Адольф, і маркотныя вершы
Мімавольна палохалі розум яму:

*«О, хто адкажа мне, чаму здаўна*
*Бярэ заўсёды верх столаначальнік?*
*Здаецца, хлусіць свету Сатана,*
*Што цалкам перамог яго Стваральнік».*

Пільнаваў Петэрсон, пазабыўшы пра літасць,
Капцюрамі чыноўнымі праведны блеф,
І патухнуў кароль перад прагнаю світай,
Быццам перад шакаламі скораны леў.

Уздыхнуўшы са скрухай, з манаршай кашолкі
Ён пачаў падарункі дажджом рассыпаць
На вялікую радасць прыдворнай суполкі,
Толькі б пераварот не наладзіла знаць.

Петэрсону дастаўся багаты фальварак,
Якабсон атрымаў залачоны тальмах,
Хансан — новы медаль на раскормлены карак,
Флемінг — чын генерала. (Хай згіне ў штармах!)

А калі яшчэ год скрышыў млынавы камень,
І было перамір'е заключана, то
Петэрсон, атрасаючы пыл пад нагамі,
Сам раптоўна сышоў у нямое Нішто:

Паслізнуўся, калі ў дараваным маёнтку
Цераз рэчку лясную праходзіў масткі.
Толькі ястраб, ганяючы сіваваронку,
Шкадаваў, што сплывае ласунак такі.

Праз два тыдні на водмелі шызага мора
Рыбакі падабралі абгрызены труп,
Пасінелы, ліловы, як кветка чабора —
Ён аглух ад анёльскіх захопленых труб.

…Над сядзібаю плакалі шэрыя ліўні,
Вечарамі ў каміне гулялі агні,
Наганяючы сум у сярэдзіне жніўня
Ды тугу ва ўсе іншыя нудныя дні.

Безудзельна ўдава знемагала ў святліцы
З кучарамі, што жухлы, лінялы каштан,
І гарэла лампада ля сціплай бажніцы,
Дзе лунаў на іконе святы Каятан.

З крутабокага ўзгорка на золку Гуніла
Кожны дзень паглядала з маркотай на ўсход:
Там ліцвінскае сонца планету будзіла,
Узнімаючыся над бязмежнасцю вод,

І ляцела да сонца сасмаглая мроя
Ў неспазнаную шыр, на Літву ўдалячынь,
Разам з роспачным шэптам над хваляй крутою
І малітвай ўдавы: — Ты хутчэй даляці!

Пакажы мне, як свечкамі дыбяцца коні
На зялёных кілімах прасторных лугоў,
Як бягуць па Літве ад Сянна да Смаргоні,
І ад Іўя да Ельска імчаць стрымгалоў,

Пакажы, як нясецца пад вежамі Брэста
Неўтаймоўны табун да свабоды сваёй,
Як ягоны важак з гагавіцай пярэстай
Вараную сяброўку вядзе за сабой.

Ты пачуй мае словы, мой дэраш ласкавы,
Ды павер, што не кінуў цябе Каятан,
Прыскачы ў Маларыту, з'явіся ў Паставы,
Разбудзі капытом кожны хутар і стан

І скажы ім: «Ваш сын не забыўся Радзімы,
Не схаваўся ад смерці ў балота, як трус».
Ды свяціцца навекі твой подзвіг, любімы!
Ды свяціцца імя тваё, Белая Русь!

# Анна Аўгустыняк
# Я кахала, калі яна адышла

**Пачатак твора «М» надрукавала ў № 8. Тут прапануецца працяг гэтага кранальнага спалучэння свецкага і сакральнага, турпізму і прыгажосці, сумнення і бунту.**

Ты хадзіла ў пакоях Налкоўскай, выглядала праз акно: Вось тут маглі б цвісці юкі. Ты выкапала іх у сваім садзе і занесла. Лісты як мячы пальмы ў разеце. Кветкі на трохмятровым дрыне. Плюмаж з крэмавых званоў. Рабаткі прасякаліся саладкаватым водарам. Было так, як і павінна быць у сапраўдных жанчын. І толькі галава сытая краявідамі. Мая і твая. Каго ты кахала больш за ўсё? Як гэта каго? Мужа. Маці глядзіць на свой адбітак у люстры. Нязграбна спрабуе паправіць валасы. Упэўнівае сябе і мяне: Вядома, мужа. Заўтра яна ўжо памрэ. Яна ўвесь час такая прыгожая, што магла б ляжаць у труне са шкляным акенцам. Тым больш што на ёй будзе крэмавая блуза і світэр з гузікамі з перлаў. Бацька кажа, каб апрануць яе ў чорны або цёмна-сіні касцюм. Як нейкую цётку, думаю я. Гэтак жа, як апранулі Налку. Але ёй было ўжо недзе каля сямідзесяці, хто б апранаў яе ў сукенку ў гарошак? На ёй павінна быць тое, што яна любіла, кажа сястра, і мы пачынаем выцягваць з шафы майткі, станікі, калготы. Зусім не чорныя. Я гляджу, як сястра раскладвае гэта ўсё на ложку. Нібы збірае маці на курорт. Не будзе ўжо аніякага курорта. Доўгае паміранне лета. Звялыя дрэвы. Вось што ў нас наперадзе. Ты не любіла восень. А я — так. Я паглыблялася ў лісце па костку. Заплюшчвала вочы з раскошы. Шалясценне, шамаценне, псаванне. Так гэта таму ты грэбла газон каля дома Налкоўскай? Я гэта рабіла, каб быць бліжэй да літаратуры, мне было пятнаццаць гадоў. Ты ківаеш галавой, развесяліўшыся. Тая я, з дому ў лугах, прадчувае ў сабе здольнасць да адхілення ўсялякіх догмаў. А потым я адвярнуся і ад Бога. Праз Амада, першага мужчыну ў маім жыцці. Але адмоўлюся, калі ён захоча зачаць са мной дзіця, каб перадаць яму першародны грэх.

***

Як можна памерці? «Гэтага нельга рабіць кату». Ён чакае цябе. З таго часу, як ты адышла, ён спіць у тваім ложку. У маім ложку — кашуля Амада. Гэта я яго папрасіла. Стаяла і чакала, ажно мне яе дасць. Ён выцягнуў з шафы толькі што адпрасаваную. Я сказала: Не, я не такую хачу. Здымі тую, што на табе. Я хачу мець у ложку твой пах. Праз некалькі дзён ён патэлефанаваў: Прыязджай, дам табе наступную. І вельмі ўважліва на мяне глядзеў, калі расшпільваў гузікі.

Наша пахавальнае таварыства не прадугледжвае галашэння. Няма Хеўра Кадзіша. Габрэйскія плачкі таксама не прыйшлі. Аніводная. Ты паехала ў магілу неаплаканая.

***

А бабулі нашай казалі: Якая Вы добрая, і нават некашэрнае елі, ведаеш? Я ведаю, мама. Хто там павінен быў пільнавацца рытуальнага забойства, проста забівалі. Але ў бабулі было ўжо двое дзяцей. Гэта нічога. Яны не хацелі ісці ў гета, жылі пад падлогай. І ведаеш, самі выйшлі, казалі, што слепнуць ад цемры. Я ведаю, мама. Потым у Асвенцым бабуля слала ім пасылкі. Яны пісалі лісты: «Пані Ядзя, даражэнькая, як я выйду з лагера, то куплю Вам вагон апельсінаў». «Пан Дудкова, такога баршчу я ўжо хіба ніколі не з’ем, уначы на смярдзючых нарах уяўляю сабе, як лыжка па лыжцы ўліваю ў вусны чырвоную вадкасць. І мне горача». Хто з іх выжыў у лагеры?

Той, хто пісаў пра апельсіны, ці той, хто пра боршч? Я не ведаю. З нашых габрэяў увогуле толькі двое засталося. Адзін дасылаў лісты з Францыі і грошы бабулі на дарогу, але яна так ніколі і не паехала. Другі напісаў аднойчы, што жывы і хоча трапіць у Ізраіль. А тая багатая бабуліна сяброўка? О, яна адразу пайшла ў гета, да таго ж у тым вялікім блакітным капелюшы. Яе бабуля асабліва шкадавала. Яна была такая пані. Дык гэта ў яе гонар яна назвала цябе Ляляй? Дзіўна, у цябе ж былі такія светлыя валасы.

***

Табе абрэзалі грудзі, як святой Барбары. Выглядае на тое, што Бог вельмі прагны да пакут. Здаецца, пакуты — гэта кара за грахі. За што ж было цябе караць? Святая амазонка. Нябесны анёл. Ганарлівая кабета, азірніся. Бачыш? Сюды ты любіла прыходзіць. Адзін раз у год адчынялі драўляную браму да трох рэнесансных алтароў св. Барбары. У шкатулцы ты трымаеш фотаздымак святыні з лістоўніцы. Прэзбітэрый арыентаваны на ўсход. Адсюль павінен прыйсці Хрыстос. Ты ўжо тады чакала яго паўторнага прышэсця. Дык не здзіўляйся, што мусіла зносіць пераследы ў яго імя. Памятаю, як ты паказвала мне адну з грудзей, якая была асуджана. Быў студзень. І як ты без аніводнага слова скаргі паказвала месца пад адной з пульхных грудзей з ружовым саском. У лютым. Ці Хрыстос узяў тваю роспач на сябе? Ці гэта ты, лагодзячы грахі свету, несла яго крыж? Ты была напалову з мёртвых паўсталая, з блізнай перламутравага колеру, якая пералівалася, калі на яе падала сонца. І з кожным годам яна ўсё больш знікала. Ты казала: Глядзі, яна знікае, паглыбляецца ў скуру, нібы хацела замесці след таго, што тут некалі было. Маці пляскатая, як хлопец. І ты, чароўная Барбара, чые грудзі вырвалі жалезнымі кіпцюрамі. Успамажыцелька пры скананні. Цвінтарная апякунка. Я заклікаю цябе падчас той буры, якая кіпіць ува мне. Гляджу ў вачніцы твайго чэрапа. Ты зачынена ў скрынцы з рэлscore, як у кароне. А галава маёй маці — у сукаватай дамавіне.

***

Мы смяяліся, калі ты блытала словы. Ты глядзела на запыленую шафку і казала: Усё пакрылася смятанай. Або: Трэба ісці жабраваць да крамы. Ты ўважліва паглядала на нас, калі мы клаліся ад смеху. Гэтаксама было ў дзяцінстве, дастаткова было скіўнуць пальцам — і мы, як заведзеныя, заражаліся адна ад адной рогатам. Хахатушкі, называла ты нас тады. Калі цябе палохалі гукі, мы званілі да доктара. Трэба павялічыць стэроіды. Ну, дык мы павялічвалі. Паглядзі, мы ўсё яшчэ смяемся. Ты памерла, а мы й далей можам смяяцца.

***

Я не была ў стане расказаць табе пра свайго найлепшага каханка. Не мела адвагі. Толькі ў сне я сказала табе, што Амад кахаўся са мной ззаду. А было гэта так. Мы ішлі ў «Лаванду» на абед. Ён азірнуўся на лесвіцы і гукнуў: Якая ж ты прыгожая! Божа, як жа ж ты мне падабаешся, я проста мушу з табой кахацца. Ён схапіў мяне за руку і зацягнуў у кватэру. Я паддалася. Зрэшты, я ўся палала, бо якраз у «Лавандзе» ён павінен быў мне сказаць, ці стану я яго жонкай. Яму патрэбны былі тры дні, каб падумаць. Потым мы елі рыбу, і свяціла сонца. Увечары я патэлефанавала табе, каб усё расказаць. Як заўсёды, не змагла.

***

На шчотцы пераліваюцца твае рудыя валасы. Яны так і застануцца. Якія яны былі пры дотыку? Не памятаю. Я мыла іх і прычэсвала, перш чым ты памерла, але ўсё забылася. Нават грыўку

Каларгола, як мы з сястрой называлі тваю прычоску, калі ты вярталася ад парыкмахера. Пра скуру я ведаю ўсё. Якая была. Не, я не дакраналася да цябе без патрэбы. Ты гэтага не любіла. Гаворкі не было аб фамільярнасці. Нават для пацалунка ты падстаўляла па-біблейску спачатку адну шчаку, а потым другую. Увесь твой апошні дзень я малявала табе вусны памадай — кожную хвіліну, нібы шалёная. Перадсмяротная гарачка спаліла табе вусны. Я малявала іх, а ты надзімала, рабіла пагоркі і хвалі. Складвала губы дзюбкай. Я бачыла, што цябе гэта смешыць, такое ўпрыгожванне. Калі б ты магла гаварыць, то не хавала б свайго раздражнення. Ты губляла прытомнасць, гэта мяне ратавала. Можа, я лашчыла твае валасы. Я спрабую знайсці нейкі ўспамін. Але вобразу ўва мне няма. Нібы я ніколі не клала рукі на тваю галаву. Толькі калі ты памерла, я прытулілася да тваёй шыі і цалавала валасы, накручвала іх на пальцы і шаптала табе ў вуха: Мама, мама.

***

Спадарыня А., пісала ты да мяне. І я адчувала сябе спадарыняй свайго лёсу. Я магла вучыцца, чаму хацела. І абрала навуку тваёй пакуты. Мае гарызонты пашыраліся. Зямля ўжо не захінала паловы перспектывы. Я штодзень пісала табе: Ты такая мужная, мая ты гераіня. Калі сонца сядала за небакрай, я глядзела, як ты спіш. Часцей за ўсё я нерухома ляжала побач з табой. Ты ўзнімала рукі. Хапала паветра, пагражала пальцам. Аднойчы махала так, як пры развітанні. Ты развітвалася са мной? Я не ўспрыняла гэта сур’ёзна. Потым спыталася, што табе снілася. Я вешала мытую бялізну, сказала ты. Табе так гэтага не хапае? Я б хацела ачуняць, стаць на ногі. Я праверыла ў слоўніку, што гэта азначае: а) «хутка падняцца, устаць»; б) «выздаравець, набрацца сіл»; в) «падняць тулава, абапіраючы выпрастаныя ногі аб зямлю». Забралі ў цябе тваю зямлю абетаваную.

***

Ты шмат усміхалася. Ты была выразна захоплена гутаркай з кімсьці. Я нават не ўцяміла спытацца, з кім. Чаму я аб гэтым не падумала? Я чакала паўзы і толькі тады ўжо «ўслізгвалася» са сваімі словамі. А ты вельмі ветліва, але стрымана адказвала і зноўку вярталася ў той свет. У які свет? У той, у якім няма морфію. Можа, ты менавіта таму і зрывала катэтар, што адной нагой ужо там была. Якой? Левай? Яе косці ўжо пакрышыліся. Але ў труне цябе паклалі такім чынам, што ўвогуле не было відаць, якая нага карацейшая. Бацька купіў табе чорныя туфлі на абцасах. Так, як ты любіла, як вы з ім любілі. На тоненькай ножцы туфелькі для сну.

***

Я перапыніла тваё паміранне. І не прашу прабачэння. Я б ізноў гэта зрабіла. Я гукнула: Ратуйце яе, бо мая сястра павінна быць пры кананні. Я патэлефанавала: Прыязджай, мама памірае. Другім разам у цябе ўжо атрымалася. Інакш кажучы, я спытала сястру, што будзем рабіць, ці мы дадзім табе памерці? Сястра адказала: Хіба так. І мы пачалі чакаць. Усё адбылося хутка. Ты дыхала раз-пораз. Мы затрымлівалі паветра разам з табой. Гэта цяжкая навука. Адкуль ты гэта ўмела? Ажно ўрэшце ўсё скончылася. Ты хацела, каб мы задыхнуліся?

***

Бацька кажа, што ты ізноў паехала за мяжу, і чакае цябе. Толькі ты чамусьці забылася ўзяць сумачку, і ключы, і кашалёк, і тэлефон. Можа, ты не хацела іх згубіць, як тады, калі перакулілася

на платформе чыгункі і нейкі малады чалавек дапамог табе ўстаць. А потым праводзіў цябе дамоў. Запрапанаваў, што паднясе табе сумачку. Ты згадзілася, мы ж з сястрой заўсёды насілі яе за табой. Я столькі разоў цябе папярэджвала: Мама, не бяры, зноўку трэба будзе за табой насіць, нашто табе ў кінатэатры сумачка. Не, адказвала ты, я сама буду яе насіць. І пры першай жа спробе зняць яе з твайго пляча падпарадкоўвалася. А тады ты вярнулася дамоў і распавяла, які мілы чалавек паклапаціўся пра цябе і што на наступны дзень ён прыйдзе па ўзнагароду. Не прыйшоў, у яго ж былі твой кашалёк і тэлефон. Ты заўпарцілася, каб купіць такі самы тэлефон, белы. Пасля пахавання я ўвесь час на яго тэлефанавала. З белага тэлефона адгукаўся твой запісаны голас. І тады я з палёгкай уздыхала, што ўсё гэта неўзапраўду. Што ты ўсё ж такі ёсць. Я ж цябе чую.

Чалавек, які памірае, абірае сабе нейкую асобу, у прысутнасці якой хоча развітацца з жыццём. Гэта для яе ўзнагарода. Мама, мне не патрэбны ўжо ніякія іншыя медалі. Самае вялікае дасягненне ў мяне ўжо ў кішэні. Дзякуючы табе.

***

Ува што я была апранута? Усё памятаю, толькі не сябе. Толькі зараз я разумею, што не давяла сапраўднай роспачы. Але ж я не ведала правіл. Адкуль жа я павінна была ведаць, што, калі памірае маці, трэба падраць на сабе вопратку. Разарваць яе на сэрцы. Я б не вагаючыся парвала. На шматкі. Але ніхто не сказаў. Калі б я прыгадала, ува што была апранута, дык зараз магла б раздзіраць або разразаць метадычна кавалак па кавалку ажно дагала. Індыйскія багіні заўсёды хадзілі з аголенымі грудзьмі. Адкуль у цябе такія грудзі, пытаўся Амад. Мая цялеснасць проста боская. Каб яна не ляжала пад спудам, маці павінна была памерці.

***

Я хвіліну пасядзела каля цябе, а потым пачала складваць твае рэчы. Усё склала, нічога не забылася. Я паглядзела, што на табе апранута, а потым звярнула ўвагу, што ты ляжыш на падушцы з дому. Хіба я так і не вынула яе з-пад тваёй галавы. Ты і так бы гэтага не адчула. Я ўзяла торбы, коўдру і выйшла. Паглядзела на тых, якія яшчэ плакалі. Увогуле, дык мне не было больш чаго рабіць. Я пайшла да машыны, села ў яе і чакала. Калі б ўмела курыць, гэта была б цудоўная хвілінка для цыгарэты, яе агонь выглядаў бы як лампадка на цёмнай вуліцы. Я глядзела, як бацька з сястрой ідуць абняўшыся. Яны мінулі мяне і селі ў сваю машыну. Яны былі з пустымі рукамі. Значыць, я ўсё забрала. Пакінула толькі цябе, мама. Першы раз адну.

***

Ці ты ведаеш, што такое апірэксія? Я не ведала. Хаця павінна была здагадацца, што ты ведаеш. Ты ела ўсё менш і менш. Зноўку ў яе няма апетыту, нешта капрызіць, тэлефанавала я да сястры. Ну дык дай ёй што-небудзь. Я прымушала яе есці па кавалачку. Выпі крыху супу, лашчылася я, з'еш хаця цукерку. А ты спецыяльна запавольвала работу спачатку печані, а потым кішак. Яны спажывалі ўсё менш кіслароду. Ты вельмі ашчадна ім карысталася, пакідала для галавы. Мозг без кіслароду памірае, і таму ты, каб яшчэ крыху з намі пабыць, перастала яшчэ й піць. Трэба ўпырскваць ваду, сказала медсястра і паказала, як гэта рабіць. Я набірала шпрыц і падстаўляла да тваіх вуснаў. Асцярожна, казала я, зараз ты павінна гэта праглынуць. Ты глытала, а я дрыжала, каб не забіць цябе наступным глытком. Калі я адкладвала шпрыц, у мяне дрыжалі рукі. Я не магла ўстаць, ногі былі нібы ватныя. А я ж так спраўна рабіла гэта з катамі. Колькі разоў я ўпырсквала ім малако або ставіла кропельніцы. Але тады мне здавалася, што я ім дапамагаю. А

табе не дапамагала. Я адчувала, што цябе толькі мучу. Толькі я не ведала, што ж можна зрабіць замест гэтага. У цябе былі змучаныя вены. Аднойчы ўвечары я выклікала хуткую. Яны калолі цябе, каб даць большую дозу морфію, а твае вены лопаліся. Урэшце яны ўкалолі ў ступню. Ты вытрывала і гэта. Я пытала: Мама, баліць? Ты круціла галавой. Можа, гэта сапраўды ажно так не баліць, і санітары перабольшваюць. І гэты ўрач, які кажа, што тое, што ты зараз адчуваеш, мы проста не ўстане сабе ўявіць. Для такога болю няма аніякай катэгорыі. Твае пакуты. Ступня Хрыста, прабітая на крыжы. Кроў, якая струменіць па прасціне. І бацька, які кажа: Няважна, я памыю. Вы маглі б зняць катэтар, я мушу апрануць жонцы шкарпэтку.

***

На працягу тыдня пасля пахавання — не працуй, не еш мяса, не пій віна, устрымайся ад секса. Я была ахвярным стосам. Алтаром кахання. Я вінаватая, Гасподзь. Амад нічога не ведаў. Мама, я ўтойвала тваю смерць. Гэта мая жалоба, я захавала цябе толькі для сябе.

***

Ты спрабавала паказаць мне, што ёсць праўда і каханне, але я не спраўдзілася, я не ўмела цябе любіць. Я затрымлівалася на стацыях твайго крыжовага шляху ўсё радзей і радзей. Я падала пад цяжарам крыжа, які павінна была несці. Не, я не зычыла табе смерці. Хіба што хацела цуду. Толькі плакала, што зноў мушу да цябе ехаць. Ты ўжо не ўсміхалася, калі бачыла мяне, але гэта не таму. Я ўпадала ў роспач над сабой. Ты, які за нас цярпеў ад ранаў, Езу Хрыстэ, змілуйся над намі. Ты, якая за нас цярпела ад радзільных ран, змілуйся над намі. Змілуйся нада мною, мая маці.

***

Я прачытала, што з надвор'я ў дзень пахавання варожаць. Калі свеціць сонца, то памерлы шчаслівы. Калі цябе клалі ў труну, свяціла сонца. Я глядзела на жанчын у тонкіх сукенках і басаножках. Было, як у раі. З таго часу я шукаю нябеснае царства. Гартаю альбомы і ўзіраюся ў выявы неба. Ці ў тваім раі гэтак жа? Ты ў Бругеля ці ў Кранаха? А можа, у Босха? Я так пытаюся, бо там усе непрыкрытыя. Ты са шрамамі, без адной з грудзей. Хіба што Бог цябе ашчаслівіў, і ты пры ўваходзе атрымала цела, годнае пахвалы.

***

Апошнія чэзлыя шакаладкі я прынесла табе ў дар. Апошнюю сумную кнігу. І словы апошнія, што ты столькі мне дала і што мне хопіць ажно да канца. Апошні халаднік з расцёртым жаўтком імкнулася ў цябе ўліць, калі ты была ўжо не са мной, а з нябеснымі птушкамі. Апошнія варэнікі з чарніцамі. Ты адыходзіла ў сон. Якая ж я дурная, бо думала, што цябе трэба карміць. Хаця бы кропляй вады. Я адразу ж лепей пачувала сябе, калі ты праглынала. Ажно крылы ў мяне распраўляліся. А бацька сказаў: Едзь у кандытарскую па марозіва. Я папрасіла італьянскае са смакам вяршкоў. З аўтамата. І ты, у якой вусны былі нібы зацыраваныя, выцягнула язык. Вачэй не расплюшчыла, але вусны расхіліла. І ты з'ела тое марозіва, а ў нас пасялілася радасць. Апошняе гэта было марозіва.

***

Анкалагічных пацыентаў не рэанімуюць, даведалася я аднойчы. Ты сядзела на ложку і з цяжкасцю хапала паветра, а я не магла глядзець табе ў вочы. Я ведала нешта, пра што ты не мела ўяўлення. Ты працягнула руку па кісларод. Я хацела сказаць: Не, табе нельга сябе рэанімаваць,

пачакаем, мо само міне. Але я нічога не сказала. Толькі падумала, што, як прыйдзе смерць, ніхто цябе ратаваць не будзе. Я лашчыла майго сабаку, калі ў яго сэрца, што ўжо канала, калолі адрэналін. А з табой гэтага ніколі не здарыцца. За цябе ніхто не будзе змагацца. Толькі рак абраў цябе сваёй каралевай. Толькі для яго ты важная.

***

Як я магу пакінуць цябе ў спакоі, калі ўвесь час пра цябе думаю. Я абклеена фотаздымкамі. З кожнага кавалачка майго цела снуецца твая гісторыя. Мы былі на пляжы. Ты дазваляла хвалям заліваць сябе паміж скаламі. Ты так з гэтага смяялася. І спаліла скуру на сонцы. Я давала табе крэм з фільтрамі, але ты адштурхоўвала маю руку. Я толькі нос паспела табе памазаць. Потым я доўга корпалася ў валізцы, пакуль знайшла заспакаяльны гель. Ты бегала па пакоі ў адных майтках. І енчыла. А ў іншым гатэлі ўжо ты мяне ратавала, калі прапаў ток і я зачынілася ў ванным пакоі. Ты не ведала мовы, але прывяла дапамогу. Слесар адчыніў дзверы, запаліў святло і знямеў. Я была толькі ў бікіні. Ты так весялілася. І была тады ўжо вельмі хворая. Сястра кажа, што калі б не рак, мы б ніколі цябе не спазналі.Ты не стала б нашай сяброўкай. Гэта тая цана, якую ты павінна была заплаціць за збліжэнне з намі.

***

Памятаеш, як мы рабілі фотасесію у манашак? У піжамах, з узбітымі валасамі, у адчыненым акне на фоне вежы. Дзве чараўніцы. Ад Чанстахоўскай Божай Маці ў бурштынова-дыяментавай сукенцы нас аддзялялі метры. А цуду не было, хаця я на каленях абышла вакол абраза. Можна сказаць, прапаўзла. Душна і цесна было паміж сценамі, выгладжанымі рукамі тых, якія чакаюць боскай дапамогі. Усё, штоколечы просіце, атрымаеце. Я хацела ласкі. Распальваліся ўва мне, грэшнай, дарэмныя надзеі. Мама, гэта твая віна, ты не навучыла мяне прасіць. Я ўмею толькі чакаць. З Амадам гэтак жа было. Я чакала. Ты будзеш маёй утрыманкай. А можа, для цябе лепш палюбоўніцай?

***

Стыгматычка? Тады мне гэта не падалося дзіўным, тая рана ў баку. Яна сплывала крывёю. Часам крываваю вадкасцю, якая прасякала вопратку. Нейлонавыя сарочкі заўсёды з засохлай плямай на баку. Ты спачатку мачыла іх у халоднай вадзе. Так лягчэй адмыць кроў. Я ўваходзіла ў ванны пакой і глядзела, як ты намыльваеш пляму. Вы здаровая, казаў чарговы ўрач. Але адкуль гэтая кроў, пыталася ты. Ты была тады маладая, яшчэ задоўга да раку. Можа, гэта рэлігійная хвароба, думаю я зараз. Ты казала: не паверу, пакуль не ўбачу. Я Фама, які не верыць, уздымала ты гулліва палец. Святошы, а ну адлезьце ад фігуры, бо ў вас д'ябал за скурай. Ты зусім не ўдзельнічала ў пакутах. Не любавалася ў цярпенні Укрыжаванага. Табе гэта не балела. Пад тваёй скурай завяліся злыя духі. Нешта цябе параніла, на шмат гадоў.

***

Драўлянае паліто. Дубовае, з сука́мі. Бацька кажа, што заўважыў іх толькі на здымках з пахавання. І куды мы глядзелі? Я дык любіла сучкі, але ж не ведала, што ты захочаш праз іх кагосьці жывога выглядзець. Каб кампанія была. І каго б ты выбрала?

***

Букет жалю. Мой Божа, што за агонь у сэрцы. Бацька пакінуў у труне тры ружы, тры чырвоныя сімвалы пакут. Праз памылку. З-за няўважлівасці. Кветкі гніюць. Ты крычала яму: Не падлівай, занадта ж мокра, кветкі гніюць. Мама, на могілках увесь час ідзе дождж.

***

Калі зерне пшаніцы, трапіўшы ў зямлю, не абамрэ, то застанецца адно, але калі абамрэ, дае багаты плён. Смерць цябе апанавала, мама, мы цябе пасеялі. Ты трапіла ў зямлю. З тваіх вантробаў духоўнае цела ўжо вырвалася. Магільшчыкі тапталіся па табе. І што зараз вырасце? Што зараз. Той, хто любіць сваё жыццё, губляе яго, а хто ненавідзіць свайго жыцця на гэтым свеце, захавае яго на жыццё вечнае. Доўгую дарогу мелі Хрыстос і Марыя Заўсёды Цнатлівая да тваёй душы?

***

Хоспіс ранкам. Цётка, цётачка… І гэтак увесь час, як мы цябе прывезлі. Марыя, цётка мая, цётачка, цётачка каханая. Я глядзела на рукі бабулькі. Яна перабірала ў пальцах неіснуючыя пацеркі. Малілася вяночкам пасцельным, прамаўляла мантры ружанцовага шнура. Цётка, цётачка, Марыя… Блытаніна далёкага сваяцтва, божая фамільярнасць. Прымі ў гадзіну смерці, цётачка, маці мая. Мама мая, а ты нічога? Я сказала бацьку, што хачу той старушцы падушку прыткнуць да вуснаў. Я баюся, што ты гэта зробіш, ты да гэтага здольная. Хоспіс прыцемкам. Тваёй абароне балесных таямніц аддаемся. Цётачка, нявінніца з вузельчыкаў на буксірным тросе. Блаславёная між жанчынамі, маліся за намі, цётачка каханая. Цёмная мача старой жанчыны. Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя Вітай Марыя. У той час, калі ты побач памірала.

*Пераклад з польскай мовы Кацярыны Канчэўскай*

*Пераклад сфінансаваны Інстытутам кнігі ў Кракаве ў рамках праграмы Sample Translations Poland*

Гадоў пятнаццаць таму, калі я толькі пачала пісаць вершы, аднекуль з вялікага сусвету завітала да мяне думка: «Жыццё — гэта дарога да Сонца». Завітала і засталася аж да сённяшняга дня. Лейтматывам — і ў будзённым жыцці, і ў творчым яго асэнсаванні. І сёння я шчыра зычу чытачам (ды і супрацоўнікам) «Маладосці» вылучыць з бясконцага шэрагу рэчаў Сваё Сонца і неадкладна рушыць насустрач яму. Не важны ўзрост, статус, набыткі і дасягненні мінулага. Важна ісці. Гэта няпросты шлях. Але ён варты. Менавіта так нарадзіліся мае вершы і трапілі на старонкі гэтага часопіса. Менавіта так у маё жыццё прыйшлі прасветлыя людзі, у тым ліку аўтары і стваральнікі «Маладосці». Рушма поплеч! І Сонца нам дапаможа, бо яно любіць нас!

*Галіна Зыранава*

**Анастасія Васілевіч**

# Ростані паўналецця

*Нататкі з XXI Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Белая вежа», у межах якога было прадэманстравана 25 спектакляў з 16 краін свету.*

Сапраўднае паўналецце наступае ў дваццаць адзін год — гэта добры час, каб азірнуцца назад і пераасэнсаваць мінулае. Быццам бы ўжо дакладна ўсё дазволена, і пры гэтым трэба брацца за розум: думаць пра будучую сям'ю, зарабляць грошы, шукаць уласную жылплошчу. Ці іншы варыянт: пакінуць усё і матнуць у кругасветку аўтастопам.

Пэўны выбар даводзіцца рабіць не толькі людзям, але і фестывалям, а дакладней — іх арганізатарам. Трэба прааналізаваць жыццёвы шлях форуму, намеціць накірунак далейшага развіцця. Сёлета «Белай вежы» споўніўся дваццаць адзін год, і па тым, якой яна адбылася, вельмі добра відаць, што фестываль цяпер на ростанях.

Здавалася б, усе як раней: афіша поўніцца спектаклямі розных фармаў і жанраў — менавіта гэта многія лічаць «разынкай» форуму. Гараджане могуць убачыць драматычны, пластычны, музычны і нават вулічны тэатр, у чым праяўляецца і асветніцкая функцыя «Белай вежы». Дэ-факта гэта так, і, можа, так і было раней, але чарговая рознанакіраванасць праграмы з'яўляецца хутчэй недахопам, чым перавагай: зноў з'явіліся пытанні адносна якасці прывезеных прац і крытэрыяў іх ацэнкі. Канешне, можна дараваць фестывалю некалькі дрэнных пастановак (не зусім слабых!), але сёлета палова праграмы — не фестывальныя спектаклі, і гэта — супярэчная тэндэнцыя. Зразумела, што частка праблем узнікае з-за нястачы фінансавання і непад'емных у гэтай сітуацыі ганарараў, якія трэба выплачваць вядомым калектывам: цяпер многія фестывалі дбаюць толькі аб тым, каб утрымацца на плыву — як айчынныя, так і замежныя. Але тая планка, якую падняла «Белая вежа» імёнамі, напрыклад, Кшыштафа Гарбачэўскага, Эймунтаса Някрошуса, Альгірдаса Латэнаса, — стала зніжацца. І як добра заўважыла мінскі крытык Алена Мальчэўская, дыстанцыя паміж спектаклем шоу-кейса і студэнцкай працай — недапушчальна вялікая для міжнароднага фестывалю.

Цяпер многія фестывалі дбаюць толькі аб тым, каб утрымацца на плыву — як айчынныя, так і замежныя. Але тая планка, якую падняла «Белая вежа» імёнамі, напрыклад, Кшыштафа Гарбачэўскага, Эймунтаса Някрошуса, Альгірдаса Латэнаса, — стала зніжацца

Тым не менш, у гэтым становішчы «Белая вежа» мае свае плюсы. Ужо каторы год яна дазваляе прасачыць буднічнае развіццё постсавецкага тэатра без «вітрыннага стану», з ягонымі ўзлётамі і падзеннямі. Потым гэтыя працэсы можна параўнаць з айчыннымі і зрабіць пэўныя высновы. Напрыклад, становіцца добра відаць, што на самай справе за плотам дзёрн не зелянее.

Сёлетняя «Белая вежа» была прысвечана дваццаціпяцігоддзю стварэння СНД, і яе адметнай рысай стала прэваліраванне спектакляў з усходніх краін: Казахстану,Таджыкістану, Узбекістану, Азербайджану, Арменіі, Малдовы і нават Туркменістану — гэтую краіну вельмі рэдка можна ўбачыць у афішах тэатральных фестываляў. Самым яскравым аказаўся казахскі спектакль «Язычнікі» Дзяржаўнага акадэмічнага рускага тэатра драмы імя М. Горкага. Літоўскі рэжысёр Йонас Вайткус засяродзіў увагу на драматургічным тэксце і акцёрскай энергетыцы. Спачатку спектакль нагадваў чытку: акцёры сядзелі на крэслах з завязанымі вачыма і прамаўлялі тэкст — але і гэтага было дастаткова, каб прыцягнуць увагу гледачоў, бо гісторыя пра сутыкненне веры і рэлігіі вельмі актуальная. Асабліва калі размова ідзе пра простую сям'ю, сваякоў-алкаголікаў і непадзеленае каханне. З рэквізіту — толькі афрыканская маска і яйка-лямпа. Менавіта гэтыя матэрыяльныя акцэнты былі не толькі сімваламі пэўнай рэлігіі, але і стваралі кантраст са скупым духоўным светам герояў, што перадаваўся праз пустую прастору сцэны. Дадатковыя сэнсы з'яўляюцца і з-за таго, што драматург Ганна Яблонская памерла падчас тэракту ў аэрапорце «Дамадзедава» менавіта тады, калі ляцела атрымліваць прэмію за п'есу «Язычнікі».

Іншы казахскі спектакль «А ў пустыні мёртвая цішыня» калектыву «Жастар тэатры» (рэж. Нурканат Жакыпбай) у сваёй манументальнасці і маштабнасці процілеглы папярэдняму. У аснове гэтай пастаноўкі — эпас пра сусветна вядомага валадара Чынгісхана, які ўвасабляе ў сабе гісторыю цэлага народа. Спектакль створаны ў традыцыях метафарычнага тэатра, насычаны пластычнымі і музычнымі эпізодамі. Успрыманне сюжэта ў асноўным адбываецца праз асацыятыўныя рады, якія кожны выбудоўвае сам. Нягледзячы на тое, што гэта больш спектакль-прэзентацыя краіны, гістарычная візітоўка тэатра, тэмы, якія ў ім уздымаюцца, — актуальныя. Напрыклад, можна прасачыць лінію прымусовай асіміляцыі народаў, звязаць гэта са злабадзённай праблемай бежанцаў і ўвогуле глабалізацыяй свету, пры якой губляюцца рысы самабытных культур.

Не нацыянальны і не сучасны тэкст, але інтэрпрэтаваная класіка — аснова спектакля «Рэвізор» Тбіліскага дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя А. С. Грыбаедава. Рэжысёр Аўтандзіл Варсімашвілі зрабіў гогалеўскіх Хлестакова з Восіпам анёламі, якія спусціліся на Зямлю, каб выпрабаваць дробязных жыхароў горада N. Але сказаць, што задумаператварыць нягоднікаў у праведнікаў удалася, — нельга. Вельмі слабымі былі матывацыі герояў, і іх учынкі трактаваць з пазіцый «дабрыні» не атрымалася. Тым не менш, паралелі з біблейскімі сюжэтамі былі праведзены цікава, атмасфера павятовага горада, які вось-вось паўторыць гісторыю Садома і Гаморы, адчувалася. Гэта адчуванне выбудоўвалася вельмі дзіўна: акрамя акцэнтавання хлусні і падхалімства, якімі прасякнута п'еса, рэжысёр увёў прамыя намёкі на сексуальныя дэвіяцыі персанажаў. Але гэта ніяк не ўплывала на развіццё дзеяння, і такіх пабочных тэм было нямала: шматлікія цікавыя знаходкі быццам бы раставалі з-за іх колькасці і не рэалізоўваліся рэжысёрам ў агульным канцэпце спектакля.

З «заходняй» праграмы «Белай вежы» можна вылучыць два «чыстых» і вытрыманых монаспектакля — «Рудольф Нурыеў. 48 гадзін» берлінскага тэатра «Руская Сцэна» і «Чаплін» тэатральнай кампаніі «Піп Утан».

Спачатку спектакль нагадваў чытку: акцёры сядзелі на крэслах з завязанымі вачыма і прамаўлялі тэкст — але і гэтага было дастаткова, каб прыцягнуць увагу гледачоў, бо гісторыя пра сутыкненне веры і рэлігіі вельмі актуальная

«Чаплін» — гэта шматпланавая біяграфічная гісторыя пра ўсім вядомага артыста, чые дзве існасці, будзённую і сцэнічную, даследуе акцёр і рэжысёр Піп Утан. Спачатку герой п'е чай і павольна разважае пра тое, як ненавідзіць зімовыя святы, а потым грыміруецца перад гледачамі і з буркатлівага старога пераўвасабляецца ў «бадзяжку Чарлі», якога ведае ўвесь свет. У пэўны момант на белы экран за спінай Чапліна будзе трансліравацца адзін з фільмаў, у якіх ён здымаўся. Акцёр кантактуе з відэа: нібыта ўваходзіць у яго, а потым вяртаецца да гледачоў. Напрыканцы спектакля можна яшчэ раз пераканацца: рэальнае і «віртуальнае» жыццё Чарлі вельмі розныя, але яны звязаныя адно з адным.

«Рудольф Нурыеў. 48 гадзін» — гэта таксама біяграфічная гісторыя — пра танцоўшчыка, які ўсё сваё жыццё разрываўся паміж Савецкім Саюзам і Захадам. Некалькі дзён былі адведзены яму на тое, каб ён мог наведаць Расію і трапіць на пахаванне маці. Рэжысёр Іна Сакалова-Гардон звузіла перыяд, выбраўшы для спектакля сорак восем гадзін з жыцця Нурыева, абапіраючыся на яго дзённік. Герой прадстае абураным на ўладу, але апантаным стыхіяй танца, з-за якога адбываюцца як самыя недарэчныя, так і самыя шчаслівыя падзеі ў ягоным жыцці. Цяжкасці танцоўшчык пераносіў па-рознаму, як і ўсе людзі: на працягу дзеяння ён будзе і адкрыта выказваць пратэст, і хавац-

Рэжысёр Аўтандзіл Варсімашвілі зрабіў гогалеўскіх Хлестакова з Восіпам анёламі, якія спусціліся на Зямлю, каб выпрабаваць дробязных жыхароў горада N

На фінальным крытычным абмеркаванні казалі пра тое, што калі на фестывалі ёсць хаця б тры выдатныя спектаклі, — ён удаўся. З гэтым знакамітым выказваннем можна доўга спрачацца

ца ад праблем ў сваіх умоўных «па» ці ўвогуле, каб заглушыць боль, зусім па-руску піць водку з бутэлькі. Глядацкаму засяроджанню садзейнічае мінімалістычная сцэнаграфія: да каласнікоў прымацаваны тросы з бэлькамі, якія становяцца і танцавальным станком, і самалётам, і «кайданамі» сістэмы, з якіх намагаецца вырвацца Нурыеў.

Аднымі з лепшых прац сталі «Хор сірот» польскага тэатра «КТО» і «Чайка» Львоўскага акадэмічнага тэатра «Васкрэсіння», але, на жаль, як бывае на фестывалях з-за супадзення часу пачатку спектакляў, трапіць на іх не атрымалася. Калі казаць пра сюжэт і форму, «Чайка» — гэта амаль бясслоўная рэжысёрская фантазія на тэму аднайменнай п’есы Чэхава, пабудаваная як ланцуг яркіх візуальных эпізодаў-карцін і цікавых вобразаў. «Хор сірот» — таксама бясслоўная гісторыя пра змаганне жыхароў дзіцячага дома з наглядчыцамі і аднаго з другім. Спектакль доўжыцца столькі, колькі іграе «Сімфонія журботных песень» Х. М. Гурэцкага, — гэта задае жорсткі рытм апавяданню.

На фінальным крытычным абмеркаванні казалі пра тое, што калі на фестывалі ёсць хаця б тры выдатныя спектаклі, — ён удаўся. З гэтым знакамітым выказваннем можна доўга спрачацца. Напэўна, яно больш працуе для пяці- ці шасцідзённага фестывалю, але не для афішы, у якой прадстаўлены дваццаць пяць спектакляў. Калі мы пачынаем абмяркоўваць «Белую вежу» з такіх пазіцый, тады самі прызнаём сёлетні недахоп добрых прац. Канешне, выжываць трэба, але, можа, ў такім разе, зрабіць праграму не на восем ці дзевяць дзён, а на сем ці нават пяць? Прывезці менш, але больш якаснага: і гледачу, і эксперту так лягчэй, і, здаецца, арганізатарам таксама. Ці яшчэ варыянт: запрашаць больш праектных беларускіх спектакляў, у тым ліку, створаных для фестываляў. Дваццаць адзін год — добры перыяд, каб змяніць імідж. Няхай і часова.

**Сяргей Піліпчэня**

## Новыя п’есы для беларускіх дзяцей

**Працягваем агляд сучасных айчынных дзіцячых п'ес, якія былі дасланыя ў Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача на конкурс «Новая назва». Гэта творы Зінаіды Дудзюк, Анатоля Кудласевіча, Дзмітрыя Марыніна, Наталлі Марчук, Алены Масла, Таццяны Сівец, Васіля Дранько-Майсюка. Пазнаёміцца з іх п’есамі можна на сайце Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.**

Мы ўжо разглядзелі творы Васіля Дранько-Майсюка, Анатоля Кудласевіча, Зінаіды Дудзюк. Сёння пагаворым пра тое, што напісалі Дзмітрый Марынін, Наталля Марчук, Алена Масла і Таццяна Сівец.

Адразу можна сказаць, што творы згаданых драматургаў пакідаюць прыемнае ўражанне. Яны могуць смела ўвайсці ў рэпертуар Тэатра юнага гледача, і было б гэта вельмі дарэчы. Беларускія рэжысёры ўсе як адзін кажуць, што ім не хапае сучаснай айчыннай драматургіі як для дарослых, так і для дзяцей. Дзякуючы конкурсу з’явіліся адметныя творы для нашай сцэны.

У Тэатры юнага гледача ідуць класічныя казкі сусветнай драматургіі: «Сіняя птушка» (Марыса Метэрлінка), «Таямніца вялікага Гудвіна» (паводле Аляксандра Волкава «Чараўнік ізумруднага горада»), «Кот у ботах» (паводле Шарля П’еро). Ёсць пастаноўкі вядомых беларускіх хрэстаматыйных твораў: «Дзікае паляванне караля Стаха» (паводле Уладзіміра Караткевіча), «Зацюканы апостал» (Андрэя Макаёнка), «Беларускія вадэвілі» (братоў Далецкіх і Міхася Чарота), але вельмі мала казак сучасных айчынных аўтараў.

Беларускія рэжысёры ўсе як адзін кажуць, што ім не хапае сучаснай айчыннай драматургіі як для дарослых, так і для дзяцей. Дзякуючы конкурсу з’явіліся адметныя творы для нашай сцэны

Праблему можна лёгка вырашыць. Прыняць, напрыклад, да пастаноўкі п’есы, прадстаўленыя на конкурс. Кожны твор унікальны, разлічаны на самыя розныя ўзросты.

Вось, напрыклад, «Рэч Паспалітая» Дзмітрыя Марыніна. Перад намі драматычна напружаная гістарычная рэч. Звяртаюць на сябе ўвагу добрая беларуская мова, яркія выразныя характары, вострасюжэтнасць. Для падлеткаў такі твор быў бы цудоўным падарункам, але, мажліва, было б някепска п’есу скараціць (50 старонак — гэта вялікі аб’ём!) і даць ёй крыху больш кідкую назву.

Гэтаксама на падлеткаў разлічаны «Чорны млын», напісаны Уладзімірам Ягоўдзікам на аснове аповесці-казкі Юрыя Брэзана. У адрозненне ад Марыніна і яго эпапеі, Ягоўдзік стварыў вельмі кампактны твор. Усяго 20 старонак займае яго п’еса. Гісторыю змагання ведзьмака Млынара з хлопцам-сіратой Крабатам аўтар пакінуў без змен, нічога ад сябе не дадаўшы і захаваўшы нават дыялогі, якія былі ў кнізе, таму назваць твор Ягоўдзіка арыгінальным дастаткова цяжка, але такой бяды! Бо ў выніку маем п’есу ў жанры фэнтэзі з чараўніцтвамі, бойкамі, моцнымі характарамі і абавязкова шчаслівым фіналам. «Чорны млын» створаны для сцэны, і спадзяемся, што нашы тэатральныя рэжысёры ім зацікавяцца.

Для маленькіх гледачоў напісала сваю казку «Асцярожна, злыя гобліны» Наталля Марчук. Смешны сюжэт пра тое, як брутальная Прынцэса Дыядора так далася ў знакі свайму татачку, што ён быў гатовы зрабіць усё, каб ад яе пазбавіцца (нават дазволіць Каралю Гоблінаў яе выкрасці), будзе аднолькава цікавы вялікім і малым. Характар Прынцэсы не мог вытрымаць і Кароль Гоблінаў: прымаецца рашэнне, каб яе зноў жа выкралі, але на гэты раз выкрадальнікам стане цудоўны Прынц... Спадарыня Марчук таксама напісала сцэнічна выйгрышную рэч, хіба толькі можна крыху папрацаваць над стылем і мовай.

«Каляды з хроснай» Алены Масла можна назваць адным з самых паэтычных твораў, прадстаўленых на конкурс. Дзяўчынка і яе хросная хочуць убачыць зорапад, але беларускае неба моцна схавана за аблокамі, якія не даюць наталіцца такім незвычайным відовішчам. Трэба быць сапраўдным паэтам, каб здолець падпарадкаваць сабе аблокі, рассунуць іх і даць зоркам здзейсніць свой дзівосны танец. П’еса пра паэтаў і для паэтаў. Толькі людзі па-шагалаўску свабодныя, якія не баяцца лётаць як у снах, так і ў рэчаіснасці, могуць здзейсніць цуд — вось пра што п’еса Алены Масла.

> Прыйшоў час паверыць у сваю драматургію.
> Прыйшоў час палюбіць яе і, палюбіўшы, пачаць радавацца яркім, цікавым, незвычайным казачным спектаклям

Таццяна Сівец у творы «Не расказвай мне казкі» смела змешвае парадыйна-сатырычныя моманты і брутальныя сцэны, і мы дазнаемся пра смерць бацькоў галоўнага героя, слэнгавую, амаль нецэнзурную лексіку падлеткаў, класічныя чараўніцтвы і рэалізм. У выніку атрымліваецца, магчыма, эмацыйна не зусім роўная рэч, але вельмі цікавая і арыгінальная па задуме. Героі гавораць зразумелай для падлеткаў мовай, яны смелыя, дзейсныя, у іх юныя гледачы змогуць пазнаць сябе. Калі цябе не любяць, калі ты адзін, то без кахання і любові табе адна дарога — у балота, дзе ты ператвараешся ў Балотнага Чараўніка. Без кахання людзі становяцца монстрамі — вось пра што напісала Таццяна Сівец. Думка гэтая заўсёды актуальная, а таму і яе п'еса вартая сцэны беларускага тэатра.

П'есы, пра якія шла гаворка, пакідаюць самае радаснае ўражанне. Дзякуючы ім, наш рэпертуар можа ўзбагаціцца і стаць па-сапраўднаму цікавым і арыгінальным. Слова за нашымі рэжысёрамі. Будзем спадзявацца, што яны нарэшце зацікавяцца сваім, кінуўшы (хоць на час) ставіць замежную ды расійскую казачную класіку. Тады ў нас, магчыма, з’явіцца па-сапраўднаму нацыянальны дзіцячы тэатр, з адметнымі п’есамі.

Прыйшоў час паверыць у сваю драматургію.

Прыйшоў час палюбіць яе і, палюбіўшы, пачаць радавацца яркім, цікавым, незвычайным казачным спектаклям.

Ці апраўдаюцца нашы спадзяванні?

Ці здольныя нашы рэжысёры адкрываць сваё?

І ўвогуле, ці здольныя?

**Вітаўт Чаропка**

# Бласлаўленне класіка або аванс на будучыню



Вітаўт Чаропка. Фота В. Савіча. 1995 год.

Бывае, мы забываемся цэлыя гады свайго жыцця, якія, ператварыўшыся ў шэрую штодзённасць, знікаюць у фатальнай і аднастайнай паўторнасці. Але ў кожным жыцці ёсць выпадкі, што занатаваліся ў памяці назаўжды, нібыта забітыя ў яе цвікамі. Неабавязкова гэта лёсавырашальныя падзеі ці сустрэчы з вялікімі людзьмі. Здаецца, памяць сама выбірае, што ёй занатаваць і захаваць назаўжды, як магчымую індульгенцыю апраўдання бессэнсоўнасці жыцця. У кожнага ёсць што згадаць, толькі не кожны раскажа, а тым больш напіша. Калі раскажа, дык як забаву ў вясёлай гутарцы, а калі ўжо напіша, як, напрыклад, я, дык як варты ўспамін. Спачатку гэты выпадак я ўспрымаў сапраўды як забаўны і напісаў пра яго толькі з адной мэтай — занатаваць яго дакументальна ў нашым прыгожым пісьменстве, менавіта як забаўны выпадак літаратурнага жыцця, каб яно не здавалася нашым наследнікам сумным да аднастайнасці — не толькі пасяджэнні на з’ездах пісьменніцкага саюза ды абавязковыя банкеты, дзе ўжо больш грунтоўна абмяркоўваліся ап’янелымі языкамі пісьменніцкія праблемы і чарговыя творчыя задачы, жылі пісьменнікі 90-х мінулага ХХ стагоддзя. Былі ў ім і свае сцёбы і прыколы, што з часам стануць літаратурнымі легендамі. Так мне здавалася спачатку, калі я напісаў гэтае эсэ, але вось праз нейкі час я зразумеў, што гэта ёсць вартая нагода сказаць некалькі добрых слоў пра людзей, з якімі звёў мяне агульны пісьменніцкі лёс.

Цяпер, ужо ў далёкім 1995 годзе (трэба ж, дзеці таго года нараджэння ўжо дарослыя; ці мог я тады падумаць пра нейкі там 2016 год, што здаваўся далёкім жыццёвым берагам, да якога ох і ох колькі дабірацца) я ўдзельнічаў у святкаванні 65-годдзя Уладзіміра Караткевіча. Урачыстасць адбывалася ў ягонай роднай Оршы. Туды і паехала на электрычцы прадстаўнічая пісьменніцкая дэлегацыя з Мінска. Па праву патрыяршага старшынства яе неафіцыйна ўзначальваў Янка Брыль, ужо жывы класік нашай літаратуры. Быў у дэлегацыі і шчыры сябар Караткевіча паважаны мною Адам Мальдзіс. Сярэдняе пакаленне (на той час, цяпер гэта ўжо старэйшае) пісьменніцкага саюза прадстаўлялі Сяргей Законнікаў, Алесь Пісьмянкоў, Анатоль Жалязоўскі, Уладзімір Скарынкін, Міхась Шавыркін, руплівы даследчык творчасці Караткевіча Анатоль Верабей і я, не прышый рукаў у гэтай паважанай кампаніі, нібыта прадстаўнік малодшага пакалення, сасватаны да кампаніі рэдакцыяй яшчэ тады не з’едзенай жыўцом «Беларускай мінуўшчыны». Я нібыта быў паслядоўнікам Караткевіча, жывым увасабленнем закладзенай ім традыцыі гістарычнага жанра. І асаблівую прадстаўнічасць нашай дэлегацыі надавала постаць старэйшай сястры Уладзіміра Сямёнавіча, Наталлі Сямёнаўны. Рысы яе твару вельмі супадалі з вядомымі мне толькі па фатакартках рысамі самога Караткевіча. Я бачыў часцінку жывога для мяне пісьменніка, самую крэўную і роднасную для ўсіх, хто ведаў Караткевіча.

Прымалі нас у Оршы не тое што сардэчна і шчыра, а па-шляхецку шчодра і па-беларуску з размахам, як самых пачэсных гасцей. І мы зрабіліся закладнікамі аршанскай гасціннасці і цяпер належалі толькі ёй. Нас вазілі па розных імпрэзах і мерапрыемствах, дзе перад намі, як перад суровым журы, выступалі мясцовыя самадзейныя артысты, мілыя дзеткі з вершыкамі Караткевіча, беларускімі песенькамі і нават скокамі. Усё гэта было міла і кранальна і расчуліла сэрцы «старых» Наталлі Сямёнаўны, Янкі Брыля, Адама Мальдзіса, магчыма, і «сярэдніх»,

а вось я, «малады», адчуваў сябе ніякавата, нібыта я незаслужана апынуўся на чужым свяце і не маю ніякага маральнага права прысутнічаць на ім. Перад табой старанна і з хваляваннем чытае верш дзяўчынка, а ты, як строгі суддзя, «восседаешь» за столікам з гарбатай і печывам. Якое можа быць печыва ці гарбата, калі чуеш гэтыя шчырыя дзіцячыя галасы, агучаныя вялікай паэзіяй, а я да гэтага цуду не меў ніякага дачынення, хоць гэта было і маё свята — свята маёй душы. Ці мог я ўявіць калісьці, што буду сядзець у школе, дзе вучыўся Караткевіч, і слухаць яго вершы з вуснаў ягоных землякоў? У такія хвіліны адчуваеш ці сваю нікчэмнасць, ці сваю вялікую адказнасць за сябе, за свой талент, які ўсё ж прызналі, калі табе дазволілі наблізіцца да вялікай постаці Вечнасці. Магчыма, тады я не змог бы правільна сфармуляваць свае думкі, бо не мог разабрацца ў сваіх пачуццях, дзе і радасць, і святочнасць, і горкасць, і тужлівасць змяшаліся ў адно разам з вершамі Караткевіча. Толькі мне аднаму не давалі слова, бо мне не было чаго пра яго ўспомніць, нічога цікавага расказаць, а пра значэнне ягонай творчасці расказалі і без мяне. Такім чынам, у пісьменніцкай кампаніі я быў шаноўны назіральнік, у прынцыпе, не самая горкая роля, калі асабліва не даводзіць сябе рознымі перажываннямі, што перашкаджаюць адэкватнаму ўспрыманню жыцця. (Вось так, дарэчы, і нарадзілася за савецкі час цэлая плойма ганаровых юбілейных назіральнікаў або прафесійных банкетшчыкаў).

Вечарам у рэстарацыі гасцініцы, дзе мы спыніліся, ужо ў больш сяброўскай абстаноўцы Мальдзіс нагадаў выпадак, калі Караткевіч, паспытаўшы ў старажытным Кракаве мясцовага піва, прызнаў аршанскае лепшым. І гэта ў Кракаве з ягонымі традыцыямі піваварэння і са славутымі кракаўскімі каўбаскамі да пеннага кухля свежай асалоды! Васпане, як такое магло здарыцца? Словы Мальдзіса запомніла арганізатар урачыстасцей, начальнік аршанскага адзела культуры Сінякова (хай прабачыць мяне, што не памятаю імя гэтай гжэчнай панны).

У той вечар мы асабліва і не засядзеліся, бо назаўтра прыпадалі ўгодкі Уладзіміра Сямёнавіча, і нас чакаў насычаны дзень, таму неўзабаве ўсе разышліся па нумарах і стомленыя за дзень заваліліся спаць. Трохі пагаманіўшы з Міхасём Шавыркіным, з якім я дзяліў нумар, я таксама заснуў. Здавалася, доўгая, у чатыры гадзіны дарога, вандроўка па аршанскіх вуліцах і ўдзел у імпрэзах выматалі мяне да бяспамяцтва, калі засынаеш цалкам і перастаеш існаваць у свеце для сябе. Толькі вось дзіўна: сон, што я ўбачыў, не растаў прывідным эфірам у памяці, як часта адбываецца з гэтым нашым эфемерным нараджэннем. Мала таго, што запомніў, дык убачыў каляровым і адчуў свае пачуцці, уражанні ад якіх авалодалі мною. Існуе шмат цікавых тэорый сну. Не буду браць фрэйдаўскія показкі аб падсвядомым, бо мозг пакуль яшчэ не паддаецца навуковаму тлумачэнню. Таму я прыхільнік містычнай тэорыі аб вандроўках нашых душ падчас сну. Так што, паводле гэтай тэорыі, са мной (а дакладней, з маёй вандроўнай душой) адбылося вось што. Заходзіць у мой нумар сам Янка Брыль. Я адзін і п'ю з гасцінічнай шклянкі ў металёвым падстаканніку гарбату. Яе хмяльны водар напаўняе паветра спакуслівымі пахамі і нібыта выклікае ў старога пісьменніка настальгію аб нечым дарагім і хвалюючым, вось і не ўстрымаўся ён, каб не зайсці да мяне. Узвышаецца ў дзвярах ягоная высокая постаць з ганарыста прыўзнятай сівой галавой і хітраватым поглядам добрых вачэй. Апрані яго ў шляхецкі кунтуш, падпяражы шырокім слуцкім поясам і павесь шаблю — вось і караткевічаўскі князь Вежа. Не сумняваюся, што свайго Вежу Уладзімір Сямёнавіч якраз і пісаў з Брыля, які для яго быў у літаратуры і добрым сябрам, і клапатлівым апякуном. Нават брыляўскую інтанацыю яго мякка-мужнага голаса пазычыў аўтар для Вежы. Я разгубіўся ад такога нечаканага візіту самаго Брыля.

— Што за пах такі ад тваёй гарбаты, Вітаўт? — спытаўся ён.

Я і вам не скажу, што за пах ап'яніў галаву класіка. Падазраваю, што гэта быў водар і чабарку, і мялісы, і палыну — словам, пахла нечым такім хвалюючым да спазмаў у горле, пэўна, гэта быў пах дзяцінства, вясновага палісадніка ці восеньскага агарода — знаёмы, але такі ўжо далёкі. Я пачаставаў майго госця гарбатай. Ён прысеў на стул і доўга, з асалодай, маленькімі глыткамі піў гарбату, нібыта расцягваў задавальненне нават не ад смаку напою, а менавіта ад паху, што, здаецца, цяплынёй расцякаўся па ягоным магутныя тулаве. Ён піў і павольна, як мудрэц, казаў:

— Ведаеш, Вітаўт, а ты не проста паслядоўнік Караткевіча, ты іншы, ты пераўзыйдзеш яго. Чым не ведаю, але адчуваю. Валодзя быў вялікім пісьменнікам, а цябе назавуць геніяльным.

Ён дапіў гарбату і падняўся, велічны і годны, князь нашага пісьменства.

— Дзякуй за добрую гарбату, — сказаў ён.

Пасля такіх прызнанняў, зразумела, у кожнага можа закружыцца галава. Творчая асоба любіць пахвалу, як дзіця ласку, яны без гэтага не могуць, таму іх нельга крыўдзіць абразамі і лаянкай; лепш хваліце іх і ваша добрае слова адгукнецца дабром, якім яны падзеляцца з людзьмі, і не забудуць пра вас.

Я адчуваў сябе шчаслівым ад гэтай пахвалы. Сам карыфей прызнаў мой выключны талент і, як там у Пушкіна, «и в гроб сходя благословил». З гэтым радасным пачуццём я і прачнуўся, нават не расчараваўся, што гэта ўсяго толькі сон, бо такое прысніцца само па сабе не магло. Нездарма некаторыя незвычайныя сны і лічацца прарочымі, у якіх і знаходзяцца адказы на тыя пытанні, што мы нават сабе і не задаем, бо баімся іх суровых адказаў. Вось наш душэўны камфорт і парушае містычнае азарэнне сноў. Калі чэсна, дык я напісаў некалькі апавяданняў і абразкоў выключна па сюжэтах сваіх сноў. Так сны, прывідныя відзежы, робяцца рэчаіснасцю, і цяжка па-філасофску адказаць, ці жыццё наша — сон, ці сон — наша жыццё. Таму маёй пісьменніцкай душы і карцела давесці гэтую гісторыю да лагічнага завяршэння, каб не засталося нечага недасказанага і невысветленага, гісторыю, што робіць нас больш мудрымі.

Раніцай, калі мы сабраліся ў файе гасцініцы перад дзвярыма рэстарацыі, я вырашыў падысці да Бруля, які стаяў у старонцы каля акна і паблажліва, як Дыяген са свайго кутка свету, паглядаў на наша корпанне. Мне трэба было набрацца не так смеласці, як юнацкай непачцівасці і плябейскай нахабнасці. Некалі ў школе я зачытваўся ягонымі «Птушкамі і гнёздамі», і ў мяне засталося нейкае шчымлівае і светлае пачуццё самоты ад гэтага цудоўнага твора. Ён быў Богам з нашага Парнаса. Богам чужым, несавецкім, а ўсёй сваёй духоўнай выпраўкай, манерамі, паставай — еўрапейскім, нават і прозвішча насіў, здавалася, еўрапейскае, ненашанскае тыпу Чаропка ці Караткевіч, а Брыль! — кароткае і выбуховае, у якім чулася мне чамусьці бельгійская інтанацыя (магчыма, таму, што быў такі бельгійскі футбаліст Брыль). Бог, які сышоў у мой свет са старонак школьнага падручніка, біяграфію якога вывучалі як міф, праўда, замест абавязковых подзвігаў і перамог героя — сціплыя адзнакі жыцця, напоўненага гістарычным драматызмам яго жахлівага часу і пакутлівага пакалення. Гэты Бог стварыў цэлы россып празаічных мініяцюр, па-сутнасці стаў заснавальнікам гэтага жанру ў нашай літаратуры і бліскучымі дыямантамі ўпрыгожыў яе. Прыдаў бы ён сваім мініяцюрам каталіцкага містыцызму і дыдактыкі, дык яны загучалі б па-борхаўску, прыцягваючы слых каталікоў усяго свету. Не, Брыль па-сялянску проста і ясна расказваў пра людскія лёсы, дзяліўся сваімі назіраннямі і ўражаннямі, пісаў мініяцюры, вартыя аб'ёмных твораў. Але я адчуваў, што гэта Бог добры, нават у гневе ён добры. І вось я падыходжу да Бога, спакойнага, як сама вечнасць, з разважлівым позіркам мудраца, і сур'ёзна звяртаюся да яго.

— Іван Антонавіч, вы не адмаўляецеся ад сваіх слоў, што я геніяльны пісьменнік?

Брыль неўдаменна паглядзеў на мяне, нібыта пачуў пра сябе неверагоднае, у што нельга было паверыць.

— Я такога не казаў, — разгублена адказаў Бог.

— Ну як жа, зайшлі да мяне ў нумар, я пачаставаў вас гарбатай, якую вы пахвалілі, а пасля сказалі, што я пераўзыйду Караткевіча, бо я геніяльны пісьменнік.

Мая сур'ёзнасць і пераканаўчасць канчаткова збілі Брыля з панталыку. А я ўжо карыстаўся момантам.

— Вы абяцалі мне падараваць кніжку з дароўным подпісам і напісаць там: геніяльнаму Вітаўту.

— Хм... — не ведаў, што адказаць, Брыль.

Ён, відавочна, разгубіўся, не разумеючы жартую я ці кажу праўду. Бог зрабіўся чалавекам, які не мог уцяміць, ці ён з'ехаў з глузду, ці ягоны суразмоўца, які так сур'ёзна настойвае на тым, чаго не было. Па засяроджанаму выразу твару можна было здагадацца, што Брыль намагаецца ўспомніць гэтую размову і, пэўна, саромеецца прызнацца нават самому сабе, што не памятае яе. Падзея, што выпала з ягонай памяці. Так можа

адбыцца з зусім п'яным чалавекам, але Брыль не п'яніца. Я ўбачыў, што Іван Антонавіч проста не разумее, што адбываецца, і ён гатовы быў прызнацца ў праўдзівасці маіх слоў. Тады я са смехам і расказаў свой сон. Бог шчыра рассмяяўся.

— Да, Вітаўт, разыграў ты мяне. Я ўжо спужаўся, што ў мяне старэчы маразм пачаўся. А сон добры, можа, і прарочы. Відаць, гарбата была дужа смачная.

У той насычаны на ўсялякія імпрэзы і стравы дзень я ўсё ж вылучыў некалькі свабодных хвілін і набыў у кнігарні кнігу Брыля «Вячэрняе». Не толькі каб ягоны аўтограф запалучыць, але і прызнанне сваёй геніяльнасці, якім я мог бы ганарыцца. Падобнае прызнанне вышэйшае за ўсялякія пахвалы і ўзнагароды.

На святочным пасяджэнні ў гарадскім палацы культуры выступіў і я. Нарэшце, спатрэбіўся. Я расказаў, якое ўражанне аказалі на мяне кнігі Караткевіча, што адкрылі для мяне Беларусь і навучылі любіць яе, нават такую самотную і самавітую, як цяпер, бо маці не выбіраюць. Іх любяць або забываюць і кідаюць адных сам-насам з лёсам, які яны заслужылі, не думаючы, што такі лёс можам заслужыць і мы. І кнігі Караткевіча таму і трэба чытаць, каб не стаць абломкамі, каб праверыць сваё сумленне на чыстату, а душу — на дабрыню. Мае словы ўжо тады гучалі абсалютным дысанансам тагачаснаму становішчу кніг. Яны ціха, як даўнія сябры, якіх прамянялі на новых, багатых і вясёлых, сыходзілі з нашага жыцця. Яны ўжо не раілі, не павучалі, не забаўлялі, яны сталі непатрэбнымі, як становяцца непатрэбнымі маральныя ісціны і душэўныя якасці, калі ў грамадстве запанаваў кумір залатога цяльца ці яго вялікасці зялёнага даляра. Караткевіч са сваімі ідэаламі чалавечай годнасці ўяўляўся старамодным рамантыкам. Але як мы радуемся, калі ў начной цямрэчы ў разрывах панурых хмар зазіхацяць зоркі — гэта так прыгожа і рамантычна! Зайдрошчу тым маладым душам, да якіх прыйдуць кнігі Караткевіча: яны адчуюць цудоўнае перараджэнне і акрыляюць для палёту. Нешта падобнае я казаў тады, а можа іншае, бо што я мог сказаць вартае, калі нават сваё жыццё не мог яшчэ сур'ёзна асэнсаваць. Цяпер я сказаў бы інакш, бо цяпер я ведаю, што беларусы — гэта дзеці рэк і рэчак. Караткевіч нарадзіўся на стромкіх берагах Дняпра, і калі стаіш на іх і глядзіш на вечную плынь, адчуваеш яе свяшчэнную моц. Яна магутным рухам прасякае шлях па землях, злучаючы іх у адно цэлае, у адзін народ. Яна цячэ з незапамятных часоў, калі яшчэ і Герадота не было, і яе вытокі губляюцца ў часе, і час плыве па яе водах. Нельга не адчуць свяшчэннае абагаўленне зямлі, якую выбрала спрадвечная рака, яна святая! Днепр, як і Рубікон, падзяляе свет беларусаў на свой і чужы і, перайшоўшы яго, ты страціш сваё. Гэта зразумеў легендарны Усяслаў Чарадзей, калі быў вялікім князем у Кіеве. Навошта яму вялікая ўлада, калі ён чуў звон Сафіі Полацкай? Ён клікаў яго на Радзіму! Хоць і меў Усяслаў прарочую душу, але, перайшоўшы Дняпро, дарэчы, каля Оршы, ён страціў сваё. Так і Караткевіч вярнуўся з Кіева да свайго Дняпра, да сваёй святой зямлі, што напаўнялі яго душу мовай вод, ён зразумеў яе і зрабіўся замоўшчыкам нашых душ. Вось чаму мы так любім творчасць Караткевіча, бо ён гаворыць з нашымі душамі мовай нашых рэк і нашай зямлі, сакральнай мовай нашых продкаў. Хаця… Хто зразумеў бы мяне тады, і, думаю, і цяпер?



Удзельнікі святкавання 65-годдзя Уладзіміра Караткевіча. Орша, 24 лістапада 1995 года.

А вечарам у рэстарацыі мы ўжо напоўніцу святкавалі ўгодкі Караткевіча. Ён ўсміхаўся нам сваёй лагоднай добрай усмешкай з фотапартрэта, што стаяў на пачэсным ста-




ле, асветлены трапяткімі агеньчыкамі свечак і святлом, якое падараваў нам. Падымаўся з келіхам бурштынавага віна Мальдзіс і распавядаў забаўныя показкі пра сябра, якіх хапала. Караткевіч любіў розыгрышы і розныя незвычайныя выдумкі, кіруючыся прынцыпам: пісьменнік павінен «абрасці» легендамі, як карабель ракавінкамі. А для гэтага ён павінен, як і карабель, прайсці не адно жыццёвае мора. Мудра сказаў Брыль пра асобу малодшага сябра. Пасля хто хацеў, той і выказваўся. Хоць чым больш мы адзначалі юбілей, тым больш рассейвалася нашая тужлівасць. Ўжо пачалася размова пра іншае. Памінальны настрой змяніўся ажыўленым — усё ж юбілей. І начальніца адзела культуры, тая самая гжэчная пані Сінякова, прызнаўшы, што аршанцы ганарацца сваім вялікім земляком, таямніча прымоўкла, а пасля сказала, што Караткевіч любіў рабіць сябрам прыемныя сюрпрызы, а таму аршанцы працягнуць ягоную традыцыю. Афіцыянты ўнеслі у залу тры скрыні любімага Караткевічам аршанскага піва, як вядома, лепшага ў свеце. Словы Мальдзіса не прапалі дарма!

Калі ёсць лепшае ў свеце піва, дык трэба яго выпіць у памяць вялікага аршанца, які праз сваіх землякоў зрабіў нам цудоўны сюрпрыз. Я не знаўца піва, таму і не магу сцвярджаць, што аршанскае піва сапраўды лепшае ў свеце. Але ў той вечар яно здавалася цудоўным, і мы з ахвотай пілі яго. Пісьмянкоў, Верабей, Законнікаў, Жалязоўскі, сабраліся ў нашай з Шавыркіным каморцы, гучна размаўлялі, палка спрачаліся і асвяжалі перасохлыя горлы халодным напоем. Экспрэсіўны Міхась не ўтрымаўся і заспяваў прыемным мілагучным голасам, да якога далучыліся нашыя нястройныя, але спеўныя галасы. Дык навошта ацэньваць наш хор, калі нам хацелася ў спевах проста выказаць радасць жыцця. Песня можа не толькі радаваць, але і саграваць, як некалі мяне, вымаклага пад праліўным дажджом у купальскую ноч і змерзлага ранкам у чаканні электрычкі. Нават не сагрэлі і прапанаваныя мне сто грамаў, а вось зладжаныя гарэзлівыя спевы дзяўчат у вагоне — сагрэлі. Цяпер надарылася іншая нагода, і спевы зноў загучалі як радасныя мелодыі нашых сэрцаў. Не думаў я, што некалі буду апісваць гэты вечар, бо быў безуважны да свайго жыцця, як нецікавага і нявартага ўвагі іншых. Дык можа, што-небудзь яшчэ вартае запомнілася, бо нават не запомнілася гамонка, а было што сказаць рэдактарам літаратурных часопісаў, паэтам і рупліўцам беларускага слова. Такое адчуванне нерэальнасці, што, здаецца, я не ўспамінаю, а сачыняю, прыдумваю тое, чаго не было. Вось узяў і стварыў яшчэ адзін міф пра нашую літаратуру, кіруючыся борхаўскім азначэннем: «літаратура пачынаецца і канчаецца міфам». Ну, тады чым больш у літаратуры міфаў (ці сваіх, ці пазычаных, ці проста прыдуманых), тым больш яна вабная для чытача, тым больш высокі яе статус на агульным Парнасе. І уздымаю гэты выпадак да гамерэчных памераў, каб зрабіўся ён міфам. Таму і змагаюся са сваёй памяццю не дзеля таго, каб адчуць горыч страт і паражэнняў, а каб стварыць яшчэ адзін міф пра Бога, расказаць пра ягоную чалавечнасць, бо калі не богі абпальваюць гаршкі, дык ужо дакладна не яны пішуць пра людзей.

Няма ўжо Алеся Пісьмянкова, празванага за сонечныя валасы Пшанічным. Але засталася ягоная пшанічная паэзія — светла-сонечная і каласістая. Тады ён не адчуваў ні стомы, ні расчараванняў, і вершы яго па-маладому росна журчэлі празрыстай чысцінёй яго любай Бесядзі,

напаўняючы нашу паэзію пахам сенакосаў, вясёлым гучаннем шматкроплых дажджоў і срэбрам зялёнай травы радзімічскіх палеткаў. Цяпер ён для мяне юнак, а тады ўжо майстар, які праз два гады з трывогай напіша: «Кажуць, што ў сорак ужо не да зорак», але ад гэтага не перастане думаць свае пшанічныя вершы, ставіць на сваёй ніве паэтычныя снапкі… Вершы не пішуцца пад замову не толькі патрэбы жыцця, але нават задумы сэрца і пачуцця душы: вершы прыходзяць самі не ведаючы адкуль, не ведаючы чаму і навошта. Як прыйдуць, як выльюцца ў словы, дык проста паэт іх толькі складае ў радкі, добры — у вершы, выдатны — у паэмы, а геніяльны жыве імі — вось-вось думае іх маўклівае існаванне ў сэрцы, адчувае іх пачуццёвае нараджэнне ў душы, што рыфмаў вітае гэты свет. Ён быў паэт (які — меркаваць не мне) і ведаў гэта лепш за іншых паэтаў: вершы павінны спявацца, быць такімі бязважкімі і легкімі ў словах, што адчуваеш іх пявучасць. Алесь не думаў вершы, ён іх спяваў, бо паэзія нарадзілася са спеваў, а спяваюць у нас сэрца і душа, — вось адкуль, значыць, бяруцца вершы.

Змоўк пявучы голас Міхася Шавыркіна. Неяк нечакана, нібыта на абарванай ноце недапетай песні. У нашу апошнюю сустрэчу, літаральна дзесьці за нейкі месяц ад сыходу, на ягонае пытанне, як маешся, Вітаўт, упэўніваў, што маюся, як і ўсе, — так сабе, як-небудзь перамаюся. А ці ведаў ён, што ўжо перамаяўся? Пажадаў мне здароўя і поспехаў, развітаўся назаўжды і пайшоў… Не ведаю, якімі яны былі літаратурнымі начальнікамі, а вось іх душы, калі весяліліся, дык спявалі.

І ўсё адбывалася, як у той песні. Сабралася бедна басота і гарэлку п’е (у нашым выпадку лепшае ў свеце аршанскае піва). Памятаеце, што было далей? Прыйшоў дзядзька, дзядзька багаты. Тут адчыняюцца дзверы і на парозе вырастае волатаўская постаць Брыля, апранутага ў паліто, з мехавой шапкай на галаве. Мы адразу прыціхлі. А мне падумалася, што мы сваімі гучнымі спевамі паднялі мэтра на сняданак ў рэстарацыю. Зрабілася няёмка за нашу радасць, такую беспакойную нават для багоў Парнаса. Алесь Пісьмянкоў спытаўся:

— Іван Антонавіч, гэта ж куды вы сабраліся ў тры гадзіны ночы?

Брыль мякка ўсміхнуўся і прайшоў у пакой.

— Вяртаюся ад сяброў Караткевіча. Пачуў спевы, вось і зайшоў да вас, — і звярнуўся ўжо да мяне:

— Частуй, Вітаўт, сваёй смачнай гарбатай.

Ён прысеў на стул. Трохі сарамлівы, як дарослы дзядзька ў юнацкай кампаніі, але якому так хочацца пабыць у ёй, падыхаць свежым паветрам юнацтва, скінуць з плячэй цяжар пражытых гадоў і зноў адчуць сябе маладым — бязважкім і безразважлівым юнаком з пявучым сэрцам у грудзях.

— Спявайце, хлопцы, а я паслухаю. Смачна спяваеце, — сказаў Брыль.

Заспяваў Міхась, і мы ўжо не лезлі сваімі няладнымі галасамі ў чыстую мелодыю песні, а самі заслухаліся спевам. Песня з’яднала нас у адно цэлае. І ніхто не разбіраўся б, хто вартаўнік, а хто баявік, хто свінапас ці прос-та прыбіральшчык — усе мы былі аднолькавымі беларускімі літаратарамі з агульным драматычным лёсам нашага народа і ад таго аднолькава вялікім.

Між тым я ўскіпяціў награвальнікам у шклянцы ваду і заварыў гарбату. Не скажу, што гэта была нейкая асаблівая гарбата, звычайная магазінная. Брыль піў яе нетаропка і слухаў спеў Міхася. І здаецца, ягонае сэрца кранула самота, як там у Святым Пісьме: «Сіла прагне, і толькі самота спаталяе сэрца». Вось чаму прасвятлеў ягоны твар. Дапіўшы гарбату, Брыль паставіў пустую шклянку на стол і, дачакаўшыся, калі Міхась даспявае, жартліва прамовіў:

— Смачная гарбата.

Чаму смачная? Разгадку я знайшоў пазней, калі чытаў «Вячэрняе». Вышэйшым азначэннем дасканаласці, таго, што яму прыйшлося да душы і абрадавала сэрца, Брыль выказаў эпітэтам *смачны*. Падабалася яму гэтае слова сваім каларытным, смачным гучаннем. Гэтак улюбёны Паўстоўскі для яго смачны Паўстоўскі, прыгожыя вясковыя назвы — смачныя назвы. Вось і мая гарбата — смачная.

— Як дамовіліся, Вітаўт, давай падпішу табе кнігу, — прапанаваў Брыль.

Я не чакаў такой прапановы, а вось Бог не забыўся… Сэрца радасна затахтала ў прадчуванні майго трыумфу. Я падаў Брылю кнігу і асадку. Ён, паклаўшы кнігу на калені, хутка і размашыста, як вялікі магістр прысуду, напісаў сваё прызнанне на тытульным лісце. Я ціха прамовіў:

— Глядзіце, хлопцы, зараз Іван Антонавіч напіша, што я геніяльны пісьменнік.

— Ды ну! Каб Брыль напісаў такое — ды ніколі! — не паверылі мне.

Брыль чуў нашу размову і лідавочна ўключыўся ў гэты розыгрыш хлопцаў і будучых літаратуразнаўцаў, захоўваючы нашу тайную змову. Таму ён з урачыстай сур'ёзнасцю перадаў мне кнігу, як кароль свайму рыцару залатую грамату, і сказаў:

— Поспехаў табе, Вітаўт. Працуй і будзе плён.

Пажадаўшы нам усяго добрага, Брыль выйшаў з пакоя.

— А цяпер вы даведаецеся, хто перад вамі, — з ноткамі пераможцы мовіў я і раскрыў кнігу.

Усе чакалі, нібыта я трымаў у руках Сівіліну кнігу з тайнамі тайнаў. Пасля нашага гармідару я, здаецца, пачуў саму цішыню, якая шорганнем стомленых крокаў Бога разлілася наўкол. У гэтай цішы выразна прагучаў мой голас.

— Таленавітаму Вітаўту Чаропку з пажаданнем добрых поспехаў. Орша. 26.XI.95.

Канечне, я трошкі расчараваўся. Мой трыумф быў няпоўны. Я не ўразіў хлапцоў прызнаннем маёй геніяльнасці самім класікам.

— Хоць пакуль не геніяльны, але таленавіты, што прызнаў сам Брыль, — пракаментаваў я жартаўліва.

— А мы ў гэтым не сумняваліся, — сказаў за ўсіх Анатоль Верабей.

Я расказаў гісторыю майго сну, чым пацешыў кампанію.

— Цяпер табе прыйдзецца працаваць і працаваць, бо Брыль у людзях разбіраецца, — заўважыў Алесь Пісьмянкоў.

Вось і выконваю наказ класіка — працую і працую, бо Брыль у людзях разбіраўся, варта толькі пачытаць ягоныя лірычныя запісы і мініяцюры з кнігі «Вячэрняе». Не шкадую, што набыў яе, бо ў ёй занатавана мудрасць пражытага жыцця вялікага майстра літаратуры без усялякіх прыкрас і каталіцкага містыцызму і дыдактыкі, панашанску проста і ясна. Цяпер я магу параіць маладому пісьменніку знайсці тую тэму, дзе ён можа раскрыцца напоўніцу, як чалавек, а не гвалтаваць сябе ў перайманні ўдачлівым кніжкам, тое, што і называецца *знайсці сябе.* Брыль знайшоў сябе, сваю тэму — штодзённае жыццё, у якім адбываліся людскія лёсы, незаўважаныя самімі людзьмі, якія ён убачыў, зразумеў і занатаваў у слове. Падумаць толькі, ён назваў мяне таленавітым і пісьмова занатаваў сваё прызнанне, а гэта да многага абавязвае.

Калі мы ехалі ў Оршу, маўклівыя і сур'ёзныя, дык назад вярталіся вясёлыя і гаманлівыя. Настоеная на травах і зямных духах самагонка, што раздабыў у сваякоў Жалязоўскі і цяпер шчодра частаваў усіх ахвочых, прыўзняла настрой. Беларус на падпітку шчыры, як сонечны праменчык, які хоча аблашчыць кожную травінку, кожную кветачку, кожную жывую істоту сваім цяплом. Не ведаю, што абудзілася ў душах хлапцоў: ці іх сялянская першасная натура, ці пісьменніцкі абавязак (даруйце, не знайшоў іншага азначэння) перад людзьмі, але можаце ўявіць зліццё дзвюх гэтых стыхій, як сустрэчу дзвюх плыняў Гальфстрыма. Лілася самагонка, гучалі вершы, спяваліся песні, каціўся па вагоне смех. І вагон быў калі не п'яны споены самагонкай, дык радасны ад нашай радасці. Толькі паважаны Іван Антонавіч, як старэйшы і мудрэйшы, усміхаўся з безразважлівасці маладосці, хоць і не такой маладой для нас, і назіраў аднастойны пейзаж за акном, як разматваў у памяці ленту свайго доўгага жыцця, у якім былі вось і такія радасныя імгненні, якія ён зберог у сваім сэрцы. Мудры настаўнік, што прыходзіў да нас са старонак падручніка і цяпер вось вяртаўся ў вялікі свет са сваімі дарослымі вучнямі пасля паездкі на юбілей сябра ў сонную Оршу. Радасныя, што і нам дазволілі дакрануцца да Вечнасці, ап'янелыя ад такой радасці мы і не заўважылі, як прыехалі ў Мінск. Вось жа ёсць сродак апярэдзіць час — імчацца яму насустрач у кампаніі шчырых братэрскіх людзей. Толькі разумееш пасля: не трэба абганяць час, спяшацца непрыкметна прашмыгнуць праз дні, нават наканаваныя табе імгненні, хай балючыя і драматычныя, бо тады адбываецца тое, што і называецца несвоечасовая падзея, ці яшчэ больш драматычна: заўчасная смерць…

P. S. Толькі пасля таго, як я прачытаў «Вячэрняе», зразумеў, што Іван Антонавіч пашкадаваў маё самалюбства і выдаў мне авансам азначэнне «таленавіты», таму і параіў: працуй, каб і я, як ён сам прызнаўся: «сёе-тое рабіў і зрабіў, і павінен зрабіць».

*20.X.2011, 2016 гг.*

Інстытут журналістыкі
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

# ПРЫЁМЫ НАПІСАННЯ НАВІН

Выкладчык Ягор Конеў.



Ілюстрацыя Алесі Галота.

Спрэчкі наконт таго, што трэба лічыць навінамі, доўжацца з пары зараджэння журналістыкі і не спыняюцца дагэтуль. У заходняй журналістыцы за апошнія стагоддзі назбіралася багата арыгінальных выказванняў на гэты конт. Адно з іх належыць самаму сварліваму газетнаму магнату Амерыкі Джо Бэнэту-малодшаму, які напрыканцы XIX стагоддзя заявіў: *«Навіны — гэта тое, што я называю навінамі»*. Болей тактычна выказаўся ў пачатку XX стагоддзя рэдактар «The New-Yourk Sun» Чарльз Дан: *«Навіны — гэта ўсё, што змушае людзей размаўляць паміж сабой»*. Крыху пазней у каледжах і інстытутах студэнтам, якія марылі прысвяціць сваё жыццё журналістыцы, давалі наступныя тлумачэнні жанру навін: *«Навіны — гэта паведамленне пра падзеі, якое змяшчае інфармацыю, мала каму вядомую, і якая была атрымана рэпарцёрам і перададзеная чытачу, слухачу, гледачу»*. Або: *«Навіны — гэта цякучая інфармацыя, якая паведамляе пра тое, што адбываецца. Навіны змяшчаюць жыццёва важную інфармацыю для людзей, якія спрабуюць вырашыць, што ім належыць думаць і як рабіць»*. Або: *«Навіны — гэта тое, пра што вы не ведалі ўчора»*.

Досыць цікавую характарыстыку навін даў напрыканцы XX стагоддзя журналіст Мелвін Менчэр у кнізе «Асновы газетнай журналістыкі»: *«1. Навіны — гэта матэрыял, які публіка павінна ведаць, бо ён важны. 2. Навіны — гэта матэрыял, які зацікавіць чытачоў»*.

Такім чынам, як бачым, у амерыканскай навуцы (як, прынамсі, і ў еўрапейскай) няма агульнапрынятага азначэння або комплексу азначэнняў «навіны». Друк усклаў на сябе абавязкі інфармаваць чытача, забаўляць яго, адукаваць ды падштурхоўваць да пэўных учынкаў і паводзін. Унутры гэтага шырокага спектра, аднак, існуе пэўнае ўсведамленне, абумоўленае практычным інтарэсам аўдыторыі, адносна таго, што можна лічыць навінамі, а што — не.

*Тут друкуюцца самыя цікавыя лекцыі на самыя розныя тэмы па самых розных дысцыплінах. Галоўныя ўмовы: зразумела ўсім, карысна кожнаму, цікава шырокаму колу маладых чытачоў-інтэлектуалаў. Прымаем ад выкладчыкаў тэксты ў форме лекцый з фатаграфічнымі доказамі студэнцкага захаплення.*



Безумоўна, да навін належаць паведамленні пра дзейнасць афіцыйных асоб і знакамітасцей, ініцыятывы ўрада, неардынарныя падзеі (злачынствы, катастрофы, скандалы, выкрыцці), новыя сацыяльныя тэндэнцыі і г.д. Аднак жанр навін не вычэрпваецца толькі канцэнтраваннем увагі грамадскасці на незвычайным. Некаторыя журналісты інтуітыўна адчуваюць, што можа зацікавіць іх чытачоў. Але тыя, каго прырода пазбавіла такой інтуіцыі, могуць выкарыстаць метадычны падыход, вышукваючы ў навакольнай рэчаіснасці рэальныя падзеі з пэўнымі характэрнымі рысамі, якія здатныя заінтрыгаваць масавую аўдыторыю. Для большасці навін гэтыя рысы маюць наступныя элементы:

***1. Блізкасць.***

Рэдактар аддзела навін лонданскай газеты ніколі не забудзе, што яго чытачоў болей зацікавіць паведамленне пра авіякатастрофу у Эдынбургу, чым дзесьці ў Мумбаі. Адзінае выключэнне з гэтага правіла — колькасць ахвяр: чым далей ад месца выдання, тым іх павінна быць болей, каб звесткі пра іх патрапілі на першыя палосы. Так, для рэдактара брытанскага выдання 4 загінуўшыя лонданцы раўназначны 40 нябожчыкам у Парыжы або Бярліне, 4 000 памерлым у Турцыі або Іране, 400 000 забітым у М'янме або Інданезіі.

Гэтаксама рэпарцёры імкнуцца звязаць навіну са сваімі чытачамі, паведамляючы, напрыклад: *«Учора ля берагоў Канады затануў пасажырскі карабель. Загінулі 83 пасажыры і члены экіпажа. 16 з іх — жыхары нашай краіны».*

***2. Вядомасць.***

Рэдактары газет больш ахвотна змяшчаюць матэрыялы пра любоўныя авантуры знакамітасцей у такіх падрабязнасцях, якія выклікалі б у чытачоў агіду, калі б яны тычыліся звычайных людзей.

***3. Своечасовасць.***

Добрасумленны рэпарцёр не напіша пра падзею, якая адбылася ўчора ці пазаўчора, бо для чытача гэта ўжо не навіна. Можна, аднак, выкарыстаць прыём *«update»* («асучасніванне») навіны. Напрыклад, калі ўчора ў горадзе быў абрабаваны

банк, то назаўтра паведамленне пра гэту падзею павінна выглядаць наступным чынам: *«Здароўе ахоўніка, параненага ўчора ў час абрабавання банка, значна палепшылася. Хутка ён зможа даць паказанні паліцыі».*

***4. Актуальнасць.***

Некаторыя тэмы ў пэўныя перыяды хвалююць грамадскасць значна больш, чым іншыя. Звычайна гэта тэмы, якія інтрыгуюць і палохаюць чытачоў. Напрыклад, у 1983 годзе грамадства ў Паўночнай Амерыцы і Заходняй Еўропе надзвычай хвалявалася з нагоды эпідэміі герпесу, якую называлі «чумой ХХ стагоддзя». Як толькі аўдыторыя стамілася ад гэтай тэмы, у 1985 годзе яе змяніла тэма новай «чумы ХХ стагоддзя» — СНІДу, потым — сібірскай язвы, пазней — атыпічнай пнеўманіі, затым — свінога грыпу і г.д.

***5. Значнасць.***

Чым большы ўплыў дадзеная падзея акажа на людзей, тым больш верагодна, што яна патрапіць на паласу навін. Напрыклад, паведамленне пра закрыццё фабрыкі дзесьці ў Вярмонце не з'яўляецца значнай для агульнанацыянальнага выдання кшталту «The New-Yourk Times» ці «The Washington Post». Але такая навіна акажацца вельмі важнай для рэгіянальнага выдання ў штаце Вермонт, паколькі ў выніку банкруцтва прадпрыемства працу згубяць сотні чалавек.

***6. Драматызм.***

Некаторым падзеям уласцівая драматычная інтрыга, якая змушае чытача чакаць працягу расказа. Да такіх навін належаць, напрыклад, паведамленні, прысвечаныя судовым працэсам або пошукам паліцыяй серыйных забойцаў і г.д.

Калі ў матэрыяле прысутнічае хаця б адзін са згаданых элементаў (звычайна іх называюць элементы *«будаўніцтва навін»*), то ён мае шанц на апублікаванне. І чым больш у паведамленні будзе такіх элементаў, тым вышэйшыя будуць яго шанцы патрапіць на першыя палосы выдання (адпаведна і ганарар акажацца вышэйшы, чым за публікацыю дзе-небудзь на 20-й або 120-й паласе).

У якасці прыкладу спалучэння такіх элементаў, як вядомасць, значнасць і своечасовасць, хацелася б згадаць навіну, змешчаную сёлета на другой паласе «The Washington Post»:

*«Папа Рымскі Бенедыкт XVI вітаў вернікаў са свайго папамабіля, калі прыехаў на месу ў Кідроне па-за сценамі старога цэнтра Іерусаліма. У аўторак 12 мая 2009 года Папа прыбыў з пяцідзённым візітам у Ізраіль і Палестыну».*



Ягор Конеў, дацэнт кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры.

Гэты матэрыял, падрыхтаваны супрацоўнікамі інфармацыйнага агенцтва «Associated Press», па-першае, з'яўляецца досыць лаканічным (усяго 2 сказы), па-другое, мае сваім героем адну з самых аўтарытэтных асоб у свеце (элемент *вядомасці*), па-трэцяе, аператыўна інфармуе пра падзею, якая адбылася толькі зараз (*своечасовасць*), і, па-чацвёртае, закранае праблему, якая хвалюе мільёны амерыканскіх этнічных іўдзеяў і прыхільнікаў ісламу, — перманентную вайну паміж Ізраілем і арабскім светам, а таксама надзею на ўрэгуляванне гэтага канфлікту пры пасрэдніцтве каталіцкай царквы (*значнасць*).

Паводле існуючай класіфікацыі дадзенае паведамленне належыць да шэрагу *«цяжкіх»* навін, паколькі тычыцца пытанняў міжнароднай палітыкі, і з'яўляецца тыповай *News in brief* (аналаг нашай кароткай інфармацыйнай заметкі).

Аднак, паколькі чытач хоча ведаць не толькі факты, але і падрабязнасці, то большасць паведамленняў, якія змяшчаюцца на паласе пад рубрыкай «Навіны» (*News*), прадстаўлены не толькі ў лаканічным *News in brif*, але і ў разгорнутым выглядзе *General News Account* (аналаг пашыранай заметкі).

Істотнае адрозненне паміж гэтымі групамі жанру заключаецца ў тым, што *«лёгкія»* і *«цяжкія»* навіны, а таксама *News in brif* змяшчаюць паведамленне пра пэўную падзею, якая ўжо адбылася, або анонс пра падзеі, якія яшчэ адбудуцца, між тым як *General News Account* можа мець рысы і мініагляду, і міні-гісторыі (гэта значыць змяшчаць у тэксце прафесійную або жыццёвую інтрыгу, пабудаваную на чалавечых узаемаадносінах), ці нават міні-парады (напрыклад, па гаспадарцы або па падтрымцы здароўя). Яднаюць жа гэтыя групы выкананне прафесійных патрабаванняў да тэксту — аператыўнасць, актуальнасць, дакладнасць, лаканічнасць і яснасць выкладання.

Жанру *General News Account* уласцівыя дынамічная манера азнаямлення з фактамі, інфармацыйная насычанасць, аўтарскае імкненне да аб'ектыўнасці і нейтральнга стылю расповяду. Якасны тэкст *General News Account* звычайна дэперсаніфікаваны — аўтар быццам не навязвае чытачу сваю інтэрпрэтацыю падзей. Дзеля гэтага ўжываецца дастатковая колькасць цытат і спасылак на разнастайныя крыніцы інфармацыі.

У якасці прыкладу варта спаслацца на матэрыял Кліфарда Леві, апублікаваны 27 мая 2009 года ў газеце «The New-Yourk Times» пад загалоўкам *«У Сібіры — памінальны звон па запасе смяротнай зброі»:*

*«У пятніцу ў сібірскім горадзе Шчучча афіцыйна адкрыецца аб'ект па ўтылізацыі хімічнай зброі.*

*У 1994 годзе амерыканскія інспектары ўбачылі на складах у Шчуччы, дзе захоўваецца 14 % рускага арсенала гэтых узбраенняў, сумнае відовішча: браму ахоўваў маладжавы шчуплы салдат, якому шмат месяцаў не плацілі грашовае ўтрыманне, дзверы складоў былі зачыненыя на іржавыя вісячыя замкі, а ўнутры, як дровы, былі складзены 2 мільёны артылерыйскіх снарадаў і боегаловак з нярвова-паралітычным газам. Многія з зарадаў партатыўныя, прычым выбух усяго аднаго з іх у месцы масавага збору людзей спарадзіў бы дзясяткі тысяч ахвяр. Візіт інспектараў у 1994 годзе стаўся каталізатарам амерыканскай дапамогі па знішчэнню хімічнай зброі. За бягучы перыяд склады у Шчуччы змяніліся непазнавальна.*

*Сумесная расійска-амерыканская праграма па бяспечнаму захоўванню і ліквідацыі каласальных запасаў зброі масавага вынішчэння савецкай вытворчасці сутыкалася з замінкамі: Кангрэс ЗША настойваў, каб Расія аплачвала яе з уласнай кішэні, а рускае кіраўніцтва накладвала бюракратычныя абмежаванні ды павышала ўзровень сакрэтнасці, што перашкаджала амерыканскім прадстаўнікам высвятліць, на што менавіта выдаткоўваюцца грошы.*

*Утылізацыя арсенала ў Шчуччы зойме не менш пяці гадоў. У кожным снарадзе або боегалоўцы прасвідруюць адтуліну, газ выпампуюць і змяшаюць з іншымі хімікатамі дзеля нейтралізацыі, адходы ж заліюць асфальтам.*

*Мясцовыя эколагі заклапочаныя верагоднасцю аварый на новым аб'екце. Як сцвярджае Леў Фёдараў, прэзідэнт Саюза хімічнай бяспекі, у апошнія гады жыхары Шчучча назіралі на складах пажары ды іншыя пазаштатныя сітуацыі, але ўлады не паведамлялі пра гэтыя інцыдэнты і не тлумачылі, якія меры бяспекі прынятыя.*

*Буйнейшыя сусветныя запасы хімічнай зброі знаходзяцца ў Расіі і ЗША, якія абавязаліся знішчыць іх да 2012 года. Але наўрад ці яны ўкладуцца ў гэты тэрмін з-за праблем з фінансаваннем і лагістыкай».*

Як бачым, у матэрыяле раскрываецца логіка факта, чытач атрымлівае накіраваны імпульс для асэнсавання паведамлення. Што ж да асабістай думкі аўтара на дадзеную праблему, то яна выказана ў фінальным абзацы карэктна і нейтральна.

Дадзены матэрыял мае рысы ўласцівай жанру *General News Account* міні-гісторыі, інтрыга якой абумоўлена патэнцыяльнай пагрозай з-за благіх умоў захоўвання зброі масавага вынішчэння.

Якасць дадзенай публікацыі абумоўлена наяўнасцю некаторых важных элементаў інфармацыйнага аналізу, збольшага ўласцівага жанру *General News Account*. Газета «The New-Yourk Times» недарма апошнія сто гадоў карыстаецца славай своеасаблівай«Бібліі навін», паколькі ад яе рэпарцёраў патрабуюць наступныя элементы інфармацыйнага аналізу:

*1. Пра тое, што адбудзецца, трэба паведамляць у першым, у крайнім выпадку — у другім абзацы.*

*2. Тэкст мусіць быць напісаны кароткімі сказамі ды абзацамі.* Гэта значыць, што дапускаецца і адзін сказ ў абзацы; у сказе павінна быць максімум 25 слоў; адзін абзац змяшчае адну ідэю; стыль — максімальна спрошчаны для чытання і г.д.

*3. Распавед ідзе ад трэцяй асобы.*

*4. Даты павінны быць дакладнымі. Гэта значыць, што лепей пісаць не «на мінулым тыдні», а «15 ліпеня».*

*5. Пра падзеі трэба не проста паведамляць, але тлумачыць іх сутнасць, дэманстраваць у кантэксце.*

*6. Меркаванне павіненна грунтавацца толькі на фактах.*

*7. Тэкст мусіць быць інфарматыўным і збалансаваным ў ацэнках.*

*8. Факты павінны быць прывязаныя да крыніц.*

*9. Аналіз базуецца толькі на фактах, згаданых у тэксце.*

*10. Калі цытата крыніцы інфармацыі з'яўляецца меркваннем, то яму павінна супрацьстаяць супрацьлеглае меркаванне (цытата іншай крыніцы).*

*11. Падзею трэба асвятляць паводле прынцыпу «перагорнутай піраміды»: спярша — самае галоўнае, далей — падрабязнасці.*

Зразумела, даволі праблематычна напісаць інфармацыйнае паведамленне, якое змяшчала б усе гэтыя аналітычныя элементы. Але тут спрацоўвае той жа прынцып зацікаўленасці журналіста: чым больш элементаў аналізу будзе мець яго навіна, тым больш шанцаў яна займее, каб патрапіць на першыя (высокаганарарныя) палосы выдання.

Да шэрагу такіх матэрыялаў можна аднесці публікацыю ўласнага карэспандэнта «The New-Yourk Times» у рэгіёне Бліжэйшага Усходу Назіла Фатхі пад загалоўкам *«Вялікая дэманстрацыя ў падтрымку Мусаві адлюстроўвае пагрозу сённяшняму лідару Ірана»*, якая выйшла 1 чэрвеня 2009 года:

*«Учора, 31 мая, галоўны сапернік Махмуда Ахмадзінежада на бліжэйшых у Іране прэзідэнцкіх выбарах Мір-Хасейн Мусаві здолеў сабраць незвычайна вялікую дэманстрацыю сваіх прыхільнікаў у час выступу ў Табрызе — на паўночным захадзе краіны, недалёка ад месца яго народзінаў.*

*Да выбараў засталося менш месяца, і такая масавая падтрымка памяркоўнага кандыдата стварае сур'ёзную пагрозу сённяшняму кіраўніку Ірана. Прыкметна тое, што паслухаць Мусаві сабраліся 30 тысяч чалавек, якіх пры гэтым не кармілі бясплатна, не прывозілі на аўтобусах і якім не давалі грошы — такія метады выкарыстоўвае Ахмадзінежад у сваёй перадвыбарчай кампаніі.*

*Многія прыехалі на сваіх машынах, даведаўшыся пра збор праз сацыяльную сетку «Facebook», у якой даволі паспяхова пазіцыяніруецца перадвыбарчая кампанія Мусаві.*

*Гэта толькі першы прыпынак у двухдзённым турнэ Мусаві па Заходнім Іране. Мэта Мусаві — прыцягнуць галасы турэцкамоўнага электарата (15 млн), які складае трэцюю частку выбаршчыкаў. «Людзі Табрыза і Азербайджана некалькі разоў змянялі лёс гэтай краіны, — заявіў Мусаві. — Яны заўсёды супрацьстаялі дыктатуры».*

*Былы прэм'ер Мусаві вядомы сваімі памяркоўнымі поглядамі, дзякуючы якім ён атрымаў падтрымку прыхільнікаў рэфарматарскага курса, у прыватнасці, былога прэзідэнта Махамеда Хатамі. У той жа час падтрымка Ахмадзінежада з боку клерыкалаў саслабела — яго вінавацяць у эканамічных праблемах.*

*Мусаві дакляраваў у выпадку абрання забяспечыць выкананне канстытуцыйнага закона пра выкладанне ў школе на роднай мове. Таксама ўпершыню з 1979 года ў перадвыбарчай кампаніі ўдзельнічае жанчына — Заўра Рахнавард, жонка Мусаві. Яна публічна заявіла, што выступае за манагамію і пашырэнне правоў для жанчын».*

Дадзены матэрыял дэманструе узор палітычнай заангажаванасці, якая, аднак, прафесійна прыхавана з дапамогай стылістычна афарбаваных адценняў непрадузятасці ды аб'ектыўнасці. Мы зноў назіраем рысы мінігісторыі, інтрыга якой абумоўлена спрадвечным грамадскім інстынктам — барацьбой за уладу. Аўтар фактычна не ўтойвае, што адлюстроўвае пункт гледжання амерыканскай эліты на сітуацыю ў рэгіёне Бліжэйшага Усходу (яе рупарам і з'яўляецца «The New-Yourk Times»). Яго сімпатыі цалкам на баку Мусаві, ён нават не цытуе прыхільнікаў Ахмадзінежада. Разам з тым, тон публікацыі дэманстратыўна дыперсаніфікаваны. Аўтар дакладна ўказвае час і месца падзеі, мэты кандыдата ў прэзідэнты і прыблізную колькасць яго прыхільнікаў. Аўтарскія ацэнкі грунтуюцца на дакладных фактах. Іншая справа, што згадваюцца толькі тыя факты, якія падмацоўваюць аўтарскую інтанацыю крытычнага стаўлення

да Ахмадзінежада —«ворага № 1 для ЗША ў 2009 годзе». Тым не менш, аўтар нідзе не дазваляе сабе некарэктнага выказвання, абразы або беспадстаўнага абвінавачвання. Захаванне эмацыянальнай адасобленасці ў спалучэнні з інфармацыйнай насычанасцю і збалансаванасцю ацэнак — гэта безумоўная прыкмета журналісцкага майстэрства, праяву якога мы назіралі ў дадзенай публікацыі.

***

У заходняй мадэлі журналістыкі навіны вызначаюцца дасведчанасцю рэпарцёра ў пэўнай сферы (гарадскім жыцці, культуры, спорце і г.д.). Штодзённыя намаганні, якія карэспандэнт прыкладае ў гэтай сферы, называюцца *працай з навінамі*. Прафесійны журналіст заўсёды павінен быць у курсе ўсяго, што адбываецца ў сферы яго службовых інтарэсаў. У час працы з навінамі, іх падрыхтоўкай да друку рэпарцёру варта ўлічваць наступныя карысныя парады:

*1. Тэкст навін нельга пачынаць са слоў «Як мы ўсе і чакалі...» або «Дзіўным чынам...».*

*3. Трэба пазбягаць выразы кшталту «У працяг учарашняй тэмы...».*

*4. Нельга пачынаць са слова «учора» (бо навіны для звычайнага абывацеля — гэта тое, што адбылося сёння).*

*5. Трэба пазбягаць фактычных памылак і доўгіх слоў.*

*6. Нельга называць навіны добрымі ці благімі* (працяглая залева можа быць прыемнай навінай для фермераў і благой для турыстаў).

У працэсе збору і апрацоўкі навін значную ролю грае выяўленне сувязі *выпадковага (факта) з заканамерным (з'явай), прыватнага — з агульным, асабістага — з грамадскім.*

Так, паведамленне пра закрыццё завода па вытворчасці цацак дзе-небудзь у Вісконсіне або Гесэне набывае значнасць у кантэксце глабальнага эканамічнага крызісу *(сувязь прыватнага — з агульным).*

Але пачынацца такая навіна павінна персаніфікавана, напрыклад: *«Сёння з ранку ў Гертруды Раўбель благі настрой. Завод, на якім яна адпрацавала трыццаць два гады, зачыніўся».* Далей пойдзе расповед пра тое, што гэткім жа чынам скасавалі кантракты яшчэ 4 тысячы супрацоўнікаў прадпрыемства, якое зачынілася з-за нерэнтабельнасці вытворчасці ды памылак у маркетынгавай палітыцы, дапушчаных адміністрацыяй. І паколькі ў такой навіне з'яўляецца сувязь прыватнага з грамадскім, то яна, безумоўна, зацікавіць шырокую аўдыторыю.

Спецыфіка адбору навін для друку часта абумоўлена тыпам выдання. Так, штодзённыя газеты пішуць галоўным чынам пра тое, што адбылося на працягу бліжэйшых 24 гадзін. Тыднёвікі маюць права на іншы часовы інтэрвал — 7 дзён, таму не могуць абмяжоўвацца лаканічнымі паведамленнямі: чытачы чакаюць ад іх грунтоўнага і ўзважлівага аналізу.

Пэўную ролю ў публікацыі навін адыгрываюць тыраж і месца выдання. Так, газета, якая выходзіць у гарадку Абердзін на поўначы Шатландыі, звычайна паведамляе пра ўсе без выключэння дарожна-транспартныя здарэнні ў наваколлі. Газета, якая друкуецца ў Эдынбургу — сталіцы Шатландыі — асвятляе толькі аварыі, якая маюць наступствамі смерць або траўматызм людзей. Нарэшце, газета, якая выходзіць у Лондане — сталіцы Злучанага Каралеўства Англіі, Уэльса, Шатландыі і Паўночнай Ірландыі — будзе інфармаваць чытачоў пераважна пра буйнешыя аўтакатастрофы.

Яшчэ адзін крытэрый, якім кіруюцца журналісты і рэдактары пры адборы навін, — традыцыйная палітыка выдання. Напрыклад, брытанская газета «The Sun» апошнія дваццаць гадоў спецыялізуецца на навінах, звязаных са скандальнымі забойствамі, сексуальнымі забавамі, а таксама спартыўных дасягненнях. На палосы такой газеты наўрад ці трапяць паведамленні пра найноўшыя адкрыцці ў фармакалогіі, калі яны толькі не звязаны з мужчынскай патэнцыяй. Амерыканская«USA Today», наадварот, презентуе сябе як дасведчанае выданне, якое інфармуе інтэлектуальна развітую аўдыторыю пра падзеі ў сферы палітыкі і бізнесу. Рэдакцыю такой газеты не зацікавіць апісанне, напрыклад, сямейнай бойкі паміж спявачкай Мадонай і яе экс-мужам Гаем Рычы.

У якасці прыкладу характэрнай для рэспектабельнай «USA Today» навіны ў жанры *General News Account* (аналаг нашай аналітычнай пашыранай заметкі) можна згадаць апублікаваны 14 студзеня 2009 года на даволі злабадзённую для Амерыкі

тэму матэрыял Нэнсі Хэлміч *«Майамі — горад таўстуноў, а самыя хударлявыя амерыканцы жывуць у Солт-Лейк-Сіці»:*

*«Згодна штогадоваму адзінаццатаму даследаванню часопіса «Men's Fitness» у ЗША больш за ўсё людзей з залішняй вагою жыве ў Маямі, штат Фларыда. Самым«худым» горадам у краіне прызнаны Солт-Лейк-Сіці.*

*«Калі Вы думаеце пра Маямі, то прыгадваеце людзей, якія выхваляюцца на пляжах фізічна накачанымі цяламі, а тэлебачанне ўсё гэта дэманструе, — кажа галоўны рэдактар часопіса Рой Джонсан, — таму нас вельмі здзівілі вынікі даследавання».*

*У 50 буйнейшых гарадах ЗША былі праведзены даследаванні па самых розных накірунках, у тым ліку і па колькасці тоўстых людзей. Выданне ўстанавіла: у Маямі ўтрая больш фаст-фудаў, чым у сярэднім амерыканскім горадзе, і менавіта гэта стала галоўнай прычынай масавага атлусцення. Да таго ж у Маямі амаль не сустрэнеш чалавека, які едзе на ровары або бегае ў парку.*

*Клаўдзія Гансалес, урач-дыетолаг з Маямі, сцвярджае, што гарадскія ўлады не прапагандуюць здаровы вобраз жыцця з-за вялікай колькасці хайвэяў. «У некаторых раёнах горада, калі вы пойдзеце пешшу, людзі паглядзяць на вас, бы на марсіяніна: «Чаму вы ідзяце, калі ўсе астатнія едуць на машынах?» Выключэнне бадай што Маямі-Біч, Какосавы Гай і Паўднёвы Бераг».*

*Доктар Гансалес прызнаецца, што працуе галоўным чынам з эмігрантамі, многія з якіх аддаюць перавагу танным, высокакаларыйным прадуктам ў рэстаранах хуткага харчавання або, з мэтай эканоміі, набываюць іх на распрадажах. «Яны нават не маюць уяўлення наконт добрых рэстаранаў і якасных прадуктаў», — кажа Клаўдзія Гансалес.*

*Солт-Лейк-Сіці атрымаў высокую адзнаку даследчыкаў за мноства людзей атлетычнага целаскладу на вуліцах, за наяўнасць вялікай колькасці паркаў і спартыўна-аздараўленчых цэнтраў, а таксама за нізкі рэйтынг прагляду тэлебачання.*

*«Жыхары матывавана трымаюць сябе ў форме, — сцвярджае Рой Джонсан. — У адрозненне ад жыхароў Маямі яны вылучаюць на плаванне і заняткі спортам ў 4 разы больш часу, а плошча паркаў Солт-Лейк-Сіці ў 11 разоў перавышае аналагічны паказчык у Маямі».*

Рэдактар аддзела навін лонданскай газеты ніколі не забудзе, што яго чытачоў больш зацікавіць паведамленне пра авіякатастрофу у Эдынбургу, чым дзесьці ў Мумбаі

*Паводле слоў Роя Джонсана, мэта аналізу заключаецца не ў тым, каб прынізіць той ці іншы горад «таўстуноў», але ўхваліць тыя, дзе ўлады ўсяляк спрыяюць жыхарам, каб трымалі сябе ў форме.*

*«Для гарадоў, што знаходзяцца напрыканцы нашага рэйтынгу, мы спадзяемся, гэта стане матывацыяй для больш дзейснага паляпшэння ўмоў пражывання», — заяўляе рэдактар «Men's Fitness».*

*У папярэднія гады самымі «тоўстымі» гарадамі Злучаных Штатаў былі прызнаныя Філадэльфія і Аклахома-Сіці. Пасля такой ацэнкі ўлады гэтых гарадоў сталі больш актыўна змагацца з праблемай «атлушчэння» насельніцтва».*

Як бачым, гэтая навіна павінна прыцягнуць увагу чытача не столькі дзякуючы *аператыўнасці* паведамлення (калі б выданне змясціла яе праз дзень ці праз тыдзень, яна істотна не састарэла б), колькі *актуальнасці* дадзенай тэмы.

Гэты матэрыял мае выразныя рысы *General News Account* найперш за кошт *лаканічнага* стылю і *яснасці* выкладання фактаў, а таксама дакладнасці геаграфічных назваў, імёнаў спецыялістаў, да якіх карэспандэнт звярталася за тлумачэннямі, і г.д.). Відавочна, што аўтарам была праведзена карпатлівая праца па збору фактаў, якія яна паведамляе, аднак зроблены ёю аналіз мае не непасрэдны, а канстатацыйны характар. Нэнсі Хэлміч разважае над прычынамі «атлусцення» Майамі і «схуднення» Солт-Лейк-Сіці не ад уласнага імя, а ўкладвае развагі ў вусны рэдактара Роя Джонсана і доктара Клаўдзіі Гансалес. Такім чынам, асоба журналіста ў матэрыяле дэманстратыўна адсутнічае (што, прынамсі, з'яўляецца яскравым сведчаннем прафесіяналізму) і, разам з тым, у невялікім па аб'ёме тэксце чытач атрымлівае неабходную яму інфармацыю па злабадзённай тэме.

Актуальныя праблемы заслугоўваюць сталага інтарэсу журналіста. Пра неабходнасць іх выра-

Сучасная інфармацыйная індустрыя замежных краін не толькі здабывае і пастаўляе навіны сваёй аўдыторыі, але і спараджае іх

шэння варта нагадваць перыядычна, і жанравыя характарыстыкі *General News Account* ствараюць для такой палітыкі выдатныя падставы.

У якасці прыкладу такой мэтанакіраванай палітыкі мы хацелі б спаслацца на яшчэ адзін матэрыял Нэнсі Хэлміч *«Нацыя фаст-фуду?»*, апублікаванай на старонках «USA Today» 4 ліпеня 2009 года:

*«Жыхароў Злучаных Штатаў Амерыкі ахрысцілі «нацыяй фаст-фуду». Аднак даныя апошніх сацыялагічных апытанняў сведчаць, што гэтая абраза ўжо не адпавядае рэальнасці.*

*У выніку даследавання, праведзенага ў 12 краінах свету сярод 10 300 чалавек, пра сваю цягу да фаст-фуду заявілі 44% амерыканцаў. Між тым у Балгарыі аналагічныя прызнанні зрабілі 68% рэспандэнтаў. Меней за ўсё аматараў фаст-фуду ў Швецыі (19%) і Малайзіі (20%).*

*Паводле слоў Грэга Чу, вядучага эксперта Цэнтра SNW, які правёў гэта апытанне, амерыканцы разрываюцца паміж любоўю і нянавісцю да фаст-фуду.«Нам падабаюцца хуткасць яго прыгатавання і зручнасць, а таксама смак. Але мы ведаем, што гэта шкодна», — кажа большасць з іх.*

*Жыхары іншых краін, у прыватнасці Балгарыі, па славах эксперта, знаходзяцца ў стадыі «мядовага месяца» з фаст-фудам: «Пакуль ім гэта падабаецца, і яны наўрад ці змогуць яго адцурацца».*

*Вынікі апытанняў у Бразіліі, Балгарыі, Канадзе, Кітаі, Індыі, Малайзіі, Нідэрландах, Іспаніі, Швецыі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, Вялікабрытаніі і ЗША сведчаць:*

*• 29% рэспандэнтаў выдатна ўсведамляюць, што ежа хуткага гатавання шкодная для арганізму. У ЗША не пасароме́ліся прызнацца 45% (з іх 54 % жанчын і 35% мужчын);*

*• 37% апытаных сцвярджаюць, што заняткамі спортам кампенсуюць ужыванне шкоднай ежы (такой, як бульбяныя чыпсы). У Злучаных Штатах пра гэта гавораць 26%, у Кітаі — 71%;*

*• 55% рэспандэнтаў ядуць усё, што захочуць, кожны раз, калі пажадаюць. У ЗША у гэтым прызналіся 37%;*

*• у ЗША 12% апытаных сцвярджаюць, што становяцца на шалі штодня, 11% — штотыднёва, 15% — калі не могуць улезці ў свае старыя джынсы і спрабуюць зразумець прычыну такой недарэчнасці. 20% адказалі, што ўзважваюцца толькі тады, калі пра гэта ўзгадаюць. 4% пра гэта наогул ніколі не ўзгадалі;*

*• у астатніх краінах свету 5% рэспандэнтаў становяцца на шалі штодня, 10% — штотыднёва, 7% — калі іх вопратка рабілася вузейшай. 32 % зрэдку ўспамінаюць пра неабходнасць узважвацца, а 19% аніколі не падыходзяць да шаляў».*

***

Сучасная інфармацыйная індустрыя замежных краін не толькі *здабывае і пастаўляе* навіны сваёй аўдыторыі, але і *спараджае* іх. Недарма яшчэ напрыканцы XX стагоддзя знакаміты сацыёлаг і даследчык праблем медыя Гэй Тачман пісаў, што «навіны — гэта канструяванне часцінак новай рэальнасці», а журналістаў і рэдактараў параўноўваў з архітэктарамі ды будаўнікамі, якія гэтую рэальнасць ствараюць.

Падкрэслім, што гаворка ідзе не пра пошук псеўдасенсацый або выдумлянне драматычных падзей. Насамрэч мы кажам пра крытэрыі адбору навін з вялікай сукупнасці падзей у навакольнай рэчаіснасці. На гэты конт слушна выказаўся яшчэ семдзесят гадоў таму знакаміты вучоны Уолтар Ліпман, апісваючы працэс спасціжэння навін аўдыторыяй: *«У бліскучай і шумнай гаманіне рэчаіснасці мы адбіраем для сябе тое, што наша культура ўжо абрала да нас».* Такім чынам Ліпман тлумачыў сутнасць працэсаў *сацыялізацыі* (г. зн. успрыняцце нормаў грамадскай маралі на свядомым і падсвядомым узроўнях), якая выпрацоўваецца ў кожнага чалавека з ранняга дзяцінства. Узровень сацыялізацыі ўплывае як на метады журналісцкага збору і асэнсавання інфармацыі, так і на ступень успрымання навін масавай аўдыторыяй.

Менавіта працэсы сацыялізацыі змушаюць рэпарцёраў і рэдактараў няспынна балансаваць на мяжы аб'ектыўнасці ды непрадузятасці. Бо, напрыклад, ці зможа захаваць карэспандэнт эмацыянальную адасобленасць, апісваючы дэманстрацыю лесбіянак і гомасексуалістаў, калі сам выхоўваўся ў сям'і, дзе зусім не віталася нетрадыцыйная сексуальная арыентацыя?

**Ірына Клышэўская**

# Ялінка

**1.**



Гэта быў час, калі ноч цягнулася бясконца доўга і змянялася цяжкім шэрым ранкам. Дзень трываў колькі гадзін і саступаў кароткаму шэраму змроку, за якім зноў навальвалася непраглядная ноч. Сёлета ночы былі асабліва цёмнымі. Снег, што выпаў у канцы восені і пабяліў прастору, знік раптоўна. За адны суткі цёплыя вятры, дождж і туман растапілі снежнае покрыва і агалілі зямлю. З прасохлага ўзлеску добра былі відаць рудыя ўзараныя палеткі, размоклая дарога, што паўзла ўдалячынь, і недзе на ўскрайку зямлі — цёмна-шэрае шчацінне далёкага лесу. Усе дрэвы спалі, скінуўшы лістоту і шчыльна спавіўшы на зіму свае пупышкі. Спала і Ялінка, што расла на самым краі ўзлеску. Дакладней, не спала, а неяк дзіўна драмала. Часам яна прачыналася, усёй паверхняй кары адчуваючы холад і сырасць, пацепвалася і спяшалася зноў праваліцца ў сон. Але спала яна гэтай зімой вельмі чуйна. Што рабіць: такія перапады надвор’я каго заўгодна саб’юць з панталыку! Яна адчувала, як доўгія ночы змяняліся кароткімі пахмурнымі днямі. І вось аднойчы чорнай ноччу без зорак скрозь дрымоту яна пачула гукі блізкіх крокаў. На паляну адзін за адным выбеглі ваўкі. Яны цяжка дыхалі, нізка апусціўшы галовы і высалапіўшы языкі.

— Тут адпачнём і пад покрывам ночы пойдзем у новы лес, — прагаварыла старая ваўчыца.

Ваўкі стомлена агледзелі паляну, уважліва прынюхваючыся, пасля ўлягліся, насцярожана ўцягваючы насамі паветра. Два маладыя ваўкі-першагодкі ніяк не маглі знайсці сабе месца. Яны патапталіся каля Ялінкі і нарэшце цяжка паваліліся, ударыўшыся аб яе ствол. Ялінка войкнула і канчаткова прачнулася.

— Даруйце, цётка Елка! — ваўчаняты ўскочылі і завіхлялі хвастамі. — Мы не хацелі вас патрывожыць.

Ялінка лёгка адвяла ўбок лапкі, зірнула сабе пад ногі: «Так, значыцца, гэта не сон». На цёмнай зямлі сапраўды ляжалі ваўкі.

— Вітаю вас, шэрае племя! — Ялінка павяла галінкамі. — Дабранач, Чуйнае Вуха! Бачу, ты вывела маладых на паляванне?

— Цяпер не да палявання, Зялёная Сястра. Самі ледзь лапы знеслі, — адказала старая ваўчыца.

— Хіба сарокі не данеслі да вас жахлівую навіну? — спыталі ваўчаняты.

Ялінка страсянула вяршалінай, праганяючы рэшткі сну. Не, яна нічога не чула. Лёгкія ваўчыныя лапы гэтым разам апынуліся спрытнейшымі за хвастатых пляткарак.

— А што здарылася? — спытала яна, стараючыся заглушыць пазяханне.

— Лес сякуць! — у адзін голас адказалі маладыя браты.

— Дзе?

Сон як рукой зняло.

— Там, — ваўчыца хітнула галавой назад.

— Там было наша логава, там мы нарадзіліся, — тужліва працягнулі ваўчаняты.

— Цяпер трэба бегчы ў чужы лес, — панура прабурчаў стары воўк.

— Пойдзем у запаведную пушчу. Там нас не будуць чапаць, — прагаварыла Чуйнае Вуха.

— Я дадому хачу-у-у-у! — заплакаў Жаўтавокі.

— Ціха! — загадала ваўчыца. — Цяпер усім адпачываць!

Але Жаўтавокі ніяк не мог супакоіцца.

— Там так страшна было! Такі віск стаяў, такі грукат! — шаптаў ён Ялінцы. — Гэты жудасны жалезны зуб: ён гудзеў, як цэлы рой пчол! Жжык — адна ўпала, жжык — другая…

— Хто — адна, хто — другая? — Ялінка замерла ў нядобрым прадчуванні.

— Хто, хто? Елкі, канечне! Чуйнае Вуха табе не расказвала, дзе мы жывём?

— Дзе мы жылі, — паправіў брата Кароткі Хвост.

— Канешне, расказвала, — апалым голасам прамовіла Ялінка.



Яна ўспомніла, што воўчае логава знаходзіцца ў старым яловым лесе, але Чуйнае Вуха ніколі не палявала там, збягала ад свайго жытла куды падалей. Ялінка часта бачыла, як старая ваўчыца прабягала па ўскрайку поля, вяртаючыся на досвітку дадому, у яловы бор.

— Значыць, там гінуць мае сёстры?

Ялінка паспрабавала ўявіць бор — вялікае мноства елак — і не змагла. Яна ніколі не бачыла свайго народу. Як занесла сюды маленькае яловае семечка — хто ведае? Але Ялінка вырасла на ўзлеску, яе сяброўкамі былі белыя бярозкі і старая лістоўніца.

— Так, іх пілуюць, проста пад корань! Жжжык — адну павалілі, жжжык — дру-гую! — скуголіў Жаўтавокі. — Валяць проста сонных!

— Яны падаюць з глухім стогнам, а людзі адсякаюць ім зялёныя лапы і мёртвыя бярвенні кідаюць у самазвалы, — заплюшчыўшы вочы, успамінала другое ваўчаня.

— Бядачкі! — уздыхнула Ялінка. «Добра, што я вырасла далёка ад яловага бору», — чамусьці прамільгнула ў яе галаве. На імгненне ёй зрабілася сорамна, і яна яшчэ раз гучна ўздыхнула: — Няшчасныя! Як іх шкада! Але навошта іх ссякаюць?



— Так трэба Чалавеку, — засяроджана гледзячы ўдалячынь, прагаварыла ваўчыца.

— Чалавеку-у-у. Цару-у-у. Гаспадару-у-у, — голас старога ваўка перайшоў у выццё.

Ён закінуў галаву і завыў, гледзячы ў чорную імглу. Яго выццё падхапіла ваўчыца. Ваўчаняты тужліва павісквалі: яны яшчэ не ўмелі выводзіць такія нізкія працяглыя гукі. Гэта была развітальная песня ваўкоў, песня выгнаннікаў. Такія боль і туга гучалі ў ёй, што ў Ялінкі мароз пабег па скуры.

— І цябе ссякуць!

Песня раптоўна абарвалася. Ваўкі павярнулі галовы: на тоўстым бярозавым суку сядзела Сава. Яе вялізныя бурштынавыя вочы злавесна свяціліся ў цемры.

— Што ты сказала? — Чуйнае Вуха ўскочыла на лапы і зараўло: з-за рэквіема яны не заўважылі, як з дупла вылезла гэтая кручканосая птушка.

— Нашу Ялінку ссякуць! У-у-ух! — жудасна ухнула Сава.

— Каго, мяне? — не зразумела Ялінка. — Не можа быць!

— Можа! Прыйдзе Чалавек з сякерай і ссячэ!

— Што цяпер тут рабіць Чалавеку з сякерай? Зімою людзі на пікнікі не ездзяць.

— Не слухай ты гэтую старую вядзьмарку! Ёй, напэўна, дрэнны сон прысніўся, — пачаў воўк.

— Або паляванне ўчора не задалося, вось і балбоча глупства, — падхапіла ваўчыца.

— У-у-убачыш, ссякуць! — Сава злосна ўскалмаціла пер'е.

— Як гэта?

— Як, як! Проста так! Крак — і няма елкі! — Сава заўважыла, як Ялінка ўздрыгнула і пацепнулася — праняло! Старая вяшчунка злосна ўсміхнулася.

— Прэч пайшла! — грозна зароў на яе стары воўк і гучна ляснуў зубамі.

— Страх! Ах-ах! — Сава шумна залапатала крыламі, сарваўшыся з сука ўніз, зрабіла плаўны круг над палянай, амаль крануўшы крылом ваўчанят.

— Ух, брыдкая! — Кароткі Хвост, падскочыўшы, шчоўкнуў пашчай.

— Пер'е ёй павышчыкваць мала! — цяўкнуў Жаўтавокі, але Сава ўжо схавалася ўдалечыні.

— Я наведаю цябе, калі мы ўладкуемся на новым месцы, — паабяцала Чуйнае Вуха. — А цяпер — бывай! Нам да світання трэба дабрацца да запаведніка.

— Ты не журыся! — Кароткі Хвост па-сяброўску пацёрся аб яловы ствол, пакінуўшы на ім шматок сваёй поўсці. — Гэта табе на памяць.

— Кіруйся «Воўчым Статутам»: пагражае бяда — уцякай, стаміўся бегчы — хавайся! — павучаў Жаўтавокі.

— Во ляпнуў! Як жа яна пабяжыць і дзе схаваецца? — піхнуў брата Кароткі Хвост. Той смешна пачухаў задняй лапай за вухам і паваліўся набок. Ялінка міжволі ўсміхнулася.

— Бывай, Зялёная Макушка! — ваўкі вільнулі хвастамі і патрухалі прэч.

— Шчаслівай дарогі, Спрытныя Ногі! — Ялінка махнула ім услед.

**2.**

Туман шчыльнай заслонай накрыў свет, і вухканне Савы глуха гучала то ў лесе, то над полем. «Ух!» — прыглушаны піск, задаволенае «ах-ах» — гэта Сава складвала здабычу ў дупле. Усё часцей чулася савінае: «Ах-ах, смачна як!»

«Так, так, проста так!» — трывожна гучала сэрца Ялінкі.

Яна ўспомніла, што гэта такое — «ссекчы проста так». Ёй расказвала цётка Лістоўніца, як аднаго разу ранняй вясной насупраць іх пагорка спыніліся аўтамабілі. Дрэвы насцярожана зашумелі. Але людзі выцягнулі з багажніка мех з вугалем — і ўздых аблягчэння пранёсся па пяшчотна-зялёных кронах. Людзі выносілі пакеты, рассцілалі на паваленай бярозе пакрывалы, распальвалі вуглі, нанізвалі мяса на шампуры… Дрэвы, зразумеўшы, што небяспекі няма, працягвалі засяроджана працаваць. Трэба паспець раскруціць лісцікі, падагрэць іх на сонцы, напампаваць з зямлі вільгаці, прагнаць яе па ствале і галінах… «Сякер-р-ра, сякер-р-ра!» — застракатала раптам Сарока, пералятаючы з дрэва на дрэва. На вялікай бярозе ў Сарокі было звіта гняздо, таму яна вельмі хвалявалася. Але чалавек не збіраўся секчы бярозу — ён хацеў бярозавага соку. Чалавек рабіў засечкі на гладкіх белых ствалах і падстаўляў пад іх пластыкавыя бутэлькі. Бярозы ўскрыквалі ад udараў сякеры, заліваліся слязьмі ад болю… А потым доўга хварэлі, загойвалі раны. Лісцікі ў той год мелі дробныя, слабенькія… А людзі доўга елі і пілі, гучна размаўлялі, стараліся перакрычаць гучную музыку. Калі вуголле ўжо дагарала, лысаваты мужычок зноў схапіўся за сякеру:

— Размяцца ці што? — пракрактаў ён, падымаючыся. — Што тут можна ссекчы? Мо гэтую? — ён паказаў на маладзенькую Вольху, якая расла за Лістоўніцай.

— Навошта яе секчы? — імкнулася спыніць яго жанчына.

— Проста так.

Мужчыны ажывіліся, пачалі спрачацца, за колькі ўдараў ён ссячэ дрэўца.

Сёк ён доўга і няўмела. Дрэўца ўскрыквала ад кожнага ўдару, уздрыгвала цудоўнымі завушнічкамі і нарэшце звалілася на сырую зямлю.

— Глядзі, пень быццам крывавы, — сказала жанчына.

— Ды кінь ты! Прыгожы апельсінавы колер, — адмахнуўся ад яе мужык.

Сырая драўніна не разгаралася, колькі ні важдаўся мучыцель з вогнішчам. Хутка гэта ўсім надакучыла. Людзі заспяшаліся, сфатаграфаваліся на фоне лесу з трафейным бярозавым сокам і з'ехалі.

Бярозы, плачучы, схілілі галовы над Вольхай.

— Проста так, проста так! — абуралася Сарока. — Усё ў гэтых людзей проста! Бярозу зваліць — проста! Вольху ссекчы — проста! А гняздо звіць — слабо? А ну, паспрабуй!

Сарока яшчэ не ачомалася ад перажытага страху і крычала гучна і адрывіста.

Дрэвы зашапацелі і засмяяліся скрозь слёзы, уявіўшы тоўстага мужыка на верхавіне старой бярозы… Так некалі расказвала Лістоўніца.

«Значыць, у людзей бывае «проста так», — падумала Ялінка.

Канешне, бывае, але не з ёю! Хіба з ёю можа такое здарыцца? Не! Гэта было б вельмі несправядліва! Яна ўдачлівая: з тысячы штук насення, якія разнёс аднойчы шалёны вецер, толькі яе семечцы пашанцавала, і яна прарасла. Але колькі часу мінула, пакуль гэтае насенне стала тонкім парасткам, а пушыстая дзяўчынка-ялінка ператварылася ў прыгажуню! Яна заўсёды ведала, што елкам адведзены немалы тэрмін жыцця і наперадзе ў яе яшчэ шмат зім з вёснамі. Канечне, некалі надыдзе і яе чарга, і яна ўпадзе на зямлю ад старасці і стомленасці. І там, дзе зямля накрые яе трухлявыя рэшткі мохавым покрывам, прарастуць маленькія пушыстыя елачкі. А потым малады ельнік устане зялёнай сцяной на ўзлеску, дзе некалі расла яна… Але гэта будзе не хутка, а цяпер яна поўная сілы і жадання жыць, і не збіраецца слухаць гэтую звар'яцелую старую Саву!

— А раптам Сава нешта ведае, раптам яна мае рацыю? Раптам недарэмна клічуць яе вяшчунняй? — засумнявалася Ялінка. — Навошта Чалавеку патрэбны елкі? Навошта ён іх сячэ? Каго папытаць?

— Цётка Лістоўніца! Цётухна! — паклікала яна Лістоўніцу. Тая моцна спала, скінуўшы, як лістоту, сваю мяккую хвою. Да вясны не дабудзішся, можна і не старацца!

— Цётухна Лістоўніца! Цётачка… — штораз цішэй клікала Ялінка.

Яна ўспомніла, як добра ім было з цётачкай летам. Вечарамі, калі спадала спякота, старая Лістоўніца любіла расказваць маладзенькай пляменніцы розныя гісторыі. Яна іх ведала процьму. Ад прыроды цікаўная, яна пра ўсё распытвала ў пералётных птушак. Аказваецца, яе радня рассялілася да самай тундры. І самыя паўночныя астраўкі лесу ў лесатундры — гэта лістоўніцы. Яны навучыліся выжываць у полюсе холаду, у вечнай мерзлаце, на камяністых і балоцістых месцах. Ялінка вельмі ганарылася, што ў яе такія вынослівыя родзічы. І ўвогуле яна вельмі любіла сваю цётку і нават трошкі ёй зайздросціла. Крона ў цётачкі была карункавая, паветраная, наскрозь пранізаная святлом сонца. І хвоя такая далікатная, мяккая, не тое што ў Ялінкі.

— Дурненькая, ты бачыш толькі знешняе, а ты ў корань зірні! Бог любіць усіх: і цябе, калючую, і мяне, мяккую. І жыта хлебнае, і чартапалох непатрэбны, і вожыка, і вавёрку, і ядавітую змейку… — цярпліва тлумачыла Лістоўніца Ялінцы-падлетку. — Глядзі: сонца свеціць для ўсіх, зямля корміць усіх, і паветра хапае на ўсіх, і радасць напаўняе дзень! Жыві і радуйся, Ялінка!

— Але хто з нас больш каштоўны — вы, лістоўніцы, ці мы, елкі?

— Гэта чалавек заўсёды выбірае, што яму больш патрэбнае ды карыснае, а табе навошта?

— А ўсё ж, хто? — не адчэплівалася Ялінка.

— Ведаеш, з нашай драўніны робяць палі мастоў, плаціны, стойкі руднікоў, шпалы для чыгункі. Затое ваша ідзе на будаўнічыя матэрыялы, для вытворчасці паперы і нават на штучны шоўк.

— Значыць, вы мацнейшыя?

— Затое вы больш музычныя, — рыпела, смеючыся, цётухна. — З елак робяць музычныя інструменты, нават дэкі скрыпак!

Ялінка так ніколі і не даведалася, што такое «дэкі скрыпак». Але што такое сапраўдная музыка, яна ведала ад нараджэння.

Ялінка ўсміхнулася, успамінаючы музыку вясновага абуджэння. Калі зямля навокал уздымаецца ад мільярдаў назубленых парасткаў, якое трыумфальнае гучанне ідзе ад яе! У якім урачыс-

тым маршы ўздымаюцца сцяблiны збажыны! Пасля калоссе налiваецца сiлай i гучыць натхнёны гiмн Стваральнiку жыцця… У Ялiнкi i цяпер дух захапiла ад радасцi. А вясёлая полька грыбнога дожджыка або чачотка лiўню, а цiхiя песнi ветрыку-барда, калi ён падыгрывае сабе на струнах павуцiнак i кожны лiсцiк шапялява яму падпявае? А развiтальныя вальсы восеньскага лiстапада? Такую музыку не сыграе нiводзiн музыка ў свеце! Нават спевы птушак чалавек чуе напалову — большасць гукаў яго грубае вуха не ўлоўлiвае. Што ўжо казаць пра астатняе!

— Але калi Чалавек не чуе нашай музыкi, калi не радуецца гэтым чароўным гукам, дык ён сапраўды можа ссекчы мяне i проста так, i на дровы! — зрабiла нечаканую выснову Ялiнка.

**3.**

Шум крылаў абвясцiў пра вяртанне гаспадынi дупла.

— З удалым паляваннем, — ветлiва кiўнула Ялiнка.

— У-у-удалае, так, так, — замармытала Сава, папраўляючы пер'е i чысцячы дзюбу аб сук. Цяпер яна была сытая, а значыць, добрая. Па сутнасцi, Сава не была злосная, проста яна нарадзiлася драпежнай птушкай i жыла згодна са сваiмi, савiнымi, звычаямi.

Ялiнка глыбока ўздыхнула, набiраючыся рашучасцi, i спытала:

— Бабуля Сава, чаму вы сказалi: «Усё роўна елку ссякуць»?

— Што-што? — схамянулася Сава. Пачынала свiтаць, i яна ўжо засынала. — Час доўгiх начэй мiнае… самых цёмных начэй… Зiмовае сонцастаянне…

Вочы Савы заплюшчылiся, яна задрамала на паўслове.

— Пры чым тут сонцастаянне? Пра што гэта Сава? — не зразумела Ялiнка i звонка крыкнула — Адкажы, што значыць «усё роўна ссякуць»!

Сава ўздрыгнула, расплюшчыла вочы, збянтэжана зiрнула ўнiз:

— А, так, елка! Ссякуць — не ссякуць, адкуль мне ведаць? Ты хвойнае дрэва, вечназялёнае, не чырванееш, не жаўцееш…

Сава патапталася каля ўвахода ў дупло i схавалася ў iм.

«Не жаўцееш»?! Вольха i Бэз таксама не жаўцеюць, скiдаюць лiстоту зялёнай. Праўда, зняўшы зялёнае ўбранне, яны застаюцца голымi да вясны. А людзям патрэбны «вечназялёныя».

— Дык жа не толькi елкi! I сосны, i ядлоўцы — таксама з вечназялёнай хвояй, — супакоiла сябе Ялiнка.

— Вечназялёныя, Веч-на-зя-лё-ны-я. Вечна… — Ялiнка ўслухоўвалася ў гукi слоў. — Якi век у нас, елак? Якая яна — вечнасць? Калi б я сапраўды жыла вечна, як бы гэта было?

Ялiнка заплюшчыла вочы i паспрабавала гэта ўявiць, але не змагла.

Раптам яна пачула гучнае стракатанне. Ялiнка ўглядзелася ў бялявы туман — да яе спяшалiся знаёмыя сарокi.

— Ялiнка, ялiнка! Цябе ўсе шукаюць, цябе ўсе чакаюць!

— Хто — усе? — з трывогай спытала Ялiнка.

— Людзi, канечне! У яслях загадку пра цябе адгадвалi, я каля акна скакала, усё чула. Выхавацелька пыталася, хто зiмой i летам адзiн колер мае. Дзецi хорам адказвалi: «Елка! Елка!»

— Гэта не пра мяне!

— Пра цябе! Ты заўсёды зялёная! Выхавацелька так i сказала.

Ялiнка адчула, што ёй не хочацца быць «вечназялёнай». Яна адразу ўспомнiла, што летам яе маладыя атожылкi былi не зялёныя, а бледна-салатавыя, шышачкi — спачатку чырванаватыя i нават бэзавыя, пасля залацiста-карычневыя…

— Але я, праўда, не толькi зялёная! — усклiкнула Ялiнка.

— Так, канешне, але людзi гэтага не заўважаюць, — пагадзiлiся сарокi.

— Яны шмат што не заўважаюць! — з горыччу прагаварыла Ялiнка. — Усё спяшаюцца, усё нясуцца некуды. А калi б пастаялi, як я, на адным месцы, усё б заўважылi, усё б разглядзелi.

Ялінка заплюшчыла вочы, успамінаючы. Вось яна з пяшчотай узіраецца ў вяночак пралескі. Гэта вясновы світанак падарыў яму свой перламутр. Пасля з'яўляліся браткі — кропелькі неба і сонейка на зямлі, і Ялінка ўздыхала ад захаплення. Бывала, што яшчэ вечарам зялёны луг любаваўся фарбамі заходу сонца, а назаўтра раніцай ужо квітнеў вясёлкай. Здавалася, зямля стараецца адлюстраваць сваім цвіценнем неба. Але хутка луг адцвітаў, а сонца працягвала расфарбоўваць неба непаўторнымі адценнямі радасці. Мінала лета, і ўсё часцей неба зацягвалася шэрымі хмарамі. Тады Ялінка знаходзіла чароўную красу ў золаце і барве восеньскай лістоты…

— Ты толькі на імгненне спыніся, прыгледзься: усюды прыгажосць, усюды радасць! — усклікнула яна, забыўшыся.

— Ты каго, Ялінка, пераконваеш? — сарокі здзіўлена глядзелі на яе. Ялінка сумелася і замаўчала.

— Уяўляеш, Зялёная Макушка! Паўсюль пра цябе адно і гавораць: і каля сельсавета, і каля клуба!

— Чаму пра мяне? З чаго вы ўзялі?

— Мы ўсё чулі! Ляснік кажа: «Елку пара секчы!» Кажа, яшчэ з восені нагледзеў. Сярод бярозак. Прыгажуня, кажа, стройная, рослая.

— Якая розніца, чым печ распальваць — крывой ці стройнай! — у роспачы ўсклікнула Ялінка.

— Ды не ў печ, не на дровы! Самую прыгожую елку на свята ссякуць!

— Была б я лепш нізенькай, пачварнай, з рэдкімі галінкамі!

— Ляснік кажа: «У клуб прывязём, для дзетак упрыгожым», — працягвалі сарокі.

— Навошта мяне ўпрыгожваць? — Ялінка адчула, што ад страху ўсё перад ёй паплыло. Яна пахіснулася, і птушкі ахнулі ад захаплення:

— Пры-прыгажосць! Ты і без упрыгожанняў пры-прыгажуня!

Ранішні туман нанізаў на кожную хваінку па белай перлінцы, і цяпер гэтыя пацеркі ззялі, як дыяменты.

— Але ж людзі не бачаць такой красы, — уздыхнула Ялінка.

— Ой, што яны бачаць? Што яны чуюць? Чым яны дыхаюць? Як яны яшчэ ўвогуле выжываюць? — на ляту тарахцела старая Сарока. — Ды мой сарачыны хвост аблысеў бы ад такога жыцця! Хіба ж людзі жывуць? Хіба ж гэта жыццё?!

— Але свята для людзей справа важная, — запярэчыла маладая Сарока. — А на свята людзям трэба елку ссекчы.

— Як гэта? Людзям свята, а мне — гібель?

— І не кажы, галубка мая, не кажы! — застракатала старая Сарока. — Людзі такія дзіўныя: на Каляды елку сякуць, на Тройцу ў бяроз косы рвуць, на Вербніцу ў вербаў галіны зразаюць…

— Галіны? Няхай возьмуць мае, — Ялінка працягнула свае зялёныя лапы. — Але толькі не пад корань!

Яна з надзеяй зірнула на белабокую птушку:

— Угавары іх, цётачка Сарока!

Сарока вельмі шкадавала Ялінку. Але нічым бядзе не дапаможаш: доўгія провады — доўгія слёзы.

— Не пад корань — нельга! — адрэзала Сарока. — Карагоды вакол цябе будуць вадзіць, песні пра Раство спяваць.

— Раство? Што гэта?

— Свята. Людзі ўспамінаюць, што Сын Бога на зямлі нарадзіўся, і радуюцца.

— Раз на год успамінаюць?

— Якая ты яшчэ неразумная, Елка! — раззлавалася Сарока, але адразу спынілася: хто ж сварыцца з прыгаворанымі?

— Канечне, неразумная. Такой ужо і застануся, — уздыхнула Ялінка. Але цяпер яе цікавіла іншае. — Навошта Божы Сын на зямлі нарадзіўся?

Нейкім сёмым пачуццём Ялінка зразумела, што і Яму тут не соладка было.

— Людзі кажуць — Ён ім падарыў ратаванне. Сказаў: «Любіце Бога і адзін аднаго… Верце, і Я выратую вас ад смерці».

— Выратуе ад смерці? — Ялінка задумалася.

Сарока ўзляцела на бярозу, зірнула зверху на Ялінку — казаць ці не? І не здолела стрымаць свой балбатлівы язык:

— Ведаеш, ужо і крыж для цябе падрыхтавалі!

— Крыж?! — перапытала Ялінка. — Навошта?

— А як ты без ног стаяць будзеш?

— Без ног? — прашаптала Ялінка. Яна раптам адчула ўсёй поўніцай, што гэта канец, і ўсё перад ёй пацямнела.

**4.**

Калі Ялінка ачуняла, сарокі ўжо паляцелі. Яна засталася адна пасярод сонных дрэваў. Нікога побач. Адна — сам-насам з сабой.

— Так, спакойна. Падвядзём вынікі. Заўтра за табой, Ялінка, прыйдуць. Дакладна. Абавязкова. Збегчы і схавацца немагчыма. Ад сякеры Чалавека не засцерагчыся.

— Тады скарыся і прымі непазбежнае. У гэтым свеце няма нічога вечнага. Хто на гэты свет нарадзіўся, павінен памерці.

— Але я баюся болю! Я баюся смерці!

— Дзвюх смерцяў не будзе, а адной не мінеш. Раней ці пазней, але кожны з нас павінен будзе сысці.

— Лепш пазней! Як жа хочацца жыць — доўга-доўга, да старасці!

— Але хто абяцаў табе ціхую старасць? Нават маладыя дрэвы гінуць на лесапавалах, у агні пажараў, іх ломяць буры, падточваюць караеды. Чаму ты вырашыла, што цябе міне такая доля?

— Ведаю, смерць непазбежная… Але мне ўсё роўна страшна!

— Каму не страшна — сякерай па жывым?

— Гэта будзе вельмі балюча?

— Так, але я дапамагу табе вытрываць.

— Я хачу жыць!

— Калі хочаш, я схаваю цябе ад людскога вока, — пачула Ялінка ласкавы голас.

— Хто ты?

Ялінка азірнулася — нікога не было. Змярканне. Цішыня.

— Радасна, радасна Раство сустрэнем! — данёсся зверху картавы голас Савы. За дзень яна добра выспалася і цяпер выйшла на вячэрні шпацыр.

— А мяне ж заўтра тут не будзе! — звінячым голасам выкрыкнула Ялінка. — Адзін пянёк застанецца.

Старая Сава замерла:

— Як?

— Ссякуць!

— Мо пранясе яшчэ? Мо забудуцца, міма праскочаць, заблукаюць?

— Не, знойдуць і ссякуць! — асуджана прамовіла Ялінка.

Што магла сказаць Сава? Яна лепш за Ялінку ведала — калі Чалавек што задумаў, ён абавязкова гэта зробіць. Ніякіх шанцаў у Ялінкі няма.

— А ты, бабуля Сава, чаму на паляванне не ляціш? — спытала Ялінка.

— Ды я… Учора аб'елася — жывот у мяне баліць! Ды і косткі нешта ломіць… Відаць, на непагадзь, — мармытала старая птушка.

— Ты проста не хочаш мяне адну пакідаць? — здагадалася Ялінка. — Ты вельмі добрая, бабуля Сава!

— Не, я шкадлівая старая! І навошта я цябе, дзіцятка, палохала? Даруй мне!

— І ты Ялінцы даруй. Бывай! Шчаслівага табе Раства!

Сава раптам гучна шморгнула і нырнула ў дупло.

— А-я-яй! Шкада-шкада-шкада! — па-старэчы загаласіла яна.

— Шчаслівага Раства! — Ялінка таксама ўсхліпнула, і слёзы пакаціліся па лапках. — Шчасця вам, мае белыя сяброўкі! Шчасця табе, Лістоўніца! Шчасця вам, палі і лугі! Шчасця вам, шэрыя ваўкі! Прыбяжыце наведаць — мяне ўжо не будзе. Шчасця вам усім! Шчасця! Частку — вам, частку — мне. Вам — жыццё, мне — смерць.

«Як гэта недарэчна — памерці на Раство! Як гэта — памерці? Раптам не стаць, ніколі больш не быць… Як гэта — не бачыць, не чуць, не адчуваць?» Яна не магла гэта ўявіць. Ды і хто мог бы? Як жывому ўмясціць смерць? Хто не паміраў, што можа пра яе ведаць?

Ялінка застагнала, разгойдваючыся мацней і мацней. Яна не заўважала, як па небе несліся калматыя свінцовыя хмары, гнуліся і рыпелі дрэвы, свістаў і завываў вецер. І вось з неба адна за адной паляцелі сняжынкі. Іх падала ўсё больш і больш, а праз нейкі час снег валіў суцэльнай заслонай, забіваючыся пад хваінкі, пакрываючы галіны, апранаючы Ялінку ў белы саван — убор смерці.

— Якой меркай мераць смерць? Не ведаю, — разважала Ялінка. — Я ведаю, што такое нарадзіцца. Я бачыла, як нараджаецца новы дзень. Як птушкі прабіваюць дзюбкамі шкарлупіну і пішчаць ад радасці. Я чула, як, прарываючы кокан, нараджаецца на гэты свет матылёк і крычыць, распраўляючы зацёклыя крыльцы. Я ведаю, як трыумфуе свет, вітаючы нованароджаных. Любоўю народжаных. І святло Любові свеціць тым, хто шукае яе.

Ялінка раптам зразумела, чаму менавіта цяпер людзі святкуюць Раство: «Час доўгіх цёмных начэй мінае. Сонца павярнула на вясну, свет да святла павярнуўся!» Ёй раптам стала лёгка і спакойна. Бо той, хто любоўю напоўнены, — той не баіцца смерці.

Пад раніцу Ялінка забылася ў кароткім сне і раптам пачула шум машыны, якая буксуе ў снезе. Ялінка нічога з-за снегу не бачыла і словы ледзь-ледзь разбірала. Яе шукаюць, але ніяк не могуць знайсці. Вырашылі, што пераблыталі дарогу, збіраюцца вяртацца…

— Не трэба! Я гатова.

Ялінка напружыла ўсе свае сілы — і камяк снегу зваліўся з яе макушкі. Так, цяпер будзе лягчэй… Яна з цяжкасцю павяла плячыма, снег плаўна з'ехаў з яе лапак і грузна ўпаў у сумёт. Яшчэ трошкі, апошняе намаганне… Усё! Галінкі спружыніста закачаліся, вызваляючыся ад цяжару.

— Я гатова! — Ялінка ўрачыста зірнула ў неба. — Няхай прыходзяць.

Прамень святла прарваўся скрозь лятучыя рваныя аблокі і заліў Зялёную Макушку. З нябёсаў лілася чароўная музыка, але людзі яе не чулі.

— Ды вунь жа яна, дзядуля, глядзі! — пачула Ялінка радасны крык дзіцяці.

— Ай, прыгажуня, залюбуешся! — прабасіў ляснік.

— Ура! Ялінка! У нас будзе Раство!

— І ў вас, і ў вашых дзяцей. Вечна. Мы будзем нагадваць гэтаму свету пра бясконцую любоў і вечнае жыццё, — паспела падумаць Ялінка…

*Пераклад з рускай мовы Святланы Воцінавай.*
*Ілюстрацыі Надзеі Савельевай.*



**Анатоль Галушка**

# Доўг

На Каляды мы з братам Сашкам выбраліся ў лес. Душа, сэрца і вочы патрабавалі свежых эмоцый, свята і казкі. Хацелася паслухаць цішыню, падыхаць марозам і прыемным пахам хвоі...

У зацішку распалілі вялікі касцёр. Калі вогнішча крыху прагарэла, пасмажылі над вуголлем сала, налілі па чарачцы. Павіншавалі адзін аднаго, усіх, каго любім і ведаем, са светлым святам, выпілі і прыкусілі скваркамі. У лесе, на марозе, гарачае сала было такім смачным! Як некалі, у дзяцінстве. Ад гэтага амаль забытага смаку, вогнішча, паветра, ды, напэўна, і ад чарачкі стала значна цяплей, і сапраўды з'явілася асаблівае адчуванне — Свята!

А потым памянулі нашага бацьку. Роўна трыццаць гадоў таму, 7 студзеня 1986 года, яго не стала. Рана, вельмі рана пайшоў ён з жыцця. Цяпер яму магло быць толькі 75. Не такі яшчэ і стары...

Мы сядзелі каля весела палаючага вогнішча і ўспаміналі. І што цікава — усе ўспаміны, звязаныя з бацькам, у нас заўсёды нейкія светлыя, з усмешкай на твары. І там мне ўспомнілася адна, здавалася, ужо забытая па даўнасці гісторыя.

Было мне гадоў 14. Мы з бацькам і маім сябрам Сярожам лавілі на рацэ рыбу. Зранку добра браліся акуні, але недзе апоўдні клёў скончыўся, і мы, з добрымі нізаламі прыгожых паласацікаў, накіраваліся дамоў. Каб не рабіць круг да мастка, вырашылі спраміць дарогу, перайшоўшы ў адным месцы канаву, уздоўж якой ішлі. Канава даволі шырокая і гразкая. І толькі ў адным месцы, якраз на скрыжаванні з другой канавай, быў не вельмі глыбокі брод. Дно тут тупкае, пясчанае, ды і вады не вышэй за калена. Вось толькі вада ў гэтай канаве нават у самую спёку — проста ледзяная. Справа ў тым, што вышэй па цячэнні з дна канавы білі некалькі крынічак. Іх жывыя струменьчыкі было добра відаць скрозь белаватую ад мелу, але вельмі празрыстую ваду.

Мы з сябрам хутка паразуваліся, закасалі калашыны і пачалі пераход. А бацька ў нерашучасці застаўся стаяць на беразе. Ён ужо тады хварэў на ныркі, і лезці ў халодную ваду яму было катэгарычна забаронена.

Бацька ўжо накіраваўся далей, да мастка, калі я спыніў яго радасным крыкам:

— Тато, пачакай, давай перанясу.

Хутка, аж пырскі ляцелі ва ўсе бакі, вярнуўся назад і замахаў рукамі:

— Ну, давай, ідзі сюды!

Бацька заўсміхаўся, агледзеў мяне ўсяго і пакруціў галавою:

— Не, сынок, куды табе, яшчэ абодва бухнемся ў гэтую канаву. Няхай лепей Сярожа. Ён і старэйшы, і дужэйшы — ён зможа. А ты яшчэ падрасці, сілы набярыся.

— Ды ў мяне не менш сілы, чым у Сярожы! Перанясу, праўда.

Я павярнуўся спінаю і крыху нахіліўся, падстаўляючы бацьку свае хударлявыя хлапчуковыя плечы:

— Давай, не бойся, не ўпаду.

Я быў упэўнены, што сілы хопіць. І бацька ўбачыць, які яго сын ужо дарослы і дужы. Мне ўяўляўся яго здзіўлены твар, як ён абдыме мяне за плечы і скажа: «Малайчына, сынок! Бач ты, бацьку ўжо здолееў падняць…»

— Не, сынок, як-небудзь іншым разам. Адыдзі.

І я адышоў. Стаяў збоку і назіраў, як Сярожа ўпэўнена падхапіў майго бацьку на плечы і панёс на другі бераг. І так мне стала балюча, шкада, крыўда схапіла аж за горла.

Хутка, амаль подбегам абагнаў іх у канаве і выскачыў на той бераг. Падхапіў з травы свае выгаралыя на сонцы кеды і, не азіраючыся, пайшоў у бок вёскі.

На вачах — слёзы. Зялёная трава пад нагамі, далёкія хаты — усё пераліваласяя markdown рознакаляровай вясёлкай:

— Ну чаму, чаму ён не паверыў? Ці ж я кінуў бы яго ў тую халодную ваду? Ды ніколі!

Успомнілася, як некалі бацька пераносіў мяне малога цераз глыбокую вясновую пратоку. Я сядзеў на шырокіх бацькавых плячах і быў шчаслівы. Глядзеў з вышыні яго росту на цёмную чырванаватую ваду, што віравала ды пенілася ўнізе, і мне не было страшна. Было радасна і надзейна. Я запомніў тыя адчуванні на ўсё жыццё.

Вось зараз я мог аддзячыць яму. Вельмі хацеў аддзячыць. Хацелася, каб ён убачыў, які я ў яго дарослы, моцны. Што магу яму, хвораму, быць дапамогай. Каб пахваліў. А ён не паверыў, выбраў майго сябра. Чужога выбраў...

Я так і не азірнуўся да самае хаты, нават калі бацька некалькі разоў аклікнуў. Яшчэ некалькі дзён пасля таго крыўда не праходзіла...

Зараз успамінаецца гэта з усмешкаю. Вядома, бацька як чалавек сталы і асцярожны бярогся і не хацеў рызыкаваць апынуцца ў халоднай вадзе. Ды і маю спіну, напэўна, пашкадаваў. Але тады я не хацеў ці проста не разумеў яшчэ гэтага…

Шкада, вельмі шкада, што так рана памёр бацька. Не паспелі мы, яго дзеці, хоць колькі вярнуць той доўг, што маем усе перад нашымі бацькамі...

Шчаслівыя тыя, у каго жывыя бацькі. Значыцца, ёсць яшчэ час і магчымасць быць удзячнымі і вярнуць хоць частку таго, што давалі і даюць яны нам.

Напэўна, любое пажаданне добрае і шчырае тады, калі жадаеш чалавеку як сабе. Таму я б хацеў пажадаць аматарам прыгожага пісьменства на старонках «Маладосці» снежнай і марознай зімы, прыгожых свят і здзяйснення самых запаветных мар. Бо калі як не на Новы год і Каляды павінны здзяйсняцца самыя чароўныя жаданні? Атачайце сябе шчырымі і надзейнымі людзьмі і самі будзьце такімі.

*Мікіта Найдзёнаў*

# ПАЭЗІЯ

1. **Алейчанка Юлія.** Сонечны горад. IV—12.
2. **Арцёмаў Аляксей.** Свавольныя словы. IV—18.
3. **Балахонаў Сяргей.** Дзяўчына ў сінім сарафане. VII—48.
4. **Бараноўскі Алесь.** Празрыстая небыль. I—14.
5. **Баторын Фелікс.** Саламонаў суд. IV—80.
6. **Башлакоў Міхась.** З араторыі «Шлях». IV—36.
7. **Булва Іван.** Снежны золак. XII—39.
8. **Ганчароў Глеб.** Анёл Януш. IV—67; Каятан Чабор. IX—95; X—53; XI—33; XII—101.
9. **Дуброўскі-Сарочанкаў Алесь.** Свет запаўняецца словам… VII—46.
10. **Емяльянаў-Шыловіч Алесь.** У замкнутай прасторы. VI—36.
11. **Захарэвіч Зміцер.** Стыхій непрадказальны нораў. IX—47.
12. **Захарэвіч Кацярына.** Кола сонечнага цяпла. V—21; Там, дзе зімы над намі не маюць ніякай улады... XII—49.
13. **Зыранава Галіна**. Дзе рыбы — Птушкі, і дзе птушкі — Людзі. XI—15.
14. **Зэкаў Анатоль.** Маё каханне санцавокае. II—52; Як дайсці да цябе. XI—24.
15. **Карасёва Алена.** Плыні жыццёвай стужка. VII—18.
16. **Кіявіцкая Таццяна.** Дыялог маналогаў. III—44.
17. **Кобец Марыя.** На ўскрайку ўласнай катастрофы. II—30; … І раскашуе верас у лясах. VIII—40.
18. **Латышкевіч Маргарыта.** Люстра сну. VII—30.
19. **Лысы Стах.** Позіркам праз шкло. III—42.
20. **Малахоўскі Рагнед.** Інфармацыйны шум. III—70.
21. **Массэ Кацярына.** Па-за дыскурсам значэнняў. VI—20.
22. **Махнач Сяргей.** Мова валодае мной! V—36.
23. **Мятліцкі Мікола.** Цветам чабору красуе душа… I—54.
24. **Найдзёнаў Мікіта.** Салёныя сны. I—44.
25. **Нарэйка Настасся.** Мы вяртаемся ўсе. Неадменна. Дамоў… VI—28.
26. **Пазнякевіч Валерый.** Зямлі маёй сэрца. VI—39.
27. **Папко Алена.** Да зор ляцець… VIII—18.
28. **Пятровіч Дзмітрый.** Светласпеў кахання. X—35.
29. **Роўда Кацярына.** У вальсе думак. V—12.
30. **Сівец Таццяна.** Пунсовакрылыя караблі. II—20.
31. **Сінкевіч Ірына.** На хадулях ласкавага ветру. VIII—36.
32. **Смолка Вікторыя.** Музыка аблачын. I—25.
33. **Фагот Аляксандра.** Рэшткі акрыленых слоў. VIII—15.
34. **Шакель Ганна.** Мора хвалюецца раз… IX—18.
35. **Шніп Віктар.** Аркушы белага неба. III—102.
36. **Шпіронак Дзяніс.** Новы шлях. II—14.
37. **Шыманская Вольга.** Пачуцці на паперы. X—21.
38. **Эспіноса Руіс Анхела.** Цень твайго ценю. V—63.

# ПРОЗА

1. **Айцец Яўстафій (Халіманкоў).** Парыжскае развітанне. I—37; Усмешка прадзеда. II—24; Інтэрв'ю. X—26.
2. **Алейнік Лада.** Чатыры гісторыйкі. VIII—43.
3. **Андрэй З-і.** Чалаблюд. I— 57.
4. **Беланожка Алёна.** Камуфляж. IX—91.

5. **Белаяр Сяргей.** Расследаванні інспектара Сарвы. III—74; IV—40; V—66; VI—42; Стралок. IX—50.
6. **Бінкевіч Наталля.** Сёння памёр дзед Толік. X—23; Рэцэпты памяці. X—24.
7. **Галуза Святлана.** Смерць прыходзіць без запрашэння. VIII—11.
8. **Ганчароў Глеб.** Апраметныя навелы. II—33.
9. **Гапееў Валерый.** Уцёкі. VIII—20.
10. **Гарбацкая Дар'я.** Арэлі. VI—23.
11. **Голубева Наталля.** Лета з Язэпаўнай. VII—25.
12. **Гурын Аляксандр.** Тая, што была раней. I—34.
13. **Длатоўская Аліна.** Натхненне. VII—13; Варгін. VII—14; Я — не яна. VII—15; Сяброўства з першага погляду. VII—16.
14. **Захарэвіч Кацярына.** Марыя і Катажына. XII—52.
15. **Казарцаў Яўген.** Алена і яе прынцы. V—27.
16. **Канстанцінава Наталля.** Не ведаю, калі вясна настане. I— 47.
17. **Касцюкевіч Павал.** Урокі габрэйскай. IV—82.
18. **Кісель Юлія.** Прысуд. XII—43.
19. **Кіявіцкая Таццяна.** Раманава кніга. III—46; Прыйду абавязкова. X—38.
20. **Конеў Ягор.** Андрэй Станкевіч і Таемнае мастацтва. VII—53; IX—20.
21. **Крук Вадзім.** Дом, які нагадваў палац... IV—14.
22. **Латышкевіч Маргарыта.** Вершнікі на дарозе. X—63.
23. **Лістота Ніна.** За шклом — туманы. IX—15.
24. **Ляўчук Вераніка.** Канвеер. I—16; Сіняя птушка. I—17; Кузуркі. I—21; Сцюжа. I—23; На досвітку. VI—32; Жах прафесійны. VI—33; Пакуль быў час. XII—55.
25. **Магілеўчык Святлана.** Сны. V—31.
26. **Мажылоўскі Уладзімір.** У цені крыжа. II—55; Ракавая памылка. II—83.
27. **Маляўка Марыя.** Адшукаць Мову. VII—20; Чужая партыя. VII—23.
28. **Манушарава Вольга.** Клубок нітак. X—29.
29. **Марчук Георгій.** Святло вышыні. XI—62.
30. **Мінскевіч Серж.** Проста фантастыка. XI—43.
31. **Мядзведзева Кацярына.** Жыў быў ты… V—39; Чацвёрты, самы чароўны. V—48; Лекі ад кахання. IX—60; Мой дзядзька Лунеш. IX—75.
32. **Нарэйка Настасся.** Проста падае снег. XI—17; Падмануць Бога. XI—20.
33. **Падзораў Павел.** Матэматыкі. I—28.
34. **Падрабінкіна Анастасія.** Пра каханне. II—17.
35. **Пятрэнка Юльяна.** Юльяніны байкі. III—15.
36. **Сідарэйка Андрэй.** Жыццё змяняецца, прынцыпы застаюцца. IV—21; Дзе твой сусвет? XI—27.
37. **Сінюк Вікторыя.** Нота. V—15.
38. **Стаселька Кірыл.** Кніга ў вянку з церняў. VII—34.
39. **ТАТМІР.** Заўтра. I—30.
40. **Чакур Ганна.** Станіслаў. V—24.
41. **Юрага Лаўрэн.** Меч Маладзіковага Промня. IX—108.
42. **Юргель Рада.** Дама з кнігай. I—31.
43. **Яфімаў Алесь.** Прададзеная споведзь. XII—65.

## ПЕРАКЛАДЫ

1. **Адзін верш у дваццаці перакладах.** XII—4.
2. **Ажэшка Эліза.** Некалькі слоў пра жанчын. Урывак. V—104.

3. **Алас-і-Урэння Леапольда.** Нумар адзін. V—89.
4. **Анабердыева Чэмен.** Вершы. VIII—65.
5. **Астапенка Ігар.** Спевы маўклівага саду. VIII—70.
6. **Аўгустыняк Анна.** Я кахала, калі яна адышла. VIII—98; XII—117.
7. **Вершы маладых украінцаў.** VIII—74.
8. **Гаравы Руслан.** Васіль Сямёнавіч. VIII—81; Мятлушка. VIII—83.
9. **Гесэ Герман.** На катку. VI—83; У акуліста. VI—85; Начное паўлінава вока. VI—86; Бяссонныя ночы. VI—90; Мастак. VI—93; Каля хаткі пастуха ў Бернскіх Альпах. VI—95.
10. **Гнілка Томас.** Гісторыя аднаго класа. I—62.
11. **Дзюрэнмат Фрыдрых.** Звяржэнне. 1971. VII—74.
12. **Джэксан Шырлі.** Латарэя. V—93; Праверка боем. V—99.
13. **Донах'ю Эма.** Пакой. IV—86.
14. **Дэ Лінт Чарльз.** У гушчарах майго сэрца. II—107.
15. **Жыано Жан.** Чалавек, які саджаў дрэвы. VI—98.
16. **Казкі Брытаніі.** XI—84.
17. **Мадрыд Эдвін.** Начная музыка. I—84.
18. **Маладыя паэты Арменіі.** На ўскрайку свету. II—114.
19. **Моры Жэня.** Memento mori / але не сёння. VIII—66.
20. **Нёстлінгер Крысцінэ.** Карл з тэлевізара. X—98.
21. **Ньюман Сандра.** Мужчына ў слязах. VI—78.
22. **Олдынгтан Рычард.** Смерць героя. X—83.
23. **Падляшша прэзентуе.** Бо падаюць зоркі з неба.VIII—85.
24. **Рахматаў Бахром.** Вершы. VIII—60.
25. **Твен Марк.** Мая першая мана, і як я з яе выкручваўся. III—110; Тэлефонная размова. III—115; Як лячыць прастуду. III—117; Нататкі з Парыжа. III—120.

## КРЫТЫКА

1. **Арлова Таццяна.** Беларуская драматургія новага часу. III—122.
2. **Вакар Дар'я.** Тры паверхі Маладзёжкі. XI—101.
3. **Васілевіч Анастасія.** Вызначыць мэты. I—93; Ці існуе бункер? II—142; Ростані паўналецця. XII—124.
4. **Ваўчок Юлія.** Перад сном. VI—112.
5. **Гніламёдаў Уладзімір, Мікуліч Мікола.** Шчодрасць таленту. III—128.
6. **Давідоўскі Зміцер.** «Пасеклі наш край папалам». Хто аўтар? VII— 98.
7. **Дуброўскі Алесь.** Што такое рэдагаванне. I—85.
8. **Дзяхцяр Маргарыта.** «Разняволенасць» Таццяны Сівец, або Вайна за каханне. V—114;
9. **Жыбуль Віктар.** Цфанія Кіпніс — чалавек беспамылковага густу. IV—114; Невядомы верш Юлія Таўбіна. IV—119.
10. **Жалезінка Максім.** Анатоль Сыс. Прадаўжэнне легенды. VIII—137.
11. **Захарэўскі Андрэй.** Хвалі вады і языкі полымя. X—117.
12. **Заяц Наталля.** Часавыя вымярэнні паэзіі Васіля Зуёнка. III—135; «Мы з Нямігі…». Узаемапрысвячэнні Генадзя Бураўкіна і Васіля Зуёнка. VIII—113.
13. **Іофе Эмануіл.** Рыгор Рэлес. IV—122.
14. **Карлюкевіч Алесь.** Пабрацімства колераў. I—97; Сучасная кітайская дзіцячая літаратура. Пачатак XXI стагоддзя. VII—95.
15. **Курганава Святлана.** Фантастычны даведнік. IX—4.
16. **Лаўрык Таццяна.** «Люблю старадаўнасць і веру ёй». IX—138.

17. **Лаўрык Юрый.** «Добро есть братие почетанье книжьное…». Чытанне кніг на Беларусі ў Сярэднявеччы (канец X — сярэдзіна XVII ст.).VIII—105.
18. **Лісоўская Паліна.** Праводзіны «ДК Данса». IV—126; XXI стагоддзе. Паразмаўляем? X—133.
19. **Масквін Андрэй.** «М.арт.кантакт» 2016. Моладзь павінна руліць! VI—109.
20. **Мікуліч Мікола.** Жураўліным шляхам… I—89.
21. **Пацюпа Юрась.** З якога боку заззяе вясёлка? XII—12.
22. **Піліпчэня Сяргей.** Новыя п’есы для беларускіх дзяцей. VI—111; XII—126.
23. **Піткевіч Паліна.** Дарослыя гуляюць у дзяцей. I—95; Нырэц па жэмчуг. IV—122.
24. **Святластражава Кацярына.** Чаканне vs Рэальнасць. IX—8.
25. **Скарынка Наталля.** Трэба проста ўзняць галаву. VI—104.
26. **Смілавіцкі Леанід, Шыбека Захар.** Беларуская юдаіка. IV—104.
27. **Хмяльніцкі Мікалай.** Жанчына vs жанчыны? V—103.
28. **Чаропка Вітаўт.** Яго вялікасць паэт. VIII—122.
29. **Шаўлякова Ірына.** Поўня як сонца беларускай паэзіі. IX—133.
30. **Шчасная Кацярына.** Дыяс? Дзіяз? Дзіяс! Аб перадачы на беларускую мову замежных імён і прозвішчаў. III—145.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

1. **Альсовы Павел.** Эдвард Мілітанян. Армянская дзіцячая літаратура ў Беларусі. II—122.
2. **Анісавец Мікалай.** Графіня Кацярына Бараноўская. VI—141.
3. **Брас Аляксандр.** Чалавек і час: хто каго? VIII—146; Чалавек і час: усё залежыць ад нас. X—147.
4. **Варатнікова Аксана.** Ці бачылі вы чорную таполю? IV—9.
5. **Гапееў Валерый.** Першая крытыка. VII—11.
6. **Госцік Анастасія.** Арганізацыя археалагічнага так званага падземнага музея на Замкавай гары ў Гродне (1932 — 1951). X—144.
7. **Гудзей-Каштальян Вера.** Павел Любамудраў: партрэт маладога дырыжора ў трох ракурсах. VIII—140.
8. **Давідоўскі Зміцер.** Божай міласцю гісторык. IV—130; Хто забіў Юдаля Пэна. V—145.
9. **Дзенісенка Алена.** Тэатральны мастак-дэкаратар Ліпа Кроль і яго кнігазбор. III—138.
10. **Дзянісава Святлана.** Канфідэнцыйная размова ў кавярні. VI—115.
11. **Дзяхцяр Маргарыта.** У яе руках. II—7; Сталенне. II—139; All rights reserved. VI—126; Каханне выратуе свет. X—139; Каханне, якому верыш. X—140; Колькі ілжы ў вялікіх вачах? XI—13; Зруйнаваная прыгажосць. XII—31.
12. **Захарэвіч Кацярына.** Сын свайго бацькі. VI—149; Рукавічкі. XI—4; Папялушка. XII—24.
13. **Звяздоўская Досця.** Нашы на Аматэрасу. VI—4; Путрышкі—Гродна—Беларусь. VII—4; Гісторыя праз пралом у скляпенні. X—11; Мульціфандомны цягнічок. XII—33.
14. **Касяк Канстанцін.** Выжыць. Перамагчы. Перасягнуць. VI—10; Дарога, якую выбіраеш сам. VII—8; Купляйце беларускае! VIII—4; Вёска ў восеньскім тумане. X—4; Няўлоўныя мсціўцы. XI—7; Цукеркі — дзецям! XII—25.
15. **Кароткі Уладзімір.** Пад слаўным каралеўскім тытулам і імем: прысвячэнні князёў Радзівілаў да выданняў Бібліі. II—133.
16. **Каралёнак Уладзімір.** Нясвіжскія прыгоды пражскага каноніка. II—144.
17. **Карлюкевіч Алесь.** Без сяброў мы ніхто! VIII—57.
18. **Карлюкевіч Вераніка.** «Жоўтая кніга»: унікальная з’ява кітайскай перакладной літаратуры 50—70-х гадоў XX стагоддзя. II—124.
19. **Кенька Міхась.** Памяць пра Змітрака Бядулю. IV—4.
20. **Конеў Ягор.** Жанравая разнастайнасць у сучаснай замежнай журналістыцы. XI—131; Прыёмы напісання навін. XII—135.

